

*Ян Дамель. Святы Юзаф. Каля 1820 г.*
*Касцёл св.Тадэвуша, в. Вішнева, Смаргонскі р-н.*



*<...> Няхай не баіцца наблізіцца да Мяне ніводная душа, нават калі б яе грахі былі, як пурпур. Мая міласэрнасць такая вялікая, што на працягу ўсёй вечнасці не спасцігне яе ніякі розум — ані чалавечы, ані анёльскі. Усё, што існуе, выйшла знутры Маёй міласэрнасці. Кожная душа ў адносінах да Мяне будзе цэлую вечнасць разважаць над Маёю любоўю і міласэрнасцю. <...> Не зведае чалавецтва спакою, пакуль не звернецца да крыніцы Маёй міласэрнасці.*

Св. сястра Фаўстына Кавальская.
Дзённік, 699.
*Пераклад з польскай мовы Крыстыны Лялько.*



12 лютага ў міжнародным аэрапорце Хасэ Марці ў Гаване адбылася прыватная сустрэча Папы Рымскага Францішка з Патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі Кірылам, якія падпісалі Сумесную дэкларацыю на італьянскай і рускай мовах. Пры падрыхтоўцы перакладу гэтага дакумента на беларускую мову былі ўлічаныя абодва варыянты і адзначаныя дробныя разыходжанні. Цытаты са Святога Пісання пададзеныя паводле перакладу, зробленага Секцыяй па перакладзе пры ККББ.

# Сумесная дэкларацыя Папы Францішка і Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла

*«Ласка Пана Езуса Хрыста і любоў Бога [Айца], і еднасць Духа Святога з усімі вамі»* (*2 Кар* 13, 13).

1. З волі Бога і Айца, ад якога паходзіць усялякі дар, у імя Пана нашага Езуса Хрыста, з дапамогаю Святога Духа Суцяшыцеля, мы, Папа Францішак і Кірыл, Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі, сустрэліся сёння ў Гаване. Дзякуем Богу, якога праслаўляем у Тройцы, за гэтую сустрэчу, першую ў гісторыі.

Мы з радасцю сустрэліся як браты ў хрысціянскай веры[1], якія ўбачыліся, каб «размаўляць ужывую» (пар. *2 Ян* 12), ад сэрца да сэрца, і абмеркаваць узаемаадносіны паміж Цэрквамі, асноўныя праблемы нашых вернікаў і перпектывы развіцця чалавечай цывілізацыі.

2. Нашая братняя сустрэча адбылася на Кубе, на скрыжаванні шляхоў паміж Поўначчу і Поўднем, Захадам і Усходам. З гэтай выспы — сімвала надзеяў «Новага свету» і драматычных падзеяў гісторыі XX стагоддзя — мы скіроўваем нашае слова да ўсіх народаў Лацінскай Амерыкі і іншых кантынентаў.

Мы радуемся таму, што сёння тут дынамічна развіваецца хрысціянская вера. Моцны рэлігійны патэнцыял Лацінскай Амерыкі, яе шматвяковыя хрысціянскія традыцыі, што рэалізуюцца ў жыццёвым вопыце многіх людзей, з'яўляюцца задаткам вялікай будучыні гэтага рэгіёна.

3. Сустрэўшыся ўдалечыні ад даўніх спрэчак «Старога свету», мы з асабліваю моцаю адчуваем неабходнасць сумеснай працы паміж католікамі і праваслаўнымі, пакліканымі з *пакораю і павагаю даць свету адказ пра тую надзею, якую маем у сабе* (пар. *1 П* 3, 15).

4. Дзякуем Богу за тыя дары, якія мы атрымалі дзякуючы прыйсцю ў свет Яго Адзінароднага Сына. Мы падзяляем супольную духоўную Традыцыю першага тысячагоддзя хрысціянства. Сведкамі гэтай традыцыі з'яўляюцца Найсвяцейшая Маці Божая, Панна Марыя, і святыя, якіх мы ўшаноўваем. Сярод іх — незлічоныя мучанікі, якія засведчылі сваю вернасць Хрысту і сталі «насеннем хрысціянаў».

5. Нягледзячы на гэтую агульную традыцыю першых дзесяці стагоддзяў, католікі і праваслаўныя на працягу амаль тысячы гадоў пазбаўленыя еднасці (*communione — общения*) у Эўхарыстыі. Мы падзеленыя ранамі, нанесенымі ў канфліктах даўняга і нядаўняга мінулага, разыходжаннямі, атрыманымі ў спадчыну ад нашых папярэднікаў, у разуменні і ў вытлумачэнні нашай веры ў Бога, Адзінага ў Трох Асобах — Айца і Сына, і Духа Святога. Мы смуткуем па страце адзінства, што стала наступствам чалавечай слабасці і грахоўнасці і здарылася насуперак Першасвятарскай малітве Хрыста Збаўцы: «Каб усе былі адно, як Ты, Ойча, ува Мне, і Я ў Табе, каб і яны былі ў Нас [адно]» (*Ян* 17, 21).

6. Усведамляючы наяўнасць шматлікіх перашкодаў[2], мы выказваем пажаданне, каб нашая сустрэча сталася ўнёскам у аднаўленне гэтага жаданага Богам адзінства, аб якім маліўся Хрыстус. Няхай нашая сустрэча натхніць хрысціянаў усяго свету з новым запалам маліць Пана аб поўным адзінстве ўсіх Ягоных вучняў. У свеце, які чакае ад нас не толькі словаў, а канкрэтных жэстаў, няхай гэтая сустрэча будзе знакам надзеі для ўсіх людзей добрай волі!

7. У нашай рашучасці выканаць усё неабходнае для пе-

раадолення гістарычных разыходжанняў, якія мы атрымалі ў спадчыну, мы жадаем аб'яднаць нашыя намаганні дзеля сведчання пра Евангелле Хрыста і пра супольны скарб Касцёла першага тысячагоддзя, разам адказваючы на выклікі сучаснага свету. Праваслаўныя і каталікі павінны навучыцца даваць згоднае сведчанне аб праўдзе ў асяроддзях, дзе гэта магчыма і неабходна. Чалавечая цывілізацыя ўступіла ў перыяд эпахальных пераменаў. Нашае хрысціянскае сумленне і нашая пастырская адказнасць не даюць нам права заставацца бяздзейнымі перад абліччам выклікаў, якія патрабуюць супольнага адказу.

8. Наш позірк скіроўваецца перадусім да тых рэгіёнаў свету, дзе хрысціяне з'яўляюцца ахвярамі пераследу. У многіх краінах Блізкага Усходу і Паўночнай Афрыкі нашыя браты і сёстры ў Хрысце знішчаюцца цэлымі сем'ямі, вёскамі і гарадамі. Іх святыні па-варварску разбураюцца і разрабоўваюцца, святыя рэчы апаганьваюцца, помнікі руйнуюцца. У Сірыі, у Іраку, у іншых краінах Блізкага Усходу мы з болем канстатуем масавы зыход хрысціянаў з той зямлі, адкуль пачала распаўсюджвацца наша вера і дзе яны жылі з апостальскіх часоў разам з іншымі рэлігійнымі супольнасцямі.

9. Мы заклікаем міжнародную супольнасць да неадкладных дзеянняў дзеля недапушчэння далейшага выгнання хрысціянаў з Блізкага Усходу. Узнімаючы голас у абарону пераследаваных хрысціянаў, мы жадаем выказаць нашае спачуванне ў цярпеннях вернікам іншых рэлігійных традыцый, якія таксама сталі ахвярамі грамадзянскай вайны, хаосу і тэрарыстычнага насілля.

10. У Сірыі і ў Іраку гэтае насілле ўжо стала прычынаю тысяч ахвяраў, пакінуўшы мільёны людзей без даху над галавой і без сродкаў для існавання. Мы звяртаемся да міжнароднай супольнасці з заклікам аб'яднацца, каб пакласці канец насіллю і тэрарызму і адначасова праз дыялог спрыяць хуткаму аднаўленню грамадзянскага міру. Неабходна забяспечыць шырокамаштабную гуманітарную дапамогу церпячаму насельніцтву і шматлікім бежанцам у суседніх краінах.

Просім усіх, хто можа паўплываць на лёс усіх скрадзеных людзей, у тым ліку мітрапалітаў Алепскіх Паўла і Яна Ібрагіма, захопленых у красавіку 2013 года, зрабіць усё неабходнае для іх як мага больш хуткага вызвалення.

11. Узносім нашыя малітвы да Хрыста, Збаўцы свету, аб аднаўленні на Блізкім Усходзе міру, які з'яўляецца «плёнам справядлівасці» (пар. *Іс* 32, 17), каб умацавалася братняе суіснаванне паміж рознымі народамі, Цэрквамі і рэлігіямі, якія там знаходзяцца, аб вяртанні бежанцаў у свае дамы, аб выздараўленні параненых і аб супакоі для душаў нявінна забітых.

Мы звяртаемся да ўсіх бакоў, якія могуць быць уцягнутымі ў канфлікты, з палымяным заклікам праявіць добрую волю і сесці за стол перамоваў. У той жа час неабходна, каб міжнародная супольнасць прыклала ўсе магчымыя намаганні для таго, каб пакласці канец тэрарызму з дапамогаю агульных, сумесных, скаардынаваных дзеянняў. Заклікаем усе краіны, уцягнутыя ў барацьбу з тэрарызмам, да адказных, узважаных дзеянняў. Звяртаемся да ўсіх хрысціянаў і да ўсіх, хто верыць у Бога, з заклікам да руплівай малітвы да прадбачлівага Стварыцеля свету, каб Ён захаваў сваё стварэнне ад разбурэння і не дапусціў новай сусветнай вайны. Дзеля таго, каб мір быў трывалым і надзейным, неабходныя асаблівыя намаганні, скіраваныя на новае адкрыццё[3] агульных каштоўнасцяў, якія нас аб'ядноўваюць, заснаваных на Евангеллі Пана нашага Езуса Хрыста.

12. Мы схіляемся перад мучаніцтвам тых, хто коштам уласнага жыцця сведчыць аб праўдзе Евангелля, аддаючы перавагу смерці перад адступніцтвам ад Хрыста. Мы верым, што гэтыя мучанікі нашага часу, якія належаць да розных Цэркваў, але аб'яднаныя адным цярпеннем, з'яўляюцца задаткам адзінства хрысціянаў. Да вас, якія церпіце за Хрыста, скіроўвае свае слова Ягоны Апостал: «Умілаваныя, ... паколькі вы прымаеце ўдзел у муках Хрыстовых, радуйцеся, каб і ў час аб'яўлення славы Яго вы ўсцешыліся і ўзрадаваліся» (*1 П* 4, 12–13).

13. У гэтую неспакойную эпоху неабходны міжрэлігійны дыялог. Адрозненні ў разуменні рэлігійных праўдаў не павінны перашкаджаць людзям розных вераў жыць у міры і ў згодзе. У сённяшніх умовах рэлігійныя лідары нясуць асаблівую адказнасць за выхаванне сваёй паствы ў духу павагі да перакананняў тых, хто належыць да іншых рэлігійных традыцый. Цалкам непрымальнымі з'яўляюцца спробы апраўдаць злачынныя дзеянні рэлігійнымі лозунгамі. Ніякае злачынства не можа быць здзейснена ў імя Бога, «бо Бог не ёсць [Богам] бязладдзя, але спакою» (*1 Кар* 14, 33).

14. Сцвярджаючы высокую каштоўнасць рэлігійнай свабоды, мы аддаем падзяку Богу за беспрэцэдэнтнае адраджэнне хрысціянскай веры, якое адбываецца цяпер у Расіі і ў многіх краінах Усходняй Еўропы, дзе на працягу дзесяцігоддзяў панавалі атэістычныя рэжымы. Сёння кайданы ваяўнічага бязбожжа разбітыя і ў многіх месцах хрысціяне могуць свабодна вызнаваць сваю веру. За чвэрць стагоддзя тут былі збудаваныя дзясяткі тысяч новых святыняў, адкрытыя сотні кляштараў і тэалагічных навучальных установаў. Хрысціянскія супольнасці праводзяць значную дабрачынную і сацыяльную дзейнасць, аказваючы разнастайную дапамогу тым, хто знаходзіцца ў патрэбе. Праваслаўныя і каталікі

нярэдка працуюць побач. Яны адстойваюць агульныя духоўныя асновы супольнага існавання людзей, даючы сведчанне пра евангельскія каштоўнасці.

15. Адначасова мы заклапочаныя сітуацыяй, якая склалася ў вялікай колькасці краінаў, дзе хрысціяне ўсё часцей сутыкаюцца з абмежаваннем рэлігійнай свабоды, права сведчыць пра свае перакананні і магчымасці жыць у адпаведнасці з імі. У прыватнасці, мы канстатуем, што ператварэнне пэўных краінаў у секулярызаваныя грамадствы, адчужаныя ад усялякай сувязі з Богам і Ягонай праўдай, з'яўляецца сур'ёзнай небяспекай для рэлігійнай свабоды. Нашу занепакоенасць выклікае сённяшняе абмежаванне правоў хрысціянаў, а нават і непасрэдная іх дыскрымінацыя, калі некаторыя палітычныя сілы, кіраваныя ідэалогіяй секулярызму, часта даволі агрэсіўнага, імкнуцца выштурхнуць іх на ўзбочча грамадскага жыцця.

16. Працэс еўрапейскай інтэграцыі, які распачаўся пасля стагоддзяў крывавых канфліктаў, быў успрыняты многімі з надзеяй як гарантыя міру і бяспекі. У той жа час мы заклікаем да чуйнасці супраць такой інтэграцыі, якая не паважала б праяваў рэлігійнай самасвядомасці. Застаючыся адкрытымі для ўнёску іншых рэлігій у нашую цывілізацыю, мы перакананыя, што Еўропа павінна захоўваць вернасць сваім хрысціянскім каранямі. Мы заклікаем хрысціянаў Усходняй і Заходняй Еўропы[4] аб'яднацца для сумеснага сведчання пра Хрыста і Евангелле, каб Еўропа зберагла сваю душу, сфармаваную за дзве тысячы гадоў хрысціянскай традыцыі.

17. Наш позірк скіроўваецца да людзей, якія знаходзяцца ў вельмі цяжкіх сітуацыях, якія жывуць ва ўмовах крайняй патрэбы і беднасці ў той час, калі ўзрастаюць матэрыяльныя багацці чалавецтва. Мы не можам заставацца абыякавымі да лёсу мільёнаў мігрантаў і бежанцаў, якія стукаюцца ў дзверы багатых краінаў. Неўмеркаванае спажывальніцтва, якое назіраецца ў некаторых найбольш развітых краінах, імкліва вычэрпвае рэсурсы нашай планеты. Узрастанне няроўнасці ў размеркаванні зямных даброт паўвялічвае пачуццё несправядлівасці ў адносінах да ўсталяванай сістэмы міжнародных адносінаў.

18. Хрысціянскія Цэрквы пакліканыя адстойваць патрабаванні справядлівасці, пашану да традыцый народаў і сапраўдную салідарнасць з усімі церпячымі. Мы, хрысціяне, не павінны забывацца пра тое, што «Бог выбраў неразумнае свету, каб асароміць мудрых, і слабое свету выбраў Бог, каб асароміць моцных; і бязроднае свету, і пагарджанае, і тое, чаго няма, выбраў Бог, каб знішчыць існае, каб ніякае цела не выхвалялася перад Богам» (*1 Кар* 1, 27–29).

19. Сям'я — гэта натуральны асяродак жыцця чалавека і грамадства. Мы заклапочаныя крызісам сям'і ў многіх краінах. Праваслаўныя і католікі падзяляюць адзін погляд на сям'ю і пакліканыя сведчыць пра тое, што яна ёсць шляхам святасці, якая выяўляецца ў вернасці сужэнцаў у адносінах адно да аднаго, у іх адкрыцці для працягу жыцця і выхавання дзяцей, салідарнасці паміж пакаленнямі і павазе да найслабейшых.

20. Сям'я грунтуецца на шлюбе як акце свабоднай і вернай любові мужчыны і жанчыны. Любоў змацоўвае пячаткаю іх саюз, вучыць іх прымаць адно аднаго як дар. Шлюб — гэта школа любові і вернасці. Нас засмучае тое, што іншыя формы сужыцця цяпер пастаўленыя на адзін узровень з гэтым саюзам, у той час як разуменне бацькоўства і мацярынства як асаблівага паклікання мужчыны і жанчыны ў шлюбе, асвячанае біблійнай традыцыяй, выцясняецца з грамадскай свядомасці.

21. Мы заклікаем усіх паважаць неад'емнае права на жыццё. Мільёны дзяцей пазбаўленыя самой магчымасці нарадзіцца на свет. *Голас крыві* ненароджаных дзяцей *усклікае да Бога* (пар. *Быц* 4, 10).

Развіццё так званай эўтаназіі вядзе да таго, што пажылыя і хворыя людзі пачынаюць адчуваць сябе празмерным цяжарам для сваіх сем'яў і ўсяго грамадства.

Мы таксама заклапочаныя развіццём біямедыцынскіх пракрэацыйных тэхналогій, паколькі маніпуляванне чалавечым жыццём — гэта замах на асновы існавання чалавека, створанага на падабенства Бога. Мы лічым сваім абавязкам нагадаць пра нязменнасць хрысціянскіх маральных прынцыпаў, заснаваных на павазе да годнасці чалавека, пакліканага да жыцця паводле задумы Стварыцеля.

22. Сёння мы жадаем асабліва чынам звярнуцца да маладых хрысціянаў. Вы, моладзь, маеце заданне не *хаваць талент у зямлю* (пар. *Мц* 25, 25), але выкарыстоўваць усе здольнасці, якімі адарыў вас Бог, каб сцвердзіць у свеце праўду Хрыста, каб рэалізаваць у вашым жыцці евангельскія запаведзі любові да Бога і да бліжняга. Не бойцеся ісці супраць плыні, адстойваючы Божую праўду, з якой далёка не заўсёды згодныя сённяшнія секулярныя нормы.

23. Бог любіць вас і ад кожнага з вас чакае, што вы будзеце Ягонымі вучнямі і апосталамі. Будзьце *святлом свету*, каб тыя, хто вакол вас, *бачылі вашыя добрыя ўчынкі і праслаўлялі Айца вашага, які ў нябёсах* (пар. *Мц* 5, 14–16). Выхоўвайце вашых дзяцей у хрысціянскай веры, перадайце ім *каштоўную пярліну* веры (пар. *Мц* 13, 46), якую вы атрымалі ад вашых бацькоў і продкаў. Не забывайцеся, што вы «куплены за вялікую цану» (*1 Кар* 6, 20), коштам смерці на крыжы Бога-чалавека Езуса Хрыста.

24. Праваслаўныя і каталікі аб'яднаныя не толькі супольнай Традыцыяй Касцёла першага тысячагоддзя, але таксама місіяй абвяшчэння Евангелля Хрыста ў сучасным свеце. Гэтая місія патрабуе ўзаемнай павагі да членаў хрысціянскіх супольнасцяў і выключае ўсялякія формы празелітызму.

Мы не канкурэнты, а браты, і з гэтага падыходу павінны выводзіцца ўсе нашыя дзеянні, скіраваныя адно да аднаго і да навакольнага свету. Заклікаем каталікаў і праваслаўных ва ўсіх краінах вучыцца жыць разам у супакоі і ў любові і быць «аднадумцамі паміж сабою» (*Рым* 15, 5). Таму непрымальным з'яўляецца выкарыстанне незаконных сродкаў заахвочвання вернікаў да пераходу з адной Царквы ў іншую з пагардаю да іх рэлігійнай свабоды і ўласных традыцый. Мы пакліканыя на практыцы рэалізоўваць наказ апостала Паўла: «Я стараўся абвяшчаць Евангелле там, дзе яшчэ не было вядома імя Хрыста, каб не будаваць на чужым падмурку» (*Рым* 15, 20).

25. Мы спадзяемся, што наша сустрэча зможа паспрыяць прымірэнню там, дзе існуе напружанне паміж грэка-каталікамі і праваслаўнымі. Сёння відавочна, што метад «уніятызму» мінулых часоў, разуметы як прыяднанне адной супольнасці да іншай праз яе аддзяленне ад сваёй Царквы, не з'яўляецца спосабам, які дазваляе аднавіць адзінства. Тым не менш, касцёльныя супольнасці, якія з'явіліся ў такіх гістарычных акалічнасцях, маюць права на існаванне і на здзяйсненне ўсяго неабходнага для задаволення духоўных патрэбаў уласных вернікаў з аднachасовым імкненнем да міру са сваімі суседзямі. Праваслаўныя і грэка-каталікі маюць патрэбу ў прымірэнні і ў знаходжанні ўзаемапрымальных формаў суіснавання.

26. Нас моцна засмучае супрацьстаянне ва Украіне, што ўжо стала прычынай шматлікіх ахвяраў, прынесла незлічоныя пакуты мірным жыхарам і ўкінула грамадства ў цяжкі эканамічны і гуманітарны крызіс. Мы заклікаем усе бакі канфлікту да развалжлівасці, грамадзянскай салідарнасці і міратворчых дзеянняў. Мы заклікаем нашыя Цэрквы ва Украіне працаваць дзеля дасягнення грамадзянскай згоды, устрымлівацца ад удзелу ў супрацьстаянні і не падтрымліваць далейшага развіцця канфлікту.

27. Мы спадзяемся, што раскол паміж праваслаўнымі вернікамі ва Украіне зможа быць пераадолены на падставе існуючых кананічных нормаў, што ўсе праваслаўныя хрысціяне Украіны будуць жыць у міры і згодзе, і што каталіцкія супольнасці краіны паспрыяюць гэтаму такім чынам, каб нашае хрысціянскае братэрства было штораз больш відавочным.

28. У сучасным свеце — разнастайным і ўсё ж з'яднаным адным агульным лёсам — каталікі і праваслаўныя пакліканыя па-братэрску супрацоўнічаць у абвяшчэнні Добрай Навіны аб збаўленні[5], разам сведчыць пра маральную годнасць і пра сапраўдную свабоду асобы, «каб свет паверыў» (пар. *Ян* 17, 21). Гэты свет, у якім усё больш імкліва знікаюць духоўныя падставы чалавечага існавання, чакае ад нас моцнага хрысціянскага сведчання ва ўсіх сферах асабістага і грамадскага жыцця. Ад нашай здольнасці разам даць сведчанне Духа праўды ў гэты складаны час у вялікай ступені залежыць будучыня чалавецтва.

29. У гэтым адважным сведчанні пра Божую праўду і пра збаўчую Добрую Навіну няхай нас падтрымлівае Бога-чалавек Езус Хрыстус, наш Пан і Збаўца, які духоўна ўмацоўвае нас сваім непахісным абяцаннем: «Не бойся, малы статак, бо спадабалася Айцу вашаму даць вам Валадарства» (*Лк* 12, 32).

Хрыстус — крыніца радасці і надзеі. Вера ў Яго перамяняе чалавечае жыццё, напаўняе яго значэннем. У гэтым на ўласным вопыце змаглі пераканацца ўсе тыя, да каго можна аднесці словы апостала Пятра: «Калісьці не народ, а цяпер народ Божы; калісьці вы не былі памілаваныя, а цяпер памілаваныя» (*1 П* 2, 10).

30. Поўныя падзякі за дар узаемаразумення, праяўлены падчас нашай сустрэчы, мы з надзеяй глядзім на Найсвяцейшую Маці Божую, заклікаючы Яе словамі гэтай старажытнай малітвы: «Тваёй абароне (*Sotto il riparo della tua misericordia — Под Твою милость*) аддаемся, святая Багародзіца». Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя сваім заступніцтвам умацуе братэрства тых, хто Яе ўшаноўвае, каб яны ў вызначаны Богам час былі сабраныя ў супакоі і згодзе ў адзін народ Божы, дзеля хвалы Найсвяцейшай і непадзельнай Тройцы!

*Падпісалі:*
Францішак,
Біскуп Рыма,
Папа Каталіцкага Касцёла
і
Кірыл,
Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі

*12 лютага 2016 года,
Гавана (Куба)*

*Пераклад Міколы Гракава.*

Заўвагі перакладчыка:

1 Калі ў тэксце на італьянскай мове ўжыта фармулёўка *fratelli nella fede cristiana* са значэннем братэрства ў адзінай хрысціянскай веры, дык у тэксце на рускай мове ўжыты прыназоўнік «па» (*по вере*) з прыблізным значэннем «паводле падабенства».

2 У тэксце на рускай мове: *якія належыць пераадолець* (*которые предстоит преодолеть*); адсутнічае ў тэксце на італьянскай мове.

3 У тэксце на рускай мове: *вяртанне да* (*возвращение к*).

4 У тэксце на рускай мове: *Заходняй і Усходняй Еўропы* (*Западной и Восточной Европы*).

5 У тэксце на рускай мове двойчы ўжыты прыназоўнік *«дзеля»*: (*для возвещения*), што больш падкрэслівае супольнасць мэты, а не адзінства справы, як у італьянскім варыянце.

# КАРОТКІ ЖЫЦЦЯРЫС СВ. ЯНА АД КРЫЖА




Хуан дэ Епэс А́льварэс (*Juan de Yepes Álvarez*) нарадзіўся ў 1542 годзе ў мястэчку Фонтыверос (*Fontiveros*) Авільскай правінцыі Кастыліі (Іспанія). Ягоны бацька Ганзала дэ Епэс (*Gonzalo de Yepes*) належаў да вядомага ў Таледа арыстакратычнага роду, але быў пазбаўлены спадчыны і выгнаны з дому за тое, што ажаніўся з дзяўчынаю з сям'і ткачоў — Каталінаю А́льварэс. Калі Яну было 4 гады, бацька памёр і маці з трыма дзецьмі на руках засталася без сродкаў для існавання. Пачаліся яе блуканні па сем'ях сваякоў. Адзін з братоў Яна памёр ад недаядання, а сам ён з маленства мусіў працаваць, каб неяк дапамагчы маці. Вядома, што ён працаваў вучнем ткача, мулярам, цесляром і нават слугою дырэктара шпіталя ў горадзе Медына дэль Кампо, куды перабралася ўся сям'я. Шпіталем апекаваліся айцы езуіты, і гэта дало магчымасць Яну атрымаць пачатковую адукацыю ў езуіцкай школе для бедных «*Doctrina*», а затым працягнуць адукацыю ў езуіцкім каледжы Медыны, адначасова працуючы ў шпіталі медбратам. Пасля трохгадовай вучобы ў каледжы, дзе ён засвоіў класічныя мовы, рыторыку і філасофію, у 1563 г., па спаўненні 21-го года, Ян уступіў у Ордэн Кармэлітаў пры кляштары святой Ганны ў Медыне, дзе атрымаў імя брат Ян ад св. Маці, і пасля навіцыяту быў пасланы на вучобу ў знакаміты і прэстыжны Саламанскі ўніверсітэт. У 1567 г., пасля заканчэння першага цыклу навучання, прысвечанага мастацвам і тэалогіі, Ян ад св. Маці даў вечныя абяцанні, атрымаў святарскае пасвячэнне і вярнуўся ў Медыну, дзе жылі ягоныя маці і брат, каб цэлебраваць сваю першую святую Імшу. Менавіта тады ён пазнаёміўся з маці Тэрэзаю ад Езуса, якая прыбыла ў Медыну для заснавання новага кляштара. Сустрэча сталася вырашальнаю для жыцця Яна і для лёсу Ордэну Кармэлітаў. Тэрэза ад Езуса запаліла ў маладым святары рэфарматарскі імпэт, прапанаваўшы яму далучыцца да справы і заняцца рэформаю мужчынскай галіны Ордэну Кармэлітаў. Супрацоўніцтва дзеля «павелічэння хвалы Божай» і духоўнае сяброўства двух святых працягвалася да самай смерці св. Тэрэзы ў 1582 годзе.

У 1568 г., 28 лістапада, у мястэчку Дуруэло была заснавана першая мужчынская супольнасць кармэлітаў босых, якая складалася ўсяго з трох чалавек. Браты далі паўторныя манаскія абяцанні, і Ян атрымаў новае імя — Ян ад Крыжа. Супольнасць расла. Браты перабраліся ў Мансэру, каля Саламанкі, дзе Ян ад Крыжа выконваў абавязкі настаўніка навіцыяту. У 1572 годзе па просьбе Тэрэзы ад Езуса Ян ад Крыжа выконвае абавязкі духоўніка і спаведніка ў жаночым кляштары Уцелаўлення ў Авіле, дзе маці Тэрэза была настаяцелькаю. На працягу 70-х гадоў Ян ад Крыжа працуе разам з Тэрэзаю ад Езуса над заснаваннем новых кляштараў кармэлітаў босых у змаганні з праціўнікамі рэформы, асабліва з сабратамі кармэлітамі канвентуальнымі. Дайшло да таго, што 2 снежня 1577 г. Ян ад Крыжа быў схоплены і пасаджаны ў цямніцу. Каля 9-ці месяцаў Ян ад Крыжа правёў у сутарэннях кармэліцкага кляштара Таледа ў вязніцы памерам два на тры метры, амаль у поўнай цемры. Менавіта досвед цямніцы стаўся пачаткам літаратурна-містычнай спадчыны св. Яна. Там ён пачаў складаць «Духоўную песню» («*Cantico spirituale*»), у якой апісваў свае містычныя перажыванні. У ноч з 16-га на 17 жніўня 1578 г. яму ўдалося ўцячы і схавацца ў кляштары кармэлітак босых у Таледа. Наступныя дзесяць гадоў Ян ад Крыжа правёў у Андалузіі, выконваючы розныя манаскія і душпастырскія абавязкі: быў прыёрам кальварыйскага кляштара кармэлітаў босых у Хаене, рэктарам універсітэцкага каледжа ў Баэсе. Менавіта ў гэтыя гады ён працуе над сваімі галоўнымі творамі — «Узыход на гару Кармэль» і «Цёмная ноч», складае містычныя вершы. Нарэшце з дазволу папы Грыгорыя XIII утвараецца незалежная правінцыя кармэлітаў босых. У 1582 г. памірае Тэрэза ад Езуса, і пасля яе смерці Ян ад Крыжа працягвае працу святой, засноўваючы новыя кляштары і выконваючы абавязкі правінцыйнага вікарыя Андалузіі. Па ягонай ініцыятыве ў 1586 г. публікуюцца творы св. Тэрэзы. У 1587–1590 гг. Ян ад Крыжа спачатку служыць прыёрам кармэліцкага кляштара ў Гранадзе, затым у Сегувіі.

У 1590-я гады ўзніклі непаразуменні і падзелы паміж кармэлітамі босымі, звязаныя з розным бачаннем кіравання ордэнам. З пачыну новага генеральнага вікарыя айца Дорыя брата Яна ад Крыжа пазбавілі ўсіх адказных манаскіх пасадаў, распачаўшы паклёпніцкі працэс з мэтаю выгнання з ордэну. Ян ад Крыжа добраахвотна пагадзіўся адправіцца на місійную працу ў Мексіку. У чаканні падарожжа яго паслалі ў аддалены кляштар *La Peñuela* ў Хаене, дзе ў верасні 1591 г. ён заразіўся рожаю. Пачалася гангрэна нагі. Яго адвезлі ў горад Убеду, дзе зрабілі некалькі хірургічных аперацый, якія, аднак, нічога, апроч страшэнных мучэнняў, не далі. У ноч з 13-га на 14 снежня ва ўзросце 49-ці гадоў св. Ян ад Крыжа памёр ад агульнага заражэння крыві.

У 1675 г. папа Клімэнт X беатыфікаваў Яна ад Крыжа. 27 снежня 1726 г. ён быў кананізаваны папам Бэнэдыктам XIII. У 1926 г. папа Пій XI абвясціў св. Яна ад Крыжа доктарам Каталіцкага Касцёла.

# КАМЕНТАР ПЕРАКЛАДЧЫКА

«Замяшанне — вось першае адчуванне кожнага, хто пачынае чытаць творы святога Яна ад Крыжа без падрыхтоўкі», — гэта словы айца кармэліта Люсьена Мары ад св. Юзафа, укладальніка збору твораў святога на французскай мове. На гэтае выказванне спасылаецца і другі знаўца творчасці святога — а. Люсіньё Руано дэ ля Іглесія OCD ва ўступе да крытычнага выдання поўнага збору твораў св. Яна ад Крыжа на іспанскай мове[1] , дзе ён адзначае, што гэтыя словы датычаць не толькі перакладаў, але і самога арыгіналу, і, на яго думку, гэта звязана, у першую чаргу, з моўнымі асаблівасцямі тэксту. Св. Ян ад Крыжа быў адным з першых, хто насуперак патрабаванням інквізіцыі прапанаваў сваё тэалагічна-містычнае вучэнне не на мове тагачасных эрудытаў — лаціне, а на мове «вульгарнай», мове народа, якая ў тыя часы амаль не выкарыстоўвалася для трактавання такіх высокіх матэрый. Напрыклад, «*Духоўныя практыванні* святога Ігнацыя Лаёлы» (1491–1556) былі выдадзены ў 1541 г. на лацінскай мове. Святая Тэрэза ад Езуса пачала апісваць свае містычныя і духоўныя перажыванні на іспанскай мове, але яе творы пераказвалі яе прыватны досвед і таму вельмі добра клаліся на гутарковую мову. Аднак св. Ян ад Крыжа, абапіраючыся на Святое Пісанне і на тэалагічна-філасофскую канцэпцыю душы чалавека, прапануе вучэнне, трактат ці, як ён сам часта гаворыць, «Дактрыну» — кіраўніцтва на шляху да найвышэйшай містычнай ступені кантэмпляцыі Бога. І пры гэтым ён выкарыстоўвае не абстрактныя ці рытарычныя паняцці, а вельмі канкрэтную і простую лексіку, можна нават сказаць будзённую ці, як гавораць некаторыя даследчыкі, «субстанцыйную», «першасную». Менавіта гэта і выклікае пачуццё замяшання пры першым чытанні. Чакаеш нечага надзвычай духоўна-ўзнёслага, а спатыкаешся з празрэзлівай і канкрэтнай рэчаіснасцю. Простасць і зразумеласць мовы, напэўна, абумоўлены дыдактычным характарам твора, бо і сам аўтар у пралогу да «*Узыходу на гару Кармэль*» гаворыць, што ягоныя «парады і папярэджанні» напісаныя ў адказ на просьбу братоў і сясцёр з Ордэну Кармэлітаў Босых як свайго роду дапаможнік для духоўнікаў.

Паводле ўспамінаў сучаснікаў, св. Ян ад Крыжа пачаў укладаць «*Узыход...*» недзе каля 1579 г. у горадзе Баэсе, дзе ён выконваў абавязкі рэктара ўніверсітэцкага каледжа. «*Узыход*» быў задуманы як каментар да вершаў — духоўнай песні «*Цёмная ноч*», якая была плёнам містычнага досведу святога падчас ягонага заключэння ў вязніцы Таледа. Але ва «*Узыходзе...*» іспанскі містык каментуе не ўвесь верш, а толькі першыя дзве страфы. «*Узыход на гару Кармэль*» павінен быў складацца з чатырох кніг, але твор так і застаўся незакончаным, абарваным на сярэдзіне трэцяй кнігі. Апошняя рэдакцыя тэксту датуецца 1585–1586 гадамі. Сярод даследчыкаў творчасці святога Яна ад Крыжа дагэтуль вядуцца дыскусіі, ці з'яўляецца наступны яго твор «*Цёмная ноч*» асобным творам, ці працягам «*Узыходу...*», ці яго чацвёртай кнігай, паколькі не захавалася ніводнага аўтографа аўтара, а абедзве кнігі пераказваліся праз стагоддзі толькі ў шматлікіх спісах-копіях, зробленых законнікамі. Паводле некаторых сведчанняў, большая частка «*Узыходу...*» была напісаная пад дыктоўку, а не ўласнаручна. Гэтым тлумачацца і празмернасць у выкарыстанні злучнікаў, герундыяў, складаных сказаў, паўтарэнняў, якія абцяжарваюць чытанне.

Паводле свайго зместу «*Узыход на гару Кармэль*» і «*Цёмная ноч*» — унікальныя творы. Нездарма вучэнне св. Яна ад Крыжа надзвычай папулярнае не толькі ў Каталіцкім Касцёле, але і па-за ім — у пратэстанцкіх колах, ва ўсходніх культурах і рэлігіях. Ягоныя містычныя вобразы — пастаянная тэма ў мастацтве. Яго часта цытуюць не толькі рэлігійныя дзеячы, але і свецкія. Цікава, што нават у атэістычных колах разважаюць над «смерцю Бога», спасылаючыся на «цёмную ноч» містычнага досведу св. Яна ад Крыжа.

Унікальнасць св. Яна ад Крыжа ў тым, што ён змог пераказаць досвед душы, які выходзіць па-за межы цялеснай аскезы і пакаяння, характэрных для ўсіх містыкаў, і дасягае вяршыні дасканалай кантэмпляцыі Бога, калі знікаюць усе духоўныя асалоды, а застаецца жахлівая аголенасць і спустошанасць духу — «цёмная ноч», калі ў чалавечай душы пачынае дзейнічаць сам Бог. Св. Ян ад Крыжа хіба што адзіны аўтар у гісторыі, які здолеў узвесці абсалютна суб'ектыўнае і індывідуальнае, вельмі інтымнае містычнае перажыванне на ўзровень універсальнага вучэння. Як высокаадукаваны чалавек св. Ян выкарыстаў усе свае біблійныя, тэалагічныя і філасофскія веды, каб, грунтуючыся на ўласным досведзе, апісаць ступені

ўдасканалення душы на шляху да містычнага злучэння з Богам. Пры гэтым у сваіх творах ён ніколі не гаворыць пра сябе. Ягонае «я» цалкам адсутнічае. Мэта ягонага вучэння — паказаць шлях да злучэння з Богам, якім можа прайсці кожны, хто прагне Божай любові, бо сам Бог любіць кожнага і жадае злучэння з кожным у дасканалай любові. Гэты шлях пралягае праз самога чалавека, праз ягоную душу, якая павінна прайсці праз ступені самаачышчэння, каб дасягнуць вяршыні дасканаласці і спаткацца з Найвышэйшым.

Ступені ўдасканалення, ці ступені ачышчэння, св. Ян называе «цёмнай ноччу» прысутнасці Бога, бо дзеля Яго і з Яго дапамогаю чалавек спачатку дзейсна, а пасля пасіўна ачышчаецца, каб стаць годным злучэння з Ім. Чатыры ступені ачышчэння адпавядаюць антрапалагічнай структуры чалавечай асобы, — маецца на ўвазе антрапалагічна-філасофская канцэпцыя чалавечай душы святога Тамаша Аквінскага, творы якога, асабліва «Суму тэалогіі», св. Ян ад Крыжа вывучаў у Саламанскім універсітэце. Прайсці праз суцэльнае ачышчэнне павінны чатыры часткі чалавечай душы, ці чатыры душэўныя здольнасці: пачуцці, розум, памяць і воля. Вобразам гэтага ачышчэння з'яўляецца пілігрымка душы, яе ўзыход на вяршыню гары Кармэль, адкуль прарок Ілля быў узнесены на неба.

Каб распачаць шлях да Бога, неабходна ачысціць і ўпарадкаваць пачуццёвае вымярэнне. Менавіта гэтаму вымярэнню прысвечана першая кніга «*Узыходу на гару Кармэль*», якая так і называецца — «*Цёмная ноч пачуццяў*». Ачышчэнне ўласна пачуццёвага — гэта першы крок у кірунку да Бога. У першай кнізе св. Ян ад Крыжа засяроджваецца на неабходнасці выхавання пачуццёвасці, дае «парады», як гэта зрабіць, і тлумачыць, чаму гэтае ачышчэнне называецца «ноччу». Трэба адзначыць, што нават калі гаворка ідзе пра аскезу духоўнага жыцця, абсалютная навіна заключаецца ў адыходзе ад цялесных утаймаванняў, характэрных для эпохі, калі жыў іспанскі містык. Паводле св. Яна ад Крыжа, трэба адмовіцца ад усяго, што замінае паяднанню з Богам на ўзроўні свядомага выбару, прыняць свайго роду маральную пастанову. Утаймаванне павінна быць не столькі цялесным, колькі валявым адмаўленнем не толькі ад рэчаў гэтага свету, але ад самога жадання гэтых рэчаў: «*не жадаць нічога, каб мець усё*». І калі пачуцці ачысцяцца ад усіх жаданняў і задавальненняў, яны ўвойдуць у «цёмную ноч», дзе нічога няма, у тым сэнсе, што Бог як найвышэйшая духоўная сутнасць не можа ўспрымацца пачуццямі, бо яны задавальняюцца толькі матэрыяльным. Чым бліжэй да Бога, тым больш адчуваецца пустка, бо найвышэйшы Дух недасяжны для матэрыяльнай пачуццёвасці.

У другой і трэцяй кнізе «*Узыходу...*» — «*Дзейснай ночы духу*», гаворыцца пра ачышчэнне найвышэйшых духоўных чалавечых здольнасцяў: розуму, памяці і волі. Розум, памяць і воля павінны дзейсна ачысціцца ад усяго, што аддаляе іх ад Бога. Гэтае ачышчэнне вядзе да ўзрастання ў душы трох тэалагальных цнотаў: веры, надзеі і любові. Розум, прайшоўшы праз «ноч» веры, павінен ачысціцца ад цікавасці да таго, што не ёсць Богам. Ачышчэнне памяці ўзмацняе надзею. Воля павінна ачысціцца ад прагнення ўсяго, што не адпавядае Божай любові. Чалавек павінен зрабіць усё, каб засярodзіць усе свае прагненні і разуменне ў Богу, і тады ён увойдзе ў «цёмную ноч» духу. Гэта адбудзецца, калі ён, пазбавіўшыся ўсяго і, перш за ўсё, адмовіўшыся ад духоўных і душэўных асалодаў, застанецца сам-насам з пустэчаю — ноччу Адсутнасці Бога, якая на самай справе з'яўляецца Ягонай Прысутнасцю, бо нельга адчуць і зразумець Бога, Яго можна толькі прагнуць у поўнай «ночы» Ягонай неспасцігальнасці. І толькі тады дасягаецца вяршыня гары Кармэль — вяршыня кантэмпляцыі і містычнага паяднання з Богам, калі сам Бог авалодвае душою, дзейнічае ў ёй і ўдасканальвае яе. Гэты стан пасіўнага ачышчэння св. Ян ад Крыжа апісвае ў наступнай сваёй кнізе — «*Цёмная ноч*». Душа патанае ў жыцці Найсвяцейшай Тройцы і, як гаворыць святы, пачынае любіць Бога тою самаю любоўю, якою яе любіць Бог у Святым Духу.

Звяртаючыся да словаў айца Люсьена Мары ад св. Юзафа, працытаваных на пачатку, трэба адзначыць, што творы св. Яна ад Крыжа не належаць да той духоўнай літаратуры, якая прыносіць інтэлектуальную асалоду ці ўзносіць да благаслаўлёных вышыняў духу. Ягоныя творы хутчэй выклікаюць душэўнае замяшанне, бо з самага пачатку вымагаюць выбару і ўчынку «тут і цяпер». Сам іспанскі містык папярэджвае: «... рэчы, пра якія гаворыцца ў гэтым творы, не спадабаюцца тым, хто хацеў бы ісці да Бога, адчуваючы толькі смак і асалоду. Нашае ж вучэнне, напісанае тут, — змястоўнае і складанае, для тых, хто прагне прайсці праз аголенасць духу».

*Святлана Грэсві*

1 SAN JUAN DE LA CRUZ, *Obras completas. Edición crítica*. Ed. Biblioteca de los Autores Cristianos. — Madrid, 2009, 5ta edición — гэтае выданне было выкарыстана для перакладу на беларускую мову.

**Святлана Грэсві** (Святлана Грачухіна) — доктар філасофіі. Нарадзілася ў Мінску. Закончыла гістарычны факультэт мінскага педінстытута, а таксама філасофскі і тэалагічны факультэты Рымскага Папскага ўніверсітэта імя св. Тамаша Аквінскага. Абараніла доктарскую дысертацыю па праблемах метафізікі ў Папскім Латэранскім універсітэце ў Рыме. Аўтар кніг «Крытычны аналіз кампетэнцыйнага падыходу ў адукацыі» (2008), «Філасофска-антрапалагічная мадэль адукацыі» (2009), «Гістарычны і эпістэмалагічны аналіз адукацыйных канструктаў "кампетэнцыя" і "адукацыйная мэта"» (2014). Працуе кансультантам Спецыяльнай камісіі па ўніверсітэцкай акадэмічнай рэформе ў горадзе Кузко (Перу).

СВЯТЫ ЯН АД КРЫЖА

# УЗЫХОД НА ГАРУ КАРМЭЛЬ

ТРАКТАТ ПРА ТОЕ, ЯК ПАВІННА ПАДРЫХТАВАЦЦА ДУША, КАБ ЗА КАРОТКІ ЧАС ДАСЯГНУЦЬ ЗЛУЧЭННЯ З БОГАМ. ПАРАДЫ І ВУЧЭННІ ЯК ДЛЯ ПАЧЫНАЛЬНІКАЎ, ГЭТАК І ДЛЯ ДАСВЕДЧАНЫХ, — ВЕЛЬМІ КАРЫСНЫЯ, КАБ ВЫЗВАЛІЦЦА АД УСІХ РЭЧАЎ ДАЧАСНЫХ, НЕ АБЦЯЖАРВАЦЬ СЯБЕ ПРЫВЯЗАНАСЦЯМІ ДУХОЎНЫМІ І ЗАСТАЦЦА Ў НАЙВЫШЭЙШАЙ АГОЛЕНАСЦІ І СВАБОДЗЕ ДУХУ, НЕАБХОДНЫХ ДЛЯ ЗЛУЧЭННЯ З БОГАМ. НАПІСАНЫ АЙЦОМ КАРМЭЛІТАМ БОСЫМ, БРАТАМ ЯНАМ АД КРЫЖА.

***АРГУМЕНТ***

Усё вучэнне, якое я збіраюся прапанаваць ва *Узыходзе на гару Кармэль,* заключана ў радках наступнай песні, дзе тлумачыцца, якім чынам дасягаецца вяршыня гары, гэта значыць найвышэйшая ступень дасканаласці, ці тое, што мы называем злучэннем душы з Богам. І паколькі я буду абапірацца на гэтыя радкі на працягу ўсёй кнігі, я хачу спачатку прадставіць усю песню цалкам, каб адразу была бачная і зразумелая сутнасць таго, пра што я буду пісаць. І па меры выкладання майго вучэння, я буду цытаваць асобныя строфы ці асобныя радкі там, дзе гэта будзе патрэбна.

Вось гэтая песня, у якой душа апявае свой шчаслівы лёс, бо яна змагла прайсці праз цёмную ноч веры, каб дасягнуць, аголеная і ачышчаная, злучэння з Каханым.

1. У тую цёмную ноч
з тугою, каханнем распаленая,
о мой шчаслівы лёс!
я выйшла незаўважаная,
калі ўжо спачываў мой дом.

2. Упэўнена ў змрок
я сышла патаемнымі сходамі,
о мой шчаслівы лёс!
Нябачная, цемрай укрытая,
калі ўжо спачываў мой дом.

3. У тую шчаслівую ноч
я ўпотай ішла, ніхто не бачыў,
і мне самой не разгледзець нічога.
Толькі адно мне шлях паказала —
тое святло, што ў сэрцы палала.

4. Мяне скіравала яно,
бо ярчэй за полудзень ззяла,
туды, дзе чакаў мяне той,
каго я ведала добра,
у пустынным бязлюдным краі.

5. О ноч, што мяне вяла!
О ноч, што мілей за світанне!
О ноч, што злучыла
каханага з каханай
і каханую ў каханага перамяніла!

6. На маіх грудзях квітнеючых,
што для яго аднаго зберагала,
заснуў ён, лежачы,
і я яго мілавала,
а кедраў засень паветрам нас абвявала.

7. З вежы спусціўся вецер,
калі гладзіла валасы яму,
і лёгка сваёю рукою
да шыі маёй дакрануўся,
усе ўва мне змоўклі пачуцці.

8. Я ў забыцці застыла,
схіліўшы твар над каханым,
спынілася ўсё, знікла,
клопаты і трывогі
ў лілеях былі забытыя.

**ПРАЛОГ**

Дзеля тлумачэння і лепшага разумення *цёмнай ночы*, праз якую павінна прайсці душа, каб дасягнуць магчымага ў гэтым жыцці Божага святла дасканалага злучэння з любоўю Бога, патрэбныя веды і досвед значна большыя, чым мае. Паколькі благаслаўлёныя душы, каб дасягнуць найвышэйшага стану дасканаласці, павінны пераадолець настолькі шматлікія і глыбінныя цемры і пакуты, духоўныя і дачасныя, што ніякай людской навукі не хопіць, каб гэта зразумець, і ніякага людскога досведу недастаткова, каб гэта апісаць. Толькі той, хто пройдзе праз гэтае цяжкае выпрабаванне, зможа прачуць гэта, але, хутчэй за ўсё, не зможа выказаць.

І таму, каб сказаць нешта пра гэтую *цёмную ноч*, я не столькі буду пакладацца на сваё дасведчанне ці на веды, бо і адно і другое з'яўляецца недастатковым і можа звесці, але, па магчымасці выкарыстоўваючы гэтыя апошнія ў маім выкладанні, буду больш пакладацца на Божую дапамогу: гэта значыць, што для тлумачэння найбольш важнага і складанага для разумення я буду абапірацца на Святое Пісанне, бо калі мы кіруемся ім, мы ніколі не зможам памыліцца, бо праз яго гаворыць Святы Дух. Калі ж я

ў чым памылюся, бо нечага я не зразумеў добра ў Святым Пісанні ці па-за ім, кажу вам, што не ў маёй інтэнцыі адысці ад святой рацыі і вучэння Святой Маці Каталіцкага Касцёла, і ў гэтым сэнсе я цалкам падпарадкоўваюся не толькі яе запаведзям, але і кожнаму, хто мае большы аўтарытэт у гэтых пытаннях.

Тое, што змусіла мяне ўзяцца за напісанне гэтай кнігі, зусім не перакананасць у тым, што я здольны да такой складанай рэчы, але поўная ўпэўненасць у тым, што Пан дапаможа мне сказаць нешта, у чым многія душы маюць вялікую патрэбу. Бо бывае, што душы, на пачатку свайго шляху да цноты, калі наш Пан з любоўю падводзіць іх да гэтай *цёмнай ночы*, каб яны, прайшоўшы праз яе, дасягнулі Божага злучэння, не рушаць наперад. Часам гэта здараецца таму, што яны самі не хочуць увайсці ў яе ці дазволіць, каб іх увялі. Часам менавіта таму, што душа не разумее, што з ёю адбываецца, а побач няма слушнага і дасведчанага дарадцы, які можа кіраваць ёю на шляху да самой вяршыні. Вось чаму так шкада бачыць душы, якім Бог даравaў талент і ласку, каб ісці наперад, але яны, дасягаючы гэтага найвышэйшага стану, маючы мужнасць і ўсе неабходныя якасці, спыняюцца на першых прыступках адносінаў з Богам, бо не хочуць, а можа і не ведаюць кірунку, а можа таму, што ніхто ім не дапамог і не навучыў, як вызваліцца з хістанняў першапачаткоўцаў. Калі, урэшце, Пан дае ім ласку, каб прайсці праз цёмную ноч без дапамогі іншых, яны дасягаюць новага стану дасканаласці вельмі позна, з вялікаю цяжкасцю і з меншаю заслугаю, бо яны не падпарадкаваліся цалкам Яму і не дазволілі свабодна вывесці іх на чысты шлях злучэння з Ім. Нягледзячы на тое, што Бог уздымае іх да сябе і без іх дапамогі, яны яшчэ і перашкаджаюць гэтаму ўздыму. І таму рушаць да Яго вельмі павольна, супраціўляючыся Таму, Хто вядзе іх за сабою, і гэтым памяншаюць свае заслугі, не выкарыстоўваючы сваёй волі, і такім чынам больш пакутуюць. Існуюць душы, якія замест таго, каб пакласціся на Бога і дазволіць Яму дапамагчы, перашкаджаюць Яму сваімі нясціплымі і агіднымі дзеяннямі. Яны падобныя да дзяцей, якія, калі маці хоча ўзяць іх на рукі, тапочуць нагамі, плачуць і намагаюцца ісці самі і такім чынам не дазваляюць крочыць наперад, а калі і пачынаюць ісці, дык з хуткасцю кроку дзіцяці.




«Узыход на гару Кармэль».
Гравюра Дыега дэ Астора. Першае выданне, 1618 г.

І дзеля таго, каб пачаткоўцы і дасведчаныя дазволілі Яго Вялікасці Богу весці іх за сабою наперад, калі і як Ён гэтага захоча, мы з Божаю дапамогаю прапануем вучэнне і папярэджанні, каб яны змаглі зразумець волю Божую і падпарадкавацца ёй. Бо некаторыя духоўнікі з-за недахопу святла і досведу вельмі часта перашкаджаюць, а нярэдка і шкодзяць душам, замест таго каб дапамагчы ім на гэтым шляху, падобна да таго, як будаўнікам Бабілёнскай вежы замест аднаго будматэрыялу прапаноўвалі

зусім іншы, бо не разумелі іх мовы, і ўсё заканчвалася нічым. І таму вельмі шкада ў гэтай сітуацыі душу, якая сама не разумее свайго становішча і не знаходзіць нікога, хто б ёй мог нешта растлумачыць. І можа здарыцца так, што Бог завядзе душу вельмі пакручастымі шляхамі ў цёмную ноч кантэмпляцыі, у пустыню, у якой душы падаецца, што яна згубілася. І ў гэтай духоўнай пустыні, поўнай цемры і болю, смутку і спакусаў, яна спаткае кагосьці, хто, падобна суцяшальнікам Ёва, пачне ёй вымаўляць, гаворачы, што прычына ўсіх яе пакутаў — меланхолія ці якая-небудзь няёмкасць, нейкая ўнутраная віна ці нешта прыхаванае благое, і таму Бог пакінуў яе. І ўрэшце робяць выснову, што душа гэта – вельмі дрэнная, бо з ёю здарыліся такія вось рэчы.

Могуць знайсціся і такія, хто парадзіць душы адступіць, таму што яна больш не адчувае, як раней, ні смаку, ні суцяшэння ў Божых рэчах, і такім чынам яны памнажаюць пакуты беднай душы, бо ёй і так баліць ад адчування ўласнай нікчэмнасці, і ёй падаецца вельмі ясна, як пры сонечным святле, наколькі яна поўная ўсяго благога і граху, таму што Бог дае ёй святло пазнання ў гэтай цёмнай ночы кантэмпляцыі (пра гэта мы будзем гаварыць далей). Калі ж яна спаткае спаведніка, які скажа ёй, што гэта здарылася з ёю як пакаранне за правіны, душа пачынае невымерна больш пакутаваць ад болю і суму, у параўнанні з якімі смерць падаецца меншым пакараннем. Такога роду спаведнікі, апроч таго, упэўненыя, што такі душэўны стан з'яўляецца вынікам нейкага граху і таму прымушаюць душы ізноў і ізноў перадумваць сваё жыццё, ізноў і ізноў рабіць генеральныя споведзі, крыжуючы іх наноў, не разумеючы, што нельга губляць час на ўсе гэтыя дзеянні, а трэба пакінуць гэтыя душы ў спакоі, у стане ачышчэння, куды іх завёў Бог. І што трэба суцяшаць іх і падтрымліваць, каб яны прынялі гэтыя выпрабаванні і цярпелі да таго моманту, пакуль Пан іх не вызваліць. І пакуль не настане гэты момант, нічога ім не дапаможа, што б яны ні рабілі ці гаварылі.

Пра гэта, з Божаю дапамогаю, я буду гаварыць далей: пра тое, як душа павінна сябе паводзіць, і якім чынам спаведнік павінен паводзіць сябе з такою душою, і па якіх прыкметах ён можа распазнаць, што душа сапраўды знаходзіцца ў стане ачышчэння. Я таксама зазначу некаторыя крытэрыі, якія спаведнік павінен выкарыстоўваць, каб адрозніць сапраўднае духоўнае ачышчэнне ад рознага тыпу меланхоліі ці якой іншай пачуццёвай ці духоўнай недасканаласці. А калі гаворка сапраўды ідзе пра цёмную ноч ачышчэння, дык для таго, каб духоўнік мог адрозніць *цёмную ноч пачуццяў* ад *цёмнай ночы духу*. Бо могуць сустрэцца такія душы, спаведнікі якіх вераць, што Бог вядзе іх праз цёмную ноч духоўнага ачышчэння, а на самай справе гэта проста недасканаласць, пра якую мы ўжо гаварылі. Таксама існуюць асобы, упэўненыя, што ім не дадзены дар малітвы, у той час як яны ім шчодра адораныя, і, наадварот, існуюць іншыя, упэўненыя, што маюць дар малітвы, у той час як яны яго не маюць увогуле.

І вельмі балюча назіраць за душамі, якія, нягледзячы на пакуты і шмат намаганняў, вяртаюцца да тылу, бо спадзяюцца на тое, што не прыносіць ім карысці. Але існуюць такія, якіх з вялікім дарам і ласкаю Бог вядзе шляхам дасканаласці, але яны ў неразуменні спыняюцца і нават перашкаджаюць Яму, і таму не рухаюцца наперад. І многа іншых рэчаў можа здарыцца на гэтым шляху: радасці і пакуты, надзеі і болю. Адныя паходзяць ад духу дасканаласці, іншыя — ад недасканаласці. Аб усім гэтым, з дапамогаю Божаю, мы паспрабуем нешта сказаць для таго, каб душа, якая прачытае гэта, нейкім чынам змагла б убачыць шлях перад сабою ці зразумець, якім шляхам трэба ісці, калі яна прагне ўзысці на вяршыню гары Кармэль.

Гэта вучэнне — пра *цёмную ноч,* праз якую павінна прайсці душа, каб спаткацца з Богам. Няхай не здзіўляецца чытач, калі яно падасца яму трохі незразумелым. Думаю, што такое ўражанне чытач можа мець толькі напачатку, але паступова, ён пачне лепей разумець, бо адно будзе тлумачыць яму іншае. А калі перачытае другі раз, усё яму стане яшчэ больш зразумелым, а вучэнне —больш пэўным. Калі ж некаторыя асобы адчуваюць сябе няёмка, чытаючы гэтае вучэнне, дык, напэўна, гэтая няёмкасць паходзіць не ад самой матэрыі вучэння — выдатнай і надзвычай неабходнай, — але ад майго няведання і няўмелага стылю выкладання. І ўсё ж такі я веру, што нават калі б усе гэтыя рэчы былі б напісаныя вельмі высокім стылем і больш дасканала, яны ўсё роўна былі б карыснымі толькі для невялікай колькасці асобаў. Таму што рэчы, пра якія гаворыцца ў гэтым творы, не спадабаюцца тым, хто хацеў бы ісці да Бога, адчуваючы толькі смак і асалоду. Нашае ж вучэнне, напісанае тут, змястоўнае і складанае для тых, хто прагне прайсці праз аголенасць духу.

Не ў маёй інтэнцыі звяртацца да ўсіх, але толькі да некаторых асобаў — братоў і сёстраў нашага першапачатковага святога ордэну гары Кармэль. Гэта яны папрасілі мяне, бо з Божай ласкі выйшлі на сцяжыну, якая вядзе іх на вяршыню гэтай гары. Да таго ж яны ўжо дастаткова вызваліся ад прамінальных рэчаў гэтага свету, і таму лепей могуць зразумець вучэнне аб аголенасці духу.

*Пераклад з іспанскай мовы Святланы Грэсві.*

*Працяг будзе.*

Клайв Стэйплз Льюіс

# Чатыры віды любові

## Раздзел IV

## Сяброўства

У адным аспекце нашаму грамадству не пашанцавала. Свет, дзе мужчыны і жанчыны ніколі не перасякаюцца ў агульнай працы або навучанні, можа, напэўна, існаваць даволі ўтульна. У такім свеце мужчыны сябруюць адзін з адным і вельмі гэтаму цешацца. Спадзяюся, і жанчыны таксама цешацца свайму жаночаму сяброўству. Ізноў жа, свет, дзе ў мужчын і жанчын шмат агульнага для ўзнікнення сяброўскіх адносінаў, таксама можа існаваць цудоўна. Мы, аднак, спрабуем сесці на два крэслы адразу — і падаем. Гэтая неабходная для сяброўства мужчыны і жанчыны агульная глеба ёсць у некаторых асяродках, але не паўсюль. Яе відавочна бракуе ў дарагіх гарадскіх прадмесцях. У асяродку плутакратыі, дзе мужчыны ўсё жыццё гоняцца за грашыма, жанчыны часта займаюць свой вольны час інтэлектуальным развіццём, прысвячаюць яго музыцы або літаратуры. І тады побач з імі мужчыны выглядаюць як варвары побач з цывілізаванымі людзьмі. А па суседстве сітуацыя супрацьлеглая. Зразумела, што і мужчыны, і жанчыны «хадзілі ў школу». Але мужчыны пасля гэтага атрымалі нашмат больш сур'ёзную адукацыю, зрабілі кар'еру дактароў, юрыстаў, духоўных асобаў, архітэктараў, інжынераў, літаратараў. У параўнанні з імі жанчыны — як дзеці побач з дарослымі. Ні там, ні там сапраўднае мужчынска-жаночае сяброўства немагчымае. Але гэтае становішча, пры ўсёй яго мізэрнасці, можна вынесці, калі прызнаць і прыняць як дадзенасць. Асаблівая ж праблема нашага часу ў тым, што мужчыны і жанчыны ў падобным становішчы наслухаліся чутак і мімалётам убачылі шчаслівейшыя асяродкі, дзе такога міжполавага разыходжання няма, і цяпер апантаныя ідэяй раўнапраўя (магчымае для некаторых павінна быць, і сапраўды ёсць, магчымым для ўсіх) і адмаўляюцца прыняць уласныя жыццёвыя абставіны. Тады ўзнікаюць жонкі-«вучылкі», «культурныя» дамы, якія без канца цягнуць мужоў «да свайго ўзроўню». Яны валакуць іх на канцэрты і на касцюміраваныя танцавальныя імпрэзы, запрашаюць «культурных» людзей. Часта гэта не прыносіць ніякай шкоды. Мужчыны сярэдняга ўзросту маюць вялікія здольнасці да пасіўнага супраціўлення і (ведалі б гэта жанчыны!) спакойнай паблажлівасці: «гэта ўсё жаночыя прыхамаці і дзівацтвы». Больш невыноснае становішча ўзнікае тады, калі мужчыны, а не жанчыны маюць вышэйшы культурны ўзровень, і ўсе жанчыны, і большасць мужчын таксама, проста адмаўляюцца прызнаць гэты факт.

Тады распачынаецца манерны, пачцівы, нудны і варты жалю спектакль. Жанчын «прызнаюць», як кажуць юрысты, паўнапраўнымі членамі мужчынскай кампаніі. Той факт, сам па сабе зусім не істотны, што жанчыны паляць і выпіваюць як мужчыны, здаецца прастадушным людзям доказам раўнапраўя. Чыста мужчынскім кампаніям не дазваляюць збірацца. Там, куды запрошаныя мужчыны, павінны з'явіцца і жанчыны. Мужчыны ўмеюць жыць ідэямі. Яны ведаюць, што такое дыскусія, доказы і прыклады. Жанчына, якая ледзьве скончыла школу і хутка пасля вяселля ўвогуле страціла рэшткі «культуры»; жанчына, якая чытае выключна дамскія часопісы і ўмее толькі распавядаць, а не дыскутаваць, ніколі не ўвойдзе ў кола мужчын-інтэлектуалаў. Яна можа прысутнічаць пры сустрэчы, знаходзіцца ў тым жа пакоі. І што з таго? Калі мужчыны не злітуюцца, яна так і будзе сядзець, сумаваць і маўчаць пры размове, зусім для яе незразумелай. Калі мужчыны добра выхаваныя, яны будуць імкнуцца далучыць такую жанчыну да дыскусіі. Ёй будуць усё тлумачыць, будуць спрабаваць прыўнесці хоць нейкае падабенства сэнсу ў яе недарэчныя і нязграбныя развагі. Але хутка ўсе іх намаганні пацерпяць паразу, і дзеля захавання правілаў выхаванасці тое, што магло стаць добрай дыскусіяй, пачынаюць наўмысна разбаўляць плёткамі, анекдотамі і жартамі, пакуль гутарка цалкам не разваліцца. Так прысутнасць жанчыны можа знішчыць тое, у чым яе запрасілі паўдзельнічаць. Неадукаваная жанчына ніколі не здолее ўвайсці ў інтэлектуальнае кола, бо кола разбураецца, як толькі яна ў яго ўваходзіць, падобна да таго як далягляд перастае быць даляглядам, калі вы туды трапляеце. Навучыўшыся піць, паліць і, магчыма, гаварыць непрыстойныя жарты, жанчына гэтым самым не стала ні на крок бліжэй да мужчыны, чым яе бабуля. З той розніцай, што бабуля была шчаслівейшая і мела больш рэалістычныя погляды на жыццё. Яна ў сябе дома вяла сапраўдныя жаночыя размовы з сяброўкамі і, напэўна, рабіла гэта

*Працяг. Пачатак у № 2 за 2013 г.*

з вялікім шармам, дэманструючы разважлівасць і нават дасціпнасць. Унучка магла б заняцца тым самым. Яна, магчыма, не менш разумная за мужчын, якім сапсавала вечар, або нават разумнейшая. Справа ў тым, што ёй нецікавыя тэмы іх размоваў і яна не абазнаная ў мужчынскіх спосабах дыскутавання. Мы ўсе выглядаем тупіцамі, калі робім выгляд, што зацікаўленыя рэчамі, да якіх насамрэч ставімся абыякава.

Такія жанчыны, а іх многія тысячы, вельмі спрычыняюцца да сучаснай дыскрэдытацыі сяброўства. І часта атрымліваюць поўную перамогу. Яны кладуць канец мужчынскаму таварыству і такім чынам мужчынскаму сяброўству ва ўсім асяродку. У тым адзіным свеце, які ім блізкі, бясконцая пустая балбатня, «каб павесяліцца», замяняе абмен ідэямі. Сустракаючыся ў прысутнасці жанчын, мужчыны самі пачынаюць размаўляць як жанчыны.

Часам гэта перамога над сяброўствам адбываецца несвядома. Аднак існуе ваяўнічы тып жанчын, якія да гэтага імкнуцца. Я чуў, як адна з іх казала: «Ніколі не дазваляйце двум мужчынам прысесці разам, інакш яны пачнуць размаўляць на нейкую *тэму*, і стане нудна». Нельга было больш дакладна выказаць тое, што яна мела на ўвазе. Размаўляйце колькі заўгодна, чым больш, тым лепш, бясконцы паток чалавечай балбатні, але, калі ласка, толькі не на нейкую *тэму*. Размова не павінна ні на чым затрымлівацца.

Гэтая бесклапотная дама, гэтая энергічная, выхаваная, «абаяльная» і невыносна дакучлівая кабета шукала кожны вечар адных толькі забаваў, імкнучыся, каб у сустрэчы «не было застояў». Але вайна, свядома скіраваная супраць сяброўства, можа весціся і на глыбейшым узроўні. Ёсць жанчыны, якія ненавідзяць сяброўства, баяцца яго і зайздросцяць яму, лічачы ворагам кахання і яшчэ злейшым ворагам прыязнасці. Яны валодаюць тысяччу спосабаў ліквідаваць сяброў мужа. Жанчына будзе сварыцца з сябрамі мужа або, што яшчэ эфектыўней, з іх жонкамі. Яна будзе насміхацца, учыняць перашкоды, ілгаць. Такая жанчына не разумее, што мужчына, якога яна здолее ізаляваць ад іншых мужчын, не варты таго, каб за яго трымацца, бо яна сама яго выпусташыла, пазбавіла мужчынскасці. І чым далей, тым больш яна будзе яго саромецца. Да таго ж, яна забылася, што большая частка жыцця мужа працякае не на яе вачах. Узнікнуць новыя сябры, таемныя. Калі разам з гэтым не пачнуць узнікаць яшчэ іншыя таямніцы, такой жанчыне сапраўды незаслужана пашанцуе.

Безумоўна, такія жанчыны дурніцы. Разумныя жанчыны — тыя, што несумненна маглі б падрыхтавацца і ўвайсці ў свет разважанняў і дыскусій, але, калі яшчэ не падрыхтаваныя, не спрабуюць туды ўвайсці або знішчыць гэты свет. Разумным жанчынам і так ёсць чым заняцца. На імпрэзах яны збіраюцца разам з іншымі жанчынамі, каб пагаварыць пра свае жаночыя справы. Мужчыны ім для гэтай мэты не патрэбныя, як і яны не патрэбныя для гэтай мэты мужчынам. Жаданне без канца надакучаць прадстаўнікам іншага полу — сведчанне вялікай нявыхаванасці і непавагі адно да аднаго. Жывіце самі і дайце жыць іншым. Жанчыны часта пасмейваюцца з нас. Так і павінна быць. Там, дзе жанчыны і мужчыны не маюць агульнага занятку і могуць быць звязаныя толькі каханнем або прыязнасцю і ніколі — сяброўствам, цалкам натуральна ўзнікае жывое адчуванне недарэчнасці іншага полу. Гэта заўсёды карысна. Нельга сапраўды ацаніць прадстаўнікоў іншага полу, гэтак жа як дзяцей або жывёлаў, не заўважаючы, што час ад часу яны вартыя смеху. Гэта тычыцца і мужчын, і жанчын. Быць чалавекам — трагікамічная рэч, але падзел на мужчын і жанчын дазваляе нам убачыць адно ў адным тое смешнае і вартае жалю, што ў сабе самім не заўважыш.

Я папярэджваў, што гэты раздзел у асноўным будзе складацца з апраўданняў. Спадзяюся, што на папярэдніх старонках мне ўдалося растлумачыць сваю пазіцыю: чаму для мяне прынамсі не дзіва, што нашыя продкі лічылі, што сяброўства амаль абагаўляе чалавека. Гэтая любоў вольная ад уплыву інстынктаў, ад любых абавязкаў, апроч тых, якія сябры добраахвотна бяруць на сябе. Яна амаль пазбаўленая рэўнасці, цалкам свабодная ад патрэбы быць патрэбным іншым людзям, яна ў найвышэйшай ступені духоўная. Напэўна, такой любоўю любяць адзін аднаго анёлы. Можа, сяброўства і ёсць тая самая найвышэйшая Любоў, якую мы шукалі?

Але не спяшаймася рабіць высновы, не акрэсліўшы спачатку дакладнага значэння слова «*духоўны*». У Новым Запавеце яно часта ўжываецца ў значэнні «тое, што мае адносіны да Духа Святога», і ў гэтым сэнсе *духоўны* — станоўчая характарыстыка. Але калі слова «*духоўны*» ўжываецца толькі як антонім словаў «цялесны, інстынктыўны, жывёльны», справа зусім іншая. Існуе духоўнае зло, гэтак як і духоўнае дабро. Анёлы могуць прабываць і ў святасці, і ва ўпадку. Найгоршыя грахі чалавека — у духоўнай сферы. Не варта думаць, што паколькі сяброўства — рэч духоўная, яно само па сабе святое або беспамылковае. Важна памятаць пра тры істотныя рэчы.

Першае, пра што я ўжо казаў, — гэта недавер кіраўнікоў да падначаленых, якіх звязвае моцнае сяброўства. Гэта можа адбывацца беспадстаўна, а можа мець пэўныя прычыны.

Другое — гэта стаўленне большасці людзей да любога кола блізкіх сяброў. Сяброў у лепшым выпадку пагардліва клічуць «групоўкай», калі не «бандай», «зграяй», «хеўрай» або «камітэтам сама-

любавання». Тыя, хто ў сваім жыцці ведае толькі прыязнасць, кампаньёнства і каханне, лічаць сяброў «вузкалобымі ганарліўцамі, якія ўдаюць сябе лепшымі за іншых». Зразумела, што так у іх прамаўляе зайздрасць, але зайздрасць заўсёды карыстаецца праўдзівымі або найбліжэйшымі да праўды довадамі, якія толькі ёсць, — гэтак можна раніць наймацней. І таму гэтыя довады вартыя ўвагі.

І ўрэшце, трэба ўлічваць, што вельмі рэдка Святое Пісанне параўноўвае любоў паміж Богам і чалавекам з сяброўствам. Зрэдку гэтае слова ўжываецца, але нашмат часцей, калі шукаецца параўнанне з найвышэйшай любоўю, Біблія ігнаруе, здавалася б, амаль анёльскае «сяброўства» і звяртаецца да глыбінных вобразаў больш натуральнай і інстынктыўнай любові. Яна падае вобраз Бога як нашага Айца, поўнага прыязнасці да чалавека, Хрыста параўноўвае з жаніхом, закаханым у сваю нявесту, — Касцёл.

Паразважаем спачатку, чаму кіраўнікі не давяраюць сяброўству. Думаю, што гэта небеспадстаўна і высвятляе для нас нешта істотнае. Як я адзначаў, сяброўства нараджаецца са словаў аднаго чалавека да іншага: «Што?! І ты таксама? Я думаў, што я адзін такі...» Але супольныя густы або погляды на жыццё не абавязкова бываюць станоўчыя. Сябры могуць разам развіваць мастацтва і філасофію, удасканальваць ідэйную і маральную дактрыну, але могуць стварыць і новыя прылады для катавання, прапагандаваць канібалізм або чалавечыя ахвяры. Большасць з нас, вядома ж, мела ў юнацтве такі супярэчлівы досвед. Як жа цудоўна было ўпершыню сустрэць таго, каму таксама падабаецца твой улюбёны паэт! Усе цьмяныя і незразумелыя пачуцці цяпер набывалі ясныя абрысы. Можна было адкрыта прызнаць тое, чаго ты, здаралася, саромеўся. Але не менш прыемна было сустрэцца ў першы раз з тым, хто падзяляе з табою нейкую патаемную загану. Яна таксама станавілася больш вызначанай і выразнай, ае ты таксама пераставаў саромецца. Нават цяпер у любым узросце мы ведаем, як вабіць небяспека раздзяліць з некім агульную нянавісць і крыўду (ну як жа не пасябраваць з адзіным у каледжы чалавекам, які таксама бачыць усе хібы намесніка дырэктара).

Адзін сярод чужых людзей, я нясмела выказваю некаторыя свае погляды і суджэнні, часткова саромеючыся ў іх прызнавацца і часткова сумняваючыся ў справядлівасці сваіх меркаванняў. Але вось я сярод сяброў, і праз паўгадзіны, нават хвілін праз дзесяць, гэтыя погляды і суджэнні ўжо становяцца неаспрэчнымі. Меркаванне майго маленькага сяброўскага кола, пакуль я знаходжуся ў ім, важнейшае за меркаванне тысячы чужынцаў. Сяброўства ўмацоўвае чалавека, і я адчуваю гэтую моц, нават калі сябры мае далёка. Усім нам хочацца, каб пра нас судзілі «роўныя нам», людзі, якія нам «па сэрцы». Толькі яны сапраўды ведаюць, што мы думаем, і толькі яны судзяць па тых стандартах, якія мы цалкам прызнаем. Іх пахвальбы мы сапраўды прагнем, іх асуджэння сапраўды баімся. Маленькія супольнасці першых хрысціянаў выжылі, таму што толькі любоў «братоў» мела для іх значэнне, яны заставаліся глухія да язычніцкага грамадства, у якім існавалі. Але гэткім жа чынам выжываюць і банды злачынцаў, эксцэнтрыкі і вычварэнцы, глухія да суджэння іншых людзей, якія «нічога не разумеюць», бо яны «кансерватары», «мяшчане», «уплывовыя», бо яны самаўпэўненыя ганарліўцы, ханжы і шэльмы.

Таму відавочна, што людзі ва ўладзе не ўхваляюць сяброўства. Кожнае сапраўднае сяброўства — гэта своеасаблівы раскол і нават бунт. Гэта можа быць бунт сур'ёзных мысляроў супраць агульнапрынятай бязглудзіцы або бунт вар'ятаў супраць звычайнай разважлівасці; паўстанне сапраўдных мастакоў супраць брыдоты або шарлатанаў супраць тонкага густу; супраціўленне добрых людзей сапсаванасці грамадства або супраціўленне злых — яго каштоўнасцям. Так ці інакш, вярхі гэтага не прымуць. Кожнае кола сяброў мае сваё «асабістае суджэнне», якое ўмацоўвае іх супраць агульнаграмадскага суджэння. Таму кожнае сяброўства — патэнцыйны асяродак супраціву. Людзьмі, якія маюць сапраўдных сяброў, цяжэй кіраваць і цяжэй уплываць на іх. Добраму кіраўніку цяжэй іх выпраўляць, дрэннаму — цяжэй сапсаваць. Калі аднойчы ўлады сілаю, прапагандаю «душэўнага адзінства» або павольным пазбаўленнем нас любой адасобленасці і незапланаванага вольнага часу здолеюць стварыць свет, дзе ёсць кампаньёны і няма сяброў, гэта адхіліць пэўную небяспеку, але адначасова чалавецтва страціць сваю найлепшую абарону супраць поўнага зняволення.

Азначаная небяспека цалкам рэальная. Нашыя продкі лічылі сяброўства школаю цнотаў, але яно з'яўляецца таксама (гэтага яны не ўлічвалі) і школаю заганаў. Сяброўства мае двайную прыроду. Яно чыніць добрых людзей лепшымі, а дрэнных — горшымі. Будзе стратаю часу і надалей гаварыць пра гэта. Мы не маем за мэту разважаць пра шкоду дрэннага сяброўства, а хочам толькі паказаць гэтую небяспеку для добрага. Сяброўства, як і кожная натуральная любоў, мае прыроджаную схільнасць да сваёй хваробы.

*Пераклад з англійскай мовы Юліі Шэдзько.*

Паводле: «*The Four Loves*», *C. S. Lewis,* 1958.

*Працяг будзе.*

Стэфан Свяжаўскі

# СВЯТЫ ТАМАШ, ПРАЧЫТАНЫ НАНАВА

**XV. ХАРАКТЭРНЫЯ РЫСЫ ТАМАШАВАЙ НАВУКІ ПРА ЧАЛАВЕКА**

Каб праблема чалавека ў канцэпцыі св. Тамаша магла быць цалкам для нас зразумелаю, нам пастаянна будуць патрэбны асноўныя паняцці філасофіі быту. Без іх, без добрага іх разумення, абдумвання і штоaccess разовага вяртання да гэтых паняццяў, вучэнне пра чалавека, пакінутае Тамашам, будзе для нас хутчэй шэрагам формулаў, пазбаўленых таго поўнага сэнсу, якім яно вылучаецца. Трэба заўсёды мець на ўвазе і нагадваць сабе такія асноўныя паняцці як магчымасць і здзяйсненне, сутнасць і існаванне, матэрыя і форма. Перадусім пры разважанні праблемы чалавека, як мы ўжо бачылі, паняцці матэрыі і формы, ці таксама матэрыялу, рэчыва і фармавання гэтага рэчыва, выконваюць асноўную ролю.

Чалавек для св. Тамаша — гэта не душа, а цэласць, складзеная менавіта з гэтага рэчыва і з фармуючага элемента, якім з'яўляецца душа. Душа ў чалавеку адна, і менавіта дзякуючы душы, дзякуючы гэтаму фармуючаму элементу чалавек ёсць тым, чым ёсць. Дзякуючы гэтаму элементу ў нас не толькі запальваецца святло інтэлекту і вольнай волі, але ўсё — ад ніжэйшай біялагічнай функцыі аж да найвышэйшых праяваў чалавечасці — сатканае гэтай адзінаю формаю, альбо, тэрміналагічна кажучы, субстанцыяльнаю формаю, якая ўласна і ёсць тою формаю, што ўтварае, канстытуюе, устанаўлівае цэласць, якою ёсць чалавек. Найперш звернем увагу на пэўныя агульныя характэрныя рысы ўсёй Тамашавай антрапалогіі, ці навукі пра чалавека (ад грэц. *antropos* — чалавек). Пасля гэтага агульнага погляду на праблему мы будзем разважаць больш дэталёва пра дзеянні, характэрныя для кожнага чалавека .

Мы ведаем, што для св. Тамаша ўсё, што існуе, — добрае. А ўсё, што існуе, існуе толькі таму, што яно — прадмет Божай любові. Яно б не існавала, калі б Бог не любіў яго. Гэта першааснова ўсёй філасофіі і ўсёй тэалогіі св. Тамаша: усё, што ёсць, — добрае. Злом з'яўляюцца толькі недахопы, якія вынікаюць альбо з фізічнай, натуральнай недасканаласці бытаў, альбо са зла маральнага. Вось жа, толькі фізічныя і маральныя недахопы — зло, а нічога з таго, што нас атачае, паводле сваёй прыроды не ёсць злом.

Увесь свет — добры, увесь свет стварэнняў і ўвесь свет культуры, гэта значыць усяго, што стварае чалавек, што ён дадае ў самых розных сферах да наяўнага свету. Гэтае сцвярджэнне надзвычай важнае. Можа, св. Францішак не ўсведамляў, да якой ступені ён быў філосафам, калі спяваў свой гімн на хвалу стварэння. Гэтае сцвярджэнне дабра — крыніца найвялікшага аптымізму: няма месца злу як быту, а з эсхаталагічнага гледзішча ўсё мусіць быць добрым, прыгожым, цудоўным, бо ўрэшце не будзе аніякага зла.

Важна гэта сабе ўсведаміць, бо гэта мае ўплыў на нашае духоўнае стаўленне, на аскетыку, на духоўнасць. Усё роўна, маецца на ўвазе манаская ці свецкая духоўнасць, кожная з іх павінна мець пазітыўнае стаўленне да ўсёй рэчаіснасці, да ўсяго свету. З гэтага вынікае таксама, што ўсялякая пагарда да матэрыі, да цялеснасці, да якіхсьці нібыта няважных рэчаў, ёсць па сутнасці нялюдская і нехрысціянская. Нішто не можа быць прадметам пагарды, усё павінна быць прадметам любові, бо яно ёсць прадметам Божай любові, ёсць бытам, ёсць добрым. Бо ўсё — Божае, усё Бог любіць. Злом з'яўляецца недахоп, прамінальнасць. У рэшце рэшт злом ёсць найбольш і найістотней толькі грэх. Таму св. Тамаш уяўляецца нам як вораг двух кірункаў, з якіх кожны, але іншым чынам, супрацьстаіць гэтаму радыкальна пазітыўнаму стаўленню. Тут маецца на ўвазе маніхейства і сакралізм.

1. Маніхейства было той рэлігіяй, якая пашырылася на велізарным абшары: на азіяцкім, афрыканскім і еўрапейскім кантыненце. Яна канкуравала з хрысціянствам у першыя стагоддзі, асабліва ў часы св. Аўгустына. Моцна прасякнутае ўплывамі перскай рэлігійнасці, маніхейства трактавала менавіта пытанні дабра і зла цалкам інакш, чым хрысціянская думка. Назва гэтай рэлігіі выводзіцца ад Манэса, яе стваральніка, які лічыў, што існуюць два пачаткі, якія кіруюць усім светам, нібыта адзіны Бог, але які мае дваістую прыроду. Гэта пачатак пазітыўнага дабра і пачатак пазітыўнага зла. Вялікую папулярнасць маніхейства здабыло менавіта ў часы св. Аўгустына, і на тым фоне адбылося навяртанне гэтага вялікага доктара Касцёла, які шмат гадоў быў вызнаўцам маніхейскай веры. У тую эпоху маніхейства было таксама каталізатарам дыскусіі на тэму дабра і зла і крышталізацыі стаўлення да існавання пазітыўнага зла.

У маніхействе, шмат элементаў якога ўвайшло ў культуру Міжземнамор'я, знаходзіцца крыніца пастаянна паўтараных адмоўных ацэнак такіх сфераў як сужэнства, сексуальнае жыццё, цялеснасць, матэрыяльныя даброты, увогуле ўся дачаснасць. З гэтага маніхейскага гледзішча вынікае нарэшце пагардлівае стаўленне, нежаданне, асуджэнне гэтых сфераў як валадарства сатаны. Хрысціянства не адмаўляе, што сатана мае ўплыў на свет, аднак ніколі нельга разглядаць зло як пазітыўны

*Працяг. Пачатак у № 3 за 2011 г.*

чыннік, а тым больш як сілу, што кіруе светам нароўні з дабром. Тамаш рашуча змагаўся з гэтым дуалізмам дабра і зла, бо, як і ў першыя стагоддзі хрысціянства, маніхейскія погляды былі жывыя і пашыраліся і ў яго час, і праз усё Сярэднявечча.

Неаднаразова ўзнікала імкненне асудзіць сужэнства, сексуальнасць ды інш. Пры гэтым зыходзілі з меркавання, што людзі павінны весці жыццё цалкам устрыманае, што сужэнства ў прынцыпе зло, што ўся гэтая сфера вартая пагарды ці, прынамсі, яна можа быць толькі талераваная. Касцёл заўсёды абараняў іншую пазіцыю, аднак раз-пораз такія тэндэнцыі праяўляліся зноў. Уся гэтая тэматыка ажывілася ў Сярэднявеччы ў сувязі з ерасямі, што яшчэ існавалі ў часы св. Тамаша, а менавіта ерасі катараў, альбігойцаў і іншых. На жаль, іх так бязлітасна вынішчалі «агнём і мечам», што ў Францыі раны, нанесеныя ў той час, крывавяць да сённяшняга дня. У часы Тамаша яшчэ ўтрымлівалася і была трывалаю духоўнасць катараў, ці «чыстых», а маніхейства мела моцную базу на Балканскім паўвостраве, адкуль пранікала ў іншыя краі Еўропы. Св. Тамаш ставіўся да гэтых тэндэнцыяў цалкам адназначна: няма дуалізму дабра і зла; усё ёсць добрым, добры ўвесь чалавек, не толькі душа, але ўся асоба чалавека; хоць поўным дабром, дабром чыстым, ёсць толькі Бог, а ўсе створаныя быты, усе без вынятку, абцяжараныя нейкімі недахопамі. Таму зло рассеянае паўсюль. Тут нам прыгадваюцца словы Пана Езуса: «Чаму ты называеш мяне добрым? Ніхто не ёсць добрым, толькі Бог» (пар. Лк 18, 19). З аднаго боку, гэтыя словы адкрываюць тую праўду, што паўсюль ёсць недахопы, а з другога, Аб'яўленне яскрава пралівае святло на той факт, што ёсць толькі дзве бязгрэшныя чалавечыя асобы: Езус і беззаганна зачатая Божая Маці. Нават найвялікшыя святыя таксама абцяжараныя грахом; Касцёл — супольнасць грэшнікаў. Усведамленне паўсюднасці дабра, а разам з тым яго недасканаласці і змешвання са злом, надзвычай важнае; яно адкрывае жыватворныя перспектывы для ўсяго чалавецтва, для народу Божага — Касцёла, для кожнага чалавека. Нягледзячы на недахопы і недасканаласць, дабро ёсць асноваю ўсяго, што нас атачае, і з гэтага вынікае неабходнасць глыбокай павагі да кожнага стварэння, падкрэсленая ва ўсім даробку св. Тамаша.

Варта адзначыць жыццядайны сінтэз духоўнасці святых Тамаша, Францішка і Бэнэдыкта, які павінен панаваць у Лясках. Уласна ў гэтай павазе да ўсяго і да кожнага стварэння выяўляецца — часам вельмі мала ўсвядомленая — блізкасць св. Тамаша да св. Францішка, які вызначаўся незвычайнаю павагаю да кожнай, нават наймізэрнейшай жывой істоты, да кожнай расліны. У гэтым святле кожная пылінка, кожная рэч павінны быць прадметам нашага шанавання, бо ў іх заўсёды ёсць нейкае дабро, ёсць водбліск Бога. Духоўнасць св. Францішка таксама зусім не супярэчыць дамініканскай духоўнасці, якую прадстаўляе св. Тамаш, гэтыя духоўнасці дапаўняюць адна адну. Францішак выказвае інакш, больш паэтычна, больш чалавечна, больш пачуццёва тое самае, што ляжыць у аснове вучэння св. Тамаша. У іх абодвух нас уражвае паважлівае стаўленне да кожнага без вынятку стварэння.

Паколькі гэтае шанаванне ахоплівае ўвесь свет чалавека, усё *regnum hominis* — валадарства чалавека, усё, што чалавек стварае, чым дапаўняе гэты свет прыроды, то яно датычыць таксама і свету культуры. Тут духоўнасць св. Францішка і св. Тамаша сустракаюцца з духоўнасцю св. Бэнэдыкта, бо бэнэдыктынцы былі тымі, хто ў кожнай найдрабнейшай выкананай працы бачыў «навечна зробленую долатам засечку». Усё роўна, ці гэта падмятанне падлогі, маляванне ініцыялаў у рукапісе, ці літургічная служба, стварэнне навуковай працы, ці праца па гаспадарцы ў аборы; усё гэта ў бэнэдыктынскай духоўнасці мае вечнатрывалую вартасць. З гэтым лучыцца тое эсхаталагічнае бачанне, пра якое мы казалі, што ўсё пазітыўнае, усё, што ёсць бытам, трывае. Калі Бог не забывае пра волас, які павінен упасці з галавы, то тым больш ён не забывае пра ніводную найменшую працу, выкананую чалавекам. Няма ані справаў, ані рэчаў, вартых пагарды. Адсюль вынікае клопат пра малыя і нібы прамінальныя рэчы, клопат, які заўсёды так захапляў мяне ў айцу Карніловічу. Ён меў вялікую пашану да ўсіх рэчаў, якія з пэўнага духоўнага гледзішча маглі б падавацца малаважнымі. Аднак яны ўсе важныя, бо ўсе складаюць адну вялікую будову ці то свету прыроды, ці то свету культуры.

Таму такое важнае ўменне ўбачыць дабро ў кожным чалавеку. Айцец Шэню[1], адзін з вялікіх знаўцаў думкі св. Тамаша, калі яму сказалі, што апошні Сабор быў, маўляў, далёкі ад св. Тамаша, адказаў, што гэты Сабор, хоць і мала казаў пра св. Тамаша, быў адным з найбольш Тамашавых Сабораў ва ўсёй папярэдняй гісторыі. Думаю, што гэта слушнае выказванне. Ян XXIII, які ў вялікай ступені быў натхняльнікам духу, што панаваў на Другім Ватыканскім Саборы, у сваім нібы дэкалогу, у сваіх запаведзях, якія стараўся прымяняць у жыцці, сказаў між іншым, што, ведучы дыялог з нейкім чалавекам, з кожным без вынятку чалавекам, трэба заўсёды памятаць, што з пэўнасцю менавіта гэты чалавек у нечым мяне пераўзыходзіць, нават калі б я меў стасункі з самым страшным грэшнікам ці асуджаным чалавекам, апушчаным ці здэмаралізаваным. І гэта сапраўды так. Гэтае пазітыўнае і рэалістычнае, сцвярджальнае стаўленне, стаўленне з павагаю і пашанаю да кожнага стварэння і кожнай рэчы, а не толькі да кожнага чалавека, ёсць першым і асноўным антыманіхейскім пунктам. Ён вельмі выразна праяўляецца ў св. Тамаша.

2. Больш цяжкая для зразумення справа — супраціў св. Тамаша ў адносінах да сакралізму. Гэта шматзначнае слова, якое паходзіць ад лацінскага *sacrum* — *святарны*, *сакральны*, *асвячаны*, *прызначаны для культу*. У сувязі з Другім Ватыканскім Саборам гэты тэрмін зноў стаў больш ужывацца, што дапамагае нам зразумець пэўнае стаўленне, вельмі характэрнае для св. Тамаша. Сакралізм можа быць разуметы як з'ява дадатная ці адмоўная. У дыскусіях, якія вяліся ў апошнія гады, гэты тэрмін ужываўся найчасцей у пеяратыўным значэнні. Тады ён азначае меркаванне, што ёсць сфера справаў і прадметаў, звязаных з культам і рэлігійным жыццём, г.зв. сакральная сфера, і што гэтая сакральная сфера заслугоўвае адмысловага зацікаўлення і шанавання для веруючага чалавека. А рэшта справаў, г.зв. несакральнай

рэчаіснасці, ці свецкая сфера жыцця — нібыта не пазначаная знакам сакральнасці — гэтая дзялянка, самае большае, можа быць толькі талераваная, але ў сутнасці ў адносінах да сферы сакральнай не важная, не вартая ўвагі і клопату. На першы погляд, такое стаўленне можа падацца выдатным і слушным, бо ўрэшце яно азначае ўзвышэнне сакральнай сферы жыцця. Але ў сутнасці — і гэта прынцыповая рэч — сакралізм падобнага гатунку ёсць такім жа скажэннем хрысціянства, як і маніхейства. Гэта праява «гетавага» хрысціянства і, у кепскім значэнні гэтага слова, сакрыстыйна-кляштарнага, якое лічыць усялякую дачаснасць неабходным злом, пэўным *malum necessarium*.

Пры такім стаўленні пачынае адбывацца падзел вартасцяў паміж сфераю малітвы, культу, клопату пра справы культу і ўнутранага жыцця, як сфераю вартаю прызнання і ўвагі, і той другою дзялянкаю дачасных справаў, якія павінны быць талераванымі з неабходнасці, але якія ў сутнасці вартыя пагарды. Гэта вялікая небяспека, якая пагражае ўсім хрысціянам, і можа асабліва пагражае асобам, якія належаць да манаскага стану. Такі сакралізм, дзе ўся духовая ўвага засяроджаная на сферы культу і малітвы, які паяднаны з пагардаю і нібыта з абясцэньваннем іншых рэчаў, чужы духу св. Тамаша, бо ўсё, кожная справа, у сваім парадку сакральная. Няма падзелу на сакральнае і несакральнае. Усё ёсць сакральным, і ўласна гэта — пазіцыя сапраўднага сакралізму. Прыгадайма словы св. Паўла: «Ці ясце, ці п'яце, ці нешта робіце, рабіце ўсё на хвалу Божую» (1 Кар 10, 31).

Вось жа, усё ёсць сакральным. Усё мае быць прасякнутым Божым духам, як самая ўзнёслая сузіральная малітва, так і самая сціплая службовая праца. І таму, дакладней кажучы, не павінна праводзіцца рэзкая мяжа паміж сузіраннем і практыкаю, бо абедзве гэтыя дзялянкі павінны быць моцна прасякнутыя адна адной. Калісьці была напісаная праца на тэму тэорыі і практыкі ў св. Тамаша[2], дзе паказваецца, што тое рэзкае супрацьпастаўленне, якое вымалёўваецца паміж гэтымі сферамі ў арыстоцелізме, падаецца зусім інакш у Тамаша. Менавіта так належыць разумець стаўленне св. Тамаша да чалавечых справаў, такое было духоўнае стаўленне айца Карніловіча, такім духам таксама быў прасякнуты Другі Ватыканскі Сабор. Здаецца ўражваючай непарыўнасць усёй гэтай лініі. Усё бярэ ўдзел у будаванні Божага Валадарства. Усё мае вечную вартасць, хоць у гэтым свеце ўсё праміне.

Марытэн калісьці сказаў, што св. Тамаш — святы прарок, які кідае святло на будучыя эпохі. Думка св. Тамаша да гэтага часу не прыносіла сапраўднага плёну. На жаль, яна давала плён часта толькі ў неўласцівым, трыумфалістычным, ідэалагічным сэнсе, але не ў такім, як трэба. Антрапалогія св. Тамаша не была выкарыстаная. Св. Тамаш не з'яўляецца плодам сярэднявечнага феадалізму. Гэта постаць, якая сягае па-за свой час, якая адкрывае перспектывы будучыні. Гэта вельмі важна. Хто ведае, ці менавіта цяпер (такое было меркаванне Марэтэна, Жыльсона, верагодна, таксама і кардынала Журнэ[3]) не надышла эпоха, у якую ягоная думка павінна прынесці плён. Добра зразумелі гэта заснавальнікі Лясак, ацэньваючы вялікі ўнёсак Марытэна, які даводзіў, што менавіта ў Тамаша выяўляецца імкненне да аўтаноміі і ўсведамлення вартасці таго, што дачаснае. Бо ўся сфера дачаснага жыцця, усе службовыя заняткі, усе працы, сямейнае жыццё, цяжкасці мацярынства, усе праблемы сужэнства, фізічная праца, развіццё навукаў, не звязаных з тэалогіяй, справы эстэтыкі, прыгажосці штодзённага жыцця і багаты ў сваёй разнастайнасці спектр жыцця ў свеце — усё гэта павінна быць ацэненае, бо ўсё гэта мае вартасць і служыць будаванню Касцёла. У гэтым аспекце ўсё сакральнае, калі яно прасякнута евангелічным духам: усё, а не толькі нейкая адна дзялянка, прысвечаная праблемам культу ці ўнутранага жыцця. Раздзяленне гэтых сфераў — адна з праяваў маніхейскага раздваення. Таму здаецца, што для сапраўднага зразумення духоўнасці св. Тамаша трэба заўсёды мець на ўвазе такія дзве рэчы: ягонае антыманіхейства і ягонае разуменне сакралізму. У гэтай Тамашавай духоўнасці праяўляецца іншы погляд на свет, чым той, які ўсталяваўся ў апошнія стагоддзі, і іншае разуменне таго, што значыць хрысціянскае бачанне рэчаіснасці.

Такім чынам, мы павінны вучыцца гэтаму ў св. Тамаша, у св. Францішка, у св. Бэнэдыкта. Гэта тыя сапраўды вялікія асобы, якія ў ключавых для нас справах заклалі непарушныя ў сваёй моцы падмурваліны. Дзякуючы ім увесь чалавек, усё яго валадарства *regnum hominis*, уся чалавечая творчасць без вынятку становяцца паўнавартымі. Яны скажаюцца і трацяць сваю вартасць толькі тады, калі парушаецца парадак, г.зн., калі чалавечыя мэты робяцца апошнімі мэтамі, бо тады пачынае рэалізоўвацца тое, што Марытэн назваў антрапацэнтрычным гуманізмам (anthropos — *чалавек*, centrum — *асяродак, цэнтр*), калі цэнтрам усяго робіцца чалавек. Чалавек дасягае сваёй поўні ў гуманізме тэацэнтрычным, г.зн. такім, які прызнае, што апошняю мэтаю ёсць Бог. Ці мы жывём у кляштары ці ў сям'і, займаемся філасофіяй ці тэалогіяй, альбо апекаю над невідушчымі, ці прыбіраем у пакоях — абсалютна ўсё роўна. Галоўнае наша заданне — паўсюль усталёўваць ідэал тэацэнтрычнага гуманізму. Гэты, такі адрозны ад сакралізму ў адмоўным значэнні, тэацэнтрычны гуманізм ёсць ідэалам, да якога вядзе ўсё вучэнне св. Тамаша пра чалавека. Гэтае вучэнне з'яўляецца таксама агульнымі ўводзінамі ў духоўнасць св. Тамаша. Творчасць Тамаша — гэта не толькі вучэнне, але таксама духоўнасць, і духоўнасць, вельмі характэрная для гэтага вялікага Доктара.

[1] Мары-Дамінік Шэню (Marie-Dominique Chenu , 1895–1990) — французскі дамініканін, тэолаг, прадстаўнік неатамізму. — *Заўв. перакладчыка.*

[2] Гл.: Kuc L. Z badań nad pojęciem «theoria» w szkole tomistycznej XV wieku // Studia z dziejów myśli Tomasza z Akwinu / Praca zbiór., pod red. S. Swieżawskiego i J. Czerkawskiego. KUL: Lublin, 1978. S. 47-90.

[3] Кардынал Шарль Журнэ (Charles Journet, 1891–1965) — сусветна вядомы тэолаг, заснавальнік тэалагічнага часопіса «Nova et Vetera» («Новае і Старое»), аўтар шматлікіх тэалагічных працаў, асабліва ў галіне эклезіялогіі. Браў чынны ўдзел у апошняй сесіі Другога Ватыканскага Сабору. — *Заўв. перакладчыка.*

*Пераклад з польскай мовы*
*Алеся Жлуткі.*

Паводле: *Świeżawski Stefan. Święty Tomasz na nowo odczytany. — Poznań, 1995.*

*Працяг будзе.*




Крыстына Лялько

# ЗНАКІ МІЛАСЭРНАСЦІ

Тая зіма была з моцнымі маразамі, з высокімі і глыбокімі снягамі. Здавалася, няма ёй ні канца, ні краю. Тою зімою кожны мой дзень пачынаўся з аднаго і таго ж вярэдлівага клопату: як знайсці выйсце, як знайсці ратунак для найдаражэйшага чалавека на свеце, для мамы, якая мучылася побач ад хранічнай ныркавай недастатковасці. Месяц ляжання ў бальніцы толькі крыху палепшыў яе стан, але не зняў інтаксікацыі: ныркі адмаўляліся працаваць, патрэбны быў дыяліз, хоць бы перытаніяльны, але тады, 15 гадоў назад, нават у сталічных бальніцах не хапала для яго раствораў, не хапала апаратаў для гемадыялізу. Абіваючы парогі тых, ад каго залежала вырашэнне гэтай праблемы, я трапіла у нейкае зачараванае кола, з якога немагчыма было вырвацца, бо ўсюды натыкалася на абыякава-адмоўныя адказы і разумела, што выйсця няма, што прабіць гэтую сцяну не ў маіх сілах. На ўсе мае просьбы чыноўнікі ад медыцыны толькі разводзілі рукамі, маўляў, чаго ты хочаш, у нас маладыя паміраюць. На мой апошні роспачны довад, што ў маці няма ўзросту, моўчкі паціскалі плячыма, даючы зразумець, што размова скончана...

А жыццё тачылася сваім колам: набліжалася свята Божага Нараджэння — адно з самых светлых і чаканых. Але ў той год яно аніяк не радавала, наадварот, агульны перадсвяточны настрой, здавалася, яшчэ больш адцяняў і паглыбляў мой смутак і боль.

Вяртаючыся аднаго разу дадому, зноў не ведаючы, што там сказаць і якія словы суцяшэння знайсці, я адчыніла паштовую скрынку. Сярод віншавальнай карэспандэнцыі быў канверт ад знаёмага святара з Вільні, а ў ім, укладзены ў калядную паштоўку, абразок св. Фаўстыны з уклееным кавалачкам белага вэлюма — яе рэліквіі. На адваротным баку абразка была змешчана малітва праз яе заступніцтва... Так у тую роспачна-халодную зіму 2001 года ўпершыню прыйшла да мяне сястра Фаўстына. Прыйшла з Вільні, напярэдадні Божага Нараджэння... Штодня, рана і ўвечары, я пачала чытаць

---

**Крыстына ЛЯЛЬКО** — пісьменніца, перакладчыца, галоўны рэдактар часопісаў «Наша вера» і «Ave Maria». Нарадзілася на хутары каля в. Хадзюкі Лідскага раёна Гродзенскай вобласці. Закончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1979). Працавала ў Літаратурным музеі Янкі Купалы, штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», часопісе «Беларусь». Аўтар кніг прозы «Дарога пад гару» (1985), «Світанак над бярозамі» (1989) і кніг паэзіі «На далонях любові» (2006) і «Адвячорак» (2016). У яе апрацоўцы выйшаў зборнік народных казак «Хітрэй свету не будзеш» (1988). Пераклала на беларускую мову кнігі святога Яна Паўла II «Пераступіць парог надзеі», «Дар і Таямніца», «Устаньце, хадзем!», «Памяць і самасвядомасць», энцыклікі «*Fides et ratio*», «*Ecclesia de Eucharistia*», Апостальскі ліст пра Ружанец «*Rosarium Virginis Mariae*», творы іншых польскіх тэолагаў і пісьменнікаў.

малітву з яе абразка, а таксама сваімі словамі, як магла, прасіла ў сястры Фаўстыны заступніцтва і дапамогі. І калі праз нейкі час з'явілася магчымасць мамінага лячэння ў Польшчы, у мяне не было сумнення, што ёсць у тым найперш Фаўстыніна заслуга...

Дзякуючы дыялізу, на які маму паклалі ў бальніцы ў падваршаўскім Атвоцку, яна пражыла яшчэ паўгода. Здавалася б, зусім няшмат, але той час быў для нас вельмі неабходны і важны... Апошняю ў маміным жыцці малітваю быў Вяночак да Божай Міласэрнасці, які мы паспелі памаліцца разам за гадзіну да яе адыходу ў вечнасць...

Недзе праз месяц пасля нашага развітання, калі боль перажытай страты, здавалася, стаў яшчэ мацнейшы, сястра Фаўстына другі раз нагадала пра сябе. З Варшавы, з кляштара Кангрэгацыі сясцёр Маці Божай Міласэрнасці, прывезлі мне яе «Дзённік». На яго тытульнай старонцы было пазначана, што гэты экзэмпляр даецца для перакладу на беларускую мову. Тое выданне 1983 года, надрукаванае на шэрай паперы з не вельмі выразным шрыфтам, было адным з першых у Польшчы...

Цяпер я ведаю, што калі б тады, адразу, знайшла ў сабе сілы і адвагу ўзяцца за пераклад «Дзённіка», было б мне нашмат лягчэй справіцца з балючым пачуццём асірацеласці, было б лягчэй перажыць жалобу і смутак. Але ёмісты том у зялёных вокладках маўклівым дакорам ляжаў на маім пісьмовым стале, а я адчувала, што зусім не гатовая ўзяцца за яго пераклад. Ранейшая згода на гэтую працу здавалася легкадумнаю і ўсё больш палохала, бо ўсё часцей прыходзілі неспакойныя вярэдлівыя думкі: «Хто ты такая, каб перакладаць словы не толькі святой, містычкі, але і словы Езуса? Табе яшчэ дарасці трэба да гэтага...» А пакуль я спрабавала «дарасці», з'яўляліся новыя клопаты і абавязкі, якія здаваліся больш тэрміновымі і важнымі... Пераклад «Дзённіка» такім чынам адкладваўся і адкладваўся. Як бы хто свядома адводзіў мяне ад гэтай працы, завальваючы іншаю...




Абразок св. Фаўстыны, прысланы з Вільні.




Выданне «Дзённіка», 1983 г.

Так праходзілі дні, тыдні, месяцы, якія неўпрыкмет складваліся ў гады. Мяне прыгнятала пачуццё віны, я спавядалася з занядбання працы і канкрэтнага абавязку, абяцаючы кожны раз сабе і Пану Богу перадолець усе перашкоды і нарэшце ўзяцца за пераклад. І сумленна спрабавала гэта зрабіць, але зноў адкладала, бо ў чарговы раз знаходзілася штосьці больш тэрміновае, а насамрэч — больш простае і лёгкае.

За той час сваіх пакутлівых мітрэнгаў я некалькі разоў з'ездзіла ў Лагеўнікі і там, у капліцы, дзе ў рэлікваірыі спачываюць астанкі сястры Фаўстыны, перад цудадзейным абразом Езуса Міласэрнага прасіла блаславення, адвагі і сілы для перакладу «Дзённіка».

Але па-сапраўднаму падступіцца да яго змагла толькі перажыўшы моцны ўнутраны крызіс, які, здавалася, раструшчыў мяне, як арэхавую шкарлупіну, увачавідкі скрышыўшы ўсе мае прыярытэты і аўтарытэты, усе балючыя прывязанасці, без якіх я не ўяўляла ўжо свайго жыцця, а заадно і мае надуманыя страхі і няпэўнасці. Здавалася, што нічога ўжо ні ад мяне, ні ўва мне не засталося. Я фізічна адчувала ў сабе халодную, да нематы, пустку, і толькі слёзы, якія ліліся бясконцым патокам, былі пякучыя,

як агонь. Але гэта былі слёзы ачышчэння і вызвалення, пасля якіх прыйшлі, нарэшце, у душу святло і палёгка. І вось тады, абудзіўшыся адною шараю восеньскаю раніцаю, я зразумела, што гатовая да працы над перакладам «Дзённіка». Сядаючы за пісьмовы стол, убачыла на календары дату: 16 лістапада, дзень Маці Божай Вастрабрамскай, Маці Міласэрнасці... І з таго дня праца сапраўды пайшла, і перажывала я яе не як цяжар і абавязак, а як пастаянную Божую ласку, бо пры адной толькі думцы пра гэтую працу дзіўнае цяпло разлівалася ўнутры. Зразумела, былі й цяжкасці, былі такія складаныя месцы ў тэксце, над якімі шмат даводзілася думаць, разважаць, кансультавацца з духоўнымі асобамі і з калегамі ў выдавецтве, шмат маліцца і проста размаўляць з сястрою Фаўстынаю. Я пастаянна адчувала яе жывую прысутнасць, і гэта дапамагала і падтрымлівала больш за ўсё...

А яшчэ — дапамагалі выезды ў Вільню, якая была асаблівым месцам у апостальскай місіі сястры Фаўстыны. Тут яна пражыла тры гады ў кляштары на Антокалі, тут Езус прадыктаваў ёй Вяночак і прасіў аб устанаўленні свята Божай Міласэрнасці, тут яна ўпершыню сустрэла свайго духоўнага кіраўніка — кс. Міхала Сапоцьку. У Вільні ў 1934 г. пад яе кіраўніцтвам мастак Яўген Казіміроўскі намаляваў абраз Езуса Міласэрнага, які ў 1935 годзе быў упершыню выстаўлены для публічнага ўшанавання ў Вострай Браме. Гэта тады с. Фаўстына ўбачыла ў надвіленскім небе вялікі крыж, які накрэсліў рукою Езус, благаслаўляючы гэты горад.

Вільня, блізкая майму сэрцу з маленства, цяпер набліжала мне асобу сястры Фаўстыны. Падымаючыся ў Вастрабрамскую капліцу па стромых, выслізганых каленьмі сходках, я думала пра тое, што калісьці па іх узыходзіла сюды с. Фаўстына, каб памаліцца перад цудадзейным абразом Маці Божай, і яе светлыя вочы ўзіраліся ў тое ж самае міласэрнае Аблічча.

А на старажытным Антокалі, на цяперашняй вуліцы Грыбо, цудам захаваўся адзіны дамок ад былога кляштара Фаўстынінай кангрэгацыі. Там ёсць магчымасць памаліцца каля яе рэліквій, ёсць яе мемарыяльны пакой, а ў ім — дзве печкі-кафлянкі, якія яе памятаюць, частка сцяны, тагачасныя дзверы і ложак. За гэтым домам — высокі пагорак, той, на які, напэўна, глядзела с. Фаўстына, працуючы ў агародзе і ў садзе, даглядаючы ружы, якія яна тут навучылася разводзіць. Нездарма, калі на кухні адцэджвала бульбу і з цяжкасцю падымала вялізны рондаль, аднойчы ў ім, пад накрыўкаю, убачыла пукі чырвоных ружаў... Гэтыя, здавалася б, драбнічкі яе біяграфіі, яе зямнога жыцця, дапамагалі лепш зразумець яе духоўныя перажыванні і «сустрэчы яе душы з Богам», якія яна так узнёсла і прыгожа апісала ў сваім «Дзённіку»...

Калі нядаўна ў адным інтэрв'ю мяне запыталі: «А што Вам асабіста даў пераклад „Дзённіка“ святой Фаўстыны?», я адказала: даў сілы жыць далей, бо праца над ім распачалася якраз тады, калі здавалася, што ўсё ў маім жыцці закончылася. Дзякуючы с. Фаўстыне я адчула паэзію веры, раней нязведаную і ніколі датуль неадчутую. Я не раз за час працы перажыла радасць здзіўлення і захаплення Асобаю аўтаркі «Дзённіка», зноў і зноў здзіўляючыся, адкуль у гэтым кволым дзяўчаці было гэтулькі мудрасці й мужнасці, разважнасці і ўзнёсласці, даверу і веры, адкуль у яе былі такія веды, якім і тэолагі могуць пазайздросціць.

Пераклад даў мне шчасце сумоўя з адною з самых пакорных святых нашага часу і праз яе — мажлівасць хоць крыху зразумець сутнасць пакоры: хрысціянскай цноты, такой нямілай сучаснаму свету. Бо хто сёння вось так адразу асмеліцца сказаць Пану Богу: «*Я гатовая да кожнага праяўлення Тваёй волі*» (Дз., 439)? Сёння, калі свет робіць стаўку на маладосць, сілу, упэўненасць, паспяховасць, Фаўстына кажа нам, якую сілу ў вачах Пана Бога маюць слабасць і поўны давер Божай міласэрнасці: такая «*Божая ласка дадзена мне толькі таму, што я была самаю слабою сярод людзей...*» (Дз., 1099).

Гэтая праца дапамагла мне наблізіцца да зразумення сэнсу любові і паверыць, што «*сутнасць любові — гэта ахвяра*» і што «*толькі любоў мае вартасць*» (Дз., 990), а «*Міласэрнасць — гэта квет любові*» (Дз., 657). І наталіць сваё сэрца словамі гэтай любові, так шчодра рассыпанымі ў тэксце, які гучыць бясконцым і ўзнёслым гімнам нашаму Збаўцу і Яго бязмежнай міласэрнасці. «*О, якія цудоўныя гімны, што льюцца з церпячай душы,* — піша сястра Фаўстына. — *Усё неба захапляецца такою душою — асабліва, калі яна пазначана Богам. Яна спявае Яму свае тужлівыя трэны. Яе прыгажосць велічная, бо сыходзіць ад Бога. Яна ідзе праз пустыню жыцця, зраненая Божаю любоўю. Яна толькі адною нагою кранаецца зямлі*» (Дз., 114).

Тэкст «Дзённіка» вельмі часта

змушаў мяне задумвацца над самымі рознымі рэчамі, на якія я раней так рэдка зважала. Напрыклад, над каштоўнасцю маўчання. Я адкрывала для сябе, што «*маўчанне — гэта такая магутная мова*», *якая* «*дасягае трону Бога жывога...*» (Дз., 888), што «*маўчанне — гэта меч у духоўнай барацьбе <...>, а маўклівая душа моцная*», бо «*яна амаль заўсёды жыве пад натхненнем Духа Святога...*» (Дз., 477). Або вось такая радыкальная і вельмі трапная заўвага: «*Бог не кантактуе з балбатлівай душою, якая, быццам трутень у вуллі, шмат брынчыць, але пры гэтым не вырабляе мёду. <...> У ёй няма ані грунтоўных цнотаў, ані блізкасці з Богам*» (Дз., 118).

Не магу абмінуць яшчэ аднаго адкрыцця, пасля якога паспакайнела мая вечна незадаволеная сабою душа, зразумеўшы нарэшце, што Бог узнагароджвае нас «*не за поспех у справах, а за шчырую волю і прыкладзеныя намаганні...*» (Дз., 952) і што «*...раздражнёнасць і прыгнечанасць — гэта плод <...> самалюбства*». Я ведаю, як нялёгка бывае пазбаўляцца ад такіх «пладоў».

Колькі ж разоў на старонках «Дзённіка» Хрыстус кажа с. Фаўстыне: «*Не бойся!*», а праз яе кажа кожнаму з нас: «*Нічога не бойся. Я заўсёды з табою*» (Дз., 629), і зрывае тым самым з душы путы страху, якія так часта яе звязваюць, паралізуючы волю, сеючы смутак і роспач, праганяючы радасць і дазваляючы дзейнічаць злому, бо страх — гэта ягоная зброя. Я сама гэта перажыла напоўніцу, і толькі прайшоўшы Фаўстыніну школу, навучылася чуць гэтыя словы Езуса: «*Нічога не бойся...*»

Падчас перакладу не раз прыходзілі ачышчальныя слёзы,




Першае беларускамоўнае выданне «Дзённіка». Выдавецтва «Pro Christo», 2014 г.

калі, чытаючы і пераствараючы Фаўстыніну споведзь на родную мову, я плакала над сваёю ўласнаю мізэрнасцю, бачачы яе, як ніколі, выразна, і над жорсткасцю свету, у якім жыла Фаўстына, і ў якім жывем мы цяпер, а потым знаходзіла на гэтых святых старонках словы суцяшэння, бо заўсёды, ва ўсе часы «*Праўда ходзіць у цярновым вянку*», а «*цярплівасць у цяжкасцях дае сілу душы*». І хоць «*стварэнні пакінуць чалавека ў цярпенні, Ты, Пане, заўсёды верны...*» (Дз., 1508), а таму — *Sursum corda!* (Угору сэрцы!).

Дазволю сабе прывесці адну са сваіх нататак, якія рабіла ў той час. «3 лютага 2013 г. Раніца. Сёння ўстала а 6-й гадзіне, перакладаю „Дзённік“ і не магу стрымаць слёз: с. Фаўстына піша, як да кляштарнай брамы прыйшоў Езус у абліччы ўбогага юнака — змарнелага, абарванага, босага і прасіў у яе паесці чаго-небудзь гарачага. (Сястра Фаўстына нейкі час служыла ў кляштары брамніцаю.) Потым, калі яна Яго накарміла, дзякаваў ёй і казаў (падчас візіі), што чуў пра гэтую яе міласэрнасць ад убогіх людзей і прыйшоў, «каб скаштаваць» яе «плод». Якімі ж нам трэба быць чуйнымі да тых, хто просіць нас аб чым-небудзь, каб пасля таксама пачуць: «*Я быў галодны, і вы далі мне есці...*» (Мц 25, 35).

Езус патрабаваў ад сястры Фаўстыны не толькі абвяшчаць Божую міласэрнасць, быць яе апосталкаю, але і рабіць учынкі міласэрнасці, якія павінны сыходзіць з любові да Яго: «*Ты павінна заўсёды і ўсюды праяўляць міласэрнасць да бліжніх, ты не можаш ад гэтага ані ўхіліцца, ані адмовіцца, ані адрачыся. Я даю табе тры спосабы ажыццяўлення міласэрнасці ў адносінах да бліжніх: першы — учынак, другі — слова, трэці — малітва; у гэтых трох ступенях заключаецца ўся паўната міласэрнасці, якая з'яўляецца неаспрэчным доказам любові да Мяне. Такім чынам душа праслаўляе Маю міласэрнасць і ўшаноўвае*» (Дз., 742). Вось наказ нашага Збаўцы таксама і для кожнага з нас, асабліва ў гэты Год ласкі, які мы цяпер перажываем...

Я закончыла пераклад «Дзённіка» 6 красавіка 2013 года, напярэдадні свята Божай Міласэрнасці. Памятаю, як дзякавала Богу за ласку гэтай святой працы, а таксама сястры Фаўстыне і св. Яну Паўлу ІІ, да якога малілася падчас перакладу, і словы якога хочацца прыгадаць напрыканцы гэтага свайго сведчання-ўспаміну: «У міласэрнасці чалавек знойдзе шчасце, а свет — супакой».



# Данута Бічэль

## Мадонны

**Данута Бічэль** — паэтка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1984). Нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. У 1962 г. закончыла Гродзенскі педінстытут імя Я. Купалы. Аўтар кніг паэзіі «Дзявочае сэрца» (1960), «Нёман ідзе» (1964), «Запалянкі» (1967), «Доля» (1972), «Ты — гэта ты» (1976), «Браткі» (1979), «Дзе ходзяць басанож» (1983), «Загасцінец» (1985), «Даўняе сонца» (1987), «А на Палессі» (1990), «Божа, мой Божа» (1992), «Снапок» (1999), «На белых аблоках сноў» (2002), «Стакроткі ў вяночак Божай Маці» (2004), «Ойча наш...» (2008), «Іду сцяжынаю да Бога» (2012), а таксама кнігаў прозы «Хадзі на мой голас» (2008), «Мост святога Францішка» (2010), «Правінцыя святога Францішка» (2013). Жыве ў Гродне.

### Адзігітрыя

Мы не ведаем, як Табе моцна балела –
рукі, ногі, прабітае сэрца і цела,
калі прытуляла Сына, Знятага з Крыжа,
калыхала надзею, што Бог Ён, што выжыў...
Але як Ты змагла з Крыжа знятага вытрымаць
на каленях жаночых, о Адзігітрыя?!

А Лука габляваў кіпарыс на абраз,
пэндзлі, грунт грунтаваў,
і ён думаў пра нас...
Маляваў Твой цудоўны, з сямю болямі, твар
дзікунам са спрадвечнага холаду ў дар.
Так, з жывой у натхненні тры адбіткі спісаў.
Так на левай руцэ Сын Твой з мёртвых паўстаў,
і трымае дзяржаву-сусвет у руцэ –
далікатна ў трох пальчыках, кволых яшчэ.

Еўфрасіння слугу пасылае ў Эфес,
каб абраз найцудоўнейшы ў Полацк прывёз:
нам не трэба чужое багацце, прагрэс...
Мы яцвягі, мы гуды... мы ўзыходзім на стос!
Мы вяртаемся ў лес, мы хаваемся ў мох...
Ад дзікунства сляпога ратуе нас Бог.

Маці Божая Сына над намі ўзняла,
Ён грахоў Адкупіцель і наша скала,
нас трымае ў трох пальчыках левай рукой,
правай – благаслаўляе на любоў і спакой.

Абразы цудатворна не баяцца агню.
На крыжы ўкрыжаваныя не ўпершыню,
мы паўстанем з дрыгвы, з багавіння, з вышынь,
мы паслухаем, што скажа нам Божы Сын.

*6 лістапада 2015 г.*

## Да Маці Божай з Каложы

Божанька, я Твае знакі з адчаю
ў цярнёвы вяночак злучаю,
каб з горкі да Нёмана перакуліцца
на хвост залатой рыбцы...
Перад Нёманам не пакаюся...
Рыбка ў вейкі хавае вочы,
ды я і так пра ўсё здагадаюся —
аб кім яна плача штоночы...

Рыбка, рыбка, ведаю я тваё гора,
І ты мяне можаш паслухаць...
Шукаеш дарогу з Нёмана ў мора,
а плывеш па цячэнні ці супраць?

Ты нават не ведаеш, што Каложа
не збіраецца ў Нёман куляцца,
і Каложская Маці Божая
з рыбкай не можа купацца...

Рыбку не вудзяць з крыжамі алені,
скубаюць траўку прыгожую...
Выйдзі з віру, стань на калені –
перад спрадвечнай Каложай.

*7 траўня 2015 г.*

## Маці Божая ў драўлянай капліцы

У драўлянай капліцы,
у апусцелым засценку —
хто Табе латаў сукенку:
дзятлік або сініца?

На галоўцы з німба вяночак,
грэюць ножкі з ясеня знічкі,
збіраеш слёзы ў збаночак,
а ноччу спеліш чарнічкі...

Сузіраеш жыцця калаўрот,
ён тут круціцца наадварот,
і ў ранічкі, і ў надвячоркі —
заўсёды з горачкі, з горкі...

Рыцар збройны з тарчай і мечам
у гэты Край не вярнуўся з сечы...
Хрыстос у цярнёвай кароне —
пазірае з месяца ў поўні...

Зайчык па сцяжыне бяжыць,
яго падкідае сцяжына.
Ён баіцца сваіх і чужых,
тут хітруюць свае і чужыя...

Тут чародка птахаў крылатых
пераносіць на крыльцах стыгматы
ад папяровых ружаў
да скамянелых душаў...

*21 красавіка 2015 г., Радаўніца праваслаўная.*

## Ранняя малітва падзякі

Дзякуй Табе, добры Пане,
за досвіткавае бічаванне!
Кожная папяровая кніга –
аўтарская амбіцыя, пыха.

Ад словаў тупяцца брытвы
пад зязюліны рытмы.
Ад думак глыбеюць разоры –
а розум тупее — хворы.

З купіны ў купіну па балоце —
мяне, хто хацеў, падманвалі,
пакуль білася галавой у плоце
ў вясковай Тваёй Гетсіманіі.

Найвышэйшая асалода —
на Тваёй рэзурэкцыі
запаўняць душу святым кіслародам
з Уваскрослага Сэрца.

*21 красавічка перанесла з чарнавічка.*

## На досвітку

Зноў прыйдзе краса-вясна,
абмые з аблокаў праталіны...
Прытулі мяне — непрытульную...
Гускі — дамоў, я ў вырай — адна.

Тата ў памяці коску менціць,
мама вуглі раздзьмухвае ў печы...
Хацелася ў хатцы сваёй памерці,
а наша хатка гарыць, як свечка.

Трэба дапіць цярпенне да донца,
па кроплі жыццё растраціць,
паляцелі жураўлікі, мае хлопцы,
беражы іх, Божая Маці...

Часам гукаю іх — марныя спробы,
паразбягаліся — хто куды...
Пахаваліся ў норкі, у свае хваробы...
Пайшлі з гарадской духаты...

Ад самоты збіраю душаў каралы,
слоўцы ў прысаку на той выспачцы
ад святой капліцы на Гаўі...
Спапялёныя мае Біскупцы.

Ева Лявонава

# «І МАЛЮСЯ, КАБ ВЫЯВІЎ БОГ СВАЮ МІЛАСЦЬ...»

## Паэма Томаса Стэрнза Эліята «Попельная серада»

У мінулым годзе споўнілася роўна паўвека, як пайшоў з жыцця вялікі англа-амерыканскі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1948) Томас Стэрнз Эліят (*Eliot*). Ён нарадзіўся 26 верасня 1888 г. у амерыканскім горадзе Сэнт-Луіс (штат Місуры) і быў апошнім, сёмым, дзіцем у сям'і буйнога бізнесмена. Маці мела літаратурныя здольнасці, спрабавала сябе ў паэзіі; дзяцей яна выхоўвала ў непарушнай веры ў Бога. Пасля заканчэння школы, з 1906 г., Томас Эліят вывучае філасофію і філалогію ў Гарвардскім універсітэце (дарэчы, ён закончыць яго ў адным годзе з будучым амерыканскім песняром Кастрычніцкай рэвалюцыі Джонам Рыдам — у 1910-м). Значная падзея адбылася ў жыцці Эліята ў 1911 г.: у час свайго першага наведвання Еўропы ён слухае ў Сарбоне лекцыі славутага французскага мысліцеля Анры Бергсона, чыя філасофская думка станецца адным з вызначальных фактараў сусветнага літаратурнага развіцця ў ХХ ст.

З навукай плануе звязаць сваю дзейнасць і Эліят: ён выкладае ў Гарвардзе філасофію, працуе над дысертацыяй і не перастае захапляцца Дантэ (гэтае захапленне Эліят пранясе праз усё жыццё і неаднойчы аддасць даніну пашаны паэту ў сваіх творах), паэзіяй французскіх «выклятых» — Жуля Лафорга, Поля Верлена, Арцюра Рэмбо. І ўсё часцей наведваюць яго сумненні ў правільнасці абранага шляху, усё больш часу займае ўласная творчасць. Да прыняцця канчатковага рашэння цалкам прысвяціць сябе літаратуры падштурхнула сустрэча з англа-амерыканскім паэтам, крытыкам, тэарэтыкам Эзрам Паўндам, якая адбылася ў 1914 г.: Паўнд, у чыім лёсе паўторыцца лёс самога Эліята, знаёміць яго з паэтамі-імжыстамі (Хільдай Дулітл, Джэймсам Джойсам, Рычардам Олдынгтанам і інш.), спрыяе публікацыі яго твораў на старонках шматлікіх англамоўных выданняў, урэшце — аказвае вялікі ўплыў на яго як асобу і пісьменніка.

Томас Эліят назаўсёды пакідае ЗША і абірае краінай жыхарства Англію. (Дарэчы, у 1927 г. ён пераходзіць з пратэстанцтва ў каталіцызм, а прыкладна праз год прымае англійскае грамадзянства.)

Апынуўшыся ў Англіі, дзеля заробку непрацяглы час настаўнічае, пасля (у 1917–1925 гг.) працуе клеркам у адным з лонданскіх банкаў. На літаратуру застаецца няшмат часу (працу ў банку Томас Эліят сумяшчае з рэдактарскай і выдавецкай дзейнасцю), але тым не менш выходзяць усё новыя яго творы — эсэ, артыкулы, вершы, паэмы, драмы. Да найбольш значных твораў Эліята належаць праграмныя артыкулы і эсэ «Традыцыя і індывідуальны талент» (1919), «Метафізічныя паэты» (1921), «Прызначэнне крытыкі» (1923), «Каталіцызм і сусветны парадак» (1933), «Рэлігія і літаратура» (1933), «Сацыяльнае прызначэнне паэзіі» (1945), кнігі эсэ і артыкулаў «Свяшчэнны лес» (1920), «Прызначэнне паэзіі і прызначэнне крытыкі» (1933), «Пра паэзію і паэтаў» (1957), паэмы «Бясплодная зямля» (1922), «Парожнія людзі» (1925), «Попельная серада» (1930), драмы «Скала» (1934), «Забойства ў саборы» (1935; п'еса была напісана па замове архіепіскапа Кентэрберыйскага), «Уз'яднанне сям'і» (1939), «Вечарынка з кактэйлямі» (1950), «Канфідэнцыяльная асоба» (1954), «Заслужаны дзяржаўны дзеяч» (1958), паэтычныя кнігі «Стары Апосум. Практычнае кошказнаўства» (1939; Стары Апосум — мянушка Эліята, прыдуманая Паўндам. Паводле чатырнаццаці вершаў, што склалі гэтую кнігу, пастаўлены знакаміты мюзікл «Кошкі»), «Чатыры квартэты» (1943) і інш.

Памёр і пахаваны Эліят у 1965 г. у Лондане. Сваім жыццём і творчасцю ён паяднаў Новы Свет

---

**Ева Лявонава** — кандыдат філалагічных навук, прафесар кафедры замежнай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Крытык і навуковец. Працуе ў такіх галінах літаратуразнаўства, як германістыка, беларусістыка, кампаратывістыка, вывучае беларуска-замежныя літаратурна-культурныя сувязі. Апублікавала ў айчынным і замежным друку больш за 400 артыкулаў, навуковых і навукова-метадычных працаў, у тым ліку кнігі «Плыні і постаці: З гісторыі сусветнай літаратуры другой паловы XIX–XX стагоддзяў» (1998), «Беларуская літаратура ХХ ст. і еўрапейскі літаратурны вопыт» (2002), «Агульнае і адметнае: Творы беларускіх пісьменнікаў ХХ стагоддзя ў кантэксце сусветнай літаратуры» (2003), «Немецкая литература ХХ века: Германия. Австрия» (Москва: Флинта; Наука, 2010) і інш. Аўтар і сааўтар многіх вучэбных праграм, вучэбных дапаможнікаў і падручнікаў для выкладчыкаў-славеснікаў, студэнтаў і школьнікаў.



Томас Эліят за рабочым сталом.

са Старым, і гэтую акалічнасць пранікнёна-шчымліва ўвасобіў у вершы «Памяти Т. С. Элиота» Іосіф Бродскі:

Читающие в лицах, маги, где вы?
Сюда. И поддержите ореол:
две скорбные фигуры смотрят в пол.
Они поют. Как схожи их напевы!..
...Склоняя лица сонные свои,
Америка, где он родился, и —
и Англия, где умер он, унылы,
стоят по сторонам его могилы... (2, 36–37).

Галоўнае, што варта ўсведамляць у працэсе асэнсавання творчасці Томаса Эліята, — гэта яго ўвагу да літаратурнай традыцыі, якую паэт адмыслова спалучае з сучаснасцю, з найноўшым літаратурным эксперыментам і, нарэшце, з уласнай мастакоўскай індывідуальнасцю. Зразумела, творчасці папярэднікаў абавязаны многія аўтары, а ў шырокім сэнсе — усе. Ды і кожная эпоха ў адналькавай ступені бараніла і традыцыю, і наватарства. Аднак ніколі раней літаратурная спадчына не была гэткай актуальнай, як у XX стагоддзі, што сталася ў літаратуры адлюстраваннем грандыёзнага парадоксу: разбураючы мастацкія каноны, яно адчайна чаплялася за эстэтычныя набыткі папярэднікаў. Нават самыя радыкальныя рэфарматары літаратуры не стамляліся апеляваць да ўжо ўсталяванага, прапаноўвалі свае шляхі яго спасціжэння. Паказальна, што той жа Джэймс Джойс, чыё ўздзеянне на мастацтва слова мела характар выбуховы, адначасова паклаў пачатак літаратурнаму постмадэрнізму — з'яве, якая прынцыпова акумулявала ў сабе (заўважна трансфармаваўшы пры гэтым) усе магчымыя кірункі, жанры, стылі, класічныя сюжэты і вобразы. Невыпадкова прызнаны класік постмадэрнізму Хорхе Луіс Борхес сцвярджаў, што сваёй творчасцю ўсяго толькі раскрываў духоўна-эстэтычны патэнцыял запатрабаванай ім традыцыі; падобныя прызнанні і меркаванні, падмацаваныя мастацкай практыкай, можна лёгка знайсці ў прадстаўнікоў розных нацыянальных літаратур.

У кантэксце вышэйзгаданага намаганні Томаса Эліята сцвердзіць за традыцыяй прыярытэтнае месца ў сучаснай паэзіі наўрад ці пададуцца новымі. Тым не менш узаемаадносіны мастака з папярэднікамі насамрэч былі вельмі асаблівымі. Па сутнасці менавіта цікавасць да традыцыі, да мінуўшчыны была сапраўднай прычынай таго, што Эліят пакінуў радзіму (Сэнт-Луіс, дзе яго дзед святар заснаваў царкву) і абраў для сталага жыцця Еўропу: у Амерыцы гэтую цікавасць не было на чым угрунтаваць. У Еўропе ж Томас Эліят знайшоў «будаўнічы матэрыял» для сваёй эстэтыкі, які ён не толькі асэнсоўваў сузіральна-тэарэтычна, але і актыўна выкарыстоўваў ва ўласнай творчасці.

Шматлікія разважанні паэта пра ўзаемасувязі традыцыі і сучаснасці можна звесці да наступнай канцэптуальнай роўніцы: у папярэднікаў трэба знаходзіць тое, што валодае жыццядайнай сілай і можа стаць падмуркам для новых творчых здзяйсненняў. У артыкуле «Традыцыя і індывідуальны талент» Томас Эліят сцвярджае: паэт павінен усведамляць, што ёсць нешта нашмат важнейшае за яго ўласную свядомасць і ўяўленні, — гэта свядомасць агульначалавечая. У ёй, а не ў хуткаплыннай індывідуальнай свядомасці можа праявіць сябе натуральны працэс зменлівасці і развіцця, які нічога не адкідае і ў якім знаходзяць належнае месца і Гамер, і Шэкспір, і старажытныя наскальныя малюнкі. Пры гэтым, пераконвае Эліят, у святле новага мінулае высвечвае свае не заўважаныя раней якасці: *«...калі з'яўляецца новы твор мастацтва, ён уплывае адначасова на ўсе іншыя мастацкія творы, якія папярэднічалі яму. Існуючыя помнікі мастацтва ствараюць ідэальны парадак, узгадняюцца паміж сабой, але і гэты парадак непазбежна мяняецца са з'яўленнем сярод іх новага (сапраўды новага) мастацкага твора. І цяпер ужо, каб аднавіць дасканалую паслядоўнасць мастацкіх твораў, увесь папярэдні парадак абавязкова павінен змяніцца... Той, хто пагодзіцца з гэтай ідэяй парадку, ...не палічыць абсурдным тое, што мінулае павінна мяняцца пад уздзеяннем сучаснага, гэтаксама як і сучаснае кіруецца ў сваім развіцці мінулым»* (3, 63).

Насычанасць твораў Эліята арыентацыямі на папярэднікаў, алюзіямі і рэмінісцэнцыямі беспрэцэдэнтная; у гэтых адносінах ён можа быць па-

раўнаны хіба што з Джойсам і Борхесам. Здаецца, няма такой культурнай глебы, якая б не мясціла ў сабе прыкметы яго паэзіі, як няма культурнай крыніцы, якая б так ці інакш не наталяла яго інтэлектуальна-эстэтычную смагу. Паэзія Томаса Эліята — гэта культурная адысея, падарожжа па эпохах, творцах і творах; ці не ўсё самае значнае — ад старажытных міфаў да гучных авангардысцкіх эксперыментаў — аказалася тут працытаваным і перастворaным. Па сутнасці, мы маем справу з увасобленай мастацкімі сродкамі філасофіяй літаратурнай традыцыі, больш за тое — з яе геніяльнай апалогіяй. І адной з самых запатрабаваных крыніцаў натхнення — духоўна і эстэтычна — была для Эліята Біблія.

Наколькі гэта справядліва ў дачыненні да творчасці Томаса Эліята ў цэлым, настолькі ж і да амаль кожнага яго паасобнага твора, у прыватнасці — да паэмы «Попельная серада», у 1996 г. перакладзенай на беларускую мову Алесем Разанавым.

Перадаць змест гэтай паэтычнай «сюіты» (яна працягвае папярэднія паэмы «Бясплодная зямля» і «Парожнія людзі» і складае разам з імі своеасаблівую трылогію) і цяжка, і лёгка: перад намі плынь суб'ектыўнага, душэўна-духоўнага жыцця чалавека, апантанага прагай надзеі, веры і супакою. Лірычны герой шукае і знаходзіць іх у Богу. Дзве асноўныя канстанты вылучаюцца ў складанай ідэйна-філасофскай сістэме паэмы — сэнсастраты і сэнсапошук. На памежжы 1920–1930-х гг. яны, як ніколі, завалодалі думкамі Эліята, знайшоўшы глыбокае раскрыццё ў яго літаратурна-крытычных працах і мастацкіх творах. Узгадаем: менавіта ў другой палове 1920-х гг. Томас Эліят вырашыў для сябе найскладанейшую асабістую праблему пераходу ў каталіцызм. Аднак пытанне веры Эліятам-мастаком асэнсоўвалася і як усеагульнае. Зрабіўшы выснову, што вера можа даць чалавеку нашмат больш за розум у яго выратаванні ад ганебна-нізкіх памкненняў, Эліят з гэтымі ж крытэрыямі падыходзіць да жыцця і творчасці сваіх папярэднікаў. Ён лічыў, што нават вялікім паэтам не ўдаецца пазбегнуць пэўных спакусаў. На праблемах веры Эліят акцэнтуе ўвагу ў шматлікіх артыкулах, драмах і вершах.

Ідэяй пошуку духоўнага супакою прадыктавана і стварэнне «Попельнай серады». Усё ў ёй — ад сюжэта да яго мастацкага ўвасаблення — падпарадкавана гэтай ідэі, і ў першую чаргу — звароту да культурна-літаратурнай спадчыны. Ужо разам з назвай у паэтыку твора магутным сэнсанясучым струменем пачынаюць улівацца біблейскія і царкоўна-цырыманіяльныя матывы і вобразы. Паводле каталіцкага календара, Попельная серада — першы дзень Вялікага посту, у які вернікі з глыбокім жалем згадваюць саракадзённую Езусаву аскезу ў пустыні, дзе Ён зведаў спакусы д'ябла і знайшоў у сабе сілы іх адолець. Сведчанне аб духоўным процістаянні Хрыста і спакусніка ёсць у Евангеллях паводле Мацвея і паводле Лукі («Езус, поўны Духа Святога, вярнуўся ад Ярдана і паведзены быў Духам у пустыню; там сорак дзён Ён быў спакушаны д'яблам...»; 4, 1–2)[1]. Як вядома, у час Імшы ў гэты дзень святар пасыпае попелам галовы вернікаў, прамаўляючы пры гэтым: «Памятай, што ты — прах, і ў прах вернешся».

Менавіта біблейскія рэмінісцэнцыі складаюць сэнсавы падмурак «Попельнай серады», і яны ёсць у кожнай з шасці частак паэмы. Да прыкладу, у першай частцы згадваецца вобраз старога арла. Згодна з сярэднявечнымі паданнямі, арлу, нават старому і нядужаму, вяртаюць моц сонца і крынічная вада; апошняя дэталь вымагае асацыяцый з хрышчэннем Езуса ў рацэ Ярдан і з Ягоным праз гэта ўзвышэннем («І было ў тыя дні, прыйшоў Ісус з Назарэта Галілейскага і хрысціўся ў Яна ў Ярдане. І калі выходзіў з вады, убачыў адразу Ян, як адчыніліся нябёсы, і Духа, як голуба, Які сыходзіў на Яго. І голас быў з нябёсаў: «Ты Сын Мой Любасны, Якога Я ўпадабаў» (Мк 1, 9–11). У фінале першай часткі гучаць заключныя словы каталіцкай малітвы «Авэ, Марыя»: «Маліся за нас, грэшных...» («Маліся за нас, грэшных, цяпер і ў часіну нашае смерці; 4, 54). Такім чынам, асноўныя матывы першай часткі — пакаянне і адрачэнне ад зямных дабротаў.

Другая частка змяшчае ў сабе ў якасці лейтматыву біблейскі вобраз ядлаўцовага куста: «Спадарыня, тры белыя леапарды сядзяць пад кустом ядлаўцовым...» (4, 54). У Старым Запавеце (Трэцяя кніга царстваў, 19, 3–8) чытаем, як прарок Ілля, «каб выратаваць жыццё сваё», «адышоў у пустыню на дзень дарогі і, прыйшоўшы, сеў пад карчом ядлоўцу, і прасіў смерці сабе... І лёг і заснуў пад карчом ядлоўцу». Аднак, абуджаны анёлам, Ілля знайшоў каля сябе ежу і ваду; адпачыўшы і падмацаваўшыся, рушыў у доўгі шлях («ішоў сорак дзён і сорак начэй»). Так уваходзіць у паэму матыў чакання смерці, у якой лірычны герой Эліята спадзяецца знайсці збавенне ад зямных пакутаў і выратаванне душы.

Прысутнічаюць у другой частцы паэмы і біблейскія звяры (у Эліята — «тры леапарды») — увасабленне бязлітаснасці, з якой рэлігія патрабуе ад чалавека ўсяго яго існавання. Поруч з вобразам ядлаўцовага куста лейтматывам праходзіць і яшчэ адна старазапаветная рэмінісцэнцыя: «Была на мне рука Госпада, і Гасподзь вывеў мяне духам і паставіў мяне пасярод поля, і яно было поўнае касцей... І сказаў мне: сыне чалавечы! Ці ажывуць

косці гэтыя?..» (Кніга прарока Езэкііля 37, 1, 3). У Эліята:

...І сказаў Бог:

Ці будуць гэтыя косці жыць?

Ці будуць гэтыя косці жыць?.. (4, 54).

Выкарыстоўвае Эліят і яшчэ адзін матыў з Кнігі прарока Езэкііля: «...і пачалі збліжацца косці, костка з косткаю сваёю. І бачыў я, і вось, жылы былі на іх, і плоць нарасла, і скура пакрыла іх зверху, а духа не было ў іх. Тады сказаў Ён мне: вымаві прароцтва духу, вымаві прароцтва, сыне чалавечы, і скажы духу: так кажа Гасподзь Бог: ад чатырох вятроў прыйдзі, дух, і дыхні на гэтых забітых, і яны ажывуць» (37, 7–9). У Эліята:

...І Бог сказаў:

Ветру прароч аднаму толькі ветру,

бо толькі вецер

Цябе слухаць будзе... (4, 55).

Інтанацыі Томаса Эліята больш трагічныя за біблейскія: у яго сімволіка раз'яднаных, мёртвых касцей стварае своеасаблівае колца-абрамленне:

Мы рады, што мы раз'яднаны,

мала дабра мы адно аднаму рабілі... (4, 56).

Далей мы спаткаем у Эліята вобраз Ружы — прыпадабненне Маці Божай да ружы мае месца ў каталіцкай літаніі, аднак ружа сімвалізуе яшчэ і ўвогуле Царкву з яе надзвычай важнай функцыяй — заспакаення і аб'яднання народа праз падзел зямлі. У Эліята:

Спадарыня моўкнасцяў

У ціхмянасці і ў пакутах

На часткі растурзаная

І непарушная

Ружа памяці

І забыцця

Знядужаная і жыватворная

Заклапочаная і супакоеная

Ружа адзіная

Якая сталася Садам... (4, 55).

У эліятаўскай інтэрпрэтацыі біблейскага сюжэта аб'яднальная функцыя выглядае амаль нездзяйсняльнай: вельмі цяжка «падзяліць, каб аб'яднаць» спадчыну-пустыню, гэтаксама як цяжка спадзявацца на плён ад бясплённасці, на духоўнае ад бездухоўнасці:

...Вось вам зямля — вы яе

Падзяліце як жэрабя кажа.

Ды зрэшты дзялі не дзялі

Усё роўна. Гэта зямля. Гэта спадчына наша

(4, 56).

Сэнс асноўнай біблейскай рэмінісцэнцыі ў трэцяй частцы паэмы — немагчымасць выратавання праз індывідуальныя высілкі, усведамленне неабходнасці далучэння да Царквы, перадусім — праз прычасце. У фінале трэцяй часткі гучаць словы, што прамаўляюцца святаром і вернікам перад прычасцем:

Госпадзе, я не варты,

Госпадзе, я не варты

Але скажы толькі слова (4, 57).

Яны паходзяць з Евангелля ад Мацвея: Езус, які толькі што цудадзейным чынам ацаліў пракажонага, уваходзіць у Капернаўм, і да Яго з просьбай пазбавіць ад пакутаў хворага слугу звяртаецца сотнік, які ўсведамляе сваю нязначнасць перад веліччу Хрыста: «Госпадзе! я не варты, каб Ты ўвайшоў пад мой дах; але скажы толькі слова, і выздаравее слуга мой» (8, 8).

У чацвёртай частцы, як і ў другой, праз біблейскія рэмінісцэнцыі зноў ставіцца праблема ўзаемаадносінаў Царквы з народам; словы Эліята: «Дай выкупленне часу і дай выкупленне сну // Аснову нявымаўленага і непачутага слова» (4, 58) — маюць сваім вытокам пасланні апостала Паўла да Эфэсянаў і Каласянаў, у якіх ён вучыць выкупляць грахі чыстымі думкамі і ўчынкамі, жыць у любові і веры, «на здзяйсненне паўнаты часу, каб нябеснае і зямное паяднаць у Хрысце» (1, 10). Заключны радок чацвёртай часткі ўзяты з каталіцкай малітвы «Сальвэ Рэгіна».

У пятай частцы ўвасоблена найважнейшая біблейская антытэза «святло — цемра»: Слова ёсць святло, зямное існаванне — цемра, і ідавочнае прызначэнне Слова — несці чалавеку ісціну: «На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Богам...У Ім было жыццё, і жыццё было святлом людзей. І святло ў цемры свеціць, і цемра не агарнула яго» (1 Ян 1, 4–5). У Эліята:

Ёсць усё роўна Слова без слова, Слова

У свеце і дзеля свету;

І святло свяцілася ў цемры, і свет,

Бунтуючы супраць Слова, усё адно круціўся

Вакол асяродку бязмоўнага Слова (4, 58).

Канец першай страфы ў Томаса Эліята таксама паходзіць з Евангелля паводле Яна («У свеце было, і свет праз Яго пачаў быць, і свет Яго не пазнаў; прыйшоў да сваіх, і свае Яго не прынялі»; 1, 10–11). Рэфрэнам гучаць у пятай частцы словы Бога «О мой народ» як заклік да пакорлівасці і міласэрнасці (Кніга прарока Міхея 6, 2–3: «Слухайце, горы, суд Гасподні, і вы, цвёрдыя асновы зямлі, бо ў Госпада – суд з народам Сваім... Народзе мой! што зрабіў Я табе і чым абцяжарваў цябе? адказвай мне»).

Цэлы шэраг біблейскіх вобразаў і калізій уведзены ў паэму не з самой Бібліі, а праз пасрэдніцтва «Боскай камедыі» Дантэ — твора, пра які Эліят пісаў: «Паэма стварае ў нас уражанне аднаго імгнення і ўражанне цэлага жыцця. Прыкладна тое ж мы адчуваем, калі вельмі любім чалавека... Паэма

Дантэ — адна з тых, да якіх спадзяешся дарасці толькі напрыканцы жыцця» (5, 271). Пра стыль аўтара «Боскай камедыі» Томас Эліят гаварыў як пра «асабліва светлы» (5, 262). У Дантэ, як пазней у Эліята, каханая асацыюецца з Маці Божай, выкарыстаныя вобразы біблейскіх алегарычных звяроў, у паэтызаванай форме падаюцца асобныя кананічныя тлумачэнні і інш. Надзвычай важную функцыю выконвае ў паэме Эліята знакамітая сімволіка Дантэ (асабліва сімволіка фантастычнага вандравання паэта ў замагільным свеце). Іншы прыклад: «Народ мой!» — гэта пачатковыя словы не толькі звароту Бога да свайго народа, але і ліста Дантэ, адрасаванага паэтам-выгнаннікам народу роднай Фларэнцыі, куды ён да канца сваіх дзён марыў, але так і не змог вярнуцца. У Дантэ кожная частка твора мае сваю колеравую палітру; вялікае значэнне сімволіка колеру набывае і ў Эліята. З Дантэ, прама ці ўскосна, звязаны і іншыя складнікі паэмы Эліята. Але не толькі з Дантэ. Да прыкладу, пачаткам першай і апошняй частак твора, яго абрамленнем, з'яўляецца абарваны радок «Балады, напісанай у выгнанні ў Саранцы» («не маю надзеі вярнуцца») італьянскага паэта Гвіда Кавальканці (каля 1260–1300), які быў шчыра адданы свайму сябру Дантэ; як і Дантэ, ён браў удзел у барацьбе «чорных» і «белых» у Фларэнцыі і, як Дантэ, зазнаў лёс выгнанніка. Праўда, Кавальканці быў амніставаны, але, цяжка хворы пасля ссылкі, памёр амаль адразу пасля вяртання на радзіму.

Варта згадаць яшчэ адну крыніцу, з якой Томас Эліят чэрпаў матывы для свайго твора, — гэта быў іспанскі містык Хуан дэ ла Крус (святы Ян ад Крыжа; 1542–1591) з яго медытацыямі «Узыходжанне на гару Кармэль». Жыццё дэ ла Круса складвалася настолькі драматычна, што само па сабе магло б стаць захапляльным сюжэтам. Пісаць ён пачаў у зняволенні. Падобна да іншых іспанскіх містыкаў, ён актыўна ўспрыняў ідэі неаплатанізму, акцэнтуючы тыя з іх, згодна з якімі яднанне з Богам магчыма праз бязмежна страснае, экстатычнае пачуццё. У кантэксце нашай размовы важна адзначыць, што іспанскі паэт адштурхоўваўся як ад свецкіх літаратурных крыніцаў (пастараляў, рамансэра і інш.), так і ад біблейскіх. Томас Эліят, ствараючы ў сваёй «сюіце» складаную сімволіку ўзыходжання па лесвіцы душэўна-духоўнага ўзвышэння, якраз і абапіраўся на паэтыку Хуана дэ ла Круса, у медытацыях якога паслядоўна адлюстраваны ступені спасціжэння чалавекам ісціны, ачышчэння яго волі безнадзейнасцю, роспаччу і самаадрачэннем, пакутлівага пераадолення шматлікіх спакусаў і, нарэшце, прасвятлення і здабыцця надзеі.

Відавочна, што ў паэме Эліята задзейнічаны самыя розныя крыніцы, але найперш яны пазначаныя судакрананнем з Бібліяй. Апроч названых, маюцца ў мастацкай сістэме Томаса Эліята і іншыя алюзіі і цытаты, у тым ліку з Шэкспіра. Сярод сінтэзаваных Эліятам матываў няма трывіяльных, да таго ж усе яны ўскладняюцца праз паэтыка-сэнсавае ўзаемапранікненне і прысутнасць у іх мастацкім суіснаванні новага творцы са сваім часам, героем, пакутамі і сумненнямі. Асацыятыўнасць, інтэграванасць у сусветны духоўны досвед, інтэлектуалізм, экспрэсіўнасць — найважнейшыя эстэтычныя якасці творчасці Томаса Эліята.

Было б памылкаю ўлічваць арыентаванасць Эліята толькі на аддаленых па часе папярэднікаў і не заўважаць пранікнення ў яго творы філасофска-эстэтычных пошукаў бліжэйшых па часе пісьменнікаў ці наогул сучаснікаў. Вядома, блізкасць мастака да іх не заўсёды можна патлумачыць іх непасрэднымі ўплывамі, але і сама па сабе агульная скіраванасць этыка-эстэтычных памкненняў розных аўтараў, з Эліятам уключна, не можа не быць цікаваю. Ды і на карысць уплываў ёсць нямала сведчанняў самога паэта — у мастацкай прасторы Эліята пакінулі заўважны след Бадлер, сімвалісты (асабліва старэйшай генерацыі) і сюррэалісты, паплечнікі па імажызму, Сяргей Эйзенштэйн з яго «кінадаследамі», Ігар Стравінскі і многія іншыя дзеячы літаратуры і культуры. З сімвалістаў Томасу Эліяту быў асабліва блізкі Жуль Лафорг (1860–1887), чыё жыццё ад самага пачатку з-за цяжкай спадчыннай хваробы сталася існаваннем «на краі», а творчасць — разбурэннем усялякай старой гармоніі (Лафорг адным з першых культывуе верлібр, яднае рознаякасныя стылёвыя тэндэнцыі — ад філасофскай глыбіні да фрывольнасці, расхіствае класічную прасодыю, пракладаючы шлях для наступнікаў-авангардыстаў). Менавіта Лафоргу Эліят, паводле яго прызнання, быў абавязаны разуменнем сваіх творчых патэнцый, магчымасцяў уласнай мовы. Уплыў Лафорга адбіўся ў першую чаргу на паэтыцы «Попельнай серады», як і ўплыў сюррэалізму з яго спалучэннем неспалучальнага, сумяшчэннем несумяшчальнага, дзякуючы чаму рассоўваецца і ўскладняецца семантычная прастора твора, нараджаюцца новыя сэнсы, адбываецца ці не галоўнае ў стасунках чытача з аўтарам-авангардыстам — непазбежны актыўны саўдзел першага ў творчым акце («...паветра // Што змялела і ўсохлася...»; «Вось жа так вернуцца да жыцця // І вантробы і жылы маіх вачэй і ўсе тыя часткі // Што для яды не прыдатны і чым леапарды пагрэбавалі»; 4, 54–55). Тут ёсць нешта адчувальна сугучнае не толькі з Бібліяй, але і з рызыкоўна адвольнымі «татальнымі» відзежамі знакамітага сюррэаліста Сальвадора Далі, у якога расцякаюцца прадметы і тулавы, у прадчуванні

нябачаных катаклізмаў вар'яцеюць час і прастора.

Творчасць Томаса Эліята пазначана, як мне падаецца, супадзеннем з Джэймсам Джойсам, што цалкам зразумела: уздзеяння Джойса, няхай ускоснага, не пазбеглі нават тыя пісьменнікі, чыя мастацкая манера зусім не падобная да джойсаўскай; «Уліс» Джойса цалкам змяніў уяўленні пра літаратуру, даў магчымасць, паводле Э. Хэмінгуэя, «вызваліцца ад абмежаванняў». Гэта асабліва датычыцца Т. Эліята; асобныя радкі з яго паэмы гучаць амаль ва ўнісон сентэнцыям герояў Дж. Джойса. Як і ў Джойса, у Эліята найважны складнік мастацкай структуры — міфалагічна-літаратурная традыцыя. Пералік судакрананняў можна доўжыць; па сутнасці, Эліят у паэзіі рабіў амаль тое ж, што Джойс — у прозе.

Непазбежнае пытанне, што ўзнікае, прынамсі ў літаратуразнаўцы, у працэсе асэнсавання паэзіі Эліята (як, зрэшты, і многіх іншых творцаў XX ст., у тым ліку беларускіх аўтараў): у якой меры яна — плён мастацтва і ў якой, так бы мовіць, майстэрства, строга абдуманага «будаўніцтва», празаічных адносінаў да паэтычнай справы; інакш кажучы, у якіх узаемадачыненнях тут знаходзяцца натхненне з прагматызмам? Важкая прысутнасць апошняга не выклікае сумнення, надта шмат Томас Эліят тэарэтызаваў з нагоды ўласных твораў, надта старанна інструктаваў чытача, практычна рэалізуючы вядомую гегелеўскую ідэю аб секулярызацыі мастацтва, страце ім містычна-таямнічага німба, надта раздражняла яго ў тых жа рамантыках іх канцэпцыя творчага працэсу як інтуітыўнага, ірацыянальна-звышпачуццёвага акту. Зноў і зноў Эліят настойваў на адмысловай ролі рацыянальнага пачатку, даводзячы, што добра пісаць — значыць зазіраць не толькі ў сэрца, але і ў мозг, і ў нервовую сістэму, і нават у страўнік.

Але, як бачым, усё ж і ў сэрца таксама. У «Попельнай серадзе», як і ў іншых паэмах Эліята, эмацыянальна-інтуітыўны пачатак надзвычай адчувальны; больш за тое, з першымі яе радкамі чытачом завалодвае эфект медытацыі. Што ў «Попельнай серадзе» зусім адсутнічае, дык гэта экзальтаванасць і прэтэнцыёзнасць. Пры ўсёй экспрэсіўнасці паэмы, пры ўсёй узрушанасці, душэўна-духоўнай напружанасці і ўсхваляванасці яе лірычны герой заўсёды выказвае свае эмоцыі стрымана і годна.

Глыбокае прачытанне «Попельнай серады» і ўвогуле твораў Эліята патрабуе максімальнай інтэлектуальнай дасведчанасці. Узнікае пытанне: ці ёсць сэнс звяртацца да паэзіі Томаса Эліята, калі адаптаваны аўтарам грандыёзны матэрыял яшчэ не спасцігнуты? Бясспрэчна, ёсць. Больш за тое, знаёмства з Эліятам і ў гэтым выпадку абяцае стаць падзеяй у духоўным жыцці чытача. Прычым не насуперак, а якраз дзякуючы адметнай эліятаўскай тэхніцы — дасканалай, вытанчанай, асацыятыўнай.

Паступова, хаця да крыўднага марудна, англаамерыканскі творца прыходзіць і да беларускага чытача. Апроч «Попельнай серады», на беларускую мову перакладзены яго паэма «Парожнія людзі» (В. Валынскім — «Пустыя людзі»), верш «Макавіці» з кнігі «Стары Апосум. Практычнае кошказнаўства» (Я. Семяжонам), артыкул «Традыцыя і індывідуальны талент» (В. Небышынцам), некаторыя іншыя творы. Артыкул пра Томаса Эліята змешчаны ў 18-томнай Беларускай Энцыклапедыі (аўтар — Г. Бутырчык). Часопіс «Крыніца» ў № 9 за 1996 г. надрукаваў не толькі таленавіты пераклад А. Разанава «Попельнай серады», але і прысвечаны Т. Эліяту грунтоўны артыкул Л. Дж. Сэлінгара ў перакладзе В. Небышынца (з яго ж падрадкоўнікамі разгорнутых фрагментаў са зборніка «Пруфрак і іншыя назіранні», паэмы «Бясплодная зямля» і іншых твораў), а таксама эсэ В. Акудовіча і мой артыкул. І. В. Шаблоўская прапанавала сціслы эстэтычны партрэт пісьменніка ў сваёй адрасаванай студэнтам «Гісторыі замежнай літаратуры XX стагоддзя (першая палова)» (Мінск, 1998). Паэзію, драматургію, крытычныя працы Томаса Эліята разглядала ў сваіх шматлікіх артыкулах маладая беларуская даследчыца І. Макарава (жыве і працуе ў Канадзе), якая ў 2003 г. абараніла дысертацыю па тэме «Алюзія ў творчасці Т. С. Эліята».

Будзем спадзявацца, што нас чакаюць новыя сустрэчы з «беларускім» Томасам Эліятам — вялікім паэтам, які падпарадкаваў свой талент высакароднасці, Богу і веры і лічыў, што дзейнасць пісьменніка — гэта «абавязак перад сваёй роднай мовай: абавязак, па-першае, яе захаваць, па-другое, удасканаліць і ўзбагаціць яе» (5, 186).

Літаратура:

1. Біблія: Кнігі Сьвятога Пісаньня Старога і Новага Запавету кананічныя ў беларускім перакладзе / Пер. В. Сёмухі. — Duncanville, USA: World Wide Printing, 2002. Далей Біблія цытуецца ў гэтым жа выданні.
2. Бродский И. Назидание: Стихи 1962—1989. — Минск: Эридан, 1991.
3. Эліот Т. С. Традыцыя і індывідуальны талент / Пер. В. Небышынца // Крыніца. 1996. № 9 (24).
4. Эліот Т. С. Попельная серада / Пер. А. Разанава // Крыніца. 1996. № 9 (24).
5. Элиот Т. С. Назначение поэзии: Статьи о литературе / Пер. с англ. — Киев: AirLand; Москва: ЗАО «Совершенство», 1997.

Андрэй Шпунт

# КСЁНДЗ СТАНІСЛАЎ БАНІФАЦЫЙ ЮНДЗІЛ SP

*«Засушыў я на паперы // Краскі, сьвежыя калісьці»*, — прыгадваюцца радкі вялікага паэта, калі ўяўляеш «блёклыя, высахшыя ліcткі» гербарыяў і кніг кс. Юндзіла. «Краскамі, сьвежымі калісьці», быў батанічны сад, створаны руплівай працай ксяндза ў Вільні. Сёння сад толькі ва ўяўленні… Спадзяемся, што, ствараючы своеасаблівы «гербарый» на старонках «Нашай веры» з імёнаў выдатных суайчыннікаў, мы будзем адраджаць хаця б у памяці і ўяўленні квітнеючы сад слаўных імёнаў, «думак шчырых і чуцьця» дзеячаў гісторыі нашай Бацькаўшчыны…

У бурлівай драме жыцця Рэчы Паспалітай другой паловы XVIII ст. мала заставалася месцаў, дзе панаваў бы супакой і парадак, калі нават касцёлы станавіліся арэнамі соймікавых баталій. Хіба што гэтым супакоем і парадкам дыхала са старонак кнігі кс. Станіслава Юндзіла «Апісанне раслінаў у правінцыі ВКЛ…» (Вільня, 1791), створанай паводле сістэмы Карла Лінэя. Праз некаторы час у Вільні паўстаў, заснаваны кс. Юндзілам, батанічны сад, дзе ўжо не толькі «з правінцыі ВКЛ», але з усяго свету радавалі вока 7 000 гатункаў раслінаў. Гэты «храм Флоры» не парушыла нават вайна 1812 года...

Як проста, здавалася, ступіўшы за агароджу Віленскага батанічнага саду і ўдыхнуць яго водар. Але гісторыя не шкадуе нікога і нічога. Замест саду, увайшоўшы ў інтэрнэт, я ўбачыў нейкія тэнісныя корты і адміністрацыйны будынак са сцягам Еўразвязу. На жаль, пасля паўстання 1830–1831 гг. Віленскі ўніверсітэт, з якога выйшла шмат змагароў, зачынілі. Батанічны сад перайшоў да медыка-хірургічнай акадэміі, але ў 1841 г. зачынілі і яе. Расліны перадаваліся ў іншыя навучальныя ўстановы, распрадаваліся, а на месцы саду пабудавалі летнюю рэзідэнцыю генерал-губернатара. У 1871 г., калі гэту тэрыторыю ўзяў у арэнду купец Ісак Шуман, ад саду засталіся адны ўспаміны ды цяністыя алеі дрэваў, якія калісьці трымалі дбайныя рукі кс. Юндзіла. Сёння няма і іх…

Вось такое атрымалася невясёлае падарожжа ў Вільню. Батанічнага саду няма, і памяць пра яго стваральніка засталася на тым баку мяжы, што для нашых рэалій не столькі дзіўна, колькі крыўдна. Дык пакладзем жа і мы свой «вянок» на магілу нашага суайчынніка, які належаў да старажытнага буйнога і разгалінаванага беларускага роду Юндзілаў з гербам «Лебедзь».

З бакавой збяднелай галіны гэтага славутага роду паходзіў Бэнэдыкт Дунін-Юндзіл, у якога ад шлюбу з Розай з Даўгялаў 6 траўня 1761 г. у фальварку Ясянцы каля Ліды нарадзіўся сын Станіслаў.

Прага да навукі і ведаў у спалучэнні з выдатнымі здольнасцямі была нязначнаю без сродкаў, сувязяў і пратэкцыі. Толькі ў 13 гадоў Станіслаў сеў за парту ў піярскай школе — гэта быў пачатак, як пісаў ён ва ўспамінах, «важнейшай і вызначальнай эпохі жыцця». Так ён пачаў падрыхтоўку да ўступлення ў ордэн.

Неабходна сціслa распавесці пра піяраў, якія, па-першае, як і езуіты, шмат зрабілі для пашырэння асветы ў нашай Бацькаўшчыне, а па-другое, гэты невялікі экскурс у гісторыю ордэну дапаможа ўбачыць постаць нашага героя больш усебакова. Афіцыйная назва *Ordo Clericorum Regularium Pauperum Matris Dei Scholarum Piarum* (SchP, SP) — Ордэн Рэгулярных Клерыкаў убогіх Маці Божай набожных школ. Ён быў заснаваны ў 1617 г. іспанскім святаром Юзафам (Хасэ) Каласанцам і зацверджаны ў 1621 г. брэвэ «*In supremo apostolatus*» св. Айца Грыгорыя XV. Дэвіз ордэну «*Ad maius pietatis incrementum*» («Для большага павелічэння пабожнасці»). У агульных рысах духоўнасць піяраў была звязана з педагагічна-выхаваўчай дзейнасцю, супрацьстаяннем свецкім уплывам, культам святых (асабліва св. Францішка і св. Тэрэзы ад Езуса), практыкай асаблівай малітвы, аскезай, прагненнем святасці і нясеннем дапамогі іншым; марыйны характар пабожнасці выяўляецца ў разуменні ордэну як справы Марыі (Яе імя — у назве ордэну, а манаграма — у гербе), практыцы штодзённай ружанцовай малітвы, а таксама Каронкі Дванаццаці Зорак (малітвы, складзенай Юзафам Каласанцам). Сутнасць педагогікі піяраў увасобленая ў іх дэвізах: «Набажнасць і навука», «Евангелізаваць праз адукацыю». Піяры ўводзілі новыя перадавыя метады навучання і выхавання, новыя прадметы (напрыклад, лацінскую граматыку на нацыянальных мовах, матэматыку). Выхаванцамі піярскіх школаў былі між іншымі Пій IX, Франсіска Гоя, Антоніа Гаўдзі.

Піяры існавалі ў жорсткай канкурэнтнай барацьбе з езуітамі, для якіх справы выхавання і навучання былі толькі часткай грандыёзнай працы *Ad majorem Dei Gloriam*. Менавіта каб пазбавіцца манаполіі

---

**Андрэй ШПУНТ** — гісторык, архівіст. Нарадзіўся ў 1969 годзе. Скончыў БДУ (1997). У 1989—1994 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі (аддзел старажытнабеларускага мастацтва). У 1996—1998 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (генеалагічныя даследаванні), у 1998—2000 гг. — вядучы спецыяліст Дзяржкамархіва (геральдыка і генеалогія), аўтар зацверджаных праектаў гербаў Маладзечна, Заслаўя, Крупак, Акцябрскага (Рудабелка), Белаазёрска, Івянца. Аўтар шэрагу навуковых і папулярных публікацый.



Герб «Лебедзь».



Кс. Станіслаў Баніфацый Юндзіл
(партрэт А. Аляшчынскага, 1850 г.)



Герб ордэну піяраў.

езуітаў у справе адукацыі, кароль і вялікі князь Уладзіслаў IV Ваза ў 1641 г. папрасіў Каласанцу прысладзь братоў у Рэч Паспалітую, дзе яны разгарнулі актыўную працу. Літоўская правінцыя ордэну была створана ў 1736 г., але яшчэ раней, пры падтрымцы магнатаў і шляхты, кляштары і рэзідэнцыі піяраў з'явіліся ў Шчучыне, Воранаве, Геранёнах, а потым у Зэльве, Лужках, Расіенах, Віцебску, Дуброўне, Полацку, дзе хутка ўтвараліся і калегіўмы. Пасля часовага скасавання ў 1773 г. Таварыства Езуса і стварэння Адукацыйнай камісіі піяры адыгралі вялікую ролю ў рэфармаванні сістэмы асветы краіны — яны падрыхтавалі мноства праектаў рэформаў, пісалі падручнікі і праводзілі свае навуковыя даследаванні.

Падчас другога году навіцыяту, які Станіслаў Юндзіл адбываў спачатку ў Шчучыне, а потым у Любяшове (Палессе), у выніку «нервовай ліхаманкі», ледзьве не каштаваўшай яму жыцця, ксёндз атрымаў чорную катаракту (amaurosis) правага вока. Зрок захаваўся на левым воку, але яно ўвесь час пакутавала ад слёз і гною — наступстваў воспы, перанесенай у дзяцінстве.

6 жніўня 1779 г. Станіслаў Юндзіл даў манаскія абяцанні ў ордэне піяраў, атрымаўшы імя Баніфацыя ад св. Станіслава, а ў 1784 г. прыняў святарскае пасвячэнне.

Працаваў настаўнікам у Расіенах, Шчучыне і Вільні. Выкладаў логіку, метафізіку, фізіку, прыродазнаўства і батаніку. Самастойна вывучаў і слухаў лекцыі па філасофіі, тэалогіі, фізіцы, хіміі, заалогіі і батаніцы. У навучальных мэтах у Шчучыне заснаваў невялікі батанічны сад — хутчэй за ўсё, першы ў ВКЛ. Пачаў збіранне гербарыя. Зацікавіўся энтамалогіяй. Акрамя ўсіх абавязкаў, працаваў гувернерам у сям'і ўладальнікаў Шчучына Сцыпіа дэль Кампа (манаграма якіх аздабляе гарадскі герб), пасябраваў з галавою дома, падстоліем літоўскім, і ў яго ўладаннях разбіў парк.

У сваіх навуковых інтарэсах кс. Юндзіл усё болей схіляўся да прыродазнаўчых навук, асабліва да батанікі, пад уплывам выдатнага французскага прыродазнаўцы, хірурга-анатома Жана Эмануэля Жылібэра, які, працуючы з 1775 г. у ВКЛ, залажыў у Гародні Каралеўскі батанічны сад (у 1778 г. — 1500 гатункаў экзатычных раслінаў) і арганізаваў медыцынскую акадэмію, а ў Вільні стварыў медыцынскі факультэт у Галоўнай школе ВКЛ, узначаліў кафедру прыродазнаўства і батанікі і залажыў батанічны сад.

Кс. Юндзіл стаў прадаўжальнікам справы Жылібэра, які пакінуў нашай Бацькаўшчыне сваю шматтомную працу «Флора Літвы». Батаніка і энтамалогія сталі асабліва ўлюбёнымі навукамі кс. Юндзіла. Гэта былі не проста навукі аб раслінах ці насякомых — гэта былі сведчанні бязмежнай любові і велічы Пана Бога, даўшага нам магчымасць атрымліваць асалоду ад прыгажосці, разнастайнасці і шматквеցця яго стварэнняў.

У 1790 г. кс. Юндзіл з вялікім поспехам пачаў выкладаць прыродазнаўчыя навукі ў віленскай піярскай школе. Асаблівай папулярнасцю карысталіся яго лекцыі па батаніцы, якія наведвалі і студэнты Галоўнай школы ВКЛ.

Папаўняючы калекцыю птушак і насякомых, «у вольныя ад школьных заняткаў кс. Юндзіл збіраў усялякія краёвыя расліны, сістэматызаваў іх ці тлумачыў вопісы Жылібэра і іншых батанікаў менавіта тых гатункаў, якіх не меў пад рукою». Кс. Марцін Пачобут-Адляніцкі, рэктар Галоўнай школы ВКЛ, праглядаючы «Флору Літвы» Жылібэра і бачачы ў ёй незразумелыя апісанні без указанняў на лекавыя ўласцівасці раслінаў, адрэагаваў непрыхільнай рэзкасцю: «Чаму ж нас той запрошаны чужаземец навучыў?». І вось у 1791 годзе ў Вільні свет убачыла «Апісанне раслін у правінцыі ВКЛ…». Трэба аддаць належнае сціпласці кс. Юндзіла. «Апісанне раслін…» было зроблена паводле сістэмы Карла Лінэя, прозвішча якога на вокладцы значылася вялікімі літарамі. І хаця кніга абапіралася пераважна на працы Жылібэра і кс. Крыштафа Клюка (у ВКЛ гаварылі, што «не можа той быць добрым гаспадаром, хто кніг Клюка не мае»), яна не давала поўнай карціны літоўскай флоры, але стала першай працай, якая залажыла асновы айчыннай наменклатуры батанікі і аказала вялікі ўплыў на развіццё даследаванняў у гэтай галіне.




Жан Эмануэль Жылібэр.

Кс. Юндзіл стаў першым літоўскім піярам, узнагароджаным Станіславам Аўгустам, аматарам і апекуном навук і мастацтваў, залатым медалём «*Merentibus*» («Заслужаным»).

Працуючы над «Апісаннем раслін…», кс. Юндзіл падчас вакацыяў наведаў салёныя крыніцы ў Біршτанах і Стаклішках, а наступнай зімой зноў прыехаў у Стаклішкі, праводзячы даследаванні і ставячы вопыты, мэтай якіх было выявіць найбольш эфектыўны спосаб здабычы солі. Вынікам з'явілася яго наступная праца — «Пра салёныя крыніцы і стаклішскую соль» (Вільня, 1792) і другі медаль «*Merentibus*».

Хто як не кс. Юндзіл павінен быў узначаліць вось ужо пяць гадоў вакантную кафедру прыродазнаўства і батанікі Галоўнай школы ВКЛ? Але кіраўніцтва палічыла інакш. Пра гэта стала вядома ў Адукацыйнай камісіі ў Варшаве, але ведалі там і пра яго працы, таму 16 траўня 1792 г. ён быў прызначаны віцэ-прафесарам на кафедру і накіраваны за мяжу ў мэтах дасканалення ў прыродазнаўстве. Адбылося гэта падчас урачыстасцяў з нагоды Канстытуцыі 3 траўня і, відаць, не без уплыву літоўскіх паслоў на Сойм.

З 1792 да 1797 г. кс. Юндзіл праехаў праз Аўстрыю, Чэхію, Венгрыю, Германію. Дасканаліўся ў мінералогіі, батаніцы, хіміі, знаёміўся з мінералагічнымі зборамі, публічнымі і прыватнымі, наведваў батанічныя сады, руднікі, металургічныя заводы, завязваў шматлікія знаёмствы з еўрапейскімі вучонымі і прамыслоўцамі. Сярод гэтых захапляючых заняткаў да яго дайшла вестка аб кампаніі 1792 г. і другім падзеле Рэчы Паспалітай. Невыпадкова, і пад уплывам сябра кс. Гуга Калантая, на пачатку 1794 г., калі ён прыехаў у Вену, цікаўнасць да металургіі дапоўнілася вывучэннем людвісарства і асабліва тэхналогіі больш эфектыўнай адліўкі гарматаў (некалькі ствалоў разам), але выбух паўстання Касцюшкі не даў часу для практычнага ажыццяўлення. Жадаючы, наколькі магчыма, спрычыніцца да выратавання Айчыны, кс. Юндзіл даслаў у ахвяру адзін са сваіх залатых медалёў «*Merentibus*».


OPISANIE ROSLIN
W PROWINCYI W.X.L.
NATURALNIE ROSNĄCYCH
WEDŁUG UKŁADU
LINNEUSZA,
PRZEZ
X. B. S. JUNDZIŁŁA S.P.
w WILNIE 1791.
W Drukarni J. K. y Rzeplitey
u XX. PIAROW.

Вокладка кнігі кс. Станіслава Баніфацыя Юндзіла «*Opisanie roslin w prowincyi W.X.L.*»

У сакавіку 1794 г. ён на кароткі тэрмін з'явіўся ў Варшаве з-за адсутнасці сродкаў. Цікава, што ў тых умовах Адукацыйная камісія знайшла сродкі, і ў Венгрыі кс. Юндзіл працягнуў знаёмства з горна-металургічнымі прадпрыемствамі і руднікамі. Асабліва плённым стаў яго побыт у Вене. Вывучаў анатомію звяроў, фізіялогію, паталогію, тэрапію, фармацэўтыку, працягваў дасканаліцца ў хіміі, заалогіі і любімай батаніцы. Акрамя гэтага, пакінуў па сабе памяць, стаўшы заснавальнікам батанічна-лекарскага аптэкарскага саду пры Ветэрынарнай школе, знаёмства з арганізацыяй якой планаваў выкарыстаць для стварэння падобнай школы ў Вільні. Восенню 1797 г. вярнуўся ў Вільню.

Вынікам замежных даследаванняў сталі фундаментальныя працы «Аб здабыванні руды ў розных краінах і яе гадавой эксплуатацыі» (Вільня, 1798), за якую кс. Юндзіл атрымаў ступень доктара філасофіі, і «Прыкладная батаніка…» (Вільня, 1799).

У хуткім часе кс. Юндзіл стаў доктарам тэалогіі (1800), касцёльным цэнзарам рэлігійных кніг і, нарэшце, у 1802 г., прафесарам кафедры прыродазнаўства і батанікі. Мог стаць у адным шэрагу з прафесурай Галоўнай віленскай школы (з 1796 г.), сярод якой былі людзі выдатныя і ...не вельмі. Сам, пры ўсёй сваёй любові да прыродазнаўчых навук, не быў ні арыгінальны, ні самастойны, але ўсё гэта не мела асаблівага значэння з таго моманту, калі ў 1799 г. кс. Юндзіл стаў кіраўніком і заснавальнікам Віленскага батанічнага саду.

Пачаткі Віленскага батанічнага саду звязаны з імём Жылібэра, які сярод свентаянскіх муроў на невялікім пляцыку разбіў сад, названы жыхарамі простым словам — «батаніка». Пераемнік Жылібера Ежы Форстэр пачаў клапатаць аб перанясенні «батанікі» ў больш адпаведнае месца, і ў 1787 г. для саду быў выдзелены пляц на Саракішках, недалёка ад вусця ракі Віленкі і Віліі, але з-за розных складанасцяў закладаць сад выпала толькі ў 1799 г. кс. Юндзілу.

У папярэднія гады спробы закладання батанічнага саду перапляліся са шматлікімі памылкамі. Гэта была, як пісаў кс. Юндзіл, вялікая і цяжкая праца, якая патрабавала ведаў і запалу.

Не будзем стамляць чытача

пералікам адміністрацыйна-гаспадарчых мерапрыемстваў новага кіраўніка батанічнага саду, лепш назавём сухія лічбы, якія бываюць красамоўней за ўсялякія словы. Напярэдадні кіраўніцтва кс. Юндзіла тое, што павінна было стаць сапраўдным батанічным садам, складалася з 492-х гатункаў раслінаў. З каталогаў і адпаведных справаздачаў бачым наступнае: 1802 г. — 1049 гатункаў (паводле ўспамінаў кс. Юндзіла — 1072); 1804 г. — 1605 (у кс. Юндзіла — 1526); 1807 г. — 1950 (1958); 1808 г. — 2080; 1809 г. — 2400; 1810 — 2872; 1811 г. — 3410, 1812 г. — 4366. У сваёй справаздачы кс. Юндзіл аддае належнае «непрыяцелю», які шанаваў «той прысвечаны Флоры храм». Сапраўды, Вялікая Армія, ваяры якой (пераважна саюзнікі) «вызначыліся» рабункамі і іншымі злачынствамі, увайшла ў сталіцу без адзінага стрэлу і толькі крыху закранула стварэнне кс. Юндзіла — частка саду пацярпела ад абозавага быдла. У 1824 г., калі кс. Юндзіл быў звольнены, колькасць раслінаў саду дасягнула максімальнай лічбы — 7000! Збор папаўняўся экзэмплярамі з усіх куткоў свету. Кс. Юндзіл падкрэсліваў, што ўсе гатункі цікавыя і сярод іх няма выпадковых. Ён адзначаў найбольш каштоўныя, боскай прыгажосці якіх адпавядалі лацінскія назвы, — *Lobelia fulgens, Metrosideros Lophantha, Strelitzia reginae, Azalea pontica, Vanilla aromatica, Cyperus papyrus, Phormium tenax* і г.д.

У 1803 г. Галоўная віленская школа зноў стала ўніверсітэтам. У сувязі з гэтым пашыралася сфера прыродазнаўчых навук, а значыць прыбавілася працы і кс. Юндзілу, якому Рада ўніверсітэта даручыла зрабіць ацэнку падручнікаў па батаніцы і заалогіі, але ён зрабіў значна больш, і ў выніку свет убачылі багата ілюстраваныя «Пачаткі батанікі» (Ч. 1. 1804. Ч. 2. 1805, Варшава; 2-е выд. Вільня, 1818; 3-е выд. Вільня, 1829) і «Сціслая заалогія» (Ч. 1 — 4. Вільня, 1807). Усе ведаюць са школьнай парты, што дапаможнікі часта адбіваюць усялякую ахвоту да вучобы. Дапаможнікі кс. Юндзіла былі настолькі добра напісаныя, з такой любоўю, што імі зачытваліся не толькі тыя, каму яны былі прызначаныя, але ўся Літва. Як пісаў польскі даследчык Людвіг Яноўскі, кніжкі кс. Юндзіла не толькі выхоўвалі, больш за тое, мелі культурны ўплыў. Гэты ўплыў дасягнуў Варшавы і Санкт-Пецярбурга.

Дапаможнікі былі пачаткам вялікай працы, якую кс. Юндзіл праводзіў не толькі як арганізатар асветы ў Літве, але і ў Расеі ў рэчышчы рэформаў адукацыі 1808—1821 гг. У 1806 г. Аляксандр I у прызнанне заслугаў вялікага працаўніка ўзнагародзіў яго дыяментавым персценем.

Акрамя працы па стварэнні батанічнага саду, кс. Юндзіл адначасова ўпарадкоўваў збор кабінета прыродазнаўства, які складаўся са спадчыны Жылібэра, з былых прыватных збораў і ахвяраванняў такіх дабрадзеяў, як інфлянцкі канонік кс. Ян Віхерт, гетман вялікі літоўскі, князь Міхал Агінскі, падстолі каронны, граф Міхал Валіцкі (наш зямляк з Меншчыны).

У першыя гады XIX ст. кс. Юндзіл прадпрымаў шматлікія і разнастайныя навуковыя экспедыцыі па Літве і Жмудзі. У ваколіцах Нясвіжа, Міра, Ляхавічаў і іншых месцах ён вывучаў паклады торфу, у Біржах і Кейданах шукаў соль, у Вішневе ў графа Храптовіча аглядаў вялікую печ для выплаўкі жалезнай руды, змагаўся з саранчой і прачытаў на гэтую тэму даследаванне на адным з пасяджэнняў Галоўнай віленскай школы.

Сярод вучняў кс. Юндзіла былі таленавітыя навукоўцы, у тым ліку наш выдатны Ігнат Дамейка.

Як папулярызатар навукі ў Літве кс. Юндзіл у 1805 г. стаў адным з заснавальнікаў і рэдактарам «*Tygodnika Wilenskiego*», на старонках якога змяшчаў шматлікія артыкулы з галіны батанікі, мінералогіі, заалогіі, геалогіі, ветэрынарыі, садаводства, хатняй гаспадаркі і г.д.

Кс. Юндзіл быў членам шматлікіх айчынных і замежных навуковых таварыстваў, але за рэгаліямі як бачнымі адзнакамі заслугаў не гнаўся і, акрамя медалёў ад Станіслава Аўгуста і персценя ад Аляксандра I, іншых не меў, а калі ў сакавіку 1820 г. мітрапаліт Богуш-Сестранцэвіч прыслаў яму медны крыж на стужцы ордэна св. Станіслава, якім расейскімі ўладамі ўзнагароджвалася святарства ў памяць вайны 1812 г., адмовіўся ад яго. Як пісаў адзін з прадстаўнікоў прафесуры Віленскага ўніверсітэта Юзаф Франк, далёкі ад сімпатый да нашага героя: «Лічыўся ён добрым патрыётам, паколькі не пераносіў расейцаў». «Шчыры літвін, ажно да мозга касцей», — дадаваў рэктар Ян Снядэцкі.



Медаль «*Merentibus*».

Захоплены навуковымі заняткамі, кс. Юндзіл разглядаў касцёльныя пасады і бенефіцыі толькі з пазіцыі іх неабходнасці, што не знайшло падтрымкі Віленскага біскупа Яна Непамуцэна Касакоўскага, які на адпаведнае хадайніцтва кс. Юндзіла адказаў, што кожны няхай знаходзіць сваю ўзнагароду там, дзе працуе, а касцёльныя бенефіцыі існуюць для самых заслужаных у дыяцэзіі святароў. Адмову атрымаў і ад Жмудскага біскупа Юзафа Гедройца. Найбольш працаглы час (1802–1812) кс. Юндзіл быў толькі быстрыцкім, а потым мерацкім плябанам, ад чаго ўрэшце адмовіўся з-за адміністрацыйна-гаспадарчых цяжкасцяў.

Як пісаў Адам Кіркор, кс. Юндзілу неаднаразова рабіліся выдатныя прапановы ў касцёльнай іерархіі, але ён не прыняў ніводнай. Адмовіўся нават ад пасады віленскага катэдральнага каноніка, «каб меў больш часу для працы», — дадае Юльян Барташэвіч.

Кс. Юндзіл крытычна ставіўся да езуітаў, дастаткова прыгадаць яго рэакцыю на амаль удалую спробу генерала Габрыеля Грубэра вярнуць пад кантроль ордэну Віленскі ўніверсітэт. <...>

У часы БССР з яе ілжывай тэндэнцыйнай гістарыяграфіяй

кс. Юндзіл апынуўся зручнай постаццю для таго, каб вырваныя з кантэксту словы ці ўчынкі давалі дзяржаўным атэістам зручныя для іх «факты», і таму ў кнізе «Из истории свободомыслия и атеизма в Белоруссии» (Мн., 1978) імя кс. Юндзіла названае ў сувязі з «крытыкай рэлігіі і царквы ў XVIII ст.». Агідна.

Прывядзём урывак з успамінаў біскупа Адама Станіслава Красінскага (Кракаў, 1900) з яго характарыстыкай гэтага «крытыка рэлігіі і царквы»: «Бываў у яго часта, бо дзядэк быў мне рады і гаворваў, што, хто старога наведвае, той яму міласціну робіць. Біскуп Клангевіч высока яго паважаў і часта запрашаў на абеды <…>. На тых абедах і я часта бываў, і неаднойчы здаралася, што біскуп зацытуе якісьці верш з Віргілія, а Юндзіл яго закончыць. Летам звычайна Юндзіл выходзіў на пару гадзін са сваім пляменнікам у батанічны сад. Туды прыходзіў рэдактар «Кур'ера Літоўскага» Антоні Марціноўскі, і я ад іх размовы атрымліваў немалую карысць, як ад добрай лекцыі. Юндзіл, дарэчы, меў такую свежую памяць і так у яго галаве ўсё было сістэмна ўкладзена, нібыта ў выдатна напісанай кнізе.

<…> Калі дзень смерці наблізіўся, запыталі яго, ці не жадаў бы святара, каб прыняць св. Сакрамэнты. «А ці ж годны я, — адказаў, — каб Пан Бог да мяне прыходзіў?». <…>. І сапраўды апрануўся, і пайшоў з праваднікам да свентаянскага касцёла, і прыняў св. Сакрамэнты. На яго пахаванні ў бэрнардынскім касцёле казаў прамову, якая падчас майго выгнання загінула…».

25 верасня 1824 г. кс. Юндзіл быў звольнены як заслужаны прафесар з прызначэннем свецкай пенсіі, паколькі, як пісаў Адам Кіркор у «Карцінках літоўскіх…» (Познань, 1874), ісхадайнічаў у Св. Айца вызваленне ад святарскіх абавязкаў. Адыход рыхтаваў рупліва і грунтоўна. Уся яго спадчына — батанічны сад, катэдра і г.д. — апынулася ў надзейных руках яго выхаванца і вучня, далёкага сваяка, прафесара Юзафа Юндзіла. Больш за тое, у піраў ён прызначыў фундацыю ў 15 000 рублёў срэбрам для ўсіх, хто насіў прозвішча Юндзіл, што ў далейшым значна ўзмацніла віленскую інтэлігенцыю.

Як і раней, кс. Юндзіл цікавіўся разнастайнымі навуковымі пытаннямі, падарожнічаў па Еўропе з навуковымі мэтамі і для папраўкі здароўя, займаўся крытыкай і публіцыстыкай. Працаваў, наколькі дазваляў зрок, які паступова страчваў, як і здароўе. Урэшце ён цалкам аслеп, хаця яшчэ ў 1846 годзе друкаваўся ў «Віленскім кур'еры».

15 красавіка 1847 г. кс. Юндзіл памёр. Уся Вільня суправаджала труну з яго целам на Бэрнардынскія могілкі. Сёння яго імя носіць вуліца ў Вільні і прыгожы гатунак ружы — *Rosa jundzilli Bess*.

…Спадчына кс. Юндзіла напоўненая не толькі дрэвамі батанічнага саду. Каля 1800 г. ён педантычна пачаў рабіць свае запісы накшталт дзённіка ці ўспамінаў, што ахоплівалі 1781–1832 гады. З гэтага матэрыялу, па словах Людвіка Яноўскага «першараднай важнасці», можна даведацца пра піярскія школы, навучанне аўтара, яго прафесарскую працу, адносіны з калегамі, гісторыю Віленскага батанічнага саду, пра шматлікіх сучаснікаў, а таксама шмат цікавага пра Вільню, Край і Віленскі ўніверсітэт, яго прафесуру. Запісы абапіраюцца на нечуваную памяць аўтара, а таксама на цікавыя крыніцы — лісты, акты, часопісы і г.д. Рукапісы складаюцца з дзвюх асобных частак. Першая — асабістыя ўспаміны аўтара і справы, што датычылі Віленскага ўніверсітэта. Другая, фрагментарная, ахоплівае вышэйзгаданы час пад загалоўкам «Збор адрывачных вестак аб асобах і навучальных установах Віленскага ўніверсітэта ў цяперашнім (1829) стане і раней». Пасля смерці кс. Юндзіла рукапісы па спадчыне перайшлі да аднаго з яго сваякоў — Яна Юндзіла, ахвяраваўшага першую частку Адаму Міцкевічу, выдадзеную ў 1914 г. у Кракаве доктарам Антоніем Курпелем пад назвай «Успаміны жыцця кс. Ст. Юндзіла». Другую частку Ян Юндзіл перадаў Адаму Кіркору. Фрагментамі была выдадзена ў «*Piśmie zbiorowym wileńskim*» (Вільня, 1859), «*Tygodniku Wielkopolskim*» (1873), «Карцінках літоўскіх…» (1874) і ў кніжцы Людвіга Яноўскага «У прамянях Вільні і Крамянца» (Вільня, 1923). Іншыя сляды знікаюць разам са смерцю Кіркора ў 1886 годзе.

На магіле кс. Юндзіла выбіты надпіс: «*Historji naturalnej w kraju rozkrzewiciel — ogrodu botanicznego w Wilnie twórca*» («Прыродазнаўства ў Краі пашыральнік — батанічнага саду ў Вільні стваральнік»). … Падчас падарожжа па Віленшчыне,назіраючы сады каля сялянскіх хатаў, — усё, што засталося ад багатай спадчыны святой памяці кс. Паўла Ксавэрыя Бжастоўскага, Уладзіслаў Сыракомля заўважыў, што «не кожны з уладальнікаў і плябанаў і такое па сабе пакідае»...

**ЛІТАРАТУРА**


1. Мілінкевіч А. Жылібэр Жан-Эмануэль//ЭГБ. Т. 3. — Мінск, 1996. — С. 380.
2. Шалькевіч В.Ф. Віленскі універсітэт//ЭГБ. Т. 2. — Мінск, 1994. — С. 287—288.
3. Ботанический сад. — Электронны рэсурс. Рэжым доступу: http://www.vilnius.skynet.lt/. Час доступу: 03.12.2014.
4. Из истории свободомыслия и атеизма в Белоруссии/Е.С.Прокошина, Л.Л.Короткая, А.А.Чудникова и др.; науч. ред. Е.М.Бабосов, Г.М.Лившиц. — Мінск, 1978.
5. Baliński M. Pamiętniki o Janie Sniadeckim, jeho życiu prywatnem i publicznem i dziełach jeho. T. I. — Wilno, 1865. — S. 619.
6. Bartoszewicz J. Historja literatury polskiej. T. I. — Kraków, 1877.
7. Bieliński J. Stan nauk lekarskich za czasów Akademii medyko-chirurgicznej wileńskiej, bibliograficznie przedstawiony. — Warszawa, 1888.
8. Bogdziewicz H. Pijarzy//Encykłopedia katolicka. Katolicki uniwersytet lubielski Jana Pawła II. T. XV. — Lublin, 2011. — S. 572—576.
9. Buba J. Jundziłł Stanisław//Encykłopedia katolicka. Katolicki uniwersytet lubielski Jana Pawła II. T. VIII. — Lublin, 2000. — S. 250.
10. Frank J. Pamiętniki. T. I. — Wilno, 1913.
11. Janowski L. Słownik bio-bibliograficzny dawnego Uniwersytetu wileńskiego. — Wilno, 1939.
12. Janowski L. W promieniach Wilna i Krzemeńca. — Wilno, 1923.
13. Kirkor A. Obrazki litewskie. Ze wspomnień tułacza Sobarri. — Poznań, 1874.
14. Krasiński A.S. Wspomnienia. — Kraków, 1893.
15. Pamiętniki życia ks. Stanisława Jundziłła//Archiwum do dziejów literatury i oświaty w Polsce. T. XIII. — Kraków, 1914.
16. Sławiński W. Jundziłł Stanisław Bonifacy//PSB. T. XI — Wrocław —Warszawa — Kraków, 1964—1965.— S. 320—323.
17. Stanisław Bonifacy Jundziłł. — Электронны рэсурс. Рэжым доступу: http://pl.wikipedia.org/wiki/ Stanisław_Bonifacy_Jundziłł. Час доступу: 28.08.2014.
18. Tretiak J. Młodość Mickiewicza (1798—1824). T. I. — Petersburg, 1898.
19. Żychliński T. Złota księga szlachty polskiej. Rocznik XIII. — Poznań, 1891. — S. 112—125.

Святы Юзаф.
Сярэдзіна XVIII ст.
Абраз з Пакроўскай царквы
ў вёсцы Дзеткавічы
Драгічынскага р-на.
МСБК НАНБ.



Аляксандр ЯРАШЭВІЧ

# Святы Юзаф у беларускім сакральным жывапісе

Аб жыцці св. Юзафа евангелісты апавядаюць вельмі лаканічна — толькі праз нараджэнне і дзяцінства Хрыста. Ён паходзіў з роду цара Давіда, аднак жыў у сціпласці ў Назарэце, зарабляючы плотніцкай працай. У «Кнізе аб нараджэнні Марыі» сказана, што святаром Ерузалемскага храма Юзаф быў выбраны для таго, каб берагчы беззаганнасць Марыі па дасягненні Ёю 12-ці гадоў і выхадзе з храма. Евангеліст Мацвей апавядае пра заручыны Марыі з Юзафам, яго сумненнях і з'яўленні ў сне Анёла. Падчас пакланення вешчуноў евангеліст згадвае толькі Дзіця і Марыю. Затым Анёл зноў з'яўляецца ў сне Юзафу, папярэджвае яго аб злым намеры караля Ірада і наказвае бегчы ў Егіпет. Пра смерць караля Ірада Анёл зноў паведамляе Юзафу ў сне, і ён з Марыяй і Дзіцем ідзе ў Назарэт, як і было прадказана прарокамі (Мц 2, 13–15, 18–25).

Евангелле ад Лукі нібы дапаўняе звесткі Мацвея. Юзаф з Марыяй ідуць з Назарэта на перапіс у Бэтлеем, горад Давіда, бо Юзаф паходзіў з яго роду. Як вядома, ім не знайшлося месца ў заездзе, і Марыя нараджае Дзіця ў полі, дзе былі пастухі са статкам, а потым кладзе Яго ў яслі. Анёл паведамляе пастухам пра вялікую радасць, над яслямі з'яўляецца нябеснае воінства, пастухі прыходзяць, каб пакланіцца маленькаму Хрысту. Юзаф з Марыяй прыносяць Дзіця ў Ерузалемскі храм, дзе іх сустракаюць Сімяон і Ганна прарочыца, а потым вяртаюцца ў Бэтлеем (Лк 2, 4–39). Напэўна, св. Юзаф памёр неўзабаве пасля наведання Ерузалема з 12-гадовым Езусам, бо пасля гэтага ён больш не згадваецца ў кананічных Евангеллях. Дарэчы, пад яго імем напісана апакрыфічная «Гісторыя Юзафа цесляра».

Праваслаўных храмаў у памяць св. Юзафа зусім мала, з іх самы вядомы ў Беларусі — сабор у Магілёве, закладзены ў 1780 г. з удзелам Кацярыны II і аўстрыйскага імператара Юзафа II, шэдэўр знакамітага рускага архітэктара М.А. Львова, па-варварску знішчаны ў 1938 г. савецкімі ўладамі.

Захад аднёсся да асобы св. Юзафа больш уважліва. Багаслоўскае асэнсаванне вобраза св. Юзафа Абранніка мы знаходзім у працах заходніх айцоў Касцёла IV–V стст. — св. Амброзія Медыяланскага, св. Гераніма Стрыдонскага, св. Аўгустына.

З XIII ст. шанаванне св. Юзафа пашыралі «жабрачыя» законы. У 1399 г. пастанову аб гэтым прыняў Генеральны капітул францішканаў. Вобраз св. Юзафа ўсё часцей знаходзіць месца ў духоўнай літаратуры, асабліва ў працах містыкаў (св. Брыгіта Шведская).

Шанаванне св. Юзафа як прыёмнага бацькі Хрыста і апекуна Касцёла дасягнула найбольшага ўздыму ў XV ст. Важны ўклад у гэта зрабіў св. Бэрнард Сіенскі, які параўноўваў св. Юзафа Абранніка

---

**Аляксандр ЯРАШЭВІЧ** — кандыдат мастацтвазнаўства. Даследуе мастацтва эпохі Барока і гісторыю рэлігіі на Беларусі. Адзін з аўтараў двухтомнага даведніка «Рымска-каталіцкія Кальварыйскія могілкі ў Мінску на Беларусі» (Варшава, 1996, 2000), аўтар кніг «Маці Божая Снежная» ў Беларусі» («Про Хрысто», 2003), «Абраз Маці Божай Будслаўскай» («Про Хрысто», 2004), укладальнік і адзін з аўтараў альбома «Музей старажытнабеларускай культуры» (Мн., 2004). Працуе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.

са старазапаветным патрыярхам Юзафам. Папа Сікст IV адобрыў ушанаванне памяці св. Юзафа ў Імшале і Брэвіярыі (1472–1474 гг.). У 1540 годзе ў Рыме быў заснаваны першы храм у імя св. Юзафа Абранніка (Сан Джузэпэ дэі Фаленьямі).

У XVI–XVII стагоддзях жыцці св. Юзафа выдаюцца на лацінскай, іспанскай і іншых мовах. Апякун Дзіцяці Езуса асабліва шанаваўся айцамі кармэлітамі. Св. Тэрэза назвала ў яго гонар першы кляштар кармэлітаў босых, заснаваны ёю ў 1562 г. у Авіле (Іспанія), а затым шэраг касцёлаў. У 1590 г. св. Юзаф быў абвешчаны апекуном кармэлітаў босых у Іспаніі, а пасля і ў іншых краінах імперыі Габсбургаў: у Багеміі (1665 г.), Аўстрыі (1675 г.), іспанскіх Нідэрландах (1689 г.), а таксама ў Мексіцы (1678 г.).

Пасля Трыдэнцкага Сабору, па ўказанні папы Пія V, успамін пра св. Юзафа быў уведзены ў літургічныя кнігі. У 1621 г. папа Грыгорый XV наказаў абавязкова адзначаць успамін св. Юзафа. Былі ўведзены новыя святы, звязаныя з шанаваннем яго імя. У 1726 г. імя св. Юзафа было ўнесена ў літанію святых Рымскага Імшала.

8 снежня 1870 г. папа Пій IX абвясціў св. Юзафа апекуном Каталіцкага Касцёла. У 1955 г., каб супрацьпаставіць атэістычнай прапагандзе годнасць хрысціянскай працы, папа Пій XII прызначыў на 1 мая ўспамін св. Юзафа як апекуна працаўнікоў. Ян Павел II ставіў у прыклад св. Юзафа як праведнага чалавека, працаўніка і найлепшага бацьку.

Св. Юзаф вызначаўся праведнымі паводзінамі, таму і стаў абраннікам Марыі. Заручыны Марыі з Юзафам — асобная тэма ў містычнай літаратуры Захаду. У еўрапейскім мастацтве найбольш вядомыя фрэска Джота, карціны Перуджына і Рафаэля (1504 г.), на якіх паказаны абмен пярсцёнкамі пры ўдзеле першасвятара. Апокрыфы гавораць, што Юзаф на час заручынаў быў немаладым удаўцом, але ў мастацтве яго паказваюць не такім ужо і старым чалавекам. У беларускім мастацтве сюжэт заручынаў сустракаўся ў касцёлах кармэлітаў, якія сталі найбольш актыўнымі праваднікамі культу св. Юзафа і ў сваіх святынях прысвячалі яму асобныя алтары.

У касцёле гродзенскага кляштара брыгітак на парапеце хораў да 1950 г. стаяў адзіны ў Беларусі цыкл XVII ст. з васьмі сюжэтаў аб нараджэнні і дзяцінстве Хрыста. Яго прыпісваюць мастаку Якубу з Тыкоціна, які ў 1642–1649 гг. фарбаваў і паліраваў у храме разьбяныя алтары. Аднак пытанне аб аўтарстве гэтых сюжэтных карцін застаецца дыскусійным, бо для іх напісання была патрэбна іншая адукацыя. Гродзенскія табліцы нагадваюць рэалістычны жывапіс галандскай школы XVII ст., толькі лаканічнай кампазіцыі («Жывапіс барока Беларусі». Мн., 2003. С.48–55). У сюжэце «Нараджэнне Хрыста», якое адбываецца пад адкрытым небам, над Дзіцяткам Езусам у яслях схілілася ўкленчаная Марыя, насупраць стаіць басаногі Юзаф з посахам; справа – калона на высокім пастаменце. Адзін з містыкаў позняга Сярэднявечча ўбачыў у мроі Марыю, якая, прыхіліўшыся да калоны, прывяла на свет Дзіця, спавіла Яго, паклала ў яслі і ўкленчыла перад ім (так пісала Брыгіта Шведская).

У «Пакланенні пастухоў» Марыя расхінае над Дзіцем пакрывала, на якое жэстам разведзеных рук паказвае Юзаф, нібы здзіўлены цудам Нараджэння. Своеасаблівасць гродзенскай выявы ў тым, што пастухоў тут толькі двое (звычайна іх трое), затое на пярэднім плане ўкленчыла багата адзетая пані, якая працягвае Марыі белае вялікае яйка (перад ёю стаіць плецены кораб і вялікі прыгожы гляк). Яйка страўса — сімвал беззаганнага зачацця Панны Марыі, а нябачнае віно ў гляку нагадвае пра Апошнюю Вячэру і Эўхарыстыю.

Блізкую кампазіцыю мае «Пакланенне каралёў», але гэты абраз цалкам запоўнены біблейскімі асобамі. Марыя і Юзаф разам трымаюць на руках Боскае Дзіця перад укленчанымі ўсходнімі мудрацамі, прынёсшымі Яму дары. За імі стаяць два воіны і невядомы хлопчык (хіба што, будучы Ян Хрысціцель?). Далей уверсе карціны яўна падкрэслены выразны твар невядомага мужа з пышнай чорнай барадой і вусамі, у футравым галаўным уборы з высокім брылем. Гэтая загадкавая асоба (магчыма, данатар), толькі ледзь бачная, прысутнічае і на вядомым алтарным абразе такога ж сюжэта пачатку XIX ст. з Дрысвятаў).

Своеасабліва паказана «Абразанне», якое выконвалася на восьмы дзень пасля нараджэння. Падзея паказана амаль у тым жа інтэр'еры, што і Нараджэнне, толькі аздобленым занавесам-фонам. Дзіця ляжыць на каленях ці то духоўнай асобы ў чырвоным каптуры, ці то доктара. Над Ім схіліўся чалавек у багатай шаце; тут жа стаяць Марыя з Юзафам, за імі — асобы ў дарагіх галаўных уборах.

Прадстаўленне першага дзіцяці Пану Богу ў Ерузалемскім храме сумяшчалася з абрадам ачышчэння Маці з прынясеннем у ахвяру двух маладых галубкоў. На абразе з Гродна іх прымае святар у каўпаку з таблічкай з рук укленчанай Марыі, за якой стаіць Юзаф. У цэнтры кампазіцыі праведны старац Сімяон ускладае Дзіця на прастол, за якім стаіць першасвятар, благаслаўляючы Езуса. Злева стаяць прарочыца Ганна, узняўшая левую руку, і партрэтны мужчына, невядомы евангелісту Луку.

Звернемся да алтарных абразоў св. Юзафа. На абразе, вывезеным у Мінск у музей старажытнабеларускай культуры з Пакроўскай царквы ў вёсцы Дзеткавічы (Драгічынскі р-н) св. Юзаф паказаны стоячы за ледзь прыкметным сталом. На стале (ці хутчэй над ім) лунае, нібы воблачка, чырвоная падушка, на якой сядзіць Езус у белым хітончыку, трымаючы ў левай руцэ вялікі яблык, побач — на падносе — такія ж тры яблычкі. Злева і крыху на заднім плане, займаючы большую частку кампазіцыі, змешчаны св. Юзаф, які трымае ў руках разам з Езусам доўгае сцябло лілеі з трыма белымі бутонамі. Так прастадушна і выразна невядомы мастак сімвалізаваў беззаганнае зачацце. На фоне справа — расхінуты занавес, выява

якога запазычаная з магнацкіх партрэтаў, —ён адкрывае пейзаж, адлюстраванне якога перанятае з італьянскіх рэнесансавых карцін і партрэтаў.

Адкуль у звычайнай вясковай царкве на Палессі ўзяўся такі абраз заходнееўрапейскага малявання? На наш погляд, найбольш верагодная яго крыніца – геаграфічна блізкі касцёл св. Юзафа і св. Казіміра кляштара картузаў у Бярозе, адзіны ў Вялікім Княстве Літоўскім, фундаваны Казімірам Львом Сапегам, пабудаваны ў 1648–1661 гадах. Заказчыкам абраза для Бярозы, хутчэй за ўсё, мог стаць дапаможны біскуп Віленскі (з 1737 г.) Юзаф Станіслаў Сапега (1708–1754). Энергічны і адукаваны іерарх, бібліяфіл і гісторык, ён збіраў сапегаўскія архівaліі, апякаў пляменніка Аляксандра Міхала, уласніка Ружанаў і Дзярэчына. Юзаф Сапега памёр у Вільні і быў пахаваны ў катэдры (*Zofia Zielińska-Dom Sapiezyński. Opr. Eustachy Sapieha. Warszawa PWN. 1995. S. 449–454*). Магчыма, у Вільні ў 1730–1740-я гг. і быў намаляваны умелым мастаком дзеткавіцкі (а хутчэй, картуз-бярозаўскі) абраз св. Юзафа Абранніка.

Пасля антырасійскага паўстання 1831 г. бярозаўскі кляштар быў скасаваны царскімі ўладамі. Яго касцёл, найвыдатнейшы помнік барока, у 1864 г. зачынілі і разабралі на цэглу для пабудовы казармаў (!). Вядома, што частка рэчаў з гэтага касцёла была перададзеная касцёлу ў Сігневічах (каля Бярозы, пасля 1945 г.), які быў зачынены і разрабаваны савецкімі ўладамі. Штосьці з абразоў маглі ўратаваць мясцовыя жыхары і перадаць у бліжэйшы храм — царкву ў суседніх Дзеткавічах.

Алтарны абраз св. Юзафа (палатно, алей, 150х83 см) быў перададзены ў Музей старажытнабеларускай культуры з касцёла Беззаганнай Панны Марыі *de Gratis* у Задарожжы (Глыбоччына). Але паходзіць ён, напэўна, з кармэліцкага касцёла ў Глыбокім, зачыненага царскімі ўладамі ў 1865 годзе. Іканаграфія абраза адлюстроўвае ўплыў папулярнай карціны італьянскага мастака Гвіда Рэні. На жаль, мастак дасканалага абраза XVIII ст. не пазначыў свайго імя хоць бы на адвароце палатна...

Звярнуцца да іканаграфіі св. Юзафа Абранніка мяне падштурхнула ўнікальная падзея ў нашым рэлігійна-культурным жыцці — нядаўняе з'яўленне абраза св. Юзафа з вішнеўскага касцёла (Смаргонскі раён) работы Яна Дамеля. Гэты абраз згадвалі гісторыкі мастацтва яшчэ ў XIX ст.; перад Другой сусветнай вайной у «Працах Віленскага таварыства сяброў навукі» (1938–1939 гг., т. III). была змешчана тэзісная публікацыя дакладу віленскага прафесара Станіслава Лорэнтца. Ён паведамляў, што ў вішнеўскім касцёле св. Тадэвуша (1811–1820 гг.) знаходзіцца абраз св. Юзафа з Дзіцем, намаляваны Янам Дамелем па заказе Брыгіты Сулістроўскай. Там жа калісьці быў абраз св. апостала Тадэвуша, таксама работы Яна Дамеля, знішчаны падчас Першай сусветнай вайны. Вішнеў належаў Казіміру Сулістроўскаму, які ў 1816–1816 гг. быў мінскім грамадзянскім губернатарам. Яго брат, Юзаф Сулістроўскі, камергер двара імператара Аляксандра І, уласнік Камаяў, памёр у 1815 годзе. Магчыма, данінай яго памяці стала заснаванне касцёла ў Вішневе ў гонар св. Юзафа Абранніка.

Аднак экспедыцыя АН Беларусі, у складзе якой у 1985 г. я пабываў у Вішневе, не выявіла там дамелеўскага «Св. Юзафа», — давялося з жалем канстатаваць, што ён знік падчас Другой сусветнай вайны. І раптам, праз чвэрць стагоддзя, прыходзіць ліст ад спадара Анатоля Шчучко з фатаграфіямі, у якім ён паведамляе пра рэстаўрацыю абраза св. Юзафа са смаргонскага Вішнева ў Гомелі. Праз некаторы час у Гомельскім абласным музеі адбылася прэзентацыя адрэстаўраванага абраза з Вішнева — сапраўдная падзея для беларускай культуры (і не меншая для Касцёла). Згадаем, самыя «мінскія» мастакі 1-й паловы XIX ст. — гэта Валенцій Ваньковіч і Ян Дамель (так напісаў яшчэ ў 1920-я гг. Ежы Сальскі, калі іх творы былі выстаўлены ў Варшаве). Аднак карціны гэтых творцаў цяпер знаходзяцца ў Варшаве і Вільні і, дзякуй Богу, захаваліся, а большасць з таго, што было ў музеях і сядзібах Мінска і Віцебска знікла, не пакінуўшы следу.

На абразе работы Яна Дамеля св. Юзаф з Езусам на руках «выходзіць» на пярэдні план, як апякун, урачыста паказваючы Божае Дзіця. Ледзь прыкметна ў глыбіні сядзіць Панна Марыя і апусціўся на калені перад магутнай калонай Анёл, пэўна, той самы, які з'яўляўся св. Юзафу, дапамагаючы зберагчы маленькага Езуса. На мой погляд, гэта самая дасканалая з карцін Яна Дамеля: уражваюць простая і дакладная кампазіцыя, выразны малюнак і прыгожы багаты каларыт. Магчыма, мастак паўтарыў свой вішнеўскі абраз.

Нядаўна, праглядаючы манументальны том па літоўскай сакральнай архітэктуры і мастацтве, падараваны мне таленавітай віленскай даследчыцай Даляй Клаўмене (у публікацыі — Далі Рамонене) пра касцёл у в. Гінталішкіс Плунгенскага дэканата, са здзіўленнем убачыў у галоўным алтары проста ідэнтычны абраз святога Юзафа (184х110 см), гэткі ж, што і ў Вішневе (памерам каля 3х2 м), аднак алтар датуецца 1845 годам. (*Plunges Drkanat. Sakralne architectura ir daile. Vilnius dailes akademijos leidyklas. Petro ofsetas*. S. 70, 87). Далейшых звестак пра гэты абраз будзем чакаць ад літоўскіх даследчыкаў, але такое ўражанне, што ён належыць менавіта пэндзлю Яна Дамеля , а калі і капіраваны невядомым мастаком, то вельмі дакладна. Абраз падобнай кампазіцыі знаходзіцца ў лідскім касцёле Узвышэння Святога Крыжа, аднак там зменены яго фармат і адразу відаць іншы жывапіс...





Ганна Шаўчэнка

# «Успаміны» Францішка Карпінскага: вытокі цноты і злачынства

Гістарычна склалася так, што мемуарная літаратура Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў стваралася пераважна іншамоўнаю, але паколькі яна сфарміравалася ў нашых рэаліях, у ёй адлюстраваліся побыт і норавы беларускага народа, зрэшты, яна мела істотны ўплыў на развіццё дакументальнай прозы больш позняга часу — ужо беларускамоўнай. Гісторыкі падкрэслівалі значэнне мемуарнай літаратуры як «носьбіта псіхалагічнага духу эпохі» (Георгій Літвін), як «помніка ідэйнага руху і грамадска-гістарычнай думкі эпохі іх стварэння, па-за якімі сама гэтая эпоха не можа быць правільна зразуметай», як крыніцы гістарычнай памяці, «індыкатара таго ці іншага этапу развіцця гістарычнай самасвядомасці асобы» (Андрэй Тартакоўскі) [цыт. па: 1, с. 6–9].

Адным з найцікавейшых твораў гэтай іншамоўнай мемуарнай літаратуры з'яўляюцца «Успаміны» Францішка Карпінскага (1741–1825) — паэта-сентыменталіста, пісьменніка, драматурга, які нарадзіўся ва ўкраінскай вёсцы Галаскоў недалёка ад Станіслававa (цяпер — Івана-Франкаўск) і працаваў пры магнацкіх дварах Польшчы і Украіны, а ў сталым узросце арандаваў фальваркі на Пружаншчыне і Гродзеншчыне, дзе правёў больш за 30 гадоў свайго жыцця. У вёсцы Хараўшчына Ваўкавыскага павета, якую пісьменнік купіў у 1819 годзе, нарадзіліся яго «Успаміны». Даследчык Раман Собаль назваў іх найлепшым празаічным творам Ф. Карпінскага, першай аўтабіяграфіяй пісьменніка ў польскай літаратуры, «каштоўным дакументам тагачаснай культуры, асабліва культуры польскай правінцыі ў часы Асветніцтва, культуры і інтэлектуальнасці дробнай шляхты, а таксама літаратурнага жыцця» [5, с. 141–142]. Зыходзячы са зместу «Успамінаў», можна з упэўненасцю сказаць, што пад азначэннем «польская правінцыя» Р. Собаль меў на ўвазе менавіта землі Беларусі і Украіны, якія ў часы Ф. Карпінскага ўваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай.

У рукапісе гэты твор мае назву «Гісторыя майго веку і людзей, з якімі я жыў». Аднак біёграфы і даследчыкі творчасці Ф. Карпінскага (Р. Собаль, М. Клімовіч, А. Карніловіч) згодныя ў тым, што гісторыя краіны і эпохі не дамінуе ва «Успамінах»: «Галоўнаю воссю аповеду пісьменнік зрабіў гісторыю свайго жыцця — „знешнюю", якую ўтваралі разнастайныя здарэнні, сітуацыі і ўчынкі, і „ўнутраную", якая ахоплівала сферу яго пачуццяў, рэфлексіі, псіхічных станаў, фарміравання яго асобы і рысаў індывідуальнасці» [5, с. 140]. Таму, паводле аўтабіяграфізму, «Успаміны» называюць наватарскім творам, і лічыцца, што канцэпцыю мемуараў-аўтабіяграфіі, у якой пісьменнік паказвае фарміраванне ўласнай асобы, Ф. Карпінскі запазычыў у Ж. Ж. Русо, натхніўшыся яго аўтабіяграфічнаю кнігаю «Споведзь». Наватарства Ф. Карпінскага заключаецца ў тым, што ён заўважыў важную ролю дробных, нават інтымных выпадкаў у фарміраванні асобы

**Ганна ШАЎЧЭНКА** — супрацоўніца выдавецтва «Pro Christo». Закончыла філфак БДУ (2007), магістратуру і аспірантуру пры кафедры гісторыі беларускай літаратуры БДУ. Займаецца даследаваннем польскамоўнай літаратуры Беларусі XIX стагоддзя. Аўтар паэтычнай кнігі «Запаветная жменька» (2007), зборніка вершаў для дзяцей «Пане, будзь заўжды са мной!» (2010).

[3, с. 407–408]. Аднак нельга адназначна сцвярджаць, што пісьменнік адсоўвае гісторыю сваёй Айчыны на другі план аповеду. Сапраўды, у цэнтры апавядальнай плыні «Успамінаў» — асоба, але гэтая асоба знаходзіцца ў канкрэтных гістарычных абставінах. Яе жыццё цалкам абумоўлена знешнімі падзеямі, якія герой аповеду глыбока прапускае праз сэрца. Больш за тое, галоўным прадметам аўтарскай рэфлексіі найчасцей становіцца менавіта лёс Айчыны, а галоўным пафасам аповеду — патрыятычны. Сам Ф. Карпінскі ў лісце да Францішка Дмахоўскага ад 30 мая 1805 г. пісаў: «Гэта будзе кніга, цікавая з-за многіх здарэнняў, але адначасова цікавая з пазіцыі гісторыі... Будзе шмат такіх апісанняў, якія я павінен пакінуць будучым пакаленням, зважаючы толькі на праўду» [тут і далей пераклад з польскай наш. — Г. Ш.; цыт. па: 4, s. 75].

Такая скіраванасць аповеду абумоўлена яшчэ і тым, што сам аўтар жыў у складаны час: нарадзіўся яшчэ ў перыяд існавання Рэчы Паспалітай; на гады яго маладосці прыпала Барская канфедэрацыя; на яго вачах адбываліся падзелы Рэчы Паспалітай і страта яе незалежнасці. Гэта дзяржаўная катастрофа не пакідала абыякавым нікога, хто стаў яе сведкам. І мы не знойдзем ніводнага тагачаснага літаратара, творчасць якога не ўвабрала б у сябе гэтую няпростую рэчаіснасць — калі не ў прамым яе адлюстраванні, то хаця б у алегарычным.

Ф. Карпінскі не быў актыўным удзельнікам усіх грамадска-палітычных падзей, якія апісваў. З'яўляючыся дробным шляхціцам і не маючы непасрэднага асабістага ўплыву на дзяржаўныя рашэнні, ён часцей займаў месца назіральніка або стараўся апасродкавана ўздзейнічаць на людзей, ад якіх залежаў лёс Айчыны. Часам пісьменнік свядома ўхіляўся ад некаторых значных сацыяльна-палітычных акцый. Напрыклад, сваю пасіўнасць у час Барскай канфедэрацыі Ф. Карпінскі тлумачыў тым, што разумеў хлуслівасць лозунгаў, пад якімі яна ажыццяўлялася, крывадушнасць яе кіраўнікоў і разлад сярод саміх канфедэратаў, хоць на самым пачатку ўзрадаваўся, што «народ усвядоміў крыўды і прыніжэнне сваё» [2, s. 39]. У сваё апраўданне Ф. Карпінскі прызнаецца: «...Я збіраўся далучыцца да іх і ўжо цалкам падрыхтаваўся да гэтага, але, бачачы сярод іх вялікае свавольства, п'янства і рабункі, зусім выкінуў гэтую думку з галавы; касцёл, які яны дабравольна спалілі, — яны, якія за веру (так у сваіх універсалах абвяшчалі) біцца выйшлі, найбольш прасвятліў мне, што ім дакладна не было справы да веры» [2, s. 40].

Распавядаючы пра Чатырохгадовы сойм (1788–1792), Ф. Карпінскі падкрэслівае свой скрыты ўдзел у ім, бо «з-за сапсаванасці ўсяго ў Айчыне ўбогаму нельга было абмяркоўваць гэта і публічна пра гэта выказвацца» [2, s. 105]. Таму аўтар дзеліцца з чытачамі сваімі спосабамі ўздзеяння на магнатаў, а менавіта ананімнымі лістамі да паслоў сейма, у якіх прыводзіць аргументы на карысць спадчыннай манархіі.

Аднак найбольшую ролю герой «Успамінаў» адыграў у іншай сферы грамадскага жыцця той эпохі — у сферы духоўнай культуры і выхавання. Напачатку гэта было выхаванне дзяцей пры магнацкіх дварах, пазней, на схіле веку Ф. Карпінскага, — выхаваўча-асветніцкая праца сярод сялянаў у арандаванай (а затым — набытай) ім вёсцы.

Распавядаючы пра сваё гувернёрства і настаўніцтва, пісьменнік вельмі каларытна апісвае норавы і побыт тагачасных жыхароў Украіны, Польшчы і Беларусі; пры гэтым ён закранае жыццё розных слаёў насельніцтва і стварае яскравыя партрэты вядомых грамадска-палітычных і культурных дзеячаў.

У сваіх развагах пра фарміраванне асобы, пра спосабы выхавання, вытокі дабра і зла ў чалавеку Ф. Карпінскі паўстае як прыхільнік ідэяў Асветніцтва і ў яго рэчышчы праяўляе сябе як выразны сентыменталіст. Ён неаднаразова падкрэслівае, што чалавек ад прыроды мае дрэнныя схільнасці, і калі яго з маленства не скіроўваць на шлях дабра і чалавекалюбства, то з часам нават дробныя дзіцячыя свавольствы могуць вырасці ў разбой і прывесці да згубы. Яшчэ ў маленстве ўражаны пакараннем разбойніка Баюрака, Ф. Карпінскі пачуў ад бацькі такія словы: «Дзіця маё, Баюрак напэўна пачаў з крадзяжу дробных рэчаў і, можа, гэтак, як ты, у дзяцінстве ножык у кагосьці ўкраў, а паколькі яго за гэта не ўшчувалі, ён заняўся большымі рэчамі; людзі ж звычайна ў сваіх дамах сцерагуцца злодзея, таму ён бачыў, што гэтым шляхам, жывучы сярод бедных, не так лёгка разбагацець, і пусціўся ў разбой, які хутчэй узбагаціць можа; дзіця маё! кожнае зло — нібы малая гадзюка, яд якой з часам выклікае смерць» [2, s. 15].

Бацькава навука для малога Францішка часам была суроваю і бескампраміснаю, але на працягу ўсяго твора пісьменнік згадвае пра яе з вялікаю ўдзячнасцю, цеплынёю і лічыць, што менавіта яна захавала яго ад шматлікіх памылак у жыцці, і пасля смерці бацькі пісьменнік ідэалізуе яго ў сваіх успамінах. Падчас згрызотаў сумлення за ўзяты хабар ён са шкадаваннем піша: «Я з горыччу ўспомніў яго апошнія словы перад смерцю: „Францішак няхай кіруецца праўдаю ў свеце"; якая ж гэта праўда, падумаў я, падманам загубіць нявіннага праціўніка...» [2, s. 32]. Пасля таго перажывання герой «Успамінаў» неаднаразова падкрэсліваў, што ў сваіх учынках стаў кіравацца толькі праўдаю, хоць яна прыводзіла яго да няміласці магнатаў, да стратаў і расчараванняў.

Абавязковым складнікам добрага выхавання чалавека Ф. Карпінскі лічыў рэлігійнасць і най-



Напалеон Орда. Хараўшчына.

перш пашану да ўсяго, што звязана з вераю і служэннем Богу. Нездарма сам герой «Успамінаў» у дзяцінстве атрымаў ад бацькі аплявуху ў касцёле за балбатанне і смех. Праўда, часам шчырая вера даводзіла сентыментальнае дзіцячае ўяўленне да камічных і крайніх выпадкаў, напрыклад, да бяссонных начэй з-за страху ўбачыць душу памерлага сябра, з якім яшчэ пры яго жыцці яны дамовіліся, што першы, хто памрэ, пасля смерці павінен паказацца другому і распавесці, як яму на тым свеце жывецца. Гэтая прысяга была заключаная ў касцёле і запісаная на картцы, пакладзенай пад абрус алтара. Аднак, як гэта ўласціва стылю Ф. Карпінскага, кожная такая гісторыя заканчваецца даволі прадказальна, з характэрным дыдактычна-маральным павучаннем, як у выпадку з памерлым сябрам: толькі калі хлопец выспавядаўся і прыняў Камунію, ён змог спаць спакойна — «так паслужлівая і малым дзецям рэлігія спакойнымі і шчаслівымі іх чыніць» [2, s. 88–89].

Кс. Антоній Карніловіч, сучаснік і сябар пісьменніка, аўтар кнігі «*O życiu Franciszka Karpińskiego*», распавядаючы пра яго дзяцінства, падкрэсліваў: «Мацнейшаю за ўсё здавалася ў ім прывязанасць да рэлігіі…» [4, s. 7]. У старасці ж пісьменнік прызнаваўся кс. Карніловічу: калі б не рэлігія, даўно ўжо пазбавіў бы сябе жыцця з-за чорнай меланхоліі, якая незвычайна мучыла яго [4, s. 57]. «Адразу ж, як устане, узяўшы ў рукі гітару, ён спяваў песеньку, што сам жа і склаў: „*Kiedy ranne wstają zorze*“, — пісаў кс. Карніловіч. — Папраўдзе кажучы, ён не толькі іменем быў католік, але і на самай справе. Сам мне казаў, што чытаў творы Вальтэра і Русо, але нішто не пахіснула грунтоўнасці яго веры, бо тое, што павінна было б нанесці ёй найбольшы ўдар, паходзіла не інакш як з сапсаванасці сэрца і скажэння розуму грубымі перабольшаннямі. Прызнаваўся таксама, што не раз быў уцягнуты ў таемныя таварыствы, але тым, хто яго да гэтага намаўляў, заўсёды адказваў так: „Я ўжо не заўважаю нічога добрага ў тым, што імкнуцца хаваць у змроку і што маёй рэлігіяй асуджаецца“» [4, s. 61].

Пісьменнік з прыкрасцю заўважае (хоць і не гаворыць пра гэта прама), што чым больш чалавеку даступныя багацці і пасады, тым менш у ім цноты і чуласці. Адной з найважнейшых ліній яго аповеду з'яўляецца выяўленне каранёў зла, якое так шырока запанавала ў няшчаснай Айчыне. Наўмысна гэта зроблена ці не, аднак у сваіх разважаннях Ф. Карпінскі паслядоўна абапіраецца на дзве найважнейшыя запаведзі любові і сем галоўных грахоў. Упершыню, яшчэ дзіцем убачыўшы «вялікі свет» падчас пахавання Юзафа Патоцкага, герой «Успамінаў» быў уражаны тым, як моцна людзі абражаюць Бога: дзеля паказухі «выбраныя рыцары» з разгону заязджалі на конях у сярэдзіну касцёла да катафалка, каб такім чынам, ламаючы на хаду коп'і і шпагі, ушанаваць памерлага гетмана, дзеля якога «з дому Божага стайню зрабілі» [2, s. 13].

Аднак напоўніцу «вялікі свет» перад Францішкам адкрыўся тады, калі ён пачаў зарабляць сабе на хлеб службаю пры магнацкіх дварах. Пісьменнік перакананы, што вялікая віна за пашырэнне зла ляжыць на самім каралю, якога «кожны паводле свайго інтарэсу перацягваў на той бок, які хацеў», бо і сам кароль «любіў ліслівцаў і ўзбагачаў іх, у той час як чалавек справядлівы, ва ўбостве на яго вачах ходзячы, дарэмна падтрымкі спадзяваўся» [2, s. 81]. Але нашмат горшымі за караля, распуснае жыццё якога сапсавала Варшаву, выглядалі магнаты, бо з-за сваёй пыхі яны гатовыя былі патаптаць усе законы Божыя і чалавечыя. Зайздрасць да ўлады караля, забойствы, клятвапарушэнне, раскрадванне грамадскага дабра, гвалтоўнае забіранне маёмасці ў слабейшага, насілле і здрады, пагарда да шляхты і сялянаў — гэта далёка не поўны пералік усяго, з чым давялося сутыкнуцца аўтару «Успамінаў» у «вялікім свеце».

У мемуарнай літаратуры XVIII–XIX стст. увогуле вельмі шмат прыкладаў жорсткасці і злачынстваў магнатаў, і Ф. Карпінскі на працягу ўсяго твора неаднаразова паўтарае, што менавіта яны і прывялі Айчыну да заняпаду. І гэта не дзіва, калі беспакаранымі заставаліся нават такія ўчынкі: «Славіўся ў нас на Русі жорсткасцю сваёю Мікалай Патоцкі, староста канёўскі, які да 40 чалавек сваёю рукою пазабіваў. У Польшчы староста кнышынскі, Чапскі, такі быў жорсткі, што тых, каго не любіў або вінаватымі

лічыў, усадзіў у бочку, набітую вялікімі цвікамі, і такія бочкі дзеля сваёй забавы перад сабою каціць загадаў… У Літве Радзівіл, харунжы літоўскі, які жыў у Белай, любіў слухаць, як у падзямеллях стагналі тыя, хто нібыта быў яго вінаватым, ён называў іх сваімі найлепшымі спевакамі» [2, s. 62].

Нягледзячы на такія жорсткасці, некаторыя з магнатаў лічылі сябе вельмі пабожнымі католікамі. Ф. Карпінскі неаднаразова завастрае ўвагу на двудушнасці ў веры некаторых «вялікіх» гэтага свету, і на гэтым фоне сляпая вера сялянаў у містычныя з'явы і паданні не здаецца ўжо такою заганнаю. Напрыклад, слаўны Патоцкі рэгулярна спавядаўся і нават распачаў мураваць касцёл для ксяндзоў місіянераў, раніцаю і вечарам хадзіў у святыню на малітву, «нядбайных» манахаў павучаў, а сам трымаў для распусты некалькі дзяўчат, раніцаю будзіў іх на Ружанец, а калі якая-небудзь з іх у часе малітвы смяялася, караў цыбуком па плячах, каб Бога не абражала [2, s. 75].

Пыха, распуста і крывадушнасць багатых слаёў насельніцтва, на думку Ф. Карпінскага, і схілілі ўладароў суседніх краінаў да падзелаў Рэчы Паспалітай. Заўважым, аўтар не шукае прычынаў дзяржаўнай катастрофы ў знешняй агрэсіі: «Марыя Тэрэза, аўстрыйская імператрыца, пэўны час не хацела пачынаць падзелу Польшчы, бачачы яўную несправядлівасць у прыўлашчванні сабе без ніякага права чужой рэчы толькі таму, што гэты чужы слабы. Але менавіта тады дзікі ўчынак тагачаснага кіеўскага ваяводы Патоцкага і яе да падзелаў схіліў…» [2, s. 61]. З такой жа павагаю пісьменнік гаворыць пра імператара Франца Іосіфа І, пра Кацярыну ІІ.

Па прычыне «дрэнных хатніх прыкладаў» і сам Ф. Карпінскі лічыў сапраўднаю мукаю і марным высілкам сваю працу па выхаванні і адукацыі магнацкіх дзяцей, хоць як мог стараўся прывіваць сваім выхаванцам пачуццё справядлівасці.



Напалеон Орда. Прыкасцёльныя могілкі ў Лыскаве.

Значна большую ўдзячнасць герой «Успамінаў» бачыў ад бедных сялянаў, для якіх нават распрацоўваў своеасаблівае заканадаўства і ад якіх вучыўся гаспадарыць на зямлі. У творы прасочваецца гэтая антыномія «злачыннага багацця» і «цнатлівай беднасці», але найбольш выразна пісьменнік падкрэслівае яе напрыканцы «Успамінаў», калі яго герой, скаштаваўшы аднаго і другога, прыходзіць да сумных развагаў: «…Пажадаў я асесці ў лесе, дзе, парабіўшы каля дома свайго моцныя агароджы, схаваўся ад ваўкоў і мядзведзяў; якім жа чынам можна адгарадзіцца ад дрэннага чалавека, жывучы ў горадзе, каб той не напаў на мяне?» [2, s. 147]. Праца на ўласным кавалку зямлі, кавалак хлеба, зароблены сваімі рукамі, і чалавечыя, шчырыя адносіны да бліжняга — вось тыя вартасці, з якімі герой аповеду выйшаў у вандроўку па вялікім свеце і якія змог рэалізаваць толькі напрыканцы жыцця ледзь не ў глухім лесе… Але дзякуючы такому складанаму «падарожжу» гэтыя каштоўнасці набылі яшчэ большую значнасць у вачах самога «падарожніка».

У падагульненне адзначым, што «Успаміны» Ф. Карпінскага сталі адметнаю з'яваю мемуарнай літаратуры пачатку XIX стагоддзя: захоўваючы асноўныя жанравыя прыкметы мемуарнага твора, пісьменнік-сентыменталіст напоўніў яго глыбокім асабістым зместам; у віры апісаных падзей ён шукаў галоўныя прычыны зла ў сваёй Айчыне і крыніцы цноты, дабрыні, спачування. У сённяшнім свеце, дзе імкліва працягваецца разбурэнне найважнейшых духоўных каштоўнасцяў, яго «Успаміны» прачытваюцца як сур'ёзная перасцярога перад чарговымі чалавечымі катастрофамі… І ўсё ж, як часта паказвала гісторыя, «малы» свет бывае нашмат мацнейшым за «вялікі», а шчырая вера, любоў і праўда знаходзяць прытулак і абарону ў людзях пакорлівых і працавітых. І колькі б людзі ні сцвярджалі, што гэтыя паняцці становяцца ўсё больш адноснымі, жыццё так ці інакш змушае знаходзіць адну-адзіную веру, любоў і праўду.

**Выкарыстаная літаратура**


1. Гарбачова, В. Мемуарыстыка XIX стагоддзя ў беларускай культурнай традыцыі // Arche. Гісторыя Беларусі XIX ст. у мемуарах. – 2014. – № 1–2. – С. 5–14.
2. Karpiński, F. Pamiętniki / przedm. P. Chmielowskiego. – Warszawa: Drukarnia Granowskiego i Sikorskiego, 1808. – 170 s.
3. Klimowicz, M. Oświecenie. – Warszawa: Wydawnictwo naukowe PWP, 2002. – 608 s.
4. Korniłowicz, A. O życiu Franciszka Karpińskiego. – Wilno: Nakładem i drukiem N. Glüksberga, 1827. – 106 s.
5. Sobol, R. Franciszek Karpiński. – Warszawa: PWN, 1987. – 176 s.

Францішак Карпінскі

# Успаміны

## Урывак




Я нарадзіўся ў 1741 годзе 4 жніўня на галіцкай зямлі, у Каламыйскім павеце, у вёсцы Галаскоў, за 3 мілі ад Станіславава, ад бацькоў Андрэя і Разаліі Карпінскіх. У той дзень у доме маіх бацькоў адбылося асаблівае здарэнне: Казлоўскі, сусед і сябар бацькі майго, папярэдзіў яго за некалькі гадзін да майго нараджэння, што ноччу слаўны на Пакуцці разбойнік, Олэкса Дабошчук, які свавольнічаў у тых краях, разам з дванаццаццю сваімі малойцамі збіраўся для рабунку напасці на дом маіх бацькоў. У маёй маці ўжо пачаліся родавыя болі, а бацька, можа, ад страху страціць жыццё, пакінуўшы дом, з чым мог наспех схаваўся ў лесе, што знаходзіўся непадалёк, і распарадзіўся, каб для гэтага жахлівага госця з яго таварышамі на стале былі як найшчадрэй падрыхтаваныя хлеб, сыр і гарэлка. Можа, праз гадзіну пасля майго нараджэння прыйшоў са сваімі Дабошчук; толькі маці маю ляжачую і бабку, якая прыняла мяне, абмыла і трымала на руках, — нікога больш ва ўсім доме не заспеў. Маці нічога не магла гаварыць з-за болю і страху, а бабка, падышоўшы са мною на руках да Дабошчука, кажа: «Гадзіну таму дзіця гэтае нарадзілася, зважай на Бога, на гэтую маці, якая яшчэ пакутуе, і на гэтае немаўля. Не рабі тут ніякай прыкрасці, калі мы цябе як добрага госця прымаем». Змякчыла гэта сэрца разбойніка, і ён, малойцам сваім сціпла адысці загадаўшы, усеўся есці і піць шчодра пададзеную гарэлку, потым даў бабцы тры чырвоныя злотыя і, папрасіўшы маці маю, каб нованароджанаму дзіцяці пры хросце далі імя Олэкса (як і Дабошчука звалі) на памяць пра яго прабыванне ў гэты час у нашым доме, без найменшай шкоды адышоў са сваімі.

Чаго памяць мая не захавала і пра што мне маці мая распавядала, дык гэта пра тое, як у 5 гадоў веку майго брат мой, на год старэйшы, Каятан, памёр; калі ўсе аплаквалі смерць гэтага добрага хлопца (як пра яго казалі), я адзін радаваўся, што сукенкі, якія засталіся пасля яго і лепшыя за мае, мне дасталіся, — так з дзяцінства любоў да сябе мацнейшая ў людзях за ўсё! Але ўжо добра памятаю, як можа праз год пасля гэтага наша маці бацьку і ўсім нам рапавядала, што яе сын, нябожчык Каятан, паказаўся ёй пасля смерці, і калі яна яго выпытвала, на якім шляху была яе памерлая сястра, Каятан нібыта адказаў: «Вялікі ж там свет, матуля, і цяжка кожнага пабачыць!». Гэтае дасціпнае ратаванне, каб і праўдаў таго свету не выяўляць, і маці на пытанне адказаць, відавочна, надало праўдзівасці сыну, бо аб'яўленню Каятана верылі ўсе ў нашай ваколіцы. Але час дзяцінства быў часам забабоннай веры і прывідаў. Так мая пабожная маці пасля поўначы бачыла нейкую добрую душу (бо духі толькі да поўначы паказваліся), якая <...> праз шчыліну ў акне ўвайшла ў хату і схавалася за абіўку. Гэтая візія нямала каштавала бацьку, усім дзецям і чэлядзі, бо мы, знянацку абуджаныя, мусілі, кленчачы на працягу трох гадзін каля абіўкі, адгаворваць пацеры за гэтую душу, якой патрэбны быў ратунак. Бацька наш чуў, як святы Юзаф са свайго абраза, што вісеў у хаце, вымавіў слова «цнота»; у вігілію Божага Нараджэння, пасля поўначы, ён бачыў Найсвяцейшую Панну на небе ў жоўтым раброне, бачыў прывід, паказваў нам шмат бадзягаў, апантаных д'ябламі, расказваў шмат гісторый пра зачараваных людзей і ўраджаі, пра тых, хто аддаў душу д'яблу, пра чараўніцаў, пра бабкаў, якія вылятаюць на памяле праз комін на Лысую Гару, а таксама пра лунацікаў — калі ўночы на іх выпадкова трапляў праз шчыліну промень месяца, яны скрозь сон праз гэтую шчыліну па промені месяца выходзілі на двор; бацька слепа верыў прадказанням адносна таго, пад якою планетаю хто нарадзіўся, а таксама прадказанням кален-

дара; цыганак, што бадзяліся і варажылі па руках, па вачах, па фасолі, рассыпанай на стале, альбо па воску, растопленым і вылітым на ваду, найахвотней прымаў у дом. Чым больш у тыя часы верылі ў гэтыя забабоны і баяліся іх, тым больш мы з іх сёння смяемся. А нашыя бацькі, як калісьці грэкі або рымляне, усё бачылі ва ўяўных цудах.

Маці і бацька мае былі людзьмі найцнатлівейшымі і вельмі строга выконвалі хрысціянскія абавязкі. Хлусня ў дзецях каралася найбольш жорстка, праўды веры вывучваліся вельмі рана, у сям'і патрабавалася пашана адзін да аднаго і любоў; ды, нягледзячы на гэта, я сваю старэйшую сястру, што пасля воспы ўжо тры гады не магла бачыць, разгневаўшыся, часам называў сляпою. Пакараны за гэта ў той час, калі яна мяне ўзлавала, я гэтае слова «сляпая» не вымаўляў, а толькі вачыма на яе міргаў. Помсціць і для сваёй карысці зноў ашукваць — і гэта нараджаецца разам з намі. Другая мая сястра, калі мы пасля пацераў штодзённа на сняданак малако ці піва елі, скардзілася, што я з'ядаў больш, бо хутчэй, таму я наказаў ёй лыжкаю падзяліць малако напалову, каб яна сабе сваю палову трымала, а я тым часам, працягваючы есці, яе палову, што нібы праз лейку пераходзіла на мой бок, з'ядаў. Калі яна спала, я адвязаў з яе шыі бурштынавы крыжык і выменяў у жанчыны, якая праходзіла з ягадамі, за кварту ягадаў. Але нядоўга ўдавалася маё ашуканства; калі малацьбіт у нашай стадоле паклаў на парозе свой просты ножык, я яго ўпотай схаваў, але потым мой бацька заўважыў, што я ім штосьці стругаў, і спытаў, адкуль я яго ўзяў. Тады я пайшоў на звычайны выкрутас, што, маўляў, знайшоў яго. Бацька сабраў усіх дамачадцаў і спытаў, чый гэта ножык, і калі малацьбіт прызнаўся, што гэта


3
Urodziłem się roku 1741. dnia 4^go Oktobra w Ziemi Halickiey, Powiecie Kołomyiskim we Wsi Hołoskow, z Rodziców Andrzeia y Rozalij Karpińskich; zdarzenie osobliwe w dniu rodzenia się mego w Domu naszym przytrafiło się: Kozłowski sąsiad y Przyiaciel Oyca mego, przestrzegł kilko godzinami przed moim urodzeniem się, że w nocy sławny na Pokuciu rozboynik Olexa Dobosz czuk, razem z dwunastu swymi mołoycami miał dla rabunku napaść na dom rodziców moich. Już moią Matkę bolęści rodzenia napadły, a oyciec dom, z boiaźni może utracenia życia porzuciwszy, z czem mógł naprędce do bliskiego lasu schronił się, zostawiwszy rozporządzenie, ażeby okrutnemu temu gościowi z towarzyszami iego, chleb, ser, sól i go

ягоны, і дадаў, што я быў у стадоле, калі ён гэты свой ножык паклаў на парозе, мой бацька спачатку загадаў мне ўпасці ў ногі селяніну і перапрасіць яго за тое, што я яго засмуціў гэтым сваім крадзяжом. Я думаў, што на гэтым маім прыніжэнні ўжо ўсё скончылася, але было загадана прынесці дубец, і мой суровы бацька наказаў таму ж самаму малацьбіту адлічыць мне дзесяць розгаў, стаў над ім з кіем, каб у бічаванні мне не патураў, а потым сам узяў дубец і за сорам свой (як ён казаў) яшчэ мне дзесяць розгаў сваёю рукою даў, а скончыўшы, загадаў цалаваць яго руку, якая карала. О святая рука бацькі майго (хоць цябе ўжо няма з вельмі даўняга часу), я яшчэ і цяпер цябе ў думках цалую. Менавіта праз гэта суровае пакаранне я набраўся найбольшай агіды ў сваім далейшым жыцці да таго, што значыць чапаць чужое. Ты сурова караў, ойча, і ўсялякую ўпартасць, і ўсялякую хлусню, а паколькі першае абыходжанне з дзіцем найбольшае ўражанне ў ім чыніць, о як жа часта, калі я выйшаў у свет, мне ўзгадваліся твае наказы!

<...>

У пачатковай школе я між сваіх таварышаў быў найпершы да свавольстваў; як жа шмат было жыдам вокнаў павыбіваных; каля дома, дзе я жыў, — мінакоў, падманутых пакінутым сярод дарогі шасціграшовікам, прывязаным праз дзірку да доўгага скручанага белага конскага воласа; і, гледзячы праз вакно, калі мінак схіляўся, каб узяць шастак, я цягнуў раптам праз вакно за волас, а шастак разам з ім да мяне ўцякаў... Кроў жывая, якая да такіх і падобных свавольстваў пабуджала, адначасова мне і дапамагала, бо я і зададзеныя мне на памяць пенсы найлепш заўсёды вывучваў,

а гэтая пільнасць і нейкі гонар спрыялі таму, што ў школе не было лепшага за мяне навучэнца. Дырэктар мой, Надзяёўскі, які звычайна перад тым як ісці раніцаю ў школу, слухаў пенсы*, зададзеныя на памяць, аднойчы не хацеў мяне слухаць, бо сказаў, што чуў уночы, як я праз сон дасканала ўсе пенсы расказаў. Але тая ж самая жывасць зрабіла мяне горача прывязаным да маёй рэлігіі, прывітай бацькам; наслухаўшыся жыцій святых пустэльнікаў, узяўшы нейкую торбу і два хлябы, я ўпотай ад нашай гаспадыні ўцёк уночы ў дуброву, што знаходзілася паблізу Станіслававa, і хацеў з таго часу жыць у пустыні і харчавацца жалудамі, памалу да іх пры хлебе прызвычайваючыся. Тры дні мяне шукалі, на чацвёрты я сам прыйшоў, схамянуўшыся, што не змагу прывыкнуць да жалудоў. Розгі навучылі пустэльніка, што, жывучы між людзей, больш бліжняму паслугі зрабіць можна, а любіць яго ў пушчы — гэта значыць толькі гаварыць, а не чыніць. Калі я глядзеў у алтары на абраз св. Себасцьяна, сколатага стрэламі, да мяне зноў прыйшла думка быць мучанікам за веру; я ведаў, што Хатын, турэцкі горад у Валахіі, знаходзіцца не так далёка ад Станіслававa, задумаў абавязкова туды трапіць і з цэнтра гэтага горада апошнімі словамі лаяць Магамета, мусульманскага прарока; так абражаныя туркі напэўна б мяне за веру маю забілі. Калі я думаў пра спосабы ажыццяўлення гэтага праекта, мне прыйшло ў галаву спачатку праверыць, як я пераношу цярпенне ад ранаў; я ўваткнуў сабе ў сцягно вялікую шпільку. Ад болю крыку нарабіўшы і бачачы, што я такі нецярплівы, пакінуў і шпільку, і думку стаць мучанікам.

Любячы музыку, асабліва ігру на скрыпцы, я вельмі настойліва хацеў ёй навучыцца, але бацька з-за тагачасных забабонаў забараніў вучыцца іграць на скрыпцы, як і гаварыць па-французску. Зноў жа дрэннае разуменне рэлігіі, спалучанае з жаданнем навучыцца іграць на інструменце, выганяла мяне з дому ў Чанстахову, каб там, уцёкшы з дому, служыць некалькі гадоў пры касцёльным хоры і адначасова Н.[айсвяцейшай] П.[анне] Чанстахоўскай.

<...>

Скончыўшы двухгадовы курс філасофіі, я прыехаў на вакацыі да брата і бацькоў. Мы заўсёды мелі найвялікшую пашану да нашай маці і асабліва да грознага бацькі, у яго прысутнасці нельга было сядзець, стаяць да яго спінаю і нават абаперціся аб сцяну, стоячы перад ім. Я заўсёды памятаў пра ўсё гэта і ахвотна сабе прыкрасць учыняў, толькі б бацьку не абразіць. Хадзіў аднойчы стары па хаце, а я, з кімсьці размаўляючы, захаваў адносна яго ўсе згаданыя асцярожнасці, а ён у той час, падышоўшы да мяне, даў мне моцную аплявуху і зноў праходжваўся па хаце, як дагэтуль. Злачынствам было б спытацца, за што гэта; у сціплым маўчанні, з апушчанымі долу вачыма я чакаў канца; раптам бацька мой кінуўся да мяне на плечы і пачаў са слязьмі казаць: «Сыне мой! Я прасцяк, бо ўмею толькі чытаць і ледзь-ледзь пісаць, а ты ўжо філосаф, я толькі цябе выпрабаваў, як ты прымеш аплявуху ад бацькі свайго, але пакольку ты сціплы і пакорны, пакольку мяне ў старасці маёй шануеш (тут ён укленчыў пасярод хаты і ўзнёс рукі ўгору), Божа Абрагама, Ісаака і Якуба, паблагаславі гэтае маё дзіця, няхай жыве доўга, здаровае і шчаслівае». Я ўпаў да яго ног, расчулены і ўзрушаны яго словамі, забыўшыся нават пра аплявуху, якую атрымаў, а ён, стоячы, як і я, на каленях, расчулена казаў мне: «Сыне мой! Шануй людзей — і будзеш шанаваны, гэтая аплявуха, якую ты атрымаў ад бацькі, няхай будзе апошняю, дадзенаю табе ў жыцці, а калі дойдзе да таго, што хтосьці чужы так захоча цябе пакрыўдзіць, толькі кроў непрыяцеля твайго можа сцерці такую пагарду».

У хуткім часе пасля гэтага, можа, праз паўгода, гэты строгі, але аднадчасова і найцнатлівейшы бацька, развітаўся з намі; перад скананнем па некалькі разоў патрабаваў размовы са мною, і, бачачы, што ўжо блізка яго скон, толькі папрасіў маці: «Скажы там Францішку, няхай праўдаю кіруецца ў свеце», — і гэта былі яго апошнія словы, бо пасля іх ён сканаў; калі мне паведамілі пра гэта праз адлегласць у тры мілі, я, прыехаўшы, заспеў яго, ужо пакладзенага на катафалку; жалю свайго не выкажу, бо ён быў невымерны. Нават цяпер, калі я гэта ў старасці сваёй пішу, прымі мае слёзы, найлепшы ойча, якія я, расчулены, праліваю на ўспамін пра цябе, і калі там, дзе ты, напэўна, шчаслівейшы прабываеш, якая-небудзь радасць да вас з зямлі прыходзіць можа, у вас напэўна такія слёзы нашыя мілейшыя за нашыя марныя радасці!

*Пераклала з польскай мовы*
*Ганна Шаўчэнка.*
*Паводле: Karpiński, F. Pamiętniki / przedm. P. Chmielowskiego. – Warszawa: Drukarnia Granowskiego i Sikorskiego, 1808. – 170 s.*

* Пенса — раздзел граматыкі, які вучань павінен быў ведаць на памяць.

# АСОБА, ВАРТАЯ НАСЛЕДАВАННЯ

## Да 400-годдзя з дня смерці Мікалая Крыштафа Радзівіла




У складаным для Касцёла XVI ст. у Вялікім Княстве Літоўскім хіба толькі праз Божы Провід сталася так, што сярод кальвіністаў Радзівілаў з'явіўся той, хто перажыў навяртанне да каталіцкай веры. Больш за тое, як гарчычнае зерне, што дало вялікі плод, гэты чалавек здзейсніў пры жыцці вельмі шмат і для дзяржавы, і для сваёй сям'і, і асабліва для церпячых бліжніх. Напэўна, прыклад людзей найбольш заахвочвае іншых да вялікіх здзяйсненняў. Святыя даюць нам прыклад малітвы, любові, простасці. Але мы рэдка бярэм сабе ў прыклад духоўнасці і веры чалавека заможнага. Мікалай Крыштаф Радзівіл, якога называлі Сіроткам, і быў тым шчырым каталікам, які не цураўся актыўнай палітыкі, мецэнацтва і грамадзянскай актыўнасці. Жыццё яго было яркім, а смерць ён сустрэў пакорна, загадзя падрыхтаваўшыся да яе.

Сын Мікалая Радзівіла Чорнага і Альжбеты Шыдлавецкай, Мікалай Крыштаф нарадзіўся ў 1549 годзе. Яго бацька, самы знакаміты кальвініст Вялікага Княства, але таксама і адзін з найбольш вядомых тагачасных патрыётаў, «некаранаваны кароль», з'яўляецца адным з сімвалаў усяго XVI стагоддзя. Натуральна, што Мікалай Крыштаф выхоўваўся ў лепшых традыцыях свайго роду. За мяжой ён атрымаў добрую еўрапейскую адукацыю. Якраз падчас вучобы і адбылося навяртанне Мікалая Крыштафа ў каталіцтва, а пазней гэтаму прыкладу паследавалі ўсе ягоныя браты. Хутчэй за ўсё, да навяртання Радзівіла меў дачыненне вядомы езуіт Пётр Скарга. Відаць, пераход у каталіцтва не быў ні блюзнерствам, ні стратэгіяй маладога чалавека, бо нават пасля смерці бацькі ён яшчэ некаторы час не афішаваў сваёй прыналежнасці да канфесіі.

З самай маладосці князю даводзілася браць удзел у войнах супраць ворагаў Айчыны. Падчас вайны ВКЛ з Маскоўскай дзяржавай у 1568 г. ён удзельнічаў у аблозе ракі Улы, а пазней разам з каралём Стэфанам Баторыем ваяваў супраць Івана Жахлівага і нават быў паранены ў галаву. На час маладосці Мікалая Крыштафа прыпадаюць і падпісанне Люблінскай уніі 1569 года, і выбары манарха, і заключэнне Берасцейскай уніі 1596 года.

Якім моцным прыхільнікам Рэфармацыі быў Мікалай Радзівіл Чорны, такім гарачым дзеячам Контррэфармацыі стаў яго сын. Ён зрабіў каласальны ўклад у пашырэнне каталіцтва на нашых землях.

Дзякуючы Мікалаю Крыштафу Радзівілу Нясвіж атрымаў ад караля магдэбургскае права і герб. Тут пачалі будавацца шпіталі і дарогі, касцёлы і кляштары. Радзівіл фінансава дапамагаў бедным, за свой кошт утрымліваў каталіцкія храмы і капліцы ў Ерусаліме і нават праваслаўныя святыні. Сваёй прыгажосцю Нясвіж абавязаны менавіта гэтаму з Радзівілаў. Князь запрасіў італьянскага архітэктара Яна Марыя Бернардоні для пабудовы аднаго з першых на Беларусі храмаў у стылі барока — касцёла Божага Цела. Пры ім быў заснаваны езуіцкі калегіум, а ў сутарэннях святыні з'явілася крыпта для фамільных пахаванняў. Сёння там захоўваецца каля 70-ці трунаў Радзівілаў — гэта трэцяе па велічыні родавае пахаванне ў Еўропе. У 1583 г. было пачата будаўніцтва нясвіжскага замка, для якога Радзівіл сабраў галерэю партрэтаў, бібліятэку, збраёўню. У Вільні князь заснаваў першую каталіцкую друкарню, па яго ініцыятыве ў канцы XVI ст. распачалася праца над стварэннем мапы Вялікага Княства Літоўскага. Самым яскравым у жыцці Мікалая Крыштафа Радзівіла стала яго пілігрымка на Святую Зямлю. Пра яе мы можам даведацца з творча пераапрацаванага дзённіка падарожжа князя па Блізкім Усходзе *«Hierosolymitana peregrinatio*

*Illustrissimi Domini Nicolai Christophori Radziwili, ducis in Olyka, epistolis comprehensa»* («Перэгрынацыя Мікалая Крыштафа Радзівіла», 1583–1584).

Радзівіл Сіротка паабяцаў Богу здзейсніць гэтую пілігрымку, калі яму дазволіць здароўе. Падарожжа сапраўды перамяніла і духоўна ўмацавала Мікалая Крыштафа Радзівіла. Князь усё больш пераконваўся ў марнасці свецкага жыцця, ён паступова пачаў сыходзіць з палітычнай арэны і больш займацца дабрачыннасцю. Апошнія 15 гадоў жыцця Радзівіл Сіротка амаль не выязджаў з Нясвіжа, ён шмат маліўся, часта разважаў пра смерць і вечнае жыццё. Мікалай Крыштаф не страшыўся непазбежнага заканчэння зямнога існавання і грунтоўна рыхтаваўся да адыходу ў іншы свет.

Смерць і пахаванне князя Мікалая Крыштафа Радзівіла роўна 400 гадоў назад засталіся ўвекавечанымі ў гісторыі дзякуючы двум літаратурным помнікам стылю барока. Першы — гэта «Казанне на пахаванні М. К. Радзівіла» ксяндза Марціна Відзевіча, якое было прамоўлена падчас пахавання ў 1616 годзе. Другі помнік — «Даніна памяці М. К. Радзівілу» ксяндза Яна Аланда, агучаная на ўгодках смерці князя ў 1617 годзе. Ужо пасля прамаўлення гэтыя казанні з'явіліся ў друку выданнямі і дайшлі да нашых дзён. Наогул, з канца XVI ст. такіх помнікаў стала друкавацца ўсё больш. Апроч таго, што гэтыя творы маюць высокую мастацкую вартасць, яны змяшчаюць у сабе шмат біяграфічных дадзеных. Вядома, што ў такіх творах гаварылася як мага больш станоўчага — ствараўся амаль ідэальны вобраз памерлага чалавека, але ў гэтых казаннях не было няпраўды, бо яны прамаўляліся перад роднымі і сябрамі памерлага. Усе друкаваныя пахавальныя казанні маюць падобную форму і структурную традыцыю.

Казанне Марціна Відзевіча на пахаванні Радзівіла Сіроткі было надрукавана ў Вільні, у друкарні Лявона Мамоніча. Гэтая інфармацыя змешчана на тытульнай старонцы выдання, разам з загалоўкам, пералічэннем тытулаў Радзівіла Сіроткі, месцам і датаю прамаўлення (нясвіжскі езуіцкі касцёл, 9 красавіка 1616 г.) і іменем аўтара казання (езуіт Марцін Відзевіч). Пра святара амаль нічога невядома, акрамя таго, што ён быў аўтарам яшчэ аднаго пахавальнага казання і, хутчэй за ўсё, да канца жыцця служыў у Нясвіжы. Існуе яшчэ адно выданне гэтага казання ў друкарні Францішка Цэзарыя ў Кракаве, у якім на адваротным баку тытульнай старонкі змешчаны герб Радзівілаў, а пад ім — эпіграма на Мікалая Крыштафа Радзівіла, якая з'яўляецца па сутнасці пасланнем сынам князя. Далей у выданні змяшчаецца прысвячэнне казання сынам Мікалая Крыштафа Радзівіла — зварот кс. Марціна Відзевіча. Падпісаны ён 12 мая 1616 года, а значыць казанне было надрукавана пазней за гэтую дату.

У прысвячэнні сыны Радзівіла Сіроткі заахвочваюцца да наследавання бацькавых дабрачыннасцяў, пра якія аўтар распавядзе ў самім казанні. Некалькі старонак займае уступ да казання, дзе аўтар расказвае, пра што будзе прамаўляць у першай і другой частцы, якія так і названыя: «Частка першая» і «Частка другая». У кожнай з частак раскрываецца веліч асобы князя з розных бакоў: свецкага і духоўнага. У першым раздзеле распавядаецца пра багацце, гонар, славу ўсяго роду Радзівілаў. Аснову аповеду ў першай частцы складае сімволіка арліных крылаў, іх шырокага размаху. Менавіта арол з'яўляецца сімвалам роду Радзівілаў, зместам герба «Трубы». Два арліныя крылы – гэта багацце і тытулы, а іх размах — гэта славутыя прадстаўнікі роду. Ксёндз Марцін Відзевіч ўзгадвае, як бацька Мікалая Крыштафа перарваў лінію каталіцкай веры ў родзе і стаў кальвіністам, Але ён гаворыць з павагаю і пашанаю да гэтага славутага чалавека, не асуджаючы яго за змену канфесіі. У другой частцы казання раскрываецца сімволіка прыгожага пер'я і багатай аздобы арла. Кс. Марцін Відзевіч звяртае ўвагу на духоўны вобраз Мікалая Крыштафа Радзівіла. Аўтар падкрэслівае, што жыццё князя адпавядала чатыром асноўным чалавечым дабрачыннасцям у такім парадку: любоў да Бога, любоў да Айчыны, мудрасць і шчодрасць. Тое, што ў казанні цытуецца ўрывак з тастамэнта князя ад 1612 года, дзе даецца наказ пахаваць яго сціпла і без усялякіх свецкіх абрадаў, сведчыць, што воля Мікалая Крыштафа Радзівіла была выканана яго нашчадкамі. У канцы твора кс. Марцін Відзевіч заклікае, каб разам з ім аплаквалі смерць князя і кароль, і Айчына, і сыны князя, і падданыя, і жабракі з сіротамі і ўдовамі, і людзі духоўнага сану.

У пахавальным казанні кс. Марціна Відзевіча Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка паўстае як добры хрысціянін, чалавек глыбокай веры і вялікай пакоры. Мы бачым жаданне аўтара ідэалізаваць вобраз памерлага, але князь сапраўды адпавядаў такому апісанню. Магчыма, у гэтым і ёсць асноўная асаблівасць пахавальных казанняў — набліжэнне да агіяграфічнага канона, калі ўвекавечваецца памяць аб памерлым як асобе, вартай наследавання.

*Вольга Качалка*

**Вольга Качалка** — студэнтка V курса філалагічнага факультэта БДУ (спецыяльнасць «Беларуская філалогія»). Нарадзілася ў Лідзе, скончыла гімназію № 1 г. Ліды. Пад кіраўніцтвам кандыдата філалагічных навук дацэнта У. Кароткага даследуе каталіцкія пахавальныя казанні XVI—XVII стст. У 2014 г. скончыла Тэалагічны каледж імя св. Яна Хрысціцеля. З 2014 г. працуе катэхеткаю ў мінскай парафіі св. Францішка.

# Казанне на пахаванні яснавяльможнага пана яго мосці пана Мікалая Крыштафа Радзівіла,

## князя Рымскай Імперыі, [князя] у Альцы і Нясвіжы, графа ў Шыдлаўцы і Міры, ваяводы Віленскага, Шаўляйскага etc. старосты.

### Прамоўлена ў нясвіжскім касцёле *Societatis Iesu* 9 красавіка 1616 года ад нараджэння Хрыста Марцінам Відзевічам, тэолагам *Societatis Iesu*.

[Выдадзена] ў Вільні ў друкарні Лявона Мамоніча[1].



KAZANIE
Ná Pogrzebie
Jáśnie Oświeconego Páná Je° M. Páná Mikołáiá Chrisztofá Rádziwiłá
Kiążęciá Páństwá Rzymskiego
Ná Ołyce y Nieświeżu/
Hrábi ná Szydłowcu y Mir.
Woiewody Wilenskiego,
Száwelskiego etc. etc. Starosty.
Miáne w kośćiele Nieświeskim Societatis IESV.
9. dniá Kwietniá Roku Páńskiego
1616.
Przez
X. MARCINA WIDZIEWICZA.
Theologa Societatis IESV.
W WILNIE, w Drukárni Leoná Mámonicá.

Як рымляне Пампея і Аляксандра паводле іх высакародных спраў вялікімі назвалі, так несмяротнай памяці годны яснавяльможны князь, бацька вашых княжацкіх мосцей, будучымі пакаленнямі вялікім Радзівілам слушна можа быць названы паводле сваіх вялікіх спраў. І як паводле нашай прыказкі, яблык ад яблыні недалёка падае, так і паводле знакамітага паэта: «*Fortes creantur fortibus, & bonis: nec imbellem feroces Progenerant aquilae columbam*»[2].

Такую на вашы княжацкія мосці мае наша Айчына надзею, паколькі як і нараджэннем, так і ўсякай дабрачыннасцю ад такога годнага бацькі ніводнага кроку не адыдзеце, каб на вашых княжацкіх мосцях спаўнялася тое, пра што мудрэц напісаў: «Спыніў жыццё сваё бацька яго, і ён як быццам не памёр: бо пакінуў ён па сабе падобнага да сябе»[3]. Не трэба вашым княжацкім мосцям за ўзорамі княжацкіх дабрачыннасцяў далёка ад дому ад’язджаць. Усе боскія і людскія дабрачыннасці ў яснавяльможным князю, бацьку вашым, як у вытанчанай люстры, вашыя княжацкія мосці могуць дасканала ўбачыць і наследаваць. З гэтых дабрачыннасцяў некаторыя ў гэтым пахавальным казанні толькі коратка ўзгадаю. Спадзяюся, іншыя пра цудоўнае жыццё і яго вялікія дабрачыннасці напішуць цэлыя кнігі, я толькі тое, што пры пахаванні на працягу гадзіны дазволена сказаць, і чаго вашыя княжацкія мосці маглі б з увагай выслухаць, тут перад яснавяльможнымі асобамі вашых княжацкіх мосцей падношу і з пакорным паклонам ахвярую. Мае святарскія малітвы за літасцівай ласкі вашых княжацкіх мосцей старанна і пакорліва ўзношу.

12 мая 1616 года ад нараджэння Хрыста.

Вашых княжацкіх мосцей ніжэйшы слуга і багамольца к[сёндз] Марцін Відзевіч *Societatis Iesu*. <...>

Смерць вялікіх валадароў і высакародных князёў, асабліва добрых, жалосная, небяспечная для дзяржаваў, і для любога саслоўя вельмі жахлівая. Жалосная, бо ім служыць тое, што мудры кароль Давід казаў, аплакваючы смерць караля Саўла: «Дочкі ізраэльскія, плачце дзеля Саўла, які апранаў вас у раскошныя парпуровыя шаты, які даваў залатыя аздабленні для ўпрыгожвання вашага»[4]. <...>

Гэтая смерць небяспечная, бо на валадарах і князях, як на моцных слупах, трымаецца ўся дзяржава, і калі адзін слуп упадзе, то яна таксама часта марнее і слабее. Адзін добры валадар, які любіць слаўную Айчыну, лепшы за шматтысячнае зладжанае войска. «Ты адзін лічышся за дзесяць тысяч»[5], — сказана некалі Давідам. <...>

І, нарэшце, страшная смерць валадароў і князёў, бо калі не можа пазбегнуць смерці валадар, як моцны леў, і князь, як нябесны арол, уцячы ад яе не можа, то як жа перад ёю абароніцца чалавек убогі, ніжэйшага стану, падобны да слабога шчанятка ці малога верабейчыка? Ніяк! <...>

Быў у старажытныя часы такі звычай (як пішуць Дыён, Герадыян і Розій), што падчас пахаванняў цэзара або князя іх сыны над катафалкам пускалі арла, і калі той дасягаў вышыні, то гэта азначала, што душа цэзара або князя ўжо на нябёсах і знаходзіцца паміж багоў. Што яны чынілі па-язычніцку, то

мы сёння зробім па-хрысціянску. Выпусцім над гэтым высакародным і княжацкім целам у труне арла таго ў неба, апісанага боганатхнёным пракорам, і прыгледзімся да яго ў першай частцы [казання], якім вялікім з'яўляецца гэты арол, і з такімі шырокімі крыламі і іх размахам. А ў другой частцы [казання] звернем увагу на пер'е і іх пярэстасць, а таксама, што гэта за аздоба, якую высакародны арол бярэ на Лібане з кедра, і чаму выпадае нам разважаць найперш пра яго высакароднае княжацкае становішча, пра багацце, тытулы і высакароднасць сям'і яснаяльможнага памерлага князя, а потым пра княжацкія дабрачыннасці і яго высакародныя справы, а таксама пра несмяротную славу і хвалу ягоную. Прашу Пана і Збаўцу майго Езуса Хрыста аб дапамозе, а таксама вашай ласкі ўважлівага і нязмушанага слухання. <...>

**Частка першая.**

<...> Але ж звернем ужо ўвагу на два шырокія крылы гэтага арла. Што ж гэта за крылы? Святы Геранім разумее пад імі *potentiam humanam*, гэта значыць свецкую ўладу, якая заўжды складаецца з двух крылаў: адно з іх называюць *opes* — багацці, а другое — *honores* — тытулы або пасады, без іх ніводны валадар або князь, як бяскрылы арол, не можа ані дасягнуць вышыняў, ані лётаць высока, а вымушаны сядзець між людзьмі нізка на зямлі. <...>

Вось на такія [крылы] высакароднага арла, нашага яснавяльможнага памерлага князя, глядзім мы сёння. Гэты вялікі арол мае на дзіва шырокія крылы. Хто хоча ўбачыць ягоныя багацці, што азначае першае крыло, хай не глядзіць у скарбніцы і скрыні, бо не яны з'ўляюцца сапраўдным багаццем <...>, няхай жа скіруе свой позірк на магутныя, вялікія і абарончыя замкі, на гарматы і стрэльбы, на порах і ўсю ваенную артылерыю, на гарады і аркі, і мураваныя ратушы, на велічныя касцёлы і іх багатае аздабленне, на плябаніі, шпіталі і іншыя да тых падобныя рэчы: на прыгожы езуіцкі калегіум, на вытанчана аздобленыя кляштары айцоў бэрнардынаў, а таксама і пабожных сясцёр ордэну св. Бэнэдыкта, якія былі з каралеўскай раскошай заснаваныя, утрымліваліся і пабудаваныя князем у гэтым горадзе. У гэтым памкненні яго можна параўнаць з Канстанцінам Вялікім, першым будаўніком Божых храмаў. Не ўзгадваю тут і яго іншых княжацкіх дасягненняў, нечуваных дагэтуль. Хто ж не бачыць, якія выдаткі і ахвяраванні мусілі быць патрачаныя на агульныя дарогі, як сады, абсаджаныя разнастайнымі дрэвамі? <...> Мала было гэтаму арлінаму крылу Вялікага Княства Літоўскага і Кароны Польскай, яго размах дасягае ажно Святой Зямлі. <...> О залатыя і вартыя несмяротнай хвалы арліныя крылы!

Вось што можам сказаць пра другое крыло гэтага арла: яно вельмі шырокае, бо аздоблена найвышэйшымі годнасцямі Вялікага Княства Літоўскага. Хто можа быць адораны тытулам прыдворнага і найвышэйшага маршалка Вялікага Княства Літоўскага? Яго меў і яснавяльможны князь Мікалай Радзівіл. Хто з высакародных фамілій мае сенатарскую славу годнасці тытула ваяводы троцкага? Меў яе і яснавяльможны князь Мікалай Радзівіл. Падумайце, хто ж мог быць віленскім ваяводам ці першым сярод свецкіх сенатараў у Вялікім Княстве Літоўскім? Быў ім яснавяльможны князь Мікалай Радзівіл. Аднак не ён шукаў сенатарскіх пасадаў і тытулаў, але яны самі яго шукалі і чакалі яго паклікання. Сведчаннем таго з'ўляецца яго дзівосны ўчынак на вальным сойме, калі, будучы троцкім ваяводам, але не хочучы больш засядаць у Радзе, быццам бы ўжо ён хворы і яму цяжка кіраваць, з пачцівай ветлівасцю адмаўляўся ад сенатарскага стальца, чаго яснавяльможны кароль і ўвесь шаноўны сенат не мог нават дапусціць і ніякім чынам не хацеў надалей пра гэта разважаць. Сам каронны прымас, устаўшы з-за свайго месца, пасадзіў яго на гэты ж сталец, ад якога той адмаўляўся. Ці хто не ведае пра тое, як адмаўляўся ён таксама і ад пасады віленскага ваяводы! І пэўна б ніколі яе не прыняў, калі б не была на тое воля і загад яснавяльможнага караля. Так слава ганіцца за тым, хто ад яе ўцякае, як цень уцякае ад цела, якое яго даганяе. Пры чатырох каралях ён быў сенатарам. Маючы васямнаццаць гадоў, пры каралю Жыгімонту Аўгусту стаў надворным маршалкам і меў гэты тытул і пры каралю Генрыху, якога ён падтрымліваў і да якога вельмі паважліва, з гонарам быў выпраўлены. Найвышэйшым маршалкам зрабіў яго кароль Стэфан. А падчас шчаслівага праўлення вялікага караля і пана нашага Жыгімонта Трэцяга стаў кашталянам і ваяводам троцкім, а потым і віленскім [ваяводам]. З якой вялікай адказнасцю і павагаю падыходзіў ён да гэтых пасадаў! Але з-за недахопу часу не буду пра гэта расказваць, бо гэта ўсім вам вядома.

Паводле прарока, мае наш арол і трэцюю адметнасць – гэта шырокі размах яго крылаў. <...>

Тут нам выпадае ўспомніць пра яснавяльможны дом і дабраіроднасць князёў Радзівілаў, бо праз тое, што яна, як сонца, ясная і на свет гэты пасылае шмат промняў, злучана яна не толькі з высакароднымі князямі, але і з вялікімі каралямі, таму нам бы часу і слоў не хапіла на пералік усіх продкаў князя. Пра гэта сведчаць хронікі, а таксама шматлікія друкаваныя творы. Я тут толькі вельмі коратка працытую тое, што з'яўляецца агульным фундаментам і служыць умацаваннем святой каталіцкай веры. Але гэтыя справы хоць і прыгожыя, аднак не ўсім дастаткова вядомыя. Калі вялікі князь літоўскі Уладзіслаў Ягайла быў каранаваны польскім каралём і быў далучаны да каталіцкай веры, то сярод іншых уладароў прыняў с[вяты] хрост і стары Радзівіл, прапрадзед нашага яснавяльможнага князя. Падчас хросту ён выказаў жаданне, каб яго назвалі Мікалаем, часткова таму, што Вялікае Княства Літоўскае прызнала сваім апекуном святога Мікалая, і часткова таму, што князь ведаў пра ахвярнасць і шчодрасць гэтага святога біскупа да жабракоў. І, жадаючы ўшанаваць святога, Радзівіл

пакінуў запавет сваім нашчадкам, каб паводле яго прыкладу ўсе першародныя сыны пры хросце бралі гэтае імя. Быў князь віленскім ваяводам. Памёр, маючы каля ста гадоў. Пакінуў пасля сябе першароднага сына, які быў вядомы як Мікалай Першы. На сваёй зямлі ў Вільні, дзе ён жыў, пабудаваў кляштар святога Юрыя, касцёл пры ім і падтрымліваў іх. Зрабіў гэта з тою мэтаю, каб Пан Бог паблагаславіў і яго самога, і яго нашчадкаў. У чым і не памыліўся, бо і сам ён быў віленскім ваяводам, а таксама быў сведкам таго, як усе чатыры сыны падчас праўлення караля Жыгімонта Першага разам з ім у сенаце засядалі, што вельмі рэдка бывала. Жыў ён дзевяноста дзевяць гадоў, і старасць яго была такой прыгожаю і велічнаю, што на яго не мог наглядзецца кароль Аляксандр, брат Казіміра. І калі ў яго хто-небудзь распытваў, як ён да такой прыгожай і жывой старасці дажыў, то зазвычай адказваў, што заўсёды піў ваду. Перад смерцю паспавядаўшыся свайму сыну Альбрыхту, Віленскаму біскупу, і з яго рук прыняўшы Найсвяцейшы Сакрамэнт і апошняе намашчэнне, адышоў да Бога. Пахаваны ў Вільні ў касцёле айцоў бэрнардынаў, бо таксама і гэты касцёл пабудаваў разам з некаторымі вялікакняжацкімі ўладарамі.

Яго першародны сын, менаваны Мікалаем Другім, заступіў на пасаду віленскага ваяводы пасля свайго бацькі. Быў ён вялікім абаронцам каталіцкай веры і вызначаўся на дзіва палымянай пабожнасцю: калі здаралася яму ў які-небудзь дзень не ўдзельнічаць у святой Імшы, то ў якасці пакарання ў той дзень падтрымліваў сябе толькі хлебам і вадою. За вялікія дабрачыннасці быў уганараваны імператарам Максімільянам тытулам князя [Свяшчэннай] Рымскай Імперыі. Спачывае ў катэдральным касцёле святога Станіслава ў Вільні.

Другі ж сын, Альбрыхт, дзясяты Віленскі біскуп, які быў менаваны Міласэрным, быў чалавекам такой вялікай ахвярнасці, што кожны дзень у сваім доме карміў шмат жабракоў, прыслужваючы ім, сам разносіў для іх стравы і карміў іх. А калі здаралася так, што ў яго ў гасцях былі сенатары і паны, то прасіў іх, каб не абражаліся, што ён спачатку даваў пачастунак Хрыстовым гасцям (так называў ён жабракоў), а потым ужо бавіў час з імі.

Трэці сын Юрый пры жыцці свайго бацькі быў кіеўскім ваяводам і надворным маршалкам, а пасля бацькавай смерці – віленскім кашталянам і найвышэйшым гетманам. Нямала на хвалу Божую пабудаваў касцёлаў на бацькоўскіх землях. Пачынаючы з Вербнай нядзелі і аж да Вялікадня, заўсёды знаходзіўся ў касцёле ў роздуме і малітвах. А калі ў гэты час быў у Вільні, то, каб яму ніхто не перашкаджаў, маліўся ў кляштары. Яго дачку Барбару кароль Жыгімонт Аўгуст узяў за жонку і каранаваў яе ў Кракаве ў 1550 годзе.

Ян, чацвёрты сын Мікалая Першага, троцкі кашталян і найвышэйшы маршалак Вялікага Княства Літоўскага, дзед яснавяльможнага князя, славіўся ў маладым веку рыцарскім сэрцам і паходамі супраць татараў і Масквы. Таксама быў ён палымяным абаронцам святой каталіцкай веры, з Божым натхненнем наведаў базылікі святых Пятра і Паўла пры Папе Юлію Другім, якім быў з удзячнасцю прыняты і надзелены вялікімі адпустамі. Маліўся святарскімі штодзённымі малітвамі, падчас Вялікага посту амаль нічога не еў, сілкаваўся толькі хлебам, пасыпаючы яго попелам. Спачывае ў айцоў бэрнардынаў у Вільні, дзе і знаходзіцца яго надмагілле.

[Ян Радзівіл] з Ганнай Кішкаю пакінуў першароднага сына Мікалая, бацьку нашага яснавяльможнага князя. Быў ён адначасова віленскім ваяводам, а таксама найвышэйшым маршалкам і канцлерам Вялікага Княства Літоўскага, быў у вялікай ласцы ў караля Жыгімонта Аўгуста, які прызначыў яго паслом да імператара Карла V і да Фердынанда, імператара Свяшчэннай Рымскай Імперыі. Падчас гэтага пасольства ад каралеўскага імя справіў заручыны з дачкою караля Фердынанда Кацярынай і суправаджаў яе з велічнай і ўзнёслай раскошаю ў Кракаў. Таксама прысутнічаў ён пры хросце эрцгерцага Эрнэста, сына на той час чэшскага караля Максімільяна. Тройчы быў пасланы ў Інфлянты. Утрымліваючы за ўласны кошт войска, на пэўных умовах вярнуў да паслушэнства і падпарадкавання каралю Аўгусту Рыгу, замкі, гарады і большую частку той зямлі. Прыбыўшы разам з ім у Вільню, рыжскі арцыбіскуп Альбрыхт, маркграф Брандэбургскі і магістр крыжакаў Гатард прысягнулі каралю і сенатарам. Ён першы, хто перадаў каралю залаты крыж, які насіў на шыі магістр крыжакоў, а таксама пячатку, на якой быў выбіты абраз Найсвяцейшай Панны, якая на асле ўцякае ў Егіпет. Памёр, о, каб быў жа ён у праўдзівай веры сваіх продкаў, бо ў ім перарвалася лінія каталіцкай веры, якая з самага пачатку заўсёды непарыўна захоўвалася ў гэтай высакароднай сям'і, але адрадзілася, ізноў жа, праз чатырох сыноў, якіх па сабе пакінуў, пра што скажу потым. Памёр, нагадваю, у Лукішках, што ў Вільні, 20 красавіка 1567 года. І гэта вельмі сцісла пра славутых продкаў нашага яснавяльможнага князя.

Хто ж не ўспомніць годных вечнай памяці яго трох родных братоў і вялікіх сенатараў? Юрый, святы кардынал рымскага Касцёла, быў спачатку Віленскім, а потым Кракаўскім біскупам. Ягонай добразычлівасці, мудрасці, устрыманасці, жыццёвай праведнасці не маглі надзівіцца і самі працаўнікі Божага Касцёла. Два іншыя [браты], Альбрыхт і Станіслаў, настолькі цудоўна і слаўна спраўляліся з абавязкамі на пасадах найвышэйшага маршалка В[ялікага] К[няства] Л[ітоўскага] і жмудскага старосты, якім быў апошні выбраны, што і па сённяшні дзень Карона Польская і В[ялікае] К[няства] Л[ітоўскае] не перастаюць іх успамінаць. <...>

Ці ж не з'яўляюцца яснавяльможныя князі, ягоныя сыны, на якіх мы тут з вялікай жальбаю пазіраем, уласнаю крывёю і целам гэтага высакароднага арла? Усе чацвёра з Божай ласкі, як бачым,

былі палымянымі абаронцамі каталіцкай веры, а таксама сведчаць аб сваім праве быць спадчыннікамі бацькоўскіх дабрачыннасцяў, пра нешта ж большае не дазваляе казаць ні іх, ні мая сціпласць. <...>

**Частка другая.**

<...> Як пер'е ў арла, так і дабрачыннасці ў чалавека. «Пер'е, — кажа св. Аўгустын, — гэта дабрачыннасці душы, добрыя ўчынкі, годныя справы. Як арол непрывабны без пер'я, так і чалавек непрыгожы без дабрачыннасцяў. Бо прырода, даючы пер'е як іншым птушкам, так і арлу, прадвызначыла дзве сутнасці, *tegumentum & ornamentum*, покрыва і аздобу, тую ж уласцівасць мае і дабрачыннасць. <...>

Што ж тут можна сказаць пра дабрачыннасць таго разнастайнага пер'я? Яснавяльможнаму князю Мікалаю Радзівілу ўласцівыя ўсе дабрачыннасці, ды ў такой меры, што хутчэй бы хто-небудзь змог падлічыць пёры арла, чым яго добрыя ўчынкі. <...>

Першая [дабрачыннасць] — адданасць Богу, якая мае два складнікі — веру і пабожнасць. Вера з'яўляецца фундаментам усіх дабрачыннасцяў. <...>

Патрэбна яна асабліва ўладарам і князям, як для іх саміх, каб не загінулі, «бо хто не паверыць, будзе асуджаны»[6], так і для падданых, якія ўсе разам ідуць за ўладаром, каб ніхто іх не звёў на большую згубу. У гэтым наш яснавяльможны князь спазнаў на сабе дзівосную ласку і Провід Божы: бо, народжаны бацькамі, што былі ў ерасі, і выхаваны на працягу многіх гадоў як у сваім доме, так і на чужыне, у акадэміях сярод такіх жа слухачоў і слугаў, маючы дзевятнаццаць гадоў, не толькі сам да святой каталіцкай веры прыйшоў, але і таксама братоў сваіх родных за сабою, як магніт жалеза, да гэтай святой веры прыцягнуў. Дапамог яму ў гэтым ліст слаўнай памяці яго бацькі, напісаны перад смерцю, у якім скардзіўся на сваіх міністраў, бо настолькі далёка яго давялі ў веры, што ўжо не ведаў, у што верыў. Дапамог таксама і той дзівосны цуд, калі ў пятніцу перад Вербнай нядзеляю, едучы з Варшавы ў Вільню, загадаў спекчы каплуноў, якія, ужо прыгатаваныя, ляжалі на стале, але раптам пачалі рухацца і, пабегаўшы па стале, упалі на падлогу. Быў непарушным і палымяным у святой каталіцкай веры, і ў размовах з ерэтыкамі настолькі моцна і аргументавана яе абараняў, што не маглі перад ім ні роту адкрыць, ні слова сказаць. Аднаго слугу, калі той пачаў блюзнерыць на Найсвяцейшы Сакрамэнт, жорстка перапыніў і тут жа выгнаў са свайго двара, кажучы: «Не хачу такога слугі, які блюзнерыць на майго Пана».

Дзе ж знайсці тыя словы, каб апісаць яго дзівосную пабожнасць, незвычайную для нашага часу? У росквіце сваіх гадоў, з нашых далёкіх краёў, з вялікай небяспекаю для здароўя, з малою світаю, пакінуўшы бацькоўскі дом, сяброў, усе свае скарбы, па зямлі і па моры, праз дзікія і небяспечныя народы князь з пачуццём годнасці выпраўляецца ў дарогу: ідзе ў Ерузалем, дзе наведвае святыя мясціны і Гроб Пана. <...> Якое ж было суцяшэнне для яго душы, калі наведваў гэтыя святыя месцы! Сведчаць пра гэта яго кнігі, у якіх апісвае сваю перэгрынацыю, да іх вас, шаноўныя, і адсылаю. Ёсць там што для чытання і навучання. Паглядзім жа тым часам на іншае сведчанне яго пабожнасці. Ідучы ў Ерусалім, дзе былі менавіта святыя месцы, усё наведваў пешшу, а будучы ў Італіі, на голых каленях маліўся ў найбольш знакамітых касцёлах. На пачатку кожнага месяца і ў святыя ўрачыстасці як Збаўцы нашага, так і Прачыстай Панны, найперш з вялікаю скрухаю паспавядаўшыся, прыступаў да Найсвяцейшага Сакрамэнту. І здзяйсняў гэта з такою пакораю і пашанаю, што часам на працягу ўсёй ночы не зводзіў вачэй, разважаючы пра наступнае прыняцце Камуніі. Часта ноччу слугі бачылі яго на каленях каля ложка перад абразом нашага Збаўцы. І калі яго папярэдзілі, каб доўгім стаяннем на каленях і недасыпам не пашкодзіў свайму здароўю, то адказаў: «Лепш маліцца да Бога, чым марна гнісці ў ложку». О, якое ж дасціпнае і годнае гэтага князя выслоўе! <...>

Праз любоў да Бога нараджаецца любоў да Айчыны. Бо добра сказаў Геракліт, што Айчына з'яўляецца пэўным чынам другім Богам, а таксама і першым і вялікім айцом. <...>

Верным знакам шчырай любові да Айчыны з'яўляецца тое, што [чалавек] не шкадуе не толькі сваёй маёмасці, але і ўласнага здароўя, каб зберагчы мілую Айчыну. У чым і быў на дзіва адданым яснавяльможны князь, бо не толькі выдаткоўваў сродкі на вайскоўцаў у паходах, але і сам вылучаўся праз удзел у некалькіх значных выправах і бітвах супраць ворагаў Айчыны. Асабліва праславіўся пры Жыгімонту Аўгусту ў бітве пад Ульскім замкам. Потым пры каралю Стэфану, калі той быў з войскам каля Гданьска, а Масква нішчыла Інфлянты ў 1577 годзе. У 1579 годзе, калі кароль Стэфан, прыбыўшы ў Вялікае Княства Літоўскае пад Полацк, выправіўся супраць агульнага для Айчыны непрыяцеля, ён [М. К. Радзівіл] са сваім атрадам рушыў за каралём. І там, мужна змагаючыся з ворагам, быў паранены ў галаву з пулгака. Дзякуючы Божай ласцы цудоўным чынам вылечыўся ад небяспечнага ранення. Таксама ў 1581 годзе, хоць слабы і хворы, побач з каралём знаходзіўся цэлае лета ў абозе пад Псковам. Ні для каго не з'яўляецца сакрэтам, што падчас Рокашу, хочучы мужна памерці як за Айчыну, так і за караля, Божага памазанніка, старац паўстаў перад ім у даспехах з дабытаю зброяй. Якое ж прыгожае пер'е нашага арла!

Трэцяй княжацкай дабрачыннасцю была вялікая мудрасць. Кароль Альфонс жадаў, каб уладары былі дасведчанымі ў трох навуках: этыцы, палітыцы і гісторыі. А наш князь меў досвед не толькі ў гэтых навуках, але і ў іншых, якія розум і дасціпнасць паліруюць. Дасканала ведаў матэматыку і геаграфію, а ў лекарскай навуцы самі дактары не маглі наслухацца яго цудоўных размоў. <...> Ахвотна цікавіўся новымі, у тым ліку навуковымі,

кнігамі, якія выходзілі ў свет, і загадваў іх набываць, а таксама чытаў іх з вялікай радасцю. Ведаў самыя розныя мовы і, падобна Мітрыду, мог вельмі добра, без перакладчыка, размаўляць з людзьмі розных народаў. У сенаце даваў мудрыя парады, і здалёк, быццам арліным вокам, выглядаў, што павінна здарыцца або адбывацца, і не пераставаў перасцерагаць. Мудрым словам і сваім аўтарытэтам нязгоды і непаразуменні паміж вялікімі сем'ямі стрымліваў і ўлагоджваў. <...>

Што ж тут можна расказаць пра яго шчодрасць, чацвёртую княжацкую дабрачыннасць, і што можна распавесці пра ягоную ахвярнасць? Аднойчы ў Піфагора спыталі: «Якім чынам хто-небудзь можа быць падобным да Бога?». Ён адказаў: «У тым выпадку, калі б праўдзіва любіў праўду і ўсім чыніў дабро». Такім быў яснавяльможны князь. <...>

Не было ані просячага міластыню жабрака, ані шляхціца з патрэбаю, ані абнішчалага мешчаніна або падданага, не было ніводнага чужаземца або вандроўніка, які б трапіўся яму на вочы і не атрымаў бы з яго ахвярнай рукі шчодрых падарункаў. У кожную нядзелю, апрача грошай, загадваў раздаваць хлеб усім жабракам, што былі каля касцёла. <...> На выкуп хрысціянаў з турэцкай няволі ў манахаў, а на пасаг бедным нявестам у мяшчанаў тут, у Нясвіжы, немалыя вызначаныя сродкі аддаваў, не абмяжоўваючыся часам. Пра яго шчодрую міласціну (не буду нават астатняга ўспамінаць) сапраўды сведчыць касцёл святога Казіміра ў Вільні і наша люблінская акадэмія і калегіум. <...>

Бо пытаю ў вас, шаноўныя, каму ж, нарэшце, сёння ў гэтым Божым доме мы разам аддаём апошнюю даніну памяці? Яснавяльможнаму князю Радзівілу або нейкаму ўбогаму пілігрыму? Гледзячы на нябожчыка, бачу ўбогага пілігрыма: цела апранутае ў простую сутану і звычайны плашчык, а галава пакрытая пілігрымскім капелюшом. *Вось сапраўдны пілігрым.* Скіраваўшы свой позірк на Касцёл, бачу кожнага ў жалобным адзенні, як яны моцна аплакваюць смерць свайго фундатара і ахвярадаўцы. *Вось сапраўдны князь.* Жабракі, а іх каля дваццаці, нясуць з плачам яго цела да месца пахавання. *Вось сапраўдны пілігрым.* Шмат яснавяльможных князёў і шаноўных сенатараў, заліваючыся слязьмі, ідуць за яго целам. *Вось сапраўдны князь.* Не бачу ніводнага герба на труне, ані аксаміта, ані палотнаў, ані катафалка, ані пампезнасці. *Вось сапраўдны пілігрым.* Бачу княжацкіх арлоў, намаляваных над студэнцкімі вершамі, шмат свечкаў вакол касцёла і на ліхтарах, безліч паходняў у руках засмучанага народа. *Вось сапраўдны князь.* Зачытаю нагробныя словы, якія ён сам сабе пры жыцці загадаў выгравіраваць і нават не ўпамянуў сваіх княжацкіх тытулаў, а назваўся пілігрымам. Паслухаем яго:

«Ведаючы, што з'яўляюся кармам для чарвей, жывучы ў гэтай даліне слёз, сабе гэта ўстанавіў. Магіла захоўвае цела, неба – душу, нашчадкі – благаслаўлёную памяць». <...>

О, якая ж дзівосная пакора, якую далей не магу выказаць і выразіць! Выкарыстаю яго ўласныя словы, пакінутыя ў апошнім тастамэнце, дзе ў канцы так кажа:

«І тут прашу аб пахаванні майго грэшнага цела. Хачу, каб быў пахаваны ў нясвіжскім касцёле Божага Цела, які належыць ордэну езуітаў, у дольнай капліцы Святога Крыжа, дзе падрыхтаваў сабе і нашчадкам сваім пры жыцці [месца] на хвалу Божую. Там я ўжо пахаваў сваю жонку і двух сыноў, Мікалая і Крыштафа. І дзе б я ні памёр (верагодна, што з гэтых родных краёў на чужыну ўжо не ад'еду, але хоць бы і памёр, выехаўшы куды-небудзь), прашу, каб мяне перанеслі ў Нясвіж без аніякай пышнасці <...>. Каб маё цела не было прыбрана ніякімі ўбраннямі, апроч майго пілігрымскага адзення, у якім я быў каля Святога Гроба нашага Збаўцы Езуса Хрыста». <...>

Шчаслівы Арол! Жадаем табе як хвалы на Небе ў Бога, так і тут, на зямлі, сярод людзей, несмяротнай славы.

А хто ж не аплаквае ўсім сэрцам смерць тваю, яснавяльможны княжа? А каму ж не паслужыла сваёй чалавечнасцю і дабрачыннасцю твая дзівосная цнота? Аплаквай, найяснейшы міласцівы кароль, прыхільніка тваёй вялікай годнасці і вялікасці. Аплаквай, мілая Айчына, вышэйшага сенатара. Святы Каталіцкі Касцёл – палымянага абаронцу. Аплаквайце, яснавяльможныя княжычы, добрыя сыны, наймілейшага бацьку, які так дасканала дбаў пра вашае добрае выхаванне і нічога дзеля вас не шкадаваў. Аплаквайце, верныя слугі, і вы, падданыя, вельмі добрага і ласкавага ўладара. Аплаквайце, удовы, сіроты, жабракі і шпіталі, міласэрнага ахвярадаўцу. Аплаквайце, святары, манахі і манахіні, вялікага дабрадзея і вашага фундатара. Давайце ж усе будзем аплакваць і шкадаваць аб яго смерці, бо ён даў нам прыклад дабрачыннасці і пабожнасці жыцця. О добры Езу, учыні для нас усіх, каб мы ў свой час сустрэліся з ім на нябесным Лібане ў Тваім Валадарстве, дзе Ты з Айцом і Святым Духам Бог у Тройцы адзіны валадарыш на векі. Амэн.

Хвала Богу ў Тройцы Адзінаму.

*Пераклад са старапольскай мовы Вольгі Качалкі.*

---

1 Kazanie na pogrzebie Iasnie Oświeconego Pana je[go] m[ości] pana Mikołaia Chrisztofa Radziwiła książęcia Państwa Rzymskiego na Ołyce y Nieświeżu, hrabi na Szydłowcu y Mir, woiewody Wilenskiego, Szawielskiego etc. starosty. Miane w kościele nieświeskim Societatis Iesu, 9 dnia kwietnia roku Pańskiego 1616. Przez x. Marcina Widziewicza, theologa Societatis Iesu, w Wilnie, w drukarni Leona Mamonicza. [b. r.]

2 «Мужныя нараджаюцца мужнымі і добрымі; лютыя арлы не спараджаюць неваяўнічага голуба». (Horat. 4. car. 4.).

3 Экл. 30, 4. Біблія ў перакладзе кс. Ул. Чарняўскага.

4 2 Сам. 1, 24. Біблія ў перакладзе кс. Ул. Чарняўскага.

5 2 Сам. 18, 3. Біблія ў перакладзе кс. Ул. Чарняўскага

6 Мк 16, 16. Біблія ў перакладзе кс. Ул. Чарняўскага.



Алена Вальчук

# Іспанія і іспанцы ў «Дыярыушы» Ювеналія Харкевіча

«Дыярыуш» Ювеналія Харкевіча, створаны ў другой палове XVIII ст. нараджэнцам вялікалітоўскіх земляў, што ўваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай, належыць да адзінкавых мемуараў, у якіх не толькі ўзгадваецца далёкая Іспанія, але і даецца апісанне яе насельніцтва.

Аўтарства гэтага твора, поўная назва якога «Дыярыуш іспанскага падарожжа з Вільні ў горад Валенсію на генеральную капітулу ордэну меншых братоў св. Францішка, г. зн. бэрнардынаў, здзейсненага ў 1768 годзе», належыць Ю. Харкевічу, чыё жыццё і святарскае служэнне былі звязаныя з беларускім краем. Тым не менш, даводзіцца канстатаваць, што ён і сёння застаецца малавядомай асобай для даследчыкаў, а яго даробак у літаратурна-мастацкай творчасці не цалкам улучаны ў айчынны культурны кантэкст.

На жаль, інфармацыя, якая датычыць Ю. Харкевіча, мае фрагментарны характар. Так, згадваючы яго імя ў «Вандроўках па маіх былых ваколіцах» у сувязі з актывізацыяй кнігавыдавецкай дзейнасці ў асяроддзі нясвіжскага духавенства ў XVIII ст., У. Сыракомля засведчыў толькі тое, што бэрнардын спрычыніўся да выхаду ў свет «Праведніка ў нябесную айчыну, які трымае ў сабе статут трэцяга закону айца святога Францішка» (1758)[1].

Згодна са звесткамі, прыведзенымі Б. Мігдалам, Ю. Харкевіч нарадзіўся ў 1720 г. на Літве[2]. Застаецца невядомым, у якой канкрэтна мясцовасці ён прыйшоў на свет, хто былі яго бацькі, у якіх умовах адбываўся рост і сталенне юнака, які адчуў пакліканне да святарства і ў 1740 г. уступіў у бэрнардынскі ордэн. Ужо будучы прафесарам тэалогіі Ю. Харкевіч з 1758-га па 1766 г. выкладаў у ордэнскіх семінарыях у Вільні і Нясвіжы. Абраны ў 1766 г. літоўскім правінцыялам, ён прымаў удзел у генеральнай капітуле ордэну, якая адбылася ў 1768 г. у Валенсіі. Каб трапіць у Іспанію і затым, залатвіўшы ў Рыме справу, звязаную са спрэчкай віленскіх бэрнардынаў з біскупам І. Масальскім адносна маёмасці святаміхальскага кляштара ў Вільні, вярнуцца на радзіму, яму давялося праехаць праз Чэхію, Аўстрыю, Баварыю, Францыю, Венецыю, Італію. Свае ўражанні ад наведвання гэтых еўрапейскіх краінаў літоўскі правінцыял даволі падрабязна апісаў у «Дыярыушы».

Ю. Харкевіч браў актыўны ўдзел у адміністрацыйным жыцці свайго ордэну. У 1769–1772 гг. ён выконваў абавязкі кусташа літоўскай правінцыі, а пасля спачыну правінцыяла Антонія Гняўчынскага ў 1774–1775 гг. быў яе вікарыем. Нягледзячы на тое, што ў 1775 г. на віленскай капітуле Ю. Харкевіча абралі правінцыялам, ён не прыняў пасаду і на працягу трох гадоў выконваў абавязкі кусташа. Тым не менш, у другі раз святар стаў правінцыялам і служыў ім у перыяд з 1778-га па 1781 год. У 1775 г. адбыўся візіт Ю. Харкевіча ў Вялікапольшчу, а ў 1781 г. — у рускую правінцыю. У 1787 г. ён прымаў удзел у капітуле, якая адбылася ў Троках, дзе старшынстваваў[3]. Розныя крыніцы сыходзяцца ў тым, што жыццёвы шлях Ю. Харкевіча закончыўся ў

---

**Алена Вальчук** — кандыдат філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік аддзела ўзаемасувязяў літаратур філіяла «Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы» НАН Беларусі. Нарадзілася ў Брэсце. Закончыла філалагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.С. Пушкіна (1999), аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (2002). У 2010 г. абараніла кандыдацкую дысертацыю па тэме «Біблейскія матывы ў творчасці Янкі Купалы». Даследуе беларуска-іспанскія літаратурныя ўзаемасувязі, вывучае ўплыў хрысціянства на станаўленне светапогляду Янкі Купалы, біблейскія матывы ў творчасці паэта.

1788 г.[4], але існуюць разыходжанні ў вызначэнні месца яго спачыну, абумоўленыя, хутчэй за ўсё, недакладнасцю, дапушчанай К. Кантакам, які ў выданні «Польскія бэрнардыны» адзначае, што гэта адбылося ў Слоніме[5], а ў «Польскім біяграфічным слоўніку» падае звесткі пра адыход Ю. Харкевіча ў Вільні[6]. Верагодна, інфармацыя з першай крыніцы перайшла ў артыкул Б. Мігдала, а з другой — у працу Б. Рока[7].

Кніга Ю. Харкевіча «Праваднік у нябесную айчыну» — гэта падручнік для францішканскіх тэрцыяраў, дзе пададзеныя матэрыялы статута трэцяга закону і тлумачэнні да іх. Выданне знаёміць з жыццяпісамі некаторых францішканскіх святых і благаслаўлёных на кожны дзень года. Акрамя таго, у яго ўвайшлі медытацыі, душапастырскія павучанні, у якіх закранаюцца пытанні эсхаталогіі і хрысціянскага ўзаемаразумення. У канцы кнігі аўтар змясціў значную колькасць малітваў, а таксама набажэнства за памерлых. Выдадзеная ўпершыню ў Вільні езуітамі, праца Ю. Харкевіча ў 1772 г. была паўторна надрукаваная дзякуючы піярам[8].

Пабачылі свет яшчэ два казанні гэтага аўтара. Першае, прыклад барочнага красамоўства, агалошанае ў 1761 г. падчас набажэнства ў другі дзень урачыстасці, прысвечанай інтрадукцыі ў віленскую катэдру рэліквіі трох святых аўгустынаў, выйшла разам з пяццю іншымі казаннямі, прысвечанымі гэтай падзеі, у спецыялізаваным выданні. Другое — тыповы панегірык на пахаванне Ганны Тышкевіч Кацелы, надрукаваны ў 1772 г. у віленскай друкарні піяраў[9].

Паводле сведчанняў Б. Рока, у бібліятэцы Віленскага ўніверсітэта яму ўдалося натрапіць на некалькі рукапісаў Ю. Харкевіча, што даўней знаходзіліся ў бібліятэцы віленскіх бэрнардынаў, — лекцыі па дагматычнай тэалогіі. Акрамя таго, захаваўся рукапіс з казаннямі і павучаннямі 1754—1777 гг.

Б. Рок адшукаў польскамоўны «Дыярыуш», у якім не ставала першай старонкі. Менавіта ён быў узяты за аснову тэксту, прызначанага для друку ў «Гісторыі айчыннай і замежнай дабрачыннасці» ў 1824 годзе. Звяртаючы ўвагу на хібы тэксту, якія пабачыў свет, навуковец адзначае мноства пропускаў, абумоўленых тым, што «выдавец, напэўна, з-за цэнзуры, вымушаны быў апусціць усякую інфармацыю аб становішчы ў Рэчы Паспалітай у часы барскай канфедэрацыі»[10].

Даследаваўшы рукапіс, Б. Рок прыйшоў да высновы, што Ю. Харкевіч напісаў яго па вяртанні на радзіму, абапіраючыся на запісы, акрэсленыя самім аўтарам як «падарожныя манускрыпты»[11]. Навукоўца знайшоў у тэксце апісанні, зробленыя святаром непасрэдна ў месцы знаходжання. Паводле Б. Рока, Ю. Харкевіч, наведаўшы скарбніцу ў марыянскім санктуарыі ў Отынгу, па вяртанні ў мясцовы кляштар апісаў некаторыя каштоўнасці, якія яму ўдалося пабачыць, пашкадаваўшы, што немагчыма было ўсе іх запомніць[12].

Фактычны матэрыял, а таксама развагі аўтара пра падзеі, якія адбыліся пазней за час выправы, сведчаць пра тое, што рукапіс быў створаны ў Вільні. У гэтым кантэксце звяртае на сябе ўвагу адна з неадпаведнасцяў, звязаная з апісаннем горада Нім. Упершыню Ю. Харкевіч згадвае яго, паведамляючы пра сваю выправу ў Іспанію, хаця пазней прызнаецца, што насамрэч наведаў гэты горад, калі праязджаў праз поўдзень Францыі, накіроўваючыся ў Італію[13].

Імкнучыся пашырыць інфармацыйную прастору сваёй працы, пры яе напісанні аўтар звяртаўся да вядомых у Рэчы Паспалітай XVIII ст. геаграфічных выданняў, сярод якіх вылучаецца кампендыум У. Любенскага (1703–1767) «Свет ва ўсіх сваіх вялікіх і малых частках», выдадзены езуітамі ва Уроцлаве ў 1740 годзе. У кнізе, падрыхтаванай вядомым рэлігійным дзеячам (прайшоў шлях ад кракаўскага і гнезненскага каноніка да біскупа, арцыбіскупа, а затым і Прымаса Польшчы), пададзена апісанне розных частак свету, заснаванае на звестках з розных геаграфічных выданняў, а таксама на ўласных назіраннях У. Любенскага, які здзейсніў вялікае падарожжа па Еўропе. Нягледзячы на тое, што яму не ўдалося патрапіць ў Іспанію, ён прысвяціў цэлы раздзел у кнізе гэтай краіне[14].

Акрамя геаграфічнай інфармацыі, аўтар гаворыць пра гісторыю Іспаніі, пачаўшы з біблейскай легеды пра паходжанне іспанцаў ад пятага сына Яфета — Тувала, згадвае пра часы панавання на Іберыйскай паўвыспе Картахены і Рыма. Аднак, прыгадаўшы імёны шматлікіх хрысціянскіх уладароў Сярэднявечча перыяду фармавання асобных каралеўстваў, ён нічога не паведаміў пра арабаў і габрэяў, чый унёсак у гісторыю краіны быў не менш значны. Тэндэнцыйнасць аўтара, праяўленая ў ігнараванні нехрысціянскага складніку быцця іспанскага грамадства, садзейнічала таму, што перад чытачом Рэчы Паспалітай паўстала вельмі сціслая версія гісторыі Іспаніі.

Значную ўвагу У. Любенскі надаў палітычнаму ўладкаванню гэтай краіны. Што датычыць геаграфічных дадзеных, то У. Любенскі згадаў пра 13 правінцый каралеўства, падаючы назвы шматлікіх горадоў, ахарактарызаваў кліматычныя ўмовы краю і яго прыродныя багацці[15].

Найбольшую цікавасць выклікае апісанне жыхароў Іберыйскай паўвыспы. Так, паводле У. Любенскага, «іспанцы — дзікія, суровыя і неахайныя, але ўмеркаваныя ў ежы і піцве, разважлівыя — у рашэннях трывалыя і ўстойлівыя ў сваіх звычаях. Яны здаровыя, у досціпе спрактыкаваныя і глыбокія, але часам гультаяватыя, асабліва нядбайныя ў земляробстве, навуцы, купецтве, рамесніцтве, гандлі і на вайне; звычайныя людзі здатныя на крадзеж, але гэта датычыць толькі тых, якія з маладосці не вучацца, бо з адукаванай іспанскай моладзі паходзіць шмат разумных людзей, паколькі маем столькі іспанскіх кніг і святых»[16]. Такое супярэчлівае і адстароненае бачанне іспанцаў, на думку Б. Рока, было абумоўлена тым, што

У. Любенскі, «не маючы асабістага досведу стасункаў з іспанцамі, карыстаўся многімі характарыстыкамі жыхароў гэтай краіны і ў выніку прадставіў пэўнага кшталту няцэласную кампіляцыю, у якой не выказаў канкрэтнай пазіцыі»[17].

Не менш красамоўна аўтар кампендыума апісаў жанчын Іспаніі. Ён адзначае, што «іспанскія дамы найбольш беляцца і фарбуюцца, і твар іх выглядае, нібы крэйда, карыстаюцца вялікімі хусткамі, і калі сыдуцца ў іх на вуліцы дзве дамы, абавязкова зачэпяцца адна з адной; замацоўваюць [іх] на галаве ў валасах, якія разам са стужкамі звісаюць у іх аж да вушэй, спераду ж галава непакрытая. Строі маюць асаблівыя і вартыя смеху: маюць напалову аголеныя плечы etc. Калі нейкі кавалер зойдзе да гандляра і там застане даму без суправаджэння, абавязаны купіць ёй тое, што яна папросіць, калі ж дама з кімсьці ў кампаніі, не варта яму з ёй ні гаварыць, ні вітацца etc.»[18]. І ў дадзеным выпадку У. Любенскі стварыў стэрэатыпны вобраз, які, аднак, прыцягальны для рэцыпіента сваёй экзатычнасцю.

Са зместу «Дыярыуша» вынікае, што Ю. Харкевіч шырока выкарыстоўваў інфармацыю з гэтага выдання. Дзякуючы кампендыуму ён пашырыў звесткі, якія датычацца электарскага палаца ў Мюнхене, катэдры ў Страсбургу, узвядзення катэдраў у Ліёне і Валенсіі, шматлікіх збудаванняў у Венецыі[19].

Не выключана, што яшчэ адной крыніцай інфармацыі пра Іспанію для аўтара «Дыярыуша» мог стаць *silva rerum* В. Ажэшкі, датаваны другой паловай XVIII ст. На гэта ўказваюць амаль літаральныя супадзенні ў апісаннях рэліквій з катэдры ў Валенсіі, змешчаныя ў абодвух выданнях[20].

Твор Ю. Харкевіча, акрэслены як дыярыуш, выбудаваны ў адпаведнасці з канонам гэтага літаратурнага жанру. Так, парадак запісаў у ім вызначаецца штодзённымі падзеямі, з якіх складалася жыццё аўтара (сілкаванні, перапынкі на адпачынак, начлегі, звесткі пра пераадоленую адлегласць). Частку твора складаюць апісанні розных здарэнняў, уражанняў, што суправаджаюцца адступленнямі ў выглядзе геаграфічных і гістарычных экскурсаў, а таксама звесткамі пра ўбачаныя каштоўнасці і г. д. Такая падрабязная дакументацыя ваяжу ў дыярыушы мела і практычнае значэнне, бо магла дапамагчы тым, хто планаваў свае выправы.

У краіну на поўдні Еўропы Ю. Харкевіч трапіў праз Францыю, пра што сведчыць яго запіс ад 16 красавіка. Выехаўшы з Балоны, ён разам з іншымі перыгрынантамі перабраўся праз Пірэнейскія горы і апынуўся ў Юнкерасе — першым іспанскім мястэчку, наведаным падчас доўгага падарожжа[21]. Варта адзначыць, што ў рукапісе напісанне назваў шэрагу населеных пунктаў адрозніваецца ад агульнапрынятага. Так, у сапраўднасці французскай Балоне адпавядае Ле-Булу, а іспанскаму Юнкерасу — Ла-Жункера. Верагодна, аўтар падаваў назвы, зыходзячы з уласнага ўспрымання іх гучання на розных еўрапейскіх мовах.

Перасягнуўшы мяжу з каралеўствам, Ю. Харкевіч адразу ж занатаваў свае першыя ўражанні ад краіны: «... у Юнкерас, у Іспаніі, пабачылі мы ўжо іншае ўбранне ў людзей; ужо не такі парадак, больш гультаявання — не так, як у Францыі»[22]. Падарожнік з беларуска-літоўскага краю не адступіў ад еўрапейскай традыцыі параўнання краін-суседак настолькі тэрытарыяльна блізкіх і культурна адрозных. У XVIII ст. Францыя па сваім развіцці значна апярэджвала Іспанію, якая знаходзілася ў стане глыбокага крызісу, што было заўважана Ю. Харкевічам. Разам з тым, сутыкнуўшыся ў Францыі з неміласэрным абыходжаннем гвардыяна кляштара хардыгераў, які не захацеў даць прытулак падарожным, а таксама праявамі блюзнерскага стаўлення да веры і яе святыняў, выказанымі ў размове французам-дэістам, аўтар дыярыуша адзначыў цноты іспанскіх братоў і прадэманстраваў паважлівае стаўленне да іх. «Тут, у Іспаніі, — піша Ю. Харкевіч, — нашы і іншыя айцы адрозніваюцца ад французскіх, як неба ад зямлі. Тут ужо назіраецца манаская сціпласць і любоў, рэгулярныя набажэнствы ў касцёле, прытрымліванне статуту»[23]. Апісваючы ж прыём у кляштары абсэрвантаў у Фігерасе, адзначаў, што браты ў веры «ласкава прынялі і ўсім далі па асобнай келлі, часова перавёўшы сваіх манахаў у іншае месца»[24].

Згадваючы пра грашовыя адзінкі, якія на той час хадзілі ў Іспаніі, аўтар звяртае ўвагу на іх адпаведнасць не толькі нацыянальнай валюце, але і найбольш важкай галандскай, што магло пасадзейнічаць перыгрынантам у спрашчэнні выдаткаў на падарожжа ў гэтую краіну ў будучыні. Паводле Ю. Харкевіча, «у Іспаніі, як у Францыі, — ліўры ці франкі, або ў нас — тынфы, грашыма служаць песеты, якіх даюць 10 за # 1 галандскі. Тыя песеты маюць у сабе 50 з лішкам на нашыя грошы. Ёсць тут таксама чырвоныя паўзалатыя, малыя, як шэлег, называныя шкуды, за два якіх даюць адзін галандскі чырвоны залаты»[25].

Па дарозе ў Барселону святару ўдалося наведаць Жырону, спыніцца ў аўстэрыях, месцазнаходжанне якіх даволі праблематычна ўстанавіць на сённяшні дзень. Зыходзячы з падабенства іх найменняў да назваў адпаведных мясцовасцяў у Іспаніі, можна зрабіць дапушчэнне, што адна з іх, як Майарына, знаходзілася ў Мальяркінасе, а другая — Рэкуль, мясцілася ў Ла Рока[26].

Ю. Харкевіч, будучы ўважлівым назіральнікам, адсочваў асаблівасці мясцовага рэльефу, прыкмячаў адметнасці пабудоваў, абумоўленыя спецыфікай клімату гэтага краю. «Дарога да Барселоны, — пісаў ён, — пачынаючы ад іспанскай мяжы, была месцамі скалістая, месцамі камяністая. Будынкі па вёсках каменныя, вокнаў не маюць, толькі замыкаюцца аканіцамі з-за вялікай спякоты, якая пануе ў тым высакагорным краі»[27].

Падкрэсліваючы неахвоту іспанцаў да земляробчай працы, аўтар раскрывывае прычыны іх гаспадарскай нядбайнасці,

абумоўленыя самой прыродаю, неспрыяльным кліматам і сацыяльна-псіхалагічнымі прычынамі: «...нідзе не маюць сена і лугоў, бо паўсюль скалістая мясцовасць». Акрамя таго, «многа ляжыць аблогам неапрацаванай зямлі, бо іспанцы гультаяватыя да гэтага»[28], кожны з іх хоча «звацца кабальера, а не гаспадаром»[29].

Знаёмячы з асаблівасцямі падарожжа па Іспаніі, святар, адзначаў, што «ў Барселонскім Каралеўстве яшчэ магчыма здабыць ежу ў аўстэрыях, бо тут часта праязджаюць французскія купцы. Але далей, напрыклад, у Каралеўстве Валенсіі, нічога нельга здабыць: трэба ў адным месцы віно, у другім — хлеб, у трэцім — мяса або рыбу купляць і гатаваць самому; да таго ж у аўстэрыі трэба плаціць за стол, за якім ясі»[30].

Сутыкненне з рэаліямі іспанскага жыцця, з аднаго боку, стварала дадатковыя цяжкасці ў падарожжы, а з другога — знаёміла з мясцовымі традыцыямі. Скардзячыся на адсутнасць у каталонскіх заезных дварах шклянак, аўтар дыярыуша заўважыў, што жыхары каралеўства «віно п'юць з бутэлькі з маленькім носікам, як у пішчалцы, льючы ў горла зверху, не кранаючыся вуснаў, на што прадстаўнікі іншых народаў няздатныя»[31].

Першым горадам, які наведаў перыгрынант на Іберыйскай паўвыспе па дарозе на капітулу, стала Барселона. Ю. Харкевіч меў дастаткова часу для таго, каб не толькі агледзець горад, але і адчуць атмасферу сталіцы каралеўства. Знаходжанне ў ёй не пакінула святара абыякавым, пра што сведчаць наступныя радкі: «Барселона — інакш называецца *Barcinone* — сталічны горад Каралеўства Каталоніі, размешчаны на Міжземным моры, вялікі, вельмі прыгожы, вясёлы, людны, гандлярскі, мае розныя мануфактуры, асабліва па вырабе ядвабу і металу. Стрэльбы, брытвы і іншыя цырульніцкія інструменты тут найлепшыя ў Еўропе, бо тут самае якаснае жалеза. Таксама ў крамах дастаткова дарагіх камянёў на продаж з Азіі, Амерыкі. Вуліцы горада брукаваныя гладкім каменем. Увесь горад аточаны мураванымі, засыпанымі ўнутры, валамі, над якімі ўзвышаюцца прыгожыя вежы. <...> Касцёлы і кляштары цудоўныя»[32].

Знаходзячы падчас падарожжа прытулак у сваіх братоў па веры, Ю. Харкевіч меў магчымасць знаёміцца з архітэктурай кляштараў, што належалі ордэну. Уражаны велічнасцю аднаго з іх, размешчанага на ўзмор'і Барселоны, вандроўнік у захапленні пісаў: «Той, што знаходзіцца каля порта, па працягласці бадай пераўзыходзіць усе нашы палацы ў Польшчы, бо падзелены на 3 квадратныя ўнутраныя галерэі, у кожнай з якіх на газонах, разбітых на квадраты, мілыя і чыстыя садочкі, сярод якіх б'юць пекныя фантаны»[33].

Вялікае эмацыйнае ўзрушэнне ў падарожніка выклікалі ўбачаныя ў Іспаніі экзатычныя цытрусавыя, якія тады былі толькі на сталах заможных жыхароў паўночнага краю. Сведчаннем таго, наколькі моцнае ўражанне на яго зрабілі лімонныя і апельсінавыя дрэвы, можна лічыць дадзенае ім вызначэнне: «увасабленне зямнога раю»[34]. Трапіўшы на іспанскую зямлю ў красавіку, ён здзівіўся, калі ўбачыў на дрэвах спелыя апельсіны і лімоны. Пазней стала вядома, што «яны леташнія, бо ўсю зіму вісяць на дрэвах (зімы тут амаль не ведаюць), і калі ёсць патрэба падаць на стол, то зрываюць з дрэва, а апалыя на зямлю лічаць непрыдатнымі да спажывання. Разам з тым паміж леташніх заўважаў на дрэвах новыя завязі лімонаў і апельсінаў»[35].

Падчас знаходжання ў Барселоне Ю. Харкевіч наведаў мясціны, асвечаныя прысутнасцю хрысціянскіх святых. Яму ўдалося пабываць і памаліцца ў келлі, ператворанай у капліцу, дзе жыў святы Францыск, калі прыходзіў на іспанскую зямлю прапаведаваць Евангелле, а таксама ўбачыць саркафаг св. Еўлаліі — дзевы, якая прыняла пакутніцкую смерць у перыяд уладарання рымскага імператара Дыяклетыяна. Ю. Харкевіч меў намер агледзець касцёл езуітаў, які ўразіў яго вонкавай прыгажосцю, аднак з-за пераследу гэтага ордэну ўладамі храм быў апячатаны[36].

Вельмі прыцягальным стаў для яго прыгожы марскі порт. Паназіраўшы за караблямі, якія прыбывалі ў Іспанію з розных частак свету, Ю. Харкевіч заўважыў, што на ўсіх былі «людзі свавольныя, распусныя, бедныя». Дзякуючы хлопчыкам, якія, даючы нырца, голымі рукамі лавілі рыбу і іншых жыхароў мора, ён змог убачыць невядомых датуль істотаў. Адзін з хлопчыкаў «выцягнуў нейкую страшэнную рыбіну, якая мела кольканаццаць доўгіх, як вяроўка, ног, доўгую і тоўстую шыю, падобную на клок валасоў галаву без лускі і цалкам чырвонае цела; праз малыя дзюрачкі ў галаве і іншых месцах выпускала яна, сыкаючы, паветра; і хаця яе таўклі і білі, яна няспынна падавала азнакі жыцця»[37]. (З даволі падрабязнага апісання вынікае, што гаворка, хутчэй за ўсё, вядзецца пра васьмінога.)

Падарожнік уважліва назіраў за жаўнерамі, якія служылі віцэ-каралю Каталоніі. Ю. Харкевіч прыкмеціў, што варта, праходзячы паўз кляштар, дзе ён спыніўся, падавала сігналы да ранішняга і вячэрняга збораў, выкарыстоўваючы не валторны, трубы, габоі, а пішчалкі, кларнеты, шаламаі, бубны, напаўняючы вуліцы прыемнымі гукамі[38].

Сутыкнуўшыся з цяжкасцямі пры атрыманні пашпарта, абумоўленымі антыезуіцкай палітыкай Карла III, які забараніў уезд на іспанскую зямлю прадстаўнікам гэтага ордэну, у тым ліку і пад выглядам абсэрвантаў, да якіх належаў Ю. Харкевіч, падарожнік, пакінуў Барселону і, мінуўшы Мартарэль, Вілья Франка, Фігерэта, прыбыў у Тарагону.

Зрабіўшы экскурс у гісторыю горада, аўтар дыярыуша адзначыў яго непрыступнасць, калі ён быў сталіцай рымскай правінцыі — Тарагонскай Іспаніі, але падкрэсліў, што «ад старажытнасці засталіся толькі руіны». Тым не менш, дзякуючы свайму месцазнаходжанню на гары, а таксама прыгожым краявідам на мора, горад вы-

клікаў сімпатыю ў перыгрынанта. Ю. Харкевіч не пакінуў па-за ўвагай і тое, што тут «імператар Аўгуст выдаў эдыкт на перапіс насельніцтва ўсяго свету, як пра тое піша св. Лука», а «маўры паслалі на неба мноства мучанікаў», аб чым можна прачытаць у Мартыралогу Tarraconae[39].

Вялікую цікавасць у тэксце выклікаюць апісанні сустрэч і мясцін, звязаных з жыхарамі Рэчы Паспалітай. Спыніўшыся ў кляштары абсэрвантаў у Кастэльёне, аўтар твора сустрэў там лектара айца Карла, які ведаў віленскага бэрнардына Антонія Бурніцкага, бо разам з ім на працягу пэўнага часу знаходзіўся ў Ерузалеме і ў якасці падарунка перадаў яму праз Ю. Харкевіча іспанскую хустачку. Таксама ў дыярыушы згадваецца, што ў кляштары каля гэтага гарадка 12 гадоў таму па дарозе на капітулу ў Мурсію пайшоў з жыцця варшаўскі кусташ[40].

Падчас знаходжання ў Іспаніі Ю. Харкевіч цікавіўся жыццём манаскай брацiі, назіраў за яе паводзінамі і параўноўваў убачанае з рэаліямі ў Рэчы Паспалітай. Згодна з яго высновамі, іспанскія айцы адрозніваліся большай пакорлівасцю ў выканні сваіх абавязкаў. У прыватнасці, наведаўшы адзін з кляштараў дома рэкалектаў у Валенсійскай правінцыі, аўтар адзначыў, што «тут жыве каля 15 асобаў, сярод якіх 3 браты, якія гатуюць есці, даглядаюць сады, прыносяць міласціну, нават самі вазамі ездзяць на мулах, возяць грузы, як у нас свецкія наймiты, і не саромеюцца гэтага»[41].

Будучы ўспрымальным да натуральнай прыгажосці, аўтар дыярыуша з замілаваннем ствараў вобраз іспанскай прыроды, пра што сведчыць апісанне аднаго з кляштараў непадалёк ад Валенсіі. Паводле Ю. Харкевіча, ён «...мае навокал прыгожы сад з дрэваў *piniolae* (*pinus pinae — лац.*; міжземнаморскі гатунак сасны з пляскатай вершалінай. — *А.В.*), накшталт нашых соснаў, толькі што не са спічастымі вершалінамі, а з разложыстымі, як бы падстрыжанымі. Яны родзяць тоўстыя і кароткія шышкі, з якіх выбіраюць і гатуюць белае семя, нават з кавалкам мяса смачна. Таксама кіпарысавыя дрэвы, пасаджаныя на вуліцы за кляштарам, ствараюць шпацыруючым манахам прыемны цень і прахалоду. Не меншую радасць прыносяць і пальмавыя дрэвы. Вакол кляштара поўна на дрэвах сінягорліц, што прылятаюць з гор і сваім вуркатаннем, самой сваёй прыродай пабуджаюць багадумныя душы да пакуты»[42].

Паводле ўражанняў Ю. Харкевіча, не толькі іспанскія манахі, але і мясцовыя жыхары з прыязнасцю ставіліся да замежных падарожнікаў, пра што сведчыць яго запіс, датаваны 9 мая. У гэты дзень ён разам з айцом кусташам Марсэля выправіўся пешшу ў кляштар абсэрвантаў у імя св. Дыдака непадалёк ад Валенсіі. Па дарозе іх напаткалі іспанцы, якія вялі вослікаў. Паспагадаўшы вандроўнікам, тубыльцы прапанавалі айцам далей ехаць вярхом, але яны адмовіліся, «падзякаваўшы ім за ласку».

Ведучы гаворку пра форму дзяржаўнага ладу каралеўстваў Каталонія і Валенсія, аўтар дыярыуша адзначыў, што «па іх адваёве ў маўраў маюць кіраванне ў форме рэспублікі, прызнаючы Гаспадаром толькі самога караля. Іспанскага караля, як у Барселоне, так і тут, у Валенсіі, прадстаўляе віцэ-кароль, якога мяняюць кожныя тры гады»[43]. Асаблівую ўвагу Ю. Харкевіч надаў факту спрыяльнага стаўлення да капітулы з боку іспанскага манарха, які загадаў свайму намесніку зрабіць усё магчымае для аховы яе ўдзельнікаў, а таксама выдзеліў значныя сродкі для яе правядзення, дапоўніўшы ўнёсак інфанта. Цешыла літоўскага бэрнардына і тое, што ўладар назваў св. Францішка — апекуна ордэну, сваім айцом, бо іспанскія манархі (іх яшчэ называлі каталіцкімі каралямі) пазіцыянавалі сябе абаронцамі святой веры.

Патрапіўшы ў Валенсію — месца, дзе мелася адбыцца капітула, а таксама «сталічны горад правінцыі пад той самай назвай, размешчаны на рацэ Гуадалаўяр», Ю. Харкевіч адзначыў, што гэты горад не толькі «вялікі і прыгожы», але і «прыемны воку», бо «атулены садамі, паколькі на некалькі міляў вакол Валенсіі палі хораша і ладна засаджаныя аліўкавымі, лімоннымі, апельсінавымі садамі, фігамі, вінаграднікамі, кіпарысамі, пальмамі, на якіх растуць фінікі, etc.»[44].

Выклікалі захапленне ў падарожніка і прыгожыя масты з цясанага каменя. «Ідучы ў Валенсію ў касцёл св. Яна, — піша перыгрынант, — я налічыў 5, і гэта з аднаго боку горада. Масты густа ўстаўлены мармуровымі і каменнымі статуямі святых Гасподніх, перадусім св. Дамініка, Вінцэнта і св. Францішка»[45].

Асобным пунктам наведвання для Ю. Харкевіча стала старасвецкая катэдра ў Валенсіі, у скарбніцы якой захоўвалася мноства хрысціянскіх рэліквій, пра што сведчыць іх падрабязнае апісанне аўтарам дыярыуша[53].

Удалося Ю. Харкевічу наведаць і іншыя касцёлы і кляштары, каб пабачыць мясціны, асвечаныя прысутнасцю святых Вінцэнта Ферэра, Людовіка Бертрана, Мікалая Фактара, айцоў Дамініка і Францішка.

Падчас знаходжання ў Валенсіі, нараджэнец вялікалітоўскіх земляў меў магчымасць station назіраць за працэсіяй, якая значна адрознівалася ад тых, што адбываліся на радзіме. Апісваючы яе ход, Ю. Харкевіч пісаў: «Спачатку клерыкі ў далматыках [і] лaiкі ў альбах, абапіраючыся на пазалочаныя кіі, неслі на плячах статуі розных святых Божых, такіх як св. Пасхалій, св. Францішак, Людовік, Альжбета, Юзаф, Найсвяцейшая Дзева Марыя. Паміж імі па адной касцёльнай харугве неслі вяльможы, слугі якіх трымалі канцы ад харугвы. Таксама ў шэрагах перад імі годныя людзі неслі свечкі. Пасля ўсіх ішлі парамі манахі. За імі генерал у капе з срэбраным крыжам у руцэ, пад балдахінам. За генералам ішлі служачыя магістрата ў чырвоных тогах і парыках, папарна несучы залатыя буздыганы на плячах. На вуліцах горада было мноства ракетаў і феерверкаў, выпушчаных гарнізонам. Народ крычаў «ура!»,

«ура!», таксама свістаў прарэзліва і гучна і ўсклікаў дзікім голасам: «гэй!», «гэй!»»[46].

У Валенсіі ён убачыў тэрцыяраў — выхадцаў з іспанскіх калоній у Амерыцы, якія таксама прыбылі на капітулу. Паводле аўтара дыярыуша, «гэтыя людзі маюць пляскаты твар, малыя вочы і нос, смуглявыя, падобныя ва ўсім да нашых калмыкаў».

Найбольшую цікавасць у дыярыушы выклікаюць мясціны, дзе гаворка вядзецца пра насельніцтва Іберыйскай паўвыспы. Апісваючы знешні выгляд жыхароў Іспаніі, Ю. Харкевіч адзначае, што «яе народ — чорны і непрыгожы, неахайны, як нашы жыды». Думаецца, фарміраванне стаўлення да абодвух народаў у выхадца з вялікалітоўскіх абшараў Рэчы Паспалітай адбывалася пад уплывам апазіцыі «свой—чужы». Хутчэй за ўсё, яны былі аднесены аўтарам твора да другой катэгорыі, таму выклікалі непрыманне, абумоўленае таксама і цывілізацыйнай адрознасцю. Прыкладам «іншасці» іспанцаў можна лічыць і іх традыцыйныя строі.

Паводле меркавання аўтара дыярыуша, «іспанцы — злосныя людзі, хуткія да панажоўшчыны, на дарогах і ў прадмесцях часта сустракаюцца драўляныя крыжыкі велічынёй з локаць, пастаўленыя па забітым там чалавеку». Думаецца, што такі тып паводзінаў мясцовага насельніцтва, абумоўлены ў пэўнай ступені яго тэмпераментам, святар лічыў заганным. Магчыма, тут з пэўнай ступенню ўмоўнасці можна гаварыць пра водгулле «чорнай легенды» (*ісп. leyenda negra*), якая сфармавалася ў дачыненні да Іспаніі ва ўплывовых еўрапейскіх краінах. Яна складалася са стэрэатыпаў ва ўспрыманні гэтай дзяржавы і яе жыхароў: адмоўную рэакцыю выклікалі ганарлівасць, хцівасць, брутальнасць іспанцаў, а таксама іх безгаспадарлівасць, дамінаванне духавенства ў жыцці краіны, жорсткая каланіяльная палітыка[47].

Разам з тым, Ю. Харкевіч сведчыў пра іх набожнасць, бо «кожны просіць медальёнчык, каронку, асабліва пергаменныя абразкі, нават вытанчаныя людзі і князі не саромеюцца прасіць, бо тут у іх гэта не вырабляецца»[48].

Такім чынам, ажыццёўленае падарожжа дазволіла Ю. Харкевічу не толькі стварыць запамінальны вобраз гэтай паўднёваеўрапейскай краіны, адлюстраваць характар яе жыхароў, паказаць непаўторнасць іх культуры і традыцый, але і раскрыць адметнасць свайго светаўспрымання.

**Літаратура**


1 Сыракомля, У. Выбраныя творы / У. Сыракомля. — Мінск, 2011. — С. 267.

2 Migdal, B. Charkiewicz Juwenalis / B. Migdal// Encyklopedia Katolicka. T. 3. — Lublin, 1995. — S. 80.

3 Kantak, K. Charkiewicz Juwenalis / K. Kantak // Polski Slownik Biograficzny. T. 3. — Krakow, 1937. — S. 264.

4 Kantak, K. Bernardyni Đolscy / K. Kantak. T. II. — Lwow, 1933. — C. 487; Migdal, B. Charkiewicz Juwenalis / B. Migdal // Encyklopedia Katolicka. T. 3. — Lublin, 1995. — S. 80; Rok, B. Juwenalis Charkiewicz i jego podroz po Europie / B. Rok // Charkiewicz, J. Dyjariusz podrozy hiszpanskiej z Wilna do miasta Walencyi na Kapitułę Jeneralną Zakonu Mniejszych Braci sw. Franciszka, to jest Bernardynow, odprawionej w roku 1768 / J. Charkiewicz. — Wroclaw, 1998. — S. 7.

5 Kantak, K. Bernardyni Polscy / K. Kantak. T. II. — Lwow, 1933. — C. 487.

6 Kantak, K. Charkiewicz Juwenalis / K. Kantak // Polski Slownik Biograficzny. T. 3. — Krakow, 1937. — S. 264

7 Migdal, B. Charkiewicz Juwenalis / B. Migdal // Encyklopedia Katolicka. T. 3. — Lublin, 1995. — S. 80; Rok, B. Juwenalis Charkiewicz i jego podroz po Europie / B. Rok // Charkiewicz, J. Dyjariusz podrozy hiszpanskiej z Wilna do miasta Walencyi na Kapitułę Generalny Zakonu Mniejszych Braci sw. Franciszka, to jest Bernardynow, odprawionej w roku 1768 / J. Charkiewicz. — Wroclaw, 1998. — S. 8.

8 Rok, B. Juwenalis Charkiewicz i jego podróż po Europie / B. Rok // Charkiewicz, J. Dyjariusz podróży hiszpańskiej z Wilna do miasta Walencyi na Kapitułę Jeneralną Zakonu Mniejszych Braci św. Franciszka, to jest Bernardynów, odprawionej w roku 1768 / J. Charkiewicz. — Wrocław, 1998. — S. 8.

9 Тамсама. S. 8.

10 Тамсама. S. 9.

11 Тамсама.

12 Тамсама. S. 10.

13 Тамсама.

14 Łubieński, W. Świat we wszystkich swoich częściach wićkszych i mniejszych / W. Łubieński. — Wrocław, 1740. — S. 127–149; Rostworowski, E. Łubieński Władysław / E. Rostworowski // Polski Słownik Biograficzny. T. 18. — Wroclaw, 1973. — S. 505–511 // Rok, B. Hiszpania w opinii społeczeństwa Rzeczypospolitej obojga narodów w XVIII wieku / B. Rok // Studia historyczne. 1995. – S. 337.

15 Łubieński, W. Świat we wszystkich swoich częściach wićkszych i mniejszych / W. Łubieński. — Wrocław, 1740. — S. 127–149 // Rok, B. Hiszpania w opinii społeczeństwa Rzeczypospolitej obojga narodów w XVIII wieku / B. Rok // Studia historyczne. 1995. — S. 338.

16 Тамсама. S. 338.

17 Rok, B. Hiszpania w opinii społeczeństwa Rzeczypospolitej obojga narodów w XVIII wieku / B. Rok // Studia historyczne. 1995. — S. 339.

18 Łubieński, W. Świat we wszystkich swoich częściach wićkszych i mniejszych / W. Łubieński. — Wrocław, 1740. — S. 127-149 // Rok, B. Hiszpania w opinii społeczeństwa Rzeczypospolitej obojga narodów w XVIII wieku / B. Rok // Studia historyczne. 1995. — S. 339.

19 Rok, B. Juwenalis Charkiewicz i jego podróż po Europie / B. Rok // Charkiewicz, J. Dyjariusz podróży hiszpańskiej z Wilna do miasta Walencyi na Kapitułę Jeneralną Zakonu Mniejszych Braci św. Franciszka, to jest Bernardynów, odprawionej w roku 1768 / J. Charkiewicz. — Wrocław, 1998. — S. 10.

20 Kucharski, A. Hiszpania i Hiszpanie w relacjach Polaków : wrażenia z podróży i pobytu od XVI do początków XIX w. / Ŕ. Kucharski. — Warszawa, 2007. S. 85.

21 Харкевіч, Ю. Дыярыуш іспанскага падарожжа з Вільні ў горад Валенсію / Ю. Харкевіч // Літаратура XVII — XVIII стагоддзяў. — Мінск, 2012. — С. 545. — (Залатая калекцыя беларускай літаратуры ; т. 2).

22 Тамсама. С. 545.

23 Тамсама. С. 546.

24 Тамсама.

25 Тамсама.

26 Тамсама. С. 547.

27 Тамсама.

28 Тамсама.

29 Тамсама. С. 566.

30 Тамсама. С. 547–548.

31 Тамсама. С. 548.

32 Тамсама.

33 Тамсама. С. 549.

34 Тамсама.

35 Тамсама.

36 Тамсама. С. 550.

37 Тамсама.

38 Тамсама. С. 551.

39 Тамсама. С. 552.

40 Тамсама. С. 556.

41 Тамсама. С. 559.

42 Тамсама.

43 Тамсама. С. 561.

44 Тамсама.

45 Тамсама. С. 561–562.

46 Тамсама. С. 564–565.

47 Sawicki, P. Czasy dekadencji: między «czarną legendą» a mitem iberyjskiego orientalizmu / P. Sawicki // Polacy a hiszpanie. Ludzie, podróże, opinie // Acta Universitatis Wratislaviensis. Estudios hispánicos. 1995. — S. 19.

48 Харкевіч, Ю. Дыярыуш іспанскага падарожжа з Вільні ў горад Валенсію / Ю. Харкевіч // Літаратура XVII — XVIII стагоддзяў. — Мінск, 2012. — С. 566. — (Залатая калекцыя беларускай літаратуры ; т. 2).

Ірына Багдановіч

# Па слядах айца Уладзіслава Чарняўскага



Вельмі марозным, ясным, сонечным днём, у суботу 23 студзеня, выехала з Мінска ад Чырвонага касцёла ў мястэчка Вішнева Валожынскага раёна малітоўная пілігрымка, каб пакланіцца і ўшанаваць памяць вялікага, моцнага духам святара — айца Уладзіслава Чарняўскага (1916–2001), які амаль паўвека быў пробашчам вішнеўскай святыні і якому споўнілася 100 гадоў ад нараджэння. Можна без перабольшвання называць гэтага беларускага святара легендарным, а яго духоўную пастырскую працу ў ліхія для Касцёла савецкія часы — цудам праяўлення Божай ласкі да Беларусі і яе люду. Жорсткая драпежная імперыя старанна рабіла з нашай вялікай Краіны адсталую ўскраіну, а ксёндз Чарняўскі сваім служэннем Богу для Беларусі рабіў так, каб ускраіна ўзнімалася з каленяў і зноў рабілася велічнай і годнай Краінай, хаця б найперш у душах і сэрцах, давераных Богу, але менавіта з гэтага заўжды пачынаецца адраджэнне.

Ксяндза Уладзіслава Чарняўскага можна назваць беларускім святаром «другога паклікання», пераемнікам і спадчыннікам ахвярнай душпастырскай і асветніцкай справы на Беларусі пасля ксяндзоў Адама Станкевіча, Кастуся Стэповіча (паэта Казіміра Сваяка), Аляксандра Астрамовіча (паэта Андрэя Зязюлі), Фабіяна-Абрантовіча, Андрэя Цікоты, Язэпа Германовіча (паэта Вінцука Адважнага) ды іншых выдатных беларускіх святароў старэйшага пакалення, большасць з якіх стала ахвярамі сталінскага тэрору, загінула ў лагерах або апынулася ў эміграцыі. Ад сваіх папярэднікаў у друйскім кляштары, айцоў марыянаў, юнак з Гродзеншчыны, адчуўшы пакліканне, атрымаў душпастырскі светач — той цудоўны Божы ліхтар, які не ставяць пад пасудзіну, і смела, годна пакрочыў з ім у цемру бязбожнасці, калі пад пільным партыйным наглядам поўным ходам у вялізнай краіне ад Балтыкі да Камчаткі ішла камуністычная будоўля «светлай будучыні», што «злівала» народы і нацыі «ў адзіны савецкі народ».

Рукапаложаны ў 1944 г., ксёндз Чарняўскі распачаў душпастырскую працу ў Вішневе ў 1954 г., пасля таго, як стаў на святарскі шлях у Крэве, дзе адбылася яго прыміцыйная Імша, і працягваў служэнне Богу ў літоўскіх парафіях. Тут, у Вішневе, было яму наканавана споўніць сваё апостальства — несці спрагненым людзям Хрыста, наталяць іх з вечнай крыніцы жывой вады, якая сімвалічна і цудатворна струменіла проста каля самага касцёла, не даючы Краю ператварыцца ў духоўную пустыню. А гэта была праца ў духоўнай пустыні — пустыні атэізму і бязмоўя, бо першае адраджэнне — нацыянальнае, духоўнае, культурнае — было знішчана сталінскімі рэпрэсіямі даваеннага і пасляваеннага часу. Аднак былі вернікі — людзі, якія не маглі жыць без святара; жыў і лунаў над Бацькаўшчынай дух той працы, што ўжо здзейснілі беларускія патрыёты, які натхняў і вёў у далейшы шлях. На гэтым шляху ахвярнага душпа-

**Ірына БАГДАНОВІЧ** — паэт і літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Нарадзілася ў г. Ліда на Гродзеншчыне. Скончыла гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржуніверсітэта (1978) і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі (1983). Аўтар кніг вершаў «Чаравікі маленства» (1985), «Фрэскі» (1989), «Вялікдзень» (1993), «Сармацкі альбом» (2004), «Прыватныя рымляне» (2006), «Душа лістападу» (2012), манаграфіі «Янка Купала і рамантызм» (1989), «Авангард і традыцыя: беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння» (2001), укладальнік зборнікаў «Казімір Сваяк. Выбраныя творы»(2010), «Вінцук Адважны. Выбраныя творы» (2011) і «Аляксандр Надсан. Выбраныя творы» (2014). Перакладае з польскай мовы. Жыве ў Мінску.

стырства ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі заставаўся практычна адзіным дзейным беларускім святаром. Напэўна ж, гэта быў яшчэ адзін цуд, пасланы Богам на нашу зямлю, каб ратаваць яе ад знішчэння ў 1950–1980-я гады, калі адчыненыя святыні былі рэдкасцю, а там, дзе яны заставаліся, беларуская мова не гучала падчас набажэнстваў.

Менавіта ў Вішневе аджыла і адрадзілася беларускасць, злучаная з верай. Гэта была рунь на даўнім трывалым карэнні, закладзеным далёкімі продкамі, карэнні, якое зацята высякалі кожныя новыя прыхадні, а яно, затоенае ў зямлі да часу, давала новы плён. Сапраўды, як пісаў Максім Багдановіч: *«Хоць зернейкі засохшымі былі, // Усё ж такі жыццёвая іх сіла // Збудзілася і буйна ўскаласіла // Парой вясенняй збожжа на раллі!»*.

Ксёндз Чарняўскі ведаў і любіў беларускую літаратуру, яна для яго таксама была крыніцай натхнення, бо разумеў і адчуваў, што лепшае ў ёй — гэта Богам натхнёнае пісанне: і не толькі таму, што ад Еўфрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага вядзецца традыцыя нашага прыгожага пісьменства, але і таму, што і Міцкевіч, і Багушэвіч, і Купала, і Багдановіч, і іншыя нашы творцы былі пасланцамі Бога ў Беларусь, каб праз дадзенае ім мастацкае слова, праз уладаранне тым словам як Божым дарам, смела і годна абвяшчаць праўду аб гістарычным лёсе і будучыні свайго народа, сведчыць пра тыя крыніцы і сілы, што ўмацоўвалі шлях яго існавання ў змаганнях, трываннях, цярпеннях. Гэта былі прарокі-вестуны, пасланыя абуджаць беларусаў. Айцец Уладзіслаў Чарняўскі быў, да таго ж, як вядома, бібліяфілам, які рупліва збіраў беларускую бібліятэку: слоўнікі, энцыклапедыі, творы класікаў, перыёдыкі, кнігі сучасных яму пісьменнікаў, многія з якіх былі ў тыя часы гасцямі-пілігрымамі ў вішнеўскага



ксяндза. Партрэт Янкі Купалы на сцяне таксама яскрава сведчыў аб тым коле духоўна і творча блізкіх святару асобаў нацыянальнай культуры, якія натхнялі яго ў служэнні Беларусі.

...Светла і з прысмакам болю думалася пра ўсё гэта па дарозе ў Вішнева, калі мы, сучасныя пілігрымы, ехалі на тую духоўную сустрэчу. Памяць айца Уладзіслава была ўшанавана ў вішнеўскім касцёле ўрачыстай Імшой, якую ўзначальваў мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч, адкрыццём Музея гісторыі вішнеўскага касцёла і ксяндза Чарняўскага, а таксама святочнай імпрэзай у мясцовым Доме культуры.

Таго, хто першы раз наведае Вішнева, уразіць, напэўна ж, сам касцёл — велічная даўняя святыня нашай Айчыны з цікавай гісторыяй, святыня, што ўратавалася ў часы ліхалеццяў і служыла вернікам у сваім прамым прызначэнні. І гэта таксама можна лічыць цудам! Цудам нябачнай апекі Маці Божай Вішнеўскай над davераным Ёй краем! Уражвае прыгожае барока, цудоўна захаванае ў знешнім выглядзе і ўнутраным убранстве святыні, шматфігурныя скульптурныя выявы анёлаў з залатымі крыламі на калонах пад купалам, глыбокі і сімвалічны рэлігійны роспіс намоленых сценаў, алтар з іконаю Маці Божай Вішнеўскай, апякункі Вішнева і Беларусі. Мураваная брама знаходзіцца крыху збоку — каля алтарнай часткі святыні. Каля брамы —некалькі пахаванняў, тут жа і надмагільны помнік на магіле кс. Уладзіслава Чарняўскага, каля якога запаленыя знічы, ляжаць жывыя кветкі. Кожны падыходзіў пакланіцца, памаўчаць у сцішанасці душы, памаліцца «Анёл Панскі»...

Тым нязвыкла марозным студзеньскім днём у самой святыні мароз таксама моцна адчуваўся, студзіў рукі і ногі, але не мог астудзіць гарачыя сэрцы вернікаў, якія ўзносілі разам са святарамі прачулыя малітвы за душу свайго вялікага пастыра, за Беларусь і яе люд, за спакой у свеце. У сваім урачыстым казанні мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч, як заўсёды ўзрушана, распавёў пра жыццёвы і духоўны шлях айца Уладзіслава як прыклад святарскага служэння і сведчання веры ў тыя неспрыяльныя для Касцёла гады і дзесяцігоддзі, пра нязломнасць яго духу, святло душы і невымернасць любові да Бога і бліжняга. Асабліваю ласкаю Божаю для Беларусі было тое, што ў Рыме айцец Уладзіслаў атрымаў благаслаўленне папы Паўла VI на пераклад кніг Святога Пісання — Старога і Новага Запаветаў, — а таксама літургічных тэкстаў на беларускую мову. Гэта стала справаю жыцця і паклікання святара, здзейсненым духоўным подзвігам. Пасля святой Імшы працэсія на чале з мітрапалітам рушыла да помніка на магіле ксяндза Чарняўскага, каб там таксама ўшанаваць яго памяць і памаліцца аб вечным супакоі для яго душы.

Вельмі ўзрушальнай падзеяй стала таксама ўрачыстае адкрыццё і асвячэнне музея, прысвечанага гісторыі вішнеўскага касцёла, жыццю і дзейнасці айца Уладзіслава Чарняўскага.



Два ўтульныя пакоі ў мясцовым Доме культуры, аддадзеныя гэтаму незвычайнаму музею, распавядаюць пра гісторыю касцёла ў даўнія і блізкія часы, а асноўная частка экспазіцыі ў дакументах і мемарыяльных рэчах прысвечаная ксяндзу Уладзіславу — яго біяграфіі, духоўнаму і творчаму шляху. За кожным дакументам — няпростыя этапы жыцця, за кожнай кнігай, сшыткам з рукапісамі — плён духоўнай творчай працы, напружання розуму, душы і сэрца, а ўсё — дзеля Беларусі, дзеля роднага краю і яго людзей, каб адкрываліся на Божую праўду, духоўна ўзрасталі і станавіліся сапраўднымі беларусамі.

З той рукапіснай спадчыны ксяндза Уладзіслава асабліва ўразілі дзясяткі акуратна, роўненька і любасна расстаўленых і раскладзеных у сціплай шафачцы агульных сшыткаў з біблійнымі перакладамі ды іншымі запісамі, што сведчаць пра глыбокую эрудыцыю святара і яго рознабаковыя веды; а стосы шматлікіх лістоў сведчаць пра бясконцасць яго служэння людзям у іх жыццёвых праблемах і духоўных пошуках. Паказала нам гэтыя сшыткі, дазволіўшы дакрануцца да святых святарскіх старонак, і распавяла з вялікай любоўю пра вішнеўскага святара, пра музей і яго экспанаты захавальніца музея, яго кіраўнічка спадарыня Тэрэса Бітэль, сям'я якой добра ведала святара. Ён пісаў таксама і вершы, адзін з якіх, прысвечаны маме, можна пабачыць на аркушы паперы пад яго партрэтам.

Да адкрыцця музея была падрыхтавана прыгожая кніга водгукаў, першы запіс у якой зрабіў ксёндз-арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. Яго Эксцэленцыя адзначыў, што айцец Уладзіслаў Чарняўскі ўвайшоў у гісторыю Каталіцкага Касцёла і яго адраджэння ў нашай краіне пасля доўгіх дзесяцігоддзяў пераследу як ахвярны святар і папулярызатар беларускай культуры, а яго асаблівая заслуга — «*гэта пераклад на беларускую мову Святога Пісання, Катэхізіса і літургічных кніг, дзякуючы чаму ён стаў піянерам шырокага яе выкарыстання ў жыцці і дзейнасці Касцёла. Гэтым самым ён не толькі ўнёс вялікі ўклад у яго адраджэнне ў нашай краіне, але таксама ўзбагаціў беларускую культуру. Сваім ахвярным служэннем Касцёлу і Бацькаўшчыне ён пакінуў глыбокі след на нашай зямлі, па якім ідуць яго нашчадкі і які вядзе да Бога і ўмацоўвае любоў да Айчыны*».

Па адкрыцці музея ў вялікай зале вішнеўскага Дома культуры пачалася ўрачыстая імпрэза, якая ўразіла прыгожай прэзентацыяй, што поўна і глыбока адлюстроўвала лёс святара. Шматлікія выступоўцы, якія ведалі святара асабіста (сярод іх ксёндз-пробашч Чырвонага касцёла святых Сымона і Алены ў Мінску Уладзіслаў Завальнюк, Апостальскі візітатар для грэка-католікаў у Беларусі айцец архімандрыт Сяргей Гаек, вядомы гісторык і краязнаўца з Маладзечна Міхась Казлоўскі, вядомы мастак з Ракава Фелікс Янушкевіч, вішнеўская парафіянка, аўтарка рэлігійных вершаў Марыя Трапашка ды іншыя) шчодра дзяліліся з прысутнымі ўспамінамі пра святара, распавядалі розныя эпізоды з яго жыцця, падкрэслівалі яго сціпласць і веліч. Ён сапраўды стаў духоўным светачам для ўсёй Беларусі. Зямляк святара, вядомы беларускі паэт Віктар Шніп, які паходзіць з Валожыншчыны, прачытаў пранікнёны верш «Балада Уладзіслава Чарняўскага», напісаны ў 2002 годзе, па смерці яго героя: *«І пайшоў ён ад нас, нібы слова жывое, // І прайшоў ён праз нас, як святло з абразоў, // Каб мілей нам зрабілася наша, святое, // Каб мы ўспомнілі шлях да забытых крыжоў»...*

Надвячоркам ад'язджалі мы з Вішнева, напоўненыя «святлом з абразоў», запаленыя, як лучынкі, ад светача, што не стаіць пад пасудзінай, а дзеліцца сваімі промнямі, далучаныя да Любові, што множыць і раздае сябе ў Хлебе. Гучаць і ўзнаўляюцца ў памяці пасля той пілігрымкі радкі прыгожай песні-гімна да Маці Божай Вішнеўскай, пачутай у вішнеўскім касцёле: *«Матанька Божа, вішнёвы цвеце, // Ты суцяшаеш гаротных нас... // Вішнёвы цвеце, мы – Твае дзеці, // За нас маліся, о Марыя!...».* Вішнеўская святыня, Маці Божая Вішнеўская, святарская постаць айца Уладзіслава Чарняўскага будуць, без сумнення, клікаць да сябе новых пілігрымаў, каб бясконца аднаўляць дух і веру, каб акунаць нас у Божую Любоў.

# Марыюш Карповіч



Сумная вестка прыйшла з Варшавы. 3 лістапада 2015 года пасля цяжкай і працяглай хваробы пайшоў з жыцця знакаміты польскі гісторык мастацтва, прафесар Марыюш Карповіч. Яго імя добра вядомае спецыялістам у галіне гісторыі мастацкай культуры Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай XVI — XVIII стагоддзяў.

Марыюш Карповіч нарадзіўся 19 ліпеня 1933 года ў маёнтку Чомбраў Навагрудскага павета. Ён паходзіў са старажытнага беларускага шляхецкага роду Карповічаў, згадкі пра які можна сустрэць у шматлікіх дакументах з актавых кніг судовых установаў Вялікага Княства Літоўскага XVII — XVIII стагоддзяў. У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі захоўваецца справа аб дваранскім паходжанні роду Карповічаў герба «Караб», які быў прызнаны ў дваранскай годнасці пастановаю Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу 11 снежня 1802 года. У XIX ст. Карповічы сталі ўладальнікамі знакамітага маёнтка Чомбраў у Навагрудскім павеце. Гэта той самы маёнтак, дзе выхоўвалася будучая маці Адама Міцкевіча, гэты той самы шляхецкі двор, які Адам Міцкевіч апісаў як рэзідэнцыю Сапліцаў у сваім шэдэўры «Пан Тадэвуш».

Прадзедам Марыюша Карповіча па жаночай лініі быў Аляксандр Валіцкі — блізкі сябра і першы біёграф Станіслава Манюшкі, які перад паўстаннем 1863–1864 гадоў заснаваў у Мінску сваю кнігарню і, як згадваюць акадэмік Яўхім Карскі і Рамуальд Зямкевіч, пісаў на беларускай мове пад псеўданімам Міншчук альбо Місцюк.

Марыюш Карповіч у 1955 г. скончыў Варшаўскі ўніверсітэт і з таго часу працаваў у Інстытуце гісторыі мастацтва гэтага ўніверсітэта. Ён паспяхова абараніў доктарскую дысертацыю, а ў 1966 г. стаў доктарам габілітаваным. З 1979 г. ён быў прафесарам Варшаўскага ўніверсітэта.

Прафесар Карповіч падрыхтаваў вялікую колькасць выдатных спецыялістаў у галіне гісторыі мастацтва. Пад яго кіраўніцтвам было абаронена шмат доктарскіх дысертацый. Акрамя таго, ён выкладаў у розных універсітэтах Польшчы, Італіі, Швейцарыі. З 1982 г. Марыюш Карповіч стаў праўдзейным членам Варшаўскага навуковага таварыства. Ён таксама быў абраны акадэмікам Акадэміі Клеменціна і Акадэміі Міцкевічыяна ў Балоны, ганаровым акадэмікам Інстытута мастацтва Ламбардыі ў Мілане і членам іншых навуковых установаў і таварystваў. З 1993 года Марыюш Карповіч быў экспертам у Савеце Еўропы па пытаннях гісторыі мастацтва і аховы помнікаў культуры ў Страсбургу. Ён з'яўляўся кавалерам «Ордэна Адраджэння Польшчы», а таксама лаўрэатам узнагароды імя святога Брата Альберта і інш.




Прафесар Карповіч быў адным з самых аўтарытэтных даследчыкаў гісторыі мастацкай культуры і архітэктуры эпохі маньерызму, барока і ракако XVII — XVIII стагоддзяў. Ён аўтар шматлікіх навуковых працаў па гэтай тэматыцы, у тым ліку амаль 50-ці кніг і мноства навуковых публікацый у Еўропе і Злучаных Штатах Амерыкі. Дастаткова сказаць, што сталі класічнымі такія яго манаграфіі, як «Барока ў Польшчы» (1988), перакладзеная на многія еўрапейскія мовы, «Мастацтва Польшчы XVII стагоддзя» (1975) і «Мастацтва Польшчы XVIII стагоддзя» (1985), «Балтазар Фантана» (1994) і інш.

У апошнія гады свайго жыцця Марыюш Карповіч вельмі цікавіўся праблемамі гісторыі мастацтва Вялікага Княства Літоўскага. Апошняя яго манаграфія «Віленскія асаблівасці архітэктуры XVIII стагоддзя («*Wileńska odmiana architektury XVIII wieku*») была выдадзена ў 2012 годзе. Значная частка гэтай працы прысвечана праблеме аўтарства праекта аднаўлення полацкага Сафійскага сабора ў XVIII стагоддзі. Прафесар Карповіч аргументавана даказвае, што аўтарам гэтага праекта быў не Ян Крыштаф Глаўбіц, як лічылася раней, а італьянскі архітэктар Гвідо Антоніо Лонгі (*Guido*




*Antonio Longhi*). Экзэмпляр гэтай цікавай і малавядомай у нас кнігі прафесар Карповіч падараваў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

Няледзячы на невылечную хваробу і сталы ўзрост, прафесар Марыюш Карповіч працягваў сваю навуковую дзейнасць — рыхтаваў навуковыя артыкулы, працаваў над дзвюма новымі абагульняючымі кнігамі па гісторыі мастацтва Рэчы Паспалітай XVII — XVIII стагоддзяў, якія, на жаль, не паспеў скончыць.

Марыюш Карповіч у 37-гадовым узросце страціў жонку, але самастойна выхоўваў чатырох дзяцей і стаў шчаслівым дзедам і прадзедам. Ён быў глыбока веруючым чалавекам і кожны свой новы рукапіс (ён не карыстаўся камп'ютарам) пачынаў з літараў AMDG — *Ad Maiorem Dei Gloriam*.

10 лістапада 2015 года а 11-й гадзіне ў варшаўскім касцёле святога Карла Барамея адбылася жалобная Імша, якую правёў ксёндз біскуп Міхал Яноха. Вучань прафесара Карповіча, ксёндз канонік доктар Міраслаў Новак, дырэктар Музея Варшаўскай архідыяцэзіі, у сваім казанні распавёў пра жыццёвы шлях свайго настаўніка.

Прафесар Марыюш Карповіч пахаваны на мемарыяльных Варшаўскіх могілках «Павонзкі» побач з магіламі сваіх продкаў.

*Уладзімір Дзянісаў*

Іна Бігель

# ХВЭЛЬКА, альбо

Гісторыя майго героя распачалася 30 мая 1954 года ў Ракаве — ранейшым горадзе, потым мястэчку і цяпер вёсцы, дзе ён нарадзіўся ў каталіцкай сям'і беларускай шляхты — Янушкевічаў. У чэрвені таго ж года бацькі аддалі хлапчаня юным хросным, каб тыя ахрысцілі яго ў валожынскім касцёле (у той час ракаўскі касцёл не дзейнічаў), а самі па традыцыі засталіся дома. У Валожыне, як на бяду, лавілі «зялёнага брата» — мясцовага Робін Гуда па прозвішчы Юргель, які ў 1954 годзе ўсё яшчэ ваяваў з бальшавікамі і карыстаўся даволі вялікаю падтрымкаю ў насельніцтва. Вось гэтага смелага змагара саветы «засеклі» на рынку ў цэнтры горада і абвясцілі аблаву. Распачалася паніка. Мясцовыя жыхары яшчэ добра памяталі пра Сібір, пра наезды саветаў у пагонах. Людзі кінуліся ўцякаць на вакзал, а юныя хросныя ў гэты час з адказным заданнем падымаліся па вуліцы ў бок рыначнай плошчы да касцёла. Раптам яны таксама паддаліся паніцы, спалохаліся, кінулі малога на брук і далучыліся да ўцекачоў. Толькі дабегшы да вакзала, яны апамяталіся і ўсвядомілі, што ўчынілі: чужое дзіця згубленае, дадому вяртацца нельга. Гора-хросныя знайшлі старэйшага дзядзьку з пашпартам, які мог пацвердзіць іх ракаўскае паходжанне, і вярнуліся назад. Дзіцяці не было. Давялося звярнуцца ў міліцыю, якая тады, як і цяпер, знаходзілася ў палацы Тышкевічаў. Адчыніўшы дзверы, яны ўбачылі на більярдным стале маленькага хлопчыка, які заходзіўся ад плачу і крыку, і чырвонапагоннікаў, якія намагаліся суняць яго. На пытанне іх начальніка аб мэце візіту ў Валожын маладыя людзі шчыра прызналіся, што везлі хрысціць у касцёл дзіця. Міліцыянер здзіўлена сказаў: «Ну і ну, перш чым трапіць у касцёл, малы апынуўся ў нас. Дык як вы хочаце яго назваць?».

— Хвэлік!

— О, гэта другі Фелікс у нашым раёне! Можа, ён будзе такім жа вядомым, як і яго цёзка. Можаце ісці...

Хлопчыка ўсё ж ахрысцілі, і ў гонар святога, успамін якога паводле літургічнага календара адзначаецца ў дзень нараджэння дзіцяці, сапраўды далі яму імя Фелікс, што ў перакладзе з лаціны значыць «шчаслівы». Валожынскае здарэнне хросныя трымалі ў сакрэце і ад бацькоў, і ад хрэсніка да яго паўналецця. Прарочыя ж словы начальніка міліцыі здзейсніліся: «крыкун і плакса» стаў вядомым мастаком.

Цяпер Хвэльку, як яго называюць людзі ў Ракаве, ведаюць як Фелікса Янушкевіча. Ён праславіўся не толькі як мастак, рэстаўратар, але яшчэ як гаспадар арт-галерэі «Янушкевічы», якая дзейнічае ўжо дванаццаць гадоў пры яго ўласнай сядзібе.

У 1990-я гады ў Ракаве была створаная мастацкая галерэя сяброў Акадэміі выяўленчага мастацтва. З 1995 года пачалася дэманстрацыя карцінаў Фелікса Янушкевіча, скульптураў яго брата Валяр'яна і працаў вядомых мастакоў: Леаніда Шчамялёва, Уладзіміра Вішнеўскага, Валерыя Славука, Рыгора Сітніцы і памерлых заўчасна Георгія

# Замах на Кнігу рэкордаў Гінэса



Скрыпнічэнкі і Мікалая Селешчука, іншых вядомых мастакоў. Але творчая натура мастака не давала Феліксу Янушкевічу спакою — ён хацеў большага: падзяліцца сваім веданнем культуры, этнаграфіі, літаратуры, гісторыі, пакінуць для нашчадкаў спадчыну аб роднай мясціне, каб нашы людзі не былі чужынцамі на роднай зямлі, каб аб радзімай старонцы не балела начамі сэрца, як у славутага паэта Максіма Багдановіча. І вось нарэшце ў 2003 годзе задума Фелікса здзейснілася— свае дзверы гасцінна расчыніла арт-галерэя «Янушкевічы». Чаму галерэя атрымала назву ад прозвішча сям'і? Ды таму што не кожная сям'я ў Ракаве можа пахваліцца адоранымі дзецьмі, а іх у сям'і Янушкевічаў ажно пяцёра — і ўсе браты, якія дасягнулі значных поспехаў у розных галінах навукі і культуры. Скульптар Валяр'ян і мастак Фелікс маюць непасрэднае дачыненне да мастацтва і іх працы таксама змешчаны ў экспазіцыі галерэі.

У арт-галерэі «Янушкевічы» лунае дух эклектыкі. Зусім не бянтэжыць, што побач апынуліся стары фарфоравы, гліняны і шкляны посуд, бронзавыя і гіпсавыя фігуры, абразы, мэбля, адзенне, старыя музычныя інструменты, сучасныя карціны, польскамоўныя і нямецкамоўныя шыльды, розныя дакументы, фрагменты слуцкіх паясоў, кнігі, фотаальбомы, чучалы і скуры жывёлаў, прылады сялянскай працы. І пералічана яшчэ не ўсё, што знайшлося або было адкапанае ці прынесенае аднавяскоўцамі і сябрамі. Захапляе неверагодная колькасць небанальных апавяданняў, дэклямаваных вершаў і тое, з якою хуткасцю яны расказваюцца, а таксама глыбокае веданне гісторыі нашай Радзімы, бо ўсё ад таго, што гаспадар-экскурсавод услед за паэтам Артурам Вольскім паўтарае словы з яго верша: *«Як і кожны ў маёй старане, я багацце нязмернае маю. // Ды не ў грошах, не ў золаце – не! // У любові да роднага краю»*.

У арт-галерэі праводзяцца не экскурсіі, а хутчэй перформансы, калі прысутнічае сам мастак, вакол — яго карціны, мноства розных гістарычных рэчаў. На думку Фелікса, гэта самая вялікая інсталяцыя ў краіне. Ён хваліцца тым, што мог бы трапіць у «Кнігу рэкордаў Гінэса», бо за дванаццаць гадоў дзейнасці галерэі ён правёў больш за 10300 перформансаў. Перформанс — гэта тып візуальнага актуальнага мастацтва XX стагоддзя, у якім творам з'яўляюцца любыя дзеянні мастака, і гледачы бачаць іх у рэальным часе. Канцэпцыя правядзення перформансу ў гаспадара такая: мы — самы старажытны народ, у нас самая старажытная дзяржаўнасць, самая старажытная мова, самая багатая зямля. Усе сабраныя тут рэчы працуюць на гэту канцэпцыю. Асноўнай часткай экспазіцыі стала ракаўская кераміка. У свой час Фелікс Янушкевіч скончыў Інстытут мастацтвазнаўста, этнаграфіі і фальклору АН БССР і напісаў дысертацыю па ракаўскай і івянецкай кераміцы XVI–XX стагоддзяў. Цяпер у музеі налічваецца больш за 2 000 керамічных рэчаў, сабраных у Ракаве і яго ваколіцах або нейкім чынам звязаных з Ракавам. Многа керамікі было знойдзена пад уласным домам гаспадара. Знаходку ён тлумачыць тым, што даўней Ракаў быў старажытным прыватным горадам з багатай гарадской цывілізацыяй і стаяў на гасцінцы Вільня–Менск, якая была жывой артэрыяй нашай старажытнай дзяржа-

**Іна Бігель** — супрацоўніца выдавецтва «Pro Christo». Закончыла Мінскае педагагічнае вучылішча імя М. Танка (1997), філалагічны факультэт БДПУ імя М. Танка (2000), курс польскай мовы пры польскім консульстве ў Мінску (1991—1993) і курс удасканалення польскай мовы на факультэце паланістыкі Варшаўскага ўніверсітэта (1993). Аўтар перакладаў і артыкулаў у часопісах «Ave Maria» і «Наша вера». Друкавалася ў часопісе «Роднае слова».

вы і стратэгічнай уласнасцю вялікіх князёў літоўскіх. Да 1939 года горад Ракаў уваходзіў у склад Другой Рэчы Паспалітай. Ён належаў двум братам — Казіміру і Мар'яну Здзяхоўскім — і на працягу доўгага часу заставаўся актыўным культурным цэнтрам, які Эліза Ажэшка, гасцюючы ў Ракаве, назвала «літоўскімі Афінамі».

Паколькі жыццё сям'і Янушкевічаў праходзіла ў цэнтры Ракава, то ім пашчасціла адкрыць і на свае вочы ўбачыць неверагодныя нябачныя пласты гісторыі. Спачатку сям'я мясцілася ў іншым доме, крыху ўбок ад цэнтра, а потым набыла пляц у самым цэнтры Ракава і пачала ўладкоўваць сваё жыццё. З узвядзеннем гаспадарчых будынкаў для патрэбаў шматдзетнай сям'і здымаўся верхні пласт зямлі і на паверхню «выходзілі» старажытныя рэчы X–XIV стагоддзяў. Спецыяльных раскопак тут не праводзілася, але, як кажа Фелікс, падчас капання студні ён дайшоў да «археалогіі» — да падземных хадоў. Мастак, экскурсавод і ўжо археолаг на поўным сур'ёзе сказаў, што дзе б ён ні капануў — усюды знаходзіў старажытныя рэчы. Цяга да археалогіі ў яго пачалася яшчэ ў 1970-я гады і стала часткаю яго кандыдацкай дысертацыі. Усе адкапаныя артэфакты сведчаць пра нашу адметную старажытную дзяржаўнасць, дапамагаюць уявіць, як некалі жылі жыхары нашых земляў, як развіваўся гандаль.

Экспазіцыя арт-галерэі «Янушкевічы» размешчана на плошчы каля пяцісот квадратных метраў. Гісторыя кожнага экспаната і з'яўлення яго ў музеі ўнікальная: некаторыя «непатрэбныя» рэчы былі набытыя ў жыхароў, нешта наогул знойдзенае выкінутым на сметнік. Цяпер многія ракаўчане таксама даволі інтэнсіўна працуюць на ўвекавечванне гісторыі сваёй мясціны. Фелікса захапляе парадокс: шмат старажытных рэчаў з Ракава і ваколіцаў прыносяць людзі бедных сацыяльных пластоў, якія, жывучы ў старасвецкіх інтэр'ерах мінулага стагоддзя, далучаюць «старое і непатрэбнае» да яго экспазіцыі. Атрымліваецца, што яны становяцца захавальнікамі спадчыны. Ноўхаў гаспадара музея ў тым, што ён не падпісвае экспанаты, бо лічыць, што яны павінны жыць самастойна і ў той жа час разам, як непадзельнае цэлае.



Аль-фрэска, прысвечаная бацькам.

Фелікс Янушкевіч сустракае кожную экскурсію сам і ад нядаўняга часу распачынае яе з надворку. Складана перадаць усё пачутае і ўбачанае ў арт-галерэі «Янушкевічы», здаецца, што заснавальнік музея можа распавядаць пра гісторыю любога са сваіх экспанатаў не адну гадзіну. Гаспадар змясціў на галоўным фасадзе бацькоўскага дома тое, чым ён найбольш ганарыцца: бронзавы барэльеф з фамільным гербам роду Янушкевічаў «Любіч» і музамі (адліты з бронзы Валяр'янам Янушкевічам). Да герба «Любіч» належалі каля двухсот шляхецкіх родаў і, напэўна, гэта адзін з самых вядомых гербаў беларускай шляхты. Прыняты ў 1432 годзе на Гарадзенскай уніі, ён мае рысы рыцарскай сімволікі і сведчыць пра вялікія ваенныя паслугі Айчыне ў старажытныя часы. Падкова — славянскі сімвал рыцара, які меў прывілей ваяваць на кані, быць вершнікам. У старажытнасці высакародны рыцар лічыў за ганьбу ваяваць без каня. Ён уяўляў сябе вярхом у баявых даспехах, як, напрыклад, на гербе «Пагоня», або змяшчаў на сваім гербе падкову. Крыж над падковаю з'яўляецца сімвалам высакароднага рыцарства, а другі крыж у сярэдзіне падковы сведчыць пра рэлігійнасць рыцара. Крыж — гэта перамога, атрыманая мячом крыжа над месяцам, значыць над паганствам, татарамі, а таксама ўзнагарода, якая чакае кожнага, хто выконвае на зямлі Божую волю. Паводле геральдыкі, крыж нагадвае пра тое, што Езус сваёю смерцю на крыжы зрабіў яго сімвалам духоўнай перамогі. Гэты герб даваўся рыцару, пабожнасць якога параўноўвалася з мужнасцю. Улічваючы гады існавання герба на нашых землях, можна зразумець, чаму кожны рыцар пры патрэбе мусіў умець выкаваць сабе і меч, і падкову. Дэвіз роду Янушкевічаў гучыць ваяўніча: «Напісанае мячом застаецца».


Прылады сялянскай працы.

З левага боку ад фамільнага

герба знаходзіцца бронзавы барэльеф вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, першага і апошняга караля літоўскага Міндоўга, аднаго з заснавальнікаў нашай дзяржаўнасці (праца Валяр'яна Янушкевіча). Каляровая размалёўка Фелікса Янушкевіча заняла наступнае месца і прысвечаная яна вялікаму князю літоўскаму Ягайлу, каралю польскаму з 1386 года, і яго жонцы Сафіі Гальшанскай-Друцкай, якая паходзіла з роду Рурыкавічаў і ў 1424 г. стала польскаю каралеваю і заснавальніцаю дынастыі Ягайлаў.

Справа ад фамільнага герба пад шклом змешчана разьбяная фігура святога XVI стагоддзя, зробленая з суцэльнага смаляка (знойдзеная ў падзямеллі на васьміметровай глыбіні побач з камунікацыямі Ракава). Фігура захавалася ў добрым стане, але, на жаль, які гэта святы, невядома. Унізе пад фігураю напісаныя словы:

Бласлаўлёныя
ТЫ+Я

Па канцэпцыі гаспадара, спалучэнне займеннікаў «ты» і «я» ў адно слова тлумачыцца тым, што благаслаўлёнымі былі не невядомыя людзі, а тыя, хто раней насяляў нашыя землі, і ўвесь мясцовы люд, бо толькі ў нашай мове захаваўся гэты прыгожы займеннік — «тыя».

Унізе пад святым Фелікс намаляваў аль-фрэску, прысвечаную бацькам, якія далі жыццё сваім таленавітым дзецям. На бакавым фасадзе дома падаюцца векапомныя даты з жыцця сям'і, напрыклад, 1965 год, калі адзінаццацігадовае хлапчаня паехала вучыцца мастацтву ў Мінск; намаляваная аль-фрэска «Браты», вобраз якіх захаваўся менавіта такім у памяці Фелікса перад яго ад'ездам у Рэспубліканскую школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве.

На падворку — сапраўдны музей пад адкрытым небам, дзе кідаецца ў вочы адліты з бронзы


Галоўны фасад арт-галерэі «Янушкевічы».

Валяр'янам Янушкевічам помнік Вітаўту — аднаму з найбольш вядомых дзеячаў Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, названага яшчэ пры жыцці Вялікім, і другі адлівак — бронзавага сабакі, які падчас палявання выратаваў жыццё аднаму з Радзівілаў, а сам загінуў. Дарэчы, ў Нясвіжскім парку на магіле таго легендарнага сабакі пастаўлены такі ж помнік. Сабака «пасаджаны» на вянок з дубовых лісцяў, якім у старажытнасці ўзнагароджвалі за асаблівыя подзвігі, а на шыі ў яго вісіць медальён з Радзівілаўскім гербам. У баку ад Вітаўта і сабакі, перад уваходам у лазню, змешчана амаль уся этнаграфія побыту ракаўчанаў.

Сцены музея маюць даволі некласічны выгляд, бо па канцэпцыі мастака архітэктура павінна мець прыкметы дэкору — і гэта пацвярджаюць выкладзеныя з белага, чырвонага і зноў белага колеру сцены, якія нагадваюць вялікі сцяг нашай старажытнай краіны. Увагу прыцягваюць аль-фрэскі (адна з тэхнік насценных роспісаў), зробленыя па старажытнай тэхналогіі: малюнак наносіцца па сырой тынкоўцы, і пры высыханні вапны ў тынкоўцы ўтвараецца тонкая празрыстая кальцыевая корка, якая дапамагае аль-фрэсцы захавацца. Дзякуючы такой тэхніцы «плывуць» стронгі, якія ўсё яшчэ водзяцца ў рэчцы Іслач і лічацца сімвалам трываласці, і аль-фрэска пад назваю «Цуд у капліцы». Фелікс Янушкевіч увекавечыў цуд з дзяцінства, у рэальнасць якога верыць да сённяшняга дня, хаця мастакі — людзі з вельмі багатым уяўленнем — як сказаў калісьці паэт: «І без выдуманай казкі, // я і дня не пражыву». Дык вось гэты цуд захаваўся ў памяці чатырохгадовага Хвалькі, а здарыўся ён увосень 1958 года. У той час ракаўскі касцёл быў зачынены, а на богаслужэнні вернікі збіраліся ў капліцу на могілках. Падчас набажэнства хлопчык звычайна разам з маці і харысткамі стаяў на сваім улюбёным месцы на харах, а пасля службы ён разам з іншымі людзьмі ішоў да брамы. Аднойчы нейкая невядомая сіла прымусіла Хвэльку азірнуцца. У акне ён убачыў тры ўсмешлівыя тварыкі, якія мяняліся месцамі, а вакол іх трапяталі крылцы. Ён не верыў сваім вачам, бо толькі што быў на харах і нічога падобнага не бачыў. Хвэлька тузануў маці за рукаў і здзіўлена сказаў: «Мама, у акне капліцы анёлкі!». Маці з бацькам пераглянуліся, і маці ўсё ж глянула ўгору, але там ужо нікога не было... Гэтае цудоўнае здарэнне вырашыла для мастака пытанне пра Бога, існаванне якога ў атэістычнай дзяржаве СССР адмаўлялася.

На сценах музея таксама створаныя аль-фрэскі Пясецкага — беларускага пісьменніка, шпіёна і кантрабандыста; дачкі Вікторыі; князя Міхала Клеафаса Агінскага — музыкі і



Фісгармонія М. Грушвіцкага.

кампазітара, «Цуд на Узвіжанне» (у каталіцкай традыцыі — Узвышэнне Святога Крыжа) — пра аздараўленне сляпога Каспарэвіча на месцы аб'яўлення Маці Божай. Мясцовае паданне сведчыць, што здарыўся гэты цуд 14(27) верасня, калі змеі кучкующца, а потым распаўзаюцца па норах. Сляпы ад нараджэння дзед Каспарэвіч неяк ішоў пушчаю і заблукаў. Раптам яму аб'явілася Маці Божая і сказала памыць вочы вадою, якая б'е ў Яе з-пад ног, каб бачыць. Стары так і зрабіў. Вярнуўшыся ў Ракаў відушчым, Каспарэвіч распавёў людзям, што ён не толькі стаў бачыць, але і вітаў яшчэ Маці Божую. Ракаўчане пабеглі ў пушчу і сапраўды ўбачылі на тым месцы крынічку, якая і да сённяшняга дня лічыцца святою, бо дапамагае тым, хто мае праблемы са зрокам.

У першай зале экспазіцыі ўражвае трохметровая гіпсавая мадэль, па якой адліваўся бронзавы помнік Адаму Міцкевічу для Наваградка, даўняй сталіцы ВКЛ, месцы хросту і жыцця вядомага паэта. На гэтым паверсе таксама можна ўбачыць карціны Фелікса Янушкевіча, экспанаты побыту аднавяскоўцаў і ракаўскую кераміку з ініцыяламі майстроў і датамі стварэння рэчаў. Тут жа стаіць няспраўная фісгармонія мясцовага кампазітара Міхала Грушвіцкага. Фісгармонію знайшлі 10 гадоў назад у свінушніку ў Выганічах — вёсцы, якая належала роду Грушвіцкіх (яна адгароджвала свінняў ад хлява, і яны пачалі яе грызці). Пра тое, што гэта быў высокаякасны інструмент XIX ст., з 11-цю рэгістрамі, корпусам з дрэва каштоўныхародаў і клавішамі са слановай косці, сведчыць захаваны ў добрым стане лэйбл фірмы-вытворцы *«„KARN&Co“ Woodstock Canada»*. Магілу самога музыкі браты Янушкевічы адшукалі на ракаўскіх могілках у 1980-я гады. Пад крыжам на каменным пастаменце захаваўся фрагмент яго нотаў і надпіс: *«Tu nasz lirnik wioskowy skonał, grając na lirze»*, па якім можна меркаваць, што Міхал Грушвіцкі напісаў не адзін музычны твор. Валяр'ян Янушкевіч, узрадаваны чарговаю знаходкаю яшчэ аднаго дзеяча культуры з Ракава, зрабіў бюст Міхала Грушвіцкага, які стаіць на любімым клавішным інструменце кампазітара.

На другім паверсе экспазіцыі дэманструецца падарожны сакрэтнік Адама Міцкевіча. Сям'я Янушкевічаў ганарыцца тым, што яны былі звязаныя са славутым паэтам. Паводле сямейнага падання, аднаму з іх продкаў, прапрадзеду Яўстафію Янушкевічу, які служыў у Адама Міцкевіча сакратаром, паэт перадаў свой падарожны сакрэтнік. Падарунак славутага паэта спачатку апынуўся ў Дзягільне, маёнтку блізкіх родзічаў ракаўскіх Янушкевічаў, потым, дзякуючы Ануфрыю Янушкевічу, трапіў у Заслаўе, а адтуль — у Ракаў.

На гэтым жа паверсе дэманструецца прыгожы шкляны посуд, які ляжаў у бочках пад зямлёю. Калісьці закапаны скарб належаў габрэйскай сям'і Ёсіфа Краснасельскага, дом якога стаяў на гэтым месцы. Вестка пра аб'яўленне 1 верасня 1939 года вайны Германіяй Польшчы, у склад якой тады ўваходзіў Ракаў, вымусіла мясцовых габрэяў па загадзе кагала схаваць усю каштоўную маёмасць. Ракаўскія габрэі склалі ўсё ў медныя бочкі, залілі волавам і закапалі. Калі рыхтавалася месца пад музей, з зямлі выкапалі 3 бочкі, дзе было ўсё: ад памады ў свінцовым цюбіку да жалезнага начнога гаршка, нават захаваліся ізалятары для электрычнасці фірмы «*J. Stolle „Nieman“*». Габрэі пакінулі немцам толькі драўляны і гліняны посуд. Уся «цывілізацыя», якой яны карысталіся, дайшла да нашага часу. Габрэйскі Талмуд і шмат кнігаў браты Янушкевічы знайшлі на гарышчы свайго старога дома, дзе яны нарадзіліся

Кожны дзень арт-галерэі «Янушкевічы» не праходзіць бясследна. За дванаццаць гадоў працы назбіралася 7 вялікіх кнігаў запісаў наведвальнікаў. Сваім захапленнем ад пачутага і ўбачанага ў іх дзеляцца супрацоўнікі дыпламатычных корпусаў, замежныя і мясцовыя госці розных узростаў і нацыянальнасцяў, былыя ракаўчане, калегі мастакі. Такім поспехам найперш можа пахваліцца толькі Хвэлька. У яго ёсць яшчэ адна мара: адкапаць падземны тунэль у двары паміж двума будынкамі музея — і гэта будзе чарговы яго скарб.

На развітанне амаль заўсёды дзеці Фелікса Янушкевіча — Валяр'ян і Вікторыя — іграюць паланэзы Агінскага, апошняга ўладальніка горада Ракава і графства Ракаўскага. І гэта чароўная музыка яшчэ доўга гучыць у душы, таму міжволі вяртаешся ў гасцінны падворак арт-галерэі «Янушкевічы», удыхаеш паветра даўніны, атрымліваеш асалоду ад усяго ўбачанага і пачутага, усведамляеш адказную грамадзянскую пазіцыю сапраўднага мастака-творцы, яго ролю ў жыцці нашага народа і радуешся, што ў Беларусі ёсць яшчэ такія ўлюбёныя ў свой край людзі.




# Драматургічны эпас Алеся Петрашкевіча

Алесь Петрашкевіч. Здрапежаная зямля: гістарычныя п'есы ў 2 кнігах. — Мінск, Канфіда. – 2015. Кн. 1 – 538 стар; кн. 2 – 522 стар.

Аднойчы выпала мне ў складзе нешматлікай дэлегацыі ад Беларусі ўдзельнічаць у Днях славянскага пісьменства ў расійскім Белгарадзе. Праграма была насычаная і цікавая — наведванне Музея-сядзібы актора Міхаіла Шчэпкіна ў вёсцы Аляксееўка, Музея-дыярамы «Танкавая бітва пад Прохараўкай», знаёмства і сумесныя выступы з вядомымі расійскімі пісьменнікамі. Запомнілася, як падчас шматтысячнага тэатралізаванага дзейства на белгарадскай плошчы артыст Міхаіл Ульянаў прачытаў знакаміты верш Аляксандра Твардоўскага «Я забіты пад Ржэвам».

Ішоў 1995 год, і нас, беларусаў, на той Белгарадчыне абходжвалі, як нявесту на выданні: «славянска-брацкая» рыторыка кацілася ад аднаго мерапрыемства да другога, тосты за «адзіную Русь» падгарчылі і адставілі ў бок не адну напоўненую чарку, да нас у гатэль прыходзіў нават сам вярхоўны казацкі атаман і агітаваў узначаліць «казацкі рух» у Беларусі...

А калі свята аціхла і схлынуў спадарожны яму ідэалагічны тлум, мне падумалася, што ці не самым змястоўным успамінам з паездкі ў Белгарад сталіся ўсё ж не танкі-муляжы і не атаманы з чырвонымі сталінскімі лампасамі на нагавіцах, а працяглая (больш за суткі) гутарка з пісьменнікам Алесем Петрашкевічам. Мне пашчасціла двойчы апынуцца з ім у адным купэ, а на зваротнай дарозе нам увогуле ніхто не замінаў — пасажыраў больш не было. І — цякла няспешная размова пра ўсё на свеце: пра стварэнне «Беларускай Энцыклапедыі», пра Пятра Машэрава і працу ў ЦК КПБ, пра выданне хронікаў «Памяць», якія тады акурат пачалі выходзіць — па дыхтоўным томе на кожны раён...

Паступова ручаёк маіх пытанняў перасыхаў, і тады спакойна і ўраўнаважана плыў маналог майго спадарожніка. Алесь Лявонавіч расказваў — нібы чытаў у асобах п'есу, гаворачы за герояў, нават голас змяняў, а рэплікі падкідваліся як бы збоку. Апавядальнік свабодна перамяшчаўся са стагоддзя ў стагоддзе, лёгка цытаваў па памяці, абмалёўваў,

напрыклад, Кастуся Каліноўскага ці таго ж Машэрава, так яскрава, што, здавалася, яны з намі ў адным купэ сядзяць.

Няблізкая дарога ў Белград праз дзве мяжы (цягнік ішоў праз украінскі Харкаў) здалася мне тады дзвюма кароткімі паездкамі ў метро. Помніцца, пасля чарговай гісторыі я не вытрымаў: «Алесь Лявонавіч, Вам трэба пісаць п'есы ці аповесці — у вас назапашана столькі матэрыялу!». — «І праўда, чаму ж мне ізноў не сесці на свайго драматургічнага каня і не паказаць, чаго варты стары Талаш», — парафразай з Якуба Коласа адказаў мой спадарожнік.

У тым жа купэ ён падзяліўся са мною сваёй грандыёзнай задумай — напісаць цыкл гістарычных п'есаў, сюжэты якіх мусілі грунтавацца на рэальных падзеях беларускай мінуўшчыны. «Цыкл — гэта колькі? Пяць-шэсць-сем?» — запытаўся я, прыгадаўшы, што ўлюбёны мною Уладзімір Караткевіч пакінуў прыблізна столькі ж драматычных твораў, большую лічбу назваць мне не дазволіў і паважны век Алеся Лявонавіча.

«Не пяць-шэсць, а дваццаць шэсць! Гэта калі залішне не размахвацца», — збянтэжыў мяне мой шаноўны суразмоўца і тут жа пачаў пералічваць знакавыя падзеі, вакол якіх павінны былі б закруціцца драматургічныя сюжэты: Грунвальдская бітва, канцлераванне ў Вялікім Княстве Літоўскім Льва Сапегі, заігрыванне Радзівілаў з Масковіяй і царом Аляксеем Міхайлавічам, паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі і яго зняволенне ў Петрапаўлаўскай крэпасці, расійска-французская вайна 1812 года і ўдзел у ёй беларусаў, паўстанне Кастуся Каліноўскага і яго перадэшафотныя дні і ночы, Слуцкае паўстанне, стварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі, узнікненне БССР і датычнае да яго бальшавіцкае закуліссе, жыццё Янкі Купалы ў самыя драматычныя для яго 30-я гады...



Алесь Петрашкевіч.

Мне ажно дых заняло. «І пра ўсё гэта Вы плануеце (я ледзь не ляпнуў „паспееце“) напісаць па п'есе?». — «Галоўнае — гэта веліч задумы. І каб здароўя хапіла», — пачуў я тады ад Алеся Лявонавіча.

А яшчэ праз некалькі гадоў, калі мы абодва змушаныя былі пакінуць працу ў Міністэрстве культуры і друку (якое то аб'ядноўвалася, то дзялілася, а кіраўнікі змяняліся двойчы на год), на свет пачалі з'яўляцца гістарычныя п'есы Алеся Петрашкевіча — найперш у тэбээмаўскай газеце «Наша слова», што намаганнямі грамадскіх рупліўцаў і цяпер выходзіць у Лідзе.

П'есы друкаваліся адна за другой, але айчынныя тэатры (дзяржаўныя і самадзейныя) іх не заўважалі. Дзяржаўныя па даўняй традыцыі выжывалі на праверанай часам класіцы, а самадзейныя ахвотней ставілі замежных драматургаў, спадзеючыся на дапамогу амбасадаў.

Факт, які застанецца ў гісторыі беларускага тэатра, — з дзевятнаццаці гістарычных п'есаў Петрашкевіча на сцэну не трапіла (!) ніводная. Выняткам — драма пра Францішка Скарыну «Напісанае застаецца», якая ў тэатрах ішла і мела поспех, але адбывалася тое яшчэ за савецкім часам. Тая гісторыя, якую драматург спрабаваў вынесці на святло рампы ўжо ў гады незалежнасці, чамусьці палохала рэжысёраў.

Алесь Лявонавіч, вядома ж, перажываў, але выгляду не паказваў. Калі мастацкі фільм пра слуцкіх паўстанцаў, зняты па творах Васіля Быкава, быў негалосна забаронены і лёг на доўгія гады на паліцу, то хто ж возьмецца ставіць п'есу на тую ж тэму? Драматург разумеў — ніхто. Але мужна сядаў за стол і пісаў новую п'есу — на яшчэ больш крамольную тэму, дзе фігуравалі кнорыны, ландэры і мяснікяны — душыцелі Беларусі і ўсяго беларускага, каго потым савецкая ўлада гвалтам упіхнула ў пантэон беларускіх жа герояў. Прайдзіцеся па сталічных вуліцах — яны ў тых героях лічацца да гэтай пары...

У кароткай нататцы немагчыма прааналізаваць усе дзевятнаццаць п'есаў (столькі іх і ўвайшло ў нядаўна выдадзены двухтомнік «Здрапежаная зямля»). Не будзеш жа гаварыць пра вартасці адной, ні словам

не згадаўшы пра другія. А каб чытачы займелі хоць прыблізнае ўяўленне, пра што і пра каго тыя п'есы, падам тут толькі імёны герояў і антыгерояў, чые партрэты (больш падрабязна ці эпізадычна) накрэсліў Алесь Петрашкевіч у сваіх прызначаных для будучыні творах: Рагвалод, Рагнеда, Уладзімір Святаслававіч, Усяслаў Чарадзей, князь Брачыслаў, Еўфрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Міндоўг, Войшалк, Трайнята, Таўцівіл, Даўмонт, Кейстут, Вітаўт Вялікі, Ягайла, Скіргайла, Свідрыгайла, Жыгімонт І Стары, Міхайла Глінскі, Канстанцін Астрожскі, цар Іван ІІІ, Францішак Скарына, Мікола Гусоўскі, Максім Грэк, Мікалай Капернік, Томас Мюнцар, Марцін Лютар, Пятро Мсціславец, Бона Сфорца, герцаг Альбрэхт, Якуб Бабіч, Мікалай Радзівіл Руды, Ян Хадкевіч, Астафей Валовіч, Жыгімонт ІІ Аўгуст, Ян Глябовіч, Жыгімонт ІІІ Ваза, Крыштаф Радзівіл, Леў Сапега, Марына Мнішак, Барыс Гадуноў, Васіль Шуйскі, Януш Радзівіл, Багуслаў Радзівіл, Мікалай Патоцкі, цар Аляксей Міхайлавіч, патрыярх Нікан, Багдан Хмяльніцкі, Кацярына ІІ, Тадэвуш Касцюшка, Юльян Нямцэвіч, Якуб Ясінскі, Тамаш Ваўжэцкі, Аляксандр І, Аляксандр Бенкендорф, Адам Чартарыйскі, Барклай дэ Толі, Міхал Клеафас Агінскі, Напалеон Банапарт, Кастусь Каліноўскі, Марыся Ямант, Міхаіл Мураўёў, Уладзімір Пракулевіч, Павел Жаўрыд, Васіль Русак, Антон Сокал-Кутылоўскі, Уладзіслаў Галубок, Уладзімір Тэраўскі, Вільгельм Кнорын, Іосіф Апанскі, Антон Луцкевіч, Язэп Лёсік, Раман Скірмунт, Алесь Гарун, Аркадзь Смоліч, Канстанцін Езавітаў, Макар Краўцоў, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Язэп Варонка, Палута Бадунова, Тамаш Грыб, Фабіян Шантыр, Зоська Верас, Аляксандр Мяснікоў, Якаў Свярдлоў, Іосіф Сталін, Зміцер Жылуновіч, Язэп Дыла, Янка Купала, Лукаш Бэндэ...

І гэта толькі галоўныя героі! А колькі дзейных асобаў выконваюць у п'есах ролі другаснага плану, складаюць рэальную ці створаную фантазіяй драматурга світу каралёў, вялікіх князёў ды іншых уладатрымаўцаў! І кожнаму ў вусны ўкладзены гістарычна і сітуацыйна матываваны тэкст.

Па абсягу выкананай працы плён Петрашкевіча-драматурга няма з чым і параўнаць. Гэта насамрэч драматургічны эпас, які ўвабраў у сябе ўсе вузлавыя падзеі беларускай гісторыі.

Помніцца, як у 2003 годзе ў Літаратурным музеі Янкі Купалы на прэзентацыі кнігі Алеся Петрашкевіча «Воля на крыжы» слова ўзяў народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, які не стрымліваў сваіх эмоцый: «Якую працу ўзяў на сябе Алесь Лявонавіч! Дзевятнаццаць п'есаў, і ўсе — рэчы сур'ёзныя, усе звязаныя, знітаваныя храналагічна, і кожная наступная нібы выцякае з папярэдняй, што дае нам уяўленне гістарычнага працэсу, які развіваецца па спіралі, і ўсё да горшага. Аўтар нібы папярэджвае: беларусы, схамяніцеся!».

Калі згадваць п'есы, ад якіх Беларусь схамянулася, то найперш трэба назваць «Тутэйшыя» Янкі Купалы ў пастаноўцы Мікалая Пінігіна. Больш за дзесяць гадоў яна ішла з аншлагам у Купалаўскім тэатры, людзі ішлі на яе тройчы і пяцёрачы, каб паглядзець на вакольны свет купалаўскімі вачыма і — схамянуцца.

Сёння ўсім нам схамянуцца шмат што (і хто) перашкаджае. Чужая масавая культура (насамрэч — бескультур'е) запаланіла тэлеэкраны, інтэрнэт-прастору, дабралася і да тэатральнай сцэны. Але і яна (калі ўжо без яе немагчыма абысціся) мусіць узрастаць на сваім камлі, а не на чужародных галінах-прышчэпах. Дрэва айчыннай гісторыі — кроністае і карэністае, што і паказаў сваёй драматургіяй Алесь Петрашкевіч.

Калісьці паэт і стваральнік Беларускай энцыклапедыі Пятрусь Броўка сказаў яму, свайму маладому паплечніку: «Я буду, як ледакол, лёд ламаць, а вы — крыгі ззаду разводзіць, каб плынь не замярзала».

Алесь Петрашкевіч перад караблямі беларускіх тэатраў развёў крыгі гісторыі — можна смела рухацца ў гэтым напрамку. І я нават не бядую, што наклад двухтомніка мізэрны — усяго 60 асобнікаў. Ён малаваты, але дастатковы — яго з запасам хопіць на ўсе тэатры, якія сёння дзейнічаюць у Беларусі.

*Міхась СКОБЛА*

**Міхась СКОБЛА** — паэт, журналіст, даследчык літаратуры. Нарадзіўся 23 лістапада 1966 г. на хутары каля мястэчка Дзярэчын Зэльвенскага раёна. У 1991 г. закончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Выдаў зборнікі паэзіі «Вечны Зьніч» (1990), «Вочы Савы» (1994),«Нашэсьце Поўні», кнігу літаратурных пародыяў «Розгі ў розьніцу» (1993), зборнік вершаў для дзяцей «Камень-перунок» (1998), кнігу гістарычных нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш» (1999). Укладальнік анталогіі беларускай паэзіі XX ст. «Краса і сіла» (2003), шматлікіх твораў класікаў нацыянальнай літаратуры ў серыі «Беларускі кнігазбор», анталогіі перакладаў сусветнай паэзіі XX ст. на беларускую мову «Галасы з-за небакраю» (2008) і інш.

# Усе дарогі праходзяць праз Зэльву...



*Мы сустрэнемся ўсе калі-небудзь...*
*у далонях сунічнага неба...*
*там і вечар рыфмуецца з верай...*
*на мяжы*
*расстраляных вятроў*

Іна Снарская.
«Ад сэрца да сэрца — дарога...»

Мы прыехалі ў Зэльву ў адзін і той жа час — я з сябрам Валянцінам Кудрыкам з Гродна, а Міхась Скобла — з Мінска. Міхась прывёз чарговую кнігу ўспамінаў пра Ларысу Геніюш — «Духу магутныя чары» (Мінск, «Лімарыус», 2015), і жанчын — жонку Ларысу, спявачак Вальжыну Цярэшчанку і Таццяну Грыневіч; а паміж імі махала рукой і аж выскоквала праз шкло белагаловая жанчына, якую я ведала і не ведала: бачыла гэту белую кучаравую галоўку ў тыднёвіку «Новы час» — там вершы мае і яе былі змешчаны на адной старонцы, а яшчэ раней чытала яе падборку ў квартальніку «Наша вера». Але асабіста мы не былі знаёмыя.

Мне было добра ад таго, што ў тыднёвіку «Новы час» змясцілі побач вершы Іны Снарскай і мае. Яна напісала пра Украіну — «Памяці нябеснай сотні», «Жаўруковая воля — памяці загінулых». Я выбрала асобныя радкі з той падборкі і змясціла зверху як эпіграф да гэтых разважанняў...

Такім парадкам мы з Інай Снарскай сустрэліся на 105-х угодках Ларысы Геніюш 8 жніўня 2015 года каля той хаціны, дзе Ларыса Антонаўна пражыла значную частку свайго жыцця. Прывіталіся і пайшлі ў царкву: мы ж прыехалі памаліцца за ўвесь род Геніюшаў — Міклашэвічаў. У царкве мы моўчкі падзякавалі Богу за яе светлы талент, за ўсіх, хто яе любіў і каго яна любіла, а любіла яна ўсю Беларусь, то і нас таксама...

І так мы з Інай Снарскай былі з'яднаныя любоўю на святой зямлі Ларысы Геніюш, а паміж нашых сэрцаў змясціліся Беларусь і Украіна — ад Полацка да Палтавы, бо жыве Іна Снарская ва Украіне, яна вярталася дадому ў Палтаву, а дарога ляжала праз Зэльву.

Увесь святочны дзень мы правялі разам: у царкоўцы і на яе дзядзінцы, дзе стаіць прыгожы помнік Паэтцы, якая малілася ў гэтай царкоўцы... Каля помніка мы чыталі вершы і проста ўспаміналі Ларысу Антонаўну, дзяліліся ўспамінамі з людзьмі, якія ведалі паэтку лепей, чым мы: ад 1956 года сустракалі яе кожны дзень, слухалі нас яе сяброўкі і сваячкі — Ірына Тукальская, Ірына Васілеўка, Зося Каліноўская... Спявачкі Вальжына Цярэшчанка і Таццяна Грыневіч паспявалі песні на словы Ларысы Геніюш. І сказаў сваё слова-благаслаўленне святар царкоўкі, каля якой адбываліся ўрачыстасці, айцец Георгій.

А пасля, хто хацеў, атрымаў аўтографы на кнізе ўспамінаў пра паэтку, і ўсе паехалі на могілкі. Каля надмагільнага помніка па Ларысе і Янку Геніюшах таксама чыталі вершы, спявалі песні і, хто як умеў, той так маліўся, каб іх душы пачулі...

Адвячоркам мы апынуліся ў лесе за возерам, дзе прадаўжалася наша светлае сумоўе. Праўда, амаль не было слухачоў — барды, пісьменнікі, журналісты слухалі саміх сябе.

Мы з Інай увесь гэты час былі побач, у перапынках размаўлялі, пераважна пра Украіну, пра людзей, якія мужна пераносяць выпрабаванні дзеля светлай будучыні незалежнай моцнай дзяржавы, якой Бог даў размясціцца на такім шчодрым абшары зямлі. На развітанне абмяняліся кніжачкамі. Іна падпісала мне кнігу вершаў «Ад сэрца да сэрца — дарога...» (Палтава, «Дивосвіт», 2013). Вершы на беларускай мове, уступнае слова доктара філалагічных навук, прафесара Мікалая Сцепаненкі — на ўкраінскай мове.

У сваіх вершах Іна Снарская напісала і пра тое, як дзяўчаты сустракаюць сваё каханне, едуць за хлопцамі на край свету, каб пасля ўсё жыццё сумаваць па родных мясцінах і вяртацца да іх, адчуваць сябе ў дарозе...

*Сустракаемся, каб вярнуцца*
*да сябе, маладых і дужых.*
*Кола часу завеі кружыць*
*па праталінах шэрых вуліц.*
*Сустракаемся, каб пачацца,*
*адрадзіцца, як птушка Фенікс...*

Паэзія Іны Снарскай светлая, чыстая. Чытаць яе вершы прыемна. Здзіўляюць такія, здавалася б, простыя сваёй пабудовай радкі, як гэты, — «*і зямлю адштурхнуць каленьмі*» замест «*укленчыць*». «*Пакуль я чую голас твой — звані*». Такі просты па змесце сказ, а такая глыбокая думка. «*Прыступачкамі хваін...*» Ну хто яшчэ так скажа? Або няправільнае: «*Дарога квітуе нядоўга...*»

Калі так задумацца, то Іна напісала сваю кнігу па Езусавай праграме: «*Я — дарога, жыццё і праўда...*». Божае выслоўе не гучыць адкрытым тэкстам у паэзіі, але ўся, знешне наіўная і прымітыўная, лінія таямнічай дарогі як долі, як жыцця, як прызначэння, як наканавання ў жаночай сціплай, не крыклівай філасофіі прыкладаецца па Езусавай формуле, толькі дадаецца каханне, таямнічы невідочны прысутны — ён не надзяляецца канкрэтнымі рысамі, ён проста ёсць, як і ўсе астатнія атрыбуты шчасця.

*Дарога бяжыць да сэрца,*
*сунічнае сэрца маё.*
*Чаму ж ёй баяцца смерці,*
*калі там жыцця да краёў?*

Метафараў, такіх, як у Рыгора Барадуліна, Андрэя Хадановіча, Марысі Мартысевіч ці ў Віталя Рыжкова, у Іны Снарскай не знойдзеце. Мастацкія знаходкі, метафары, іншасказанні, параўнанні, эпітэты ёсць — схаваныя, акуратненька загорнутыя ў скарлупінкі думкі:

*там на гарышчы яблыкі заснулі.*
*І толькі дрэвы неба нам адчыняць,*
*а потым крылы аддадуць свае.*

Перагартала я першы раздзел «Дарогі», які пераходзіць у раздзел «Дрэвы», а дзе дрэвы, там і «Карані», а з каранямі — ахвяры рэпрэсій, расстрэлаў —невядома, дзе пахаваны дзед Іны Снарскай і яго брат, нявінна засуджаныя і замучаныя .

...Чытаю вершы Іны Снарскай і разумею, чаму мы, сустрэўшыся ў Зэльве, увесь час былі побач, — так, як яна ў вершы «Жыццё», магла б падумаць і я:

*Ужо да лесу некалькі снягоў,*
*а я бягу. Гарэць вакол паходні.*
*І гэта паляванне на ваўкоў,*
*братоў маіх, па адзіноце родных...*

Неяк у вершах Іны пераблытваецца, перапляпаецца *сунічнае* адчуванне духу самой паэткі з душой зямлі, раслінаў на ёй, — *у руках толькі лён*, — снягоў, квітнення, перастварэння, сцвярджэння таго, як дасканала ўсё створана Тварцом, як мы залежым узаемна адно ад другога — жанчына ад мужчыны, чалавек ад пчалы, пчала ад кветкі, *закаханыя людзі і залатыя чмялі* — ад вады, агню, зямлі і неба, усё і ўсе залежым ад Божага Провіду, ад Божай волі. Перапляценне на ўзроўні культур сумежных Краінаў — Іна будуе сваё дрэва паэзіі каля дарогі ўкраінскіх народных песняў і, магчыма, сучасных знаходак украінскіх паэтаў, а беларускае пры ёй застаецца.

Магчыма, Іна Снарская не заўважыла, пра што яна напісала ў кніжцы вершаў. Каб быць шчаслівай і ехаць за каханым на чужыну, трэба добра падумаць, ці можна запоўніць толькі каханнем дрэва роду і народу, на якім радня – сёстры, браты, суседзі, цёткі, дрэвы, дарогі, карані і ўся Радзіма. Калі іх няма, шукаем замены ў прыродзе. Я ў Гродне гэта перажыла, тут, у Беларусі, бо вясковая, а Іна зведала гэта ў Палтаве. Думайце, дзяўчаты, перад тым як выходзіць замуж, ці запоўніць адзін найлепшы мужчына ўсю гэтую родавую глыбіню...

Кніжка Іны Снарскай зноў і зноў пераконвае мяне ў тым, што мала хто з паэтаў можа абыходзіцца без рэдактара і карэктара, але калі ты выдаешся ў Палтаве «*на мове вершаў сонечна-зямных*», то, мусіць, трэба вяртацца не толькі да родных магілаў, але і да сяброў па літаратурным аб'яднанні «Крыніца», якое Іна наведвала ў Полацку ў гады свайго студэнцтва ў 1986–1987. Калі сябры засталіся сябрамі, а вершы кажуць адваротнае — іх там няма... Калі Іна прыязджае ў Мінск, яна спыняецца ў плябаніі касцёла святых Сымона і Алены.

«Дарога толькі тады мае сэнс, калі асвечана любоўю і таямніцаю пакаленняў. У маіх грудзях б'ецца сэрца маёй маці, бацькі, дзеда і бабулі, хто пайшоў за мяжу вечнасці. Адтуль, з нябёсаў, родныя дапамагаюць, а я за іх жыву, малюся і «прарастаю галінамі». Яны мае карані. Аднойчы карэннем стану і я, а мой сын і яго дзеці прарастуць скрозь мяне галінамі. Так прадоўжыцца жыццё. Вечнае і чалавечнае». Так паэтка Іна Снарская сама сказала пра сваю долю і сваю кнігу. Мудрыя, праўдзівыя словы...

*Данута Бічэль*

## CONTENTS

We start the new issue of the quarterly magazine "Our Faith" with the "Joint Declaration of Pope Francis and Patriarch Kirill", where the hierarchs are calling God's people for peace and mercy (p. 2-5).

Doctor of philosophy S. Gresvi dedicates her material "Short Biography of St. John of the Cross" to the great Spanish mystic. Here you will also find an excerpt from the treatise of St. John "Ascent of Mount Carmel" translated by S. Gresvi (p. 6-11).

We continue to print "The Four Loves" by English writer and theologian C.S. Lewis translated by Y. Shedzko (section "Friendship"), as well as the translation of the work by Stephan Svyazhauski «Saint Thomas, re-read» made by A. Zhlutka (p. 12-17).

In the essay "The Signs of Mercy" K. Lialko talks about her work on the translation of the "Diary" by St. Faustina Kowalska (p. 18-21).

In the column "Poetry" we put new poems by D. Bichel (p. 22-23).

Literary critic and Professor E. Liavonava writes about the poem "Ash Wednesday" by Nobel Prize winner T.S. Eliot (p. 24-29).

Historian A. Shpunt offers to the readers the article "Father Stanislaw Bonifacy Jundzill SP", dedicated to the unique personality of this priest, who created the Vilnius Botanical Garden (p. 30-34).

Art critic A. Yarashevich in his article "Saint Joseph in the Belarusian Sacral Art" talks about the artistic images of St. Joseph (p. 35-37).

H. Shauchenka offers to the readers her article on memoir prose of F. Karpinski, as well as the translation of a passage from the "Memoirs" of the Polish writer and poet (p. 38-44).

Fifth year student of BSU V. Kachalka makes her debut in the magazine with her translation from the old Polish language of "The Homily of Fr. Marcin Widziewicz at the Funeral of Nicholas Christopher Radziwill" (p. 45-51).

A. Valchuk in the article "Spain and the Spaniards in "Dyjariusz" by Juwenalis Charkiewicz" introduces an interesting example of memoir literature of the second half of the 18th century (p. 52-57).

Literary critic I. Bagdanovich in her article "In the Footsteps of Father Uladzislau Charniauski" writes about the opening of the museum dedicated to the priest in the village of Vishnieva in Valozhyn district, where he served for a long time of his life (p. 58-60).

Essay "Mariusz Karpovich" by U. Dzianisau dedicated to the memory of the famous art historian, Polish professor M. Karpovich (p. 61-62).

I. Bigel in her article "Hvelka or Attempt on the Guinness Book of Records" writes about one of the most interesting representatives of the Yanushkevich family artist Felix Yanushkevich who created his art gallery in Rakau (p. 62-66).

M. Skobla in the essay "The Dramaturgic Epos of Ales Petrashkevich" presents his new interesting book "Ales Petrashkevich. The Sacked Earth..." (2015) (p. 67-69).

D. Bichel from Grodno in her article "All Roads Go through Zelva" acquaints the readers with the poetry of Ina Snarskaya (p. 70-71).

## RESÜMEE

Die neue Nummer der Vierteljahreszeitschrift „Unser Glaube" beginnt mit dem Text „Gemeinsame Erklärung von Papst Franziskus und Patriarch Kyrill von Moskau und dem ganzen Rus", in der die Hierarchen das Volk Gottes zu Frieden und Barmherzigkeit aufrufen (S. 2-5)

Dem großen spanischen Mystiker ist der Beitrag von Dr. phil. S. Greswi „Eine kurze Lebensbeschreibung des heiligen Johannes vom Kreuz" gewidmet. Hier befindet sich auch ein Auszug aus dem Traktat des heiligen Johannes „Aufstieg auf den Berg Karmel" in der Übersetzung von S. Greswi (S. 6-11)

Fortgesetzt wird die Publikation des Werkes „Vier Arten der Liebe" des englischen Schriftstellers und Theologen C. S. Lewis in der Übersetzung von J. Schedsjko (Abschnitt „Freundschaft") sowie die Publikation des Werkes von Stefan Swieżawski „Heiliger Thomas, neu gelesen" in der Übersetzung von A. Shlutka (S. 12-17)

Im Essay „Barmherzigkeit" reflektiert K. Ljalko über ihre Übersetzerarbeit am „Tagebuch" der heiligen Faustyna Kowalska (S. 18-21)

Die Rubrik „Poesie" enthält neue Gedichte von D. Bitschel (S. 22-23)

Über das Poem „Aschermittwoch" des Nobelpreisträgers T. S. Eliot schreibt die Literaturwissenschaftlerin Prof. J. Ljawonawa (S. 24-29)

Der Geschichtswissenschaftler A. Spunt bietet den Leserinnen und Lesern den Beitrag „Priester Bonifacius Stanislaus Jundzill SP", dem einmaligen Priester gewidmet, der den Botanischen Garten in Wilna angelegt hat (S. 30-34)

Der Kunstwissenschaftler A. Jaraschewitsch reflektiert im Artikel „Der heilige Joseph in der belarussischen sakralen Malerei" über künstlerische Darstellungen des heiligen Joseph (S. 35-37)

G. Schautschenka bietet den Leserinnen und Lesern einen Beitrag, der der Memoirenprosa von F. Karpiński gewidmet ist, sowie die Übersetzung eines Auszuges aus den „Erinnerungen" dieses polnischen Schriftstellers und Poeten (S. 38-44)

W. Katschalka, Studentin an der Belarussischen staatlichen Universität im V. Studienjahr, debütiert „Predigt des Priesters Marcin Widziewicz beim Begräbnis von Mikołaj Krzysztof Radziwiłł", ihrer Übersetzung aus dem Altpolnischen (S. 45-51)

A. Waltschuk macht im Artikel „Spanien und Spanier im „Diarium" von Juwenalij Charkewitsch" die Leserinnen und Leser mit einem interessanten Beispiel der Memoirenliteratur aus der zweiten Hälfte des XVIII. Jahrhunderts bekannt (S. 52-57)

Die Literaturwissenschaftlerin I. Bagdanowitsch schreibt im Artikel „Auf den Spuren des Priesters Uladsislau Tscharnjauski" über die Eröffnung des ihm gewidmeten Museums im Ort Wischnewa im Rajon Waloshyn, wo er zeit seines langen Lebens gedient hat (S. 58-60)

Dem Andenken an den berühmten Kunsthistoriker, den Warschauer Professor M. Karpowicz ist der Essay „Mariusz Karpowicz" von U. Dsjanisau gewidmet (S. 61-62)

I. Bigel schreibt im Artikel „Chwelka, oder Anspruch auf das Guinness-Buch der Rekorde" über einen der interessantesten Vertreter des Geschlechtes der Januschkewitschs – über den Maler Felix Januschkewitsch, der in Rakau eine eigene Kunstgalerie eröffnet hat (S. 62-66)

M. Skobla präsentiert im Essay „Das dramaturgische Epos von Alesj Petraschkewitsch" ein neues interessantes Buch – „Alesj Petraschkewitsch. Ausgeraubte Erde…" (2015) (S. 67-69)

D. Bitschel aus Grodna macht die Leserinnen und Leser im Artikel „Alle Wege führen durch Selwa" mit der Poesie von Ina Snarskaja bekannt (S. 70-71)

## PODSUMOWANIE

Najnowszy numer kwartalnika „Nasza wiara" rozpoczyna się tekstem „Wspólna Deklaracja papieża Franciszka i patriarchy Moskwy i całej Rusi Cyryla", w której hierarchowie wzywają lud Boży do pokoju i miłosierdzia (s. 2-5).

Osobie wielkiego hiszpańskiego mistyka poświęcony został materiał doktora filozofii S. Greswi „Krótki życiorys św. Jana od Krzyża". Tutaj zamieszczony został także fragment z traktatu św. Jana „Droga na Górę Karmel" w przekładzie S. Greswi (s. 6-11).

Kontynuujemy druk tłumaczenia (J. Szedźko) pracy angielskiego pisarza i teologa C.S. Lewisa „Cztery miłości" (rozdział „Przyjaźń"), a także publikację przekładu (A. Żłutko) pracy S. Świeżawskiego „Święty Tomasz odczytany na nowo" (s. 12-17).

W eseju „Znaki Miłosierdzia" K. Lalko prowadzi rozważanie o swojej pracy nad tłumaczeniem „Dzienniczka" św. Faustyny Kowalskiej (s. 18-21).

W rubryce „Poezja" zamieszczamy nowe wiersze D. Biczel (s. 22-23).

O poemacie „Środa popielcowa" Laureata Nagrody Nobla T.S. Eliota pisze literaturoznawca, profesor E. Liawonowa (s. 24-29).

Historyk A. Szpunt proponuje czytelnikom materiał „Ksiądz Stanisław Bonifacy Jundziłł SP", poświęcony osobie tego wyjątkowego kapłana, który utworzył wileński ogród botaniczny (s. 30-34).

Znawca sztuki A. Jaraszewicz w artykule „Święty Józef w białoruskiej sztuce sakralnej" prowadzi rozważania o artystycznych obrazach św. Józefa (s. 35-37).

G. Szewczenko proponuje uwadze czytelników materiał poświęcony prozie F. Karpińskiego, a także przekład fragmentu z „Pamiętnika" tego polskojęzycznego pisarza i poety (s. 38-44).

Studentka V roku BDU W. Kaczałko debiutuje w czasopiśmie ze swoim tłumaczeniem ze staropolskiego języka tekstu „Kazanie ks. Marcina Widziewicza na pogrzebie Mikołaja Krzysztofa Radziwiłła" (s. 45-51).

A. Walczuk w artykule „Hiszpania i Hiszpanie w Diariuszu Juwenalia Charkiewicza" zapoznaje czytelników z ciekawym przykładem literatury pamiętnikarskiej drugiej połowy XVIII w. (s. 52-57).

Literaturoznawca I. Bogdanowicz w artykule „Po śladach ojca Władysława Czarniawskiego" pisze o otwarciu muzeum tego kapłana w miasteczku Wiszniewa (Wołożyński rejon), w którym ksiądz przez długie lata swojego życia posługiwał (s. 58-60).

Pamięci wspaniałego historyka sztuki, warszawskiego profesora M. Karpowicza poświęcony został esej W. Dzianisowa „Mariusz Karpowicz" (s. 61-62).

I. Bigiel w artykule „Chwelka albo pretensja na Rekord Guinnessa" pisze o jednym z ciekawych przedstawicieli rodu Januszkiewiczów – artyście Feliksie Januszkiewiczu, który stworzył w Rakowie swoją art.-galerię (s. 62-66).

M. Skoбła w eseju „Dramaturgiczny epos Alesia Pietraszkiewicza" prezentuje nową, ciekawą książkę – „Aleś Pietraszkiewicz. Ziemia zrujnowana…" (2015) (s. 67-69).

D. Biczel z Grodna w artykule „Wszystkie drogi przechodzą przez Zelwę" zapoznaje czytelników z poezją Iny Snarskaj (s. 70-71).

## SOMMARIO

Il nuovo numero della rivista trimestrale "Naša vera" inizia con il testo *della Dichiarazione comune del Papa Francesco e del Patriarca di Mosca e di tutta la Russia Cirillo* nella quale i gerarchi richiamano gli uomini di Dio alla Pace e alla Misericordia (p. 2-5).

S. Gresvi PhD ha dedicato il suo testo "Una breve biografia di San Giovanni della Croce" alla personalità del grande mistico spagnolo. Si pubblica anche la traduzione del trattato di San Giovanni «La salita al monte Carmelo» da lei eseguita (p. 6-11).

Continua la pubblicazione della traduzione (J. Šedzko) del libro dello scrittore e teologo inglese C. S. Lewis "Quattro Amori" (Parte "Amicizia") e della traduzione (Ales Žlutka) dell'opera di Stefan Swiezawski "San Tommaso riletto" (p. 12-17).

Nel saggio "I segni della misericordia" K. Lalko riflette sul proprio lavoro di traduzione del "Diario" di santa Faustina Kovalska (p. 18-21).

Nella rubrica *Poesia* sono collocate le nuove opere di D. Bičel (p. 22-23).

La Dott.ssa di ricerca e critico di letteratura, Prof.ssa E. Liavonava scrive del poema "Mercoledì delle ceneri" del poeta insignito del Premio Nobel T. S. Eliot (p. 24-29).

Lo storico A. *Špunt* propone ai lettori il materiale "Il parroco Stanislav Banifacy Undzil SP" dedicato a questo singolare sacerdote che creò il Giardino botanico di Vilnius (p. 30-34).

Il critico d'arte A. Jaraševič nell'articolo «San Giuseppe nella sacra pittura bielorussa» riflette sulle immagini artistiche di San Giuseppe (p. 35-37).

H. *Šaučenka* propone ai lettori il materiale dedicato alla narrativa memorialistica di F. Karpinski, scrittore e poeta di lingua polacca, nonché la traduzione di un brano dei "Ricordi" (p. 38-44).

La studentessa di V anno dell'Università Statale Buielorussa V. Kačalka debutta con la sua traduzione dal polacco antico "Predica di Martin Vidzevicz" al funerale di Mikalaj Krystof Radziwill (p. 45-51).

A. Valčuk nell'articolo "La Spagna e gli spagnoli nel "Diario" di Juvenalij Kharkevič fa conoscere ai lettori un esempio di letteratura memorialistica della seconda metà del XVIII sec (p. 52-57).

La Dottoressa di ricerca in letteratura I. Bagdanovič nel suo articolo "Sulle orme del Padre Uladzislau Čarniauski" scrive dell'apertura del museo di questo sacerdote nella cittadina Višneva della Provincia di Valožyn, dove lui ha fatto servizio per un lungo periodo della sua vita (p. 58-60).

Alla memoria del famoso storico d'arte, professore di Varsavia M. Karpovicz è dedicato il saggio di U. Dzianisau "Mariusz Karpovicz" (p. 61-62).

I. Bihel nell'articolo "Khvelka oppure un tentativo di entrare nel Giunnes dei primati» scrive di un rappresentante interessante della famiglia di Januškevič, il pittore Felix Januškevič che ha creato a Rakau la propria galleria artistica (p. 62-66).

M. Skobla nel saggio "L'epos drammaturgico di Ales Petraškevič" presenta il nuovo libro interessante "Ales Petraškevič. Una terra distrutta…" (2015) (p. 67-69).

D. Bičel nell'articolo «Tutte le strade portano a Zelva» fa conoscere ai lettori l'opera di Ina Snarskaya (p. 70-71).

---

На 1-й ст. вокладкі — фрагмент абраза Сяргея Шэмета «Езус у вінаградніку».

*Часопіс **«НАША ВЕРА»**, № 1 (75)/2016.*
*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*

*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*
*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*
*Галоўны рэдактар — Крыстына Аляксееўна Лялько. Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*
*Падпісаны да друку 22.03.2016 г. Фармат 60х84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 300 экз. Зак № 337.*
*Надрукавана ў ПУП «Джи энд Ди» Ліцэнзія № 02330/362 ад 06.05.2013.*
*Вул. Бурдзейнага, 37-191, 220136, г. Мінск.*



# ХВЭЛЬКА,
## альбо
## Замах на Кнігу рэкордаў Гінэса



В. Янушкевіч. «Міндоўг — вялікі князь літоўскі, кароль Літвы».



В. Янушкевіч. «Вітаўт — вялікі князь літоўскі».



В. Янушкевіч. Герб роду Янушкевічаў.



Ф. Янушкевіч. Аль-фрэскі «Цуд на Узвіжанне», «Падарунак канцлера».




Ф. Янушкевіч. Аль-фрэска «Заснавальнікі каралеўскай дынастыі Ягайлавічаў».



Старажытнае фартэпіяна «*Leipzig*». Экспанат арт-галерэі «Янушкевічы» ў в. Ракаў.



Святы Юзаф. Першая пал. XIX ст.
Касцёл у в. Гінталішкіс (Літва).



Святы Юзаф. XVIII ст.
З касцёла Найсвяцейшай Тройцы
ў в. Задарожжа Глыбоцкага р-на. МСБК НАНБ.



Божае Нараджэнне. Сярэдзіна XVII ст.
З касцёла Звеставання Найсвяцейшай Панне Марыі
(пабрыгіцкага) у Гродне.
НММ РБ.



Уцёкі ў Егіпет. Сярэдзіна XVII ст.
З касцёла Звеставання Найсвяцейшай Панне Марыі
(пабрыгіцкага) у Гродне.
НММ РБ.